

У веласіпедыстаў гарачая пара. Зборная каманда таварыства «Лакаматыў» на трэніроўцы.
Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:

Аповесць Уладзіміра Шыціка «Мантажнікі».

Апавяданні Еўдакіі Лось.

Вершы Сцяпана Гаўрусёва, Алега Лойкі, Уладзіміра Паўлава.

Да 60-годдзя Кузьмы Чорнага і Уладзіміра Дубоўкі.

Нарыс Сцяпана Кухарава «Камсамольская душа».

З запісак былога мінскага падпольшчыка У. Казачонка «Барацьба не спынялася...»

Па дарогах свету. Падарожныя запіскі Іржы Ганзелкі і Мірaслава Зікмунда.

Давайце пагаворым...

Крытыка і бібліяграфія.

Спорт. Грымяць баі футбольныя. Асілкі.

Гумар і сатыра.

7 (89)

Ліпень.

1960.

Год выдання VIII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак А. Зайцава.

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
**Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.**

**Рукапісы не вяртаюцца.**

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч ыд. арк. 14,5. Тыраж 7.420 экз. Цана 4 руб.
АТ 07396. Здадзена ў набор 1.VI.60. Падпісана да друку 7.VII.60. З.. 400.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Алег **ЛОЙКА**

# СЛОЎ ПРОСТЫХ ШЫР І ПРЫГАЖОСЦЬ



Жыве і ў простых словах шыр,
Крылатасць мары і натхнення...
Хвалююць сэрца словы мір,
*Суіснаванне, раззбраенне.*

Іх разумеюць скрозь, усе,
Ім перакладчыкаў не трэба —
Усмешкай добрай іх красе
Вясновае сінее неба;

Іх услаўляючы, палі
Красуюць жытам, плёсам кветак,
Выводзяць людзі караблі
На сцежкі зорныя сусвету;

І я ўплятаю ў песню іх,
Вітаю, як высокіх госцяў, —
Сягоння слоў няма другіх,
Што прыгажэй іх прыгажосці!..

# КАЛІ БЫЦЬ



Калі быць, дык смелым, гордым,
Непадкупным, дужым, цвёрдым,
Быць бязлітасным і шчодрым,
І прыгожым, і пяшчотным, —

Дужым, каб не крыўдзіць кволых,
Смелым — у баях за волю,
Каб не ведаць болю — цвёрдым,
За зямлю Саветаў — гордым,

Быць бязлітасным да здрайцаў,
Шчодрым — для гасцей жаданых,
А пяшчотным быць — да маці,
А прыгожым — для каханай!..

## НІ ВЯРБЫ, НІ САСОНКІ



Ні вярбы, ні сасонкі кашлатае,
Ні маланкі, ні дожджыку цёплага, —
Горы чорныя, чорныя кратары,
Ногі гразнуць у лаве і попеле...

Ды не веру я, што непрыгожае,
Хоць і чорнае, неба на Месяцы:
Там жа наша Зямля мурожная
Ціха светлаю зоркаю свеціцца!..



Уладзімір Шыцік нарадзіўся ў 1922 г. у Шклове Магілёўскай вобласці ў сям'і рабочага.
У 1949 г. скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Цяпер працуе ў газеце «Калгасная праўда».
Першае апавяданне надрукавана ў 1953 годзе. У 1958 годзе ў часопісе «Полымя» была надрукавана яго аповесць «Назаўсёды».
«Мантажнікі» — другая аповесць маладога празаіка.

Уладзімір ШЫЦІК

# МАНТАЖНІКІ

### Аповесць

Мал. Ф. Бараноўскага.

I

Здарылася так, што Косця Клубовіч раптам пачаў увесь час думаць пра Марынку. Пэўна ён сустракаў яе і раней не аднойчы, ды чамусьці не звяртаў увагі. А вось тады... Косця добра помніць, што адбылося тады. У кіно побач з ім сядзелі незнаёмыя хлопцы. Спачатку ён не прыслухоўваўся да іх размовы: мала аб чым могуць гаварыць людзі! Але, пачуўшы слова «прыгажуня», міжволі павёў вачыма па радах. Крыху лявей сядзелі дзве дзяўчыны. Тая, у якой на мочках вушэй цямнелі вішнёвыя кліпсы, нешта сказала сяброўцы і засмяялася. На яе шчоках з'явіліся дзве ямачкі і адразу ж надалі, здавалася, раўнадушнаму твару незвычайную жывасць і мяккую прывабнасць.

Косця наважыўся быў падысці да дзяўчат пасля кіно, але яго паклікалі таварышы. Ён з жалем паглядзеў услед дзяўчатам, якія хутка зніклі з вачэй.

Міналі дні. Спачатку дзяўчына ўспаміналася проста, як нешта светлае і прыгожае, потым пры ўспамінах пачала з'яўляцца незнаёмая туга. А яшчэ праз колькі часу Косця з хваляваннем і нейкай боязззю чакаў, што, можа, выпадкова ўбачыць яе на будоўлі.

Вось і сёння з такой патаемнай надзеяй Косця выйшаў з інтэрната. Яшчэ не паспела сцямнець, але вуліцы гарадка ўжо ззялі электрычнымі агнямі. Энергапоезд нарэшце пачаў працаваць на поўную магутнасць, і ў гонар гэтай падзеі на першы раз святло запалілі раней, чым трэба. На вуліцах было шмат народу, больш за ўсё моладзі. Добрае надвор'е, што ўсталявалася ўпершыню за апошні тыдзень, электрычныя ліхтары,— усё гэта вабіла людзей. На вузенькіх тратуарах хутка не хапіла месца. Пабраўшыся за рукі, юнакі і дзяўчаты запоўнілі вуліцы на ўсю шырыню. Спявалі, жартавалі. І толькі Косця, засяроджаны і заклапочаны, паволі прабіраўся скрозь натоўп. Час ад часу лянівым рухам, узнімаючы ўверх руку, вітаўся са знаёмымі. Яго запрашалі да кампаніі, ён адмахваўся:

— Хочацца пабыць аднаму.

Ну, вядома, у яго пошуках сябры маглі толькі перашкодзіць. Задумаўшыся, Косця ледзь не прамінуў тых, каго шукаў. Дзяўчаты стаялі ля новага ўнівермага і разглядалі вітрыну. Косця адчуў, як адразу ж прапала яго смеласць.

— Фасончыкі аблюбоўваеце? — толькі і знайшоўся ён.

Марынка нават не зварухнулася. Азірнулася яе сяброўка, змерала Косцю пагардлівым позіркам і, перш чым адвярнуцца, адказала:

— Аброць для вас...

— Ды не крыўдуйце,— Косця ўжо крыху авалодаў сабой,— я проста пазнаёміцца з вамі хацеў.

Цяпер ужо і Марынка з цікавасцю паглядзела на яго, потым на сяброўку. Тая паціснула плячыма, і дзяўчаты пайшлі ад вітрыны, нібы Косці тут зусім і не было. Але Косця не адступіў. Дагнаўшы дзяўчат, ён пакрочыў побач з Марынчынай сяброўкай. Так яны прайшлі адзін квартал, другі, павярнулі назад. Марынка нарэшце не вытрымала.

— Калі ўжо навязаліся, то хаця б размовай забавілі.

— Давайце лепш пазнаёмімся спачатку. Я — Косця. Як вас завуць — ведаю, можаце не называцца, калі не хочаце. Вы — Марына, вы — Вера.

— Ого! Відаць, перш-наперш вы разведку правялі,— іранічна сказала Вера.— Ну, то нам прасцей. А дзе працуем, таксама дазналіся?

— Не паспеў, — Косця развёў рукамі.

Дзяўчаты засмяяліся.

— То хоць раскажыце, што вы за чалавек.

— Мантажнік.

— Ого! Гучыць,— усміхнулася Вера.

— Удакладняю. Новы мантажнік. Гэта што там вышку якую паставіць — пройдзены этап у нашым жыцці. Мы выцясняем муляроў. Зборны жалезабетон. Чулі?

— А то як жа,— падхапіла Марынка.— Зусім як у той песні,— між іншым, таксама пра мантажнікаў: «Не качагары мы, не плотнікі». Засталося толькі дабавіць: і не мантажнікі, і не будаўнікі.

— Вы сур'ёзна? — Косця пакрыўдзіўся, забыўшыся, што ўвесь час толькі і чакаў, пакуль Марынка загаворыць.

— А не? Комін хто ўзводзіў? Можа вы? Сапраўдныя вышыннікі, з Урала прыязджалі.

Так яно было на самай справе, і Косця, каб апраўдацца, бесклапотна засмяяўся:

— Падумаеш, комін! Прымітыў... Пабачыце, хто электрастанцыю будаваць будзе.

— Пабачым,— зірнуўшы на гадзіннік, таропка згадзілася Вера і напомніла Марынцы: — Хутка канцэрт Рахманінава для фартэпіяна з аркестрам будуць перадаваць з Калоннай залы. Кажуць, выканаўца цудоўны аб'явіўся. Паслухаем?

— Ну вядома. Бывайце, малады чалавек,— памахала чырвонай сумачкай Марынка.— Жадаем поспеху.

Косця сумеўся: яго яшчэ ніколі так бесцырымонна не пакідалі. Было і няёмка, і ў той жа час радасна. Усё ж ён пазнаёміўся з Марынкай. А новая сустрэча? Яна будзе, бо як не сустрэцца, калі працуеш з чалавекам хоць і на вялікай, але на адной будоўлі.

## II

Вада ціха плёскала ў борт дэбаркадэра. Косця любіў слухаць гэты плёск, які адганяў стому, супакойваў, даваў прастору фантазіі. Часам прачнецца на досвітку, хлопцы яшчэ спяць, а ён выйдзе да борта, схіліцца над вадой... Колькі ўспамінаў ажыве ў памяці ў такія хвіліны.

Вакол гарадка — лес, балоты. Здалёк здаецца, што лес густы-густы і няма яму канца-краю, як той тайзе, пра якую так многа і цікава расказваў некалі іх сусед. Косця зайздросціў яму. Вось гэта біяграфія ў чалавека. Адным з першых прыехаць на будаўніцтва Камсамольска, у час вайны скокнуць з парашутам у тылу ворага... Што яшчэ мог пажадаць сабе хлапчук у дванаццаць гадоў? Мінаў час, Косця сталеў. Многае з расказаў суседа забывалася. А як некалі будавалі Камсамольск — помнілася. Нібы сам быў там, жыў у палатках, карчаваў тайгу, узводзіў заводы. Дзіцячая мара пасталела разам з ім. Адно засмучала — думалася, што на яго долю ўжо не засталося ніякай рамантыкі. Гэтая думка асабліва не давала спакою, калі ўжо на яго вачах камсамольцы — яго аднагодкі — паехалі асвойваць цаліну, Усходнюю Сібір. А ён, студэнт Магілёўскага машынабудаўнічага тэхнікума, не мог быць разам з імі. Яго проста не пусцілі, сказалі, што трэба канчаць вучобу.

Косця спадзяваўся, што пасля заканчэння тэхнікума яго пашлюць на Усход, дзе з'явіліся Брацк і Ангарск, дзе неўзабаве запалацца домны Тайшэта і Сарбая. Назначэнне на будаўніцтва Палескай ДРЭС ён прыняў як удар па сваіх надзеях. Гэта ж тут, побач... Не адразу ён змірыўся са сваім лёсам. Не цешылі ні палаткі, якіх у пачатку і тут хапала, ні адчуванне, што ты ў ліку першых пачынаеш будаўніцтва. Пачуццё задавальнення, адчуванне, што і ты тут гаспадар, прыйшло пазней, калі давялося сустрэцца з сапраўднымі цяжкасцямі, часам недасыпаць, мерзнуць, працаваць з усіх сіл.

На будоўлі Косцю прызначылі брыгадзірам. Ён сустрэў прызначэнне як заканамерную з'яву: у яго ёсць веды, якіх няма ў многіх ягоных аднагодкаў, што прыйшлі сюды са школ і калгасаў. Ён зрабіў вывад, што можа і павінен даць будаўніцтву больш. Заўсёды, прачынаючыся, Косця абдумваў планы на сённяшні і на будучыя дні. Гэта стала яго звычкай, патрэбай. І раптам усё парушылася.

Рака, як і раней, плёскалася за бортам дэбаркадэра, нешта сваё шапталі хвалі. Толькі на душы ў Косці не было ранейшай раўнавагі і спакою. Думалася ўжо не пра работу ў брыгадзе, а пра ўчарашняе спатканне. Косця быў лёг, але ні сон, ні спакой не прыходзілі. Промень сонца крануўся твару. Косця з асалодай пацягнуўся з ложка і выйшаў з пакоя. Рака вабіла свежасцю, абяцала вярнуць бадзёрасць. Ён зірнуў уніз. У вадзе, як у люстэрку, адбіўся яго заклапочаны твар, калматая галава.



Падзьмуў ветрык, пусціў па вадзяному люстэрку рабацінне. Косцеў твар у вадзе здзекліва перасмыкнуўся і знік.

Недзе на чыгунцы загуў паравоз.

— Эге-ге!.. — уторачы яму, шчасліва закрычаў Косця і даў глыбокага нырца.

— Лунацік, далібог, лунацік! Косця, шыбуй сюды, час палубу драіць, — пачуў ён, выплыўшы, голас з дэбаркадэра.

— Зараз, Сяргей, зараз...

Дэбаркадэр яшчэ ў мінулым годзе рабочыя мясцовай суднаверфі падаравалі будаўнікам электрастанцыі для інтэрната. Моладзь сустрэла гэта з радасцю. Не трывожыла, што адсюль далей да месца работы, што ўзімку тут халадней, а летам гарачэй, чым у другіх інтэрнатах, што няма тут асаблівых выгод. Хоць і стаіць дэбаркадэр на прыколе, але ўсё-такі судна. А калі разам з усімі пасяліўся дэмабілізаваны балтыец-марак Сяргей Шаранкоў, тут пачалі ўсталёўвацца сапраўдныя флоцкія парадкі. Пакой пачаў звацца кубрыкам, вонкавы калідор — палубай, лесвіца — трапам. Каменданта называлі не інакш, як боцманам, і шкадавалі, што няма ў яго свістка або дудкі. Але адсутнасць боцманаўскай дудкі зусім не адбівалася на чысціні. За парадкам на дэбаркадэры сачыў не столькі камендант, колькі Сяргей. Хлопцы нават жартам называлі яго за гэта мічманам.

## III

Рыгор Карпавіч шпарка прайшоў міма сакратаркі, на хаду загадаў нікога не пускаць і шчыльна зачыніў за сабой дзверы. Толькі тады даў волю бяссільнай злосці, якая душыла яго ўсю дарогу да работы. Дома зноў адбыўся скандал. Жонка крычала, што яна ўжо не такая маладая, каб дазволіць сабе раскошу сядзець у гэтакай глухамані, што ў іх у Мінску добрая кватэра з гарнітурнай мэбляй і газам і што яна паедзе адсюль адна, а ён як сабе хоча. Можа нават на старасці год шукаць сабе новую жонку.

Рыгор Карпавіч, проста сказаць, уцёк з дому. Самае страшнае, аднак, было не гэта. Колькі б ён ні даказваў, што цяпер ён павінен працаваць тут, недзе глыбока-глыбока таілася думка, што можа жонка і мае рацыю. Хіба ён сядзеў бы на такой нязначнай пасадзе, каб... Але што зробіш? Рэпутацыю трэба ўзнавіць, а гэта не так лёгка. Яму патрэбен спакой, прынамсі ва ўласнай кватэры, каб адпачыць ад тых многіх турбот і клопатаў, якія прыбаўляюцца штодня. Ён кіраўнік, інжынер і павінен думаць, многа думаць, каб апраўдаць сваё званне, а разам з тым і вярнуць былое. А жонка гэтага не разумее, не хоча разумець. Вечныя скаргі, лаянкі. Яны перашкаджаюць, нервуюць, а спыніць іх няма сілы.

Год за годам Рыгор Карпавіч пераконваўся, што, відаць, раней трэба было праявіць непахіснасць у нечым галоўным, не дазволіць мяшчанству абплесці сябе. Можа нават з усёй сілы грымнуць кулаком па стале, а не віхляць паміж той праўдай, што была яшчэ ў яго душы, і той, на якую малілася жонка. Ён гэтага не зрабіў і цяпер павінен быў расплачвацца.

Рыгор Карпавіч сумна ўсміхнуўся. Хіба толькі цяпер? Ён жа расплачваецца ўсё жыццё. Колькі смелых думак, парыванняў было пахавана толькі ад таго, што на іх клала вета няўмольная палавіна. Час ад часу ён паўставаў супраць гэтага, паўставаў шалёна. Тады на нейкі час перамога заставалася за ім. Менавіта так ён пабываў на некаторых новабудоўлях, зрабіўся спецыялістам з пэўнымі ведамі і вопытам. І калі ён таго-сяго дасягнуў, калі ў ім не памёр яшчэ інжынер, то абавязаны ён толькі свайму гэтаму бунтарству. Але хапала яго не надоўга. Страчаны час нагнаць было нялёгка. Заняты сваімі хатнімі нягодамі, ён часта адчуваў, што яму не стае маладосці, таго задору, які вунь як памагае рашаць цяжкія задачы.

Задумаўшыся, Рыгор Карпавіч не адразу пачуў стук у дзверы. Цераз сілу ён падняўся з канапы, сеў да стала і тады ўжо дазволіў:

— Прашу!

Увайшоў Банжын.

Рыгор Карпавіч апусціў галаву. Менш за ўсё яму хацелася сустракацца ў гэтую хвіліну з Банжыным, бо ў таго заўсёды была ў галаве процьма новых ідэй: так і чакай, што ён табе адну з іх возьме ды выкладзе. Будзеш потым ламаць галаву: ажыццяўляць яе, ці як-небудзь адчапіцца пакуль.

— Сядайце, Алесь Антонавіч,— запрасіў ён інжынера, стараючыся быць ветлівым. Банжын сеў, доўга намацваў на крэсле падлакотнікі і зірнуў на галоўнага інжынера.

— Непакоіцеся? — счакаўшы, спытаўся Рыгор Карпавіч.

— Але,— кіўнуў Банжын.

— Магу паведаміць прыемную навіну.— Рыгор Карпавіч папоркаўся ў паперах і выцягнуў аднекуль знізу тэлеграму,— кран нам высылаюць.

— Нарэшце,— адказаў Банжын, але Рыгор Карпавіч не адчуў задавальнення ў ягоным голасе і здзівіўся:

— Вы не рады?

— Як вам сказаць, тэрміны мы ўпусцілі. Паводле плана праз тыдзень-другі мы павінны пачаць узводзіць галоўны корпус. А вы мне толькі праз тыдзень-другі кран абяцаеце.

— То хіба наша з вамі тут віна? Усе ведаюць, у тым ліку і ў Мінску, што без крана мы не можам і кроку зрабіць. На маіх ці на вашых плячах блокі не паднімеш,— пажартаваў Рыгор Карпавіч.

Банжын разумеў, што асабіста іх ніхто, бадай, не папракне за гэту затрымку. Яна была не па іх віне. Але ён не мог згадзіцца з той пакорнасцю перад абставінамі, якую адчуваў у настроі галоўнага інжынера.

— Няўжо так і пагодзімся?

— Малады чалавек...— Рыгор Карпавіч добразычліва ўсміхнуўся.— Вы, гэта вядома, нястомны вынаходца ўсякіх там удасканаленняў. Але тут мы з вамі бездапаможныя. Будзем чакаць, бо ці ўдасца вам перахітрыць канструктараў. А пакуль, каб усё-такі не сядзець, склаўшы рукі, прыкіньце графік зборкі, не будзем марудзіць пасля. Тэхналагічная карта ў мяне ёсць. Заадно раскажу вам пра сякія-такія мае меркаванні. Вось слухайце... Кран прыбудзе дзён праз дзесяць. Паводле інструкцыі на яго зборку вызначаецца яшчэ дзевяноста дзён. Думаю, крыху, ну дзесяць дзён якіх на сім-тым сэканомім. Такім чынам, пачнем праз тры месяцы.

Кіеня мог гэтага не гаварыць. Банжын таксама ведаў і краны, і графікі іх зборкі. Але хоць у словах галоўнага інжынера было ўсё правільна, яны чамусьці выклікалі глухое раздражненне. Надта ўжо разважліва гаварыў Кіеня.

Каб выпадкова не выказаць свайго незадавальнення, Банжын пачаў хадзіць па кабінеце. Потым рэзка павярнуўся, спыніўся насупраць Рыгора Карпавіча, сказаў:

— Мяне яшчэ трывожыць, якую работу людзям даваць.

— Думаю, яны не крыўдзяцца на заработкі, — паціснуў плячыма Кіеня.

— За дзяржаўны кошт мы можам быць добрыя. Але рабочаму чалавеку нашы прыпіскі не патрэбны. Яму работу давай, каб ён ведаў, за што іменна грошы атрымлівае. Бо калі ён не працуе, то і на душы ў яго неспакойна, пуста.

— І то праўда, — раптам згадзіўся Кіеня. — Прыглядзеўся я ўчора да мантажнікаў. Агонь хлопцы. Многіх не першы дзень ведаю. А куды іх запал падзеўся? Аднаго ўчора п'янага сустрэў у нашым рэстаране.

— З якой брыгады?

— Клубовіча. Займіце вы сапраўды іх чым-небудзь. Ну, хаця б расчысткай пляцоўкі пад кран хай зоймуцца. Там, здаецца, вельмі засмечаны ўчастак.

## IV

Хлопцы па прывычцы сабраліся ля катлавана галоўнага корпуса. Ужо так у іх павялося: тут прыдзецца некалі пачынаць мантаж — тут і збірацца. Седзячы на каменнях, на цэгле, яны чакалі свайго брыгадзіра. Раптам з'явіўся Міхась Кацуба.

— Чулі навіну?— здалёк закрычаў ён.

— Хіба можа кран прывезлі? — адразу ажывіўся Сяргей.

— На валах вязуць наш кран, вось што. Гэтыя каменні цягаць будзеце.

— Каменні? А што? З вялікай ахвотай. — Сяргей ускочыў на ногі і, імкліва схапіўшы дзве цагліны, пачаў падкідваць іх, нібы цыркавы жанглёр.

— Як жа,— здзекаваўся Кацуба,— мантажнік, кваліфікаваны. А табе тачку ў рукі.

— Хоць буду ведаць, за што грошы атрымліваю,— спакойна адказаў Сяргей. Потым раптам узлаваўся:— Ты не грэбуй тачкай, яе трэба ўмець цягаць.



— Счапіліся ўжо? — незаўважна падышоўшы, запытаўся Косця. Хлопцы павярнуліся да яго.

— Як яно будзе, брыгадзір?

— Бадай так, як Міхась кажа. Будзем тут прыбіраць.

— Ну, чыя праўда? — насеў Кацуба на Сяргея.

— Не твая, — адрэзаў Косця і, звяртаючыся да астатніх, сказаў:— Пакуль кран прывязуць, пляцоўку загадана расчысціць. Зараз рыдлёўкі прынясуць. І, зірнуўшы ў бок Міхася і Сяргея, якія ўсё яшчэ скоса пазіралі адзін на аднаго, дадаў:— А надвячоркам, пасля работы, пагутарым. Алесь Антонавіч абяцаў зайсці.

— Паддобрыцца хоча, — Кацуба не мог, каб апошняе слова належала каму іншаму.— Ведаю яго, яшчэ якое ліха на нашу галаву прыдумае.

— Эх і буркатун ты, — аж сплюнуў Косця. — Паглядзець збоку — інтэлігент, асабліва калі свой стракаты гальштук нечэпіш. А на рабоце — нахабнік і гультай.

Косця ведаў, як дапячы Міхасю. Той адразу агрызнуўся:

— Не ўсім тэхнікумы канчаць.

Косця ўсміхнуўся, змоўчаў і пачаў абводзіць участак, які трэба было сёння ачысціць.

Пасля работы, калі пачало ўжо брацца на вечар, брыгада сабралася на лужку ля вадакачкі. Косця не выпадкова выбраў гэта месца. І яму і Сяргею добра далася ў знакі гэтая вадакачка. Ды не толькі ім двум. Таму пра яе будаўніцтва ён меў намер расказаць хлопцам, бо ўсе яны, за выключэннем Сяргея, былі тут навічкі і многага не ведалі з гісторыі будоўлі.

За дзень усе добра стаміліся з непрывычкі: у апошні час ад цяжкай працы адвыклі. Гарэлі далоні. Балелі спіны. Ні варушыцца, ні нават гаварыць нікому не хацелася. Адзін Міхась, які не надта надрываўся сёння, расцягнуўся на траве і, упёршы ногі ў сцяну вадакачкі, выказаў сваю незадаволенасць.

— От было б месца, каб не гэта будыніна. З берага нырца можна было б даваць. Такі куток сапсавалі. Дык мала, пульпаправод яшчэ нейкі працягнулі. Вось брыдота, — Міхась моцна выцяў нагой па сцяне. На пабелцы адбіўся брудны след падэшвы.



— Ну, ты, асцярожней,— папярэдзіў Сяргей,— я табе за вадакачку галаву адарву.
— Можа і ты яе будаваў? — Кацуба паглядзеў па баках, запрашаючы хлопцаў пасмяяцца з Сяргея разам з ім.
— Уяві сабе,— замест Сяргея адказаў Косця.— Вось пра гэта я і хацеў вам трохі расказаць. Сядзьце бліжэй.
Хлопцы падпаўзлі да Косці. Толькі Міхась застаўся на месцы, нават яшчэ дэманстратыўна адвярнуўся. Косця не звярнуў увагі на яго.
— Праўда, некалі тут лужок быў нядрэнны. Пясочак ля берага жоўты-жоўты і дробны, як мука. Вылезеш з вады і ў пясок, а ён гарачы. Цяпер сюды і смецця нацягалі, і шкла. Не паляжыш. А мне ўсё роўна не шкада.
— Вядома,— уставіў Міхась, кусаючы травінку,— можа нам нарад заўтра сюды выпішуць. Навядзем чысціню.
Косця павярнуўся ў яго бок.
— Табе вадакачка перашкаджае. А ці ведаеш ты, як яе будавалі? Мы тады з Сяргеем яшчэ не мантажнікамі былі.
— Хэ, такую каробку ў нашым калгасе за тыдзень выведуць.
— Думаеш? Сяргей, колькі мы правазіліся тут?
— Ды ўжо хапіла.
— Чуеш, Кацуба? Будыначак гэты з выгляду так сабе. А пад ім, у зямлі яшчэ на трынаццаць метраў катлаван выкапаць трэба было для помпаў. Ураз нас заліло. Ды што дзівіцца, рака побач, лістапад на вуліцы, дождж лье, не перастаючы. Сяргей вунь трое сутак, лічы, не вылазіў з катлавана.
— Ну-у,— здзівіўся Сеня Варывончык,— а як справіліся?
— Іголчатыя фільтры забівалі, больш за паўсотню забілі, кожны мае па васемнаццаць метраў у даўжыню. А ваду перамаглі. Помню, Сяргей вылез з катлавана і пытаецца: «Хлопцы, сталовая адчынена?» Есці, значыць, так захацеў, пражора,— закончыў смехам Косця.
— Ты лепш пра сябе ўспомні. Уваліўся ў інтэрнат мокры, брудны. Дзяўчаты паднеслі конаўку з вадой, каб памыўся, а ён ухапіў і ўсю ваду выпіў, потым нешта прамармытаў і проста на табурэтцы заснуў. Ледзь завалаклі на ложак...
— Можа ты валок?— перабіў Косця і пад рогат хлопцаў растлумачыў: — Сам толькі на трэція суткі прачнуўся.
Калі крыху пацішэла, Косця загаварыў зноў:
— Так працавалі тады многія. Будаўніцтва ж толькі пачыналася, умовы былі цяжкія, нават не падумаеш, дзе цябе аварыя падсцерагае. Але ніхто не адмаўляўся, хаця бадай многія з нас не былі землякопамі.
— У мой гарод каменьчык? — лянiва павярнуўся на другі бок Кацуба.— Я таксама мазалі сёння нажыў.
— У твой гарод цэлую скалу трэба. Мазалі гэта адзінае, што ты карыснага зрабіў,— засмяяўся Сяргей.
— Ат, работнік! Абрыдала слухаць,— Кацуба ўсхапіўся і пакрочыў сцежкай да пасёлка.
— Не забудзь у бухгалтэрыю зайсці! — крыкнуў наўздагон Сеня.
— Пакрыўдзіўся,— сказаў Сяргей.
— Можа і добра, калі пакрыўдзіўся,— раздумліва адказаў Косця.— Неяк у нас ён на аднаасобніка ў брыгадзе падобны. Раўнадушны нейкі.
— То можа ты нас за гэтым і запрасіў? — іранічна зірнуў на сябра Сяргей. — Пагаварылі пра Кацубу і пойдзем.
— І за гэтым і за тым,— не зважаючы на іронію, адказаў Косця.— Хочацца мне размовы шчырай, таварыскай. Нас такія справы неўзабаве чакаюць! Восем чалавек у брыгадзе — гэта сіла, калі дружна ўзяцца.
— Лічы сем,— не супакойваўся Сяргей,— Кацуба табе не падтрымка. У нас на флоце...
— Абодва вы аднолькавыя,— узлаваўся Косця,— адзін аднаго, каб маглі, то з'елі б.
— Варты...
— Ды пачакай ты! — пачуліся галасы. Сяргей змоўк.
— Вось я і кажу,— прадоўжыў Косця.— З такімі хлопцамі мы можам для будоўлі многа зрабіць карыснага. А не робім. Надоечы давялося мне з Алесем Антонавічам гутарыць. Дарэчы, ён заняты цяпер, таму не прыйшоў. Колькі папрокаў наслухаўся! А чаму? Бо на рабоце, калі мы яшчэ разам, то трымаемся. А разышліся — хто куды. Нават у рэстаране пашумець можам. Параіў ён памазгаваць з вамі, як нам далей жыць, як працаваць, каб і сабе і людзям карысць была. Адно ясна, трэба неяк інача, па-новаму ставіцца да жыцця.
— А ў чым яно, тое новае?— быццам думаючы ўголас, прамовіў Сеня.
Можа сам-насам не адзін раз задумваліся яны над тым новым, што немінуча павінна было ўвайсці ў іх жыццё, бо кожны хацеў гэтага. Але думкі былі пакуль неакрэсленыя, невыразныя для іх саміх. Хлопцы задумаліся, задумаўся і Косця.
Сонца ўдалечыні нібы апускалася ў ваду, і ад гэтага грабеньчыкі хваль рабіліся амаль чырвоныя. Паярчэла неба, і адразу рака дыхнула холадам і вільгаццю.
— Хараство якое ў нас! Га, хлопцы? — не вытрымаў Косця.
— А то не? — быццам хто спрачаўся з ім, падняў ад зямлі галаву Сяргей і, раптам кульнуўшыся, шпарка прабег некалькі метраў на руках, ледзь не сарваўшыся з крутога берага,— куды тая і стома дзелася.
— Асцярожна, марак...— папярэдзіў, жартуючы, Косця,— каб часам ратаваць не давялося.
— Косця, чуеш? — раптам дакрануўся да яго рукі Сеня Варывончык.— Як думаеш, каб нам больш патрабаваць ад сябе.
— Чаго?— не адразу зразумеў Косця.
Сеня быў хлопец не надта рашучы і адразу сумеўся:
— Ну, ведаеш, каб мы... усе, канешне, як бы гэта лепш сказаць... усе не адмаўляліся ні ад якой работы, калі для будоўлі, канешне, патрэбна.
— Адмаўляцца можа і не будзеш, а ці многа ты ўмееш?— запытаўся Сяргей. Заўважыўшы крыўду на Сеневым твары, супакоіў:
— Я і сябе маю на ўвазе. Сёння, напрыклад, трэба было смецце выкінуць. Ну, гэта мы можам. А раптам пасля, як корпус паставім, мантаж катла даручаць?
— Вось, вось, я пра гэта таксама думаў, — падхапіўся Косця. — Вучыцца мы павінны, вучыцца. Каб з чацвёртымі разрадамі не заседжваліся. Каб у бутэльку не заглядалі. Быў я ўчора на камітэце камсамола. Актыў збіралі. Выступаў там Банжын. Спадабалася мне ягоная думка, калі ён сказаў: «Абмяркуйце, хлопцы, што вы можаце зрабіць. Вазьміце сацыялістычныя абавязацельствы. Ды не толькі пра план, працэнты. Пра людзей не забывайце».
— А ведаеш, Косця, — прапанаваў Сяргей, — што з гэтым спяшацца нельга. Тут думаць і думаць трэба. Давай зробім так. Хто што з нас прыдумае — табе скажа, а ты запісвай. А ўжо тады зноў збяромся. Згодны? — звярнуўся ён да хлопцаў.

## V

По дарозе на работу Марынка забегла да Веры.

— Вера мыецца,— сустрэў дзяўчыну Рыгор Карпавіч.— А вы заходзьце, заходзьце. Я зараз пайду. Ніна Паўлаўна яшчэ спіць.

Марынка ў прысутнасці Верыных бацькоў заўсёды адчувала сябе ніякавата. Рыгор Карпавіч заўважыў гэта і стараўся быць як мага ветлівым. Вось і цяпер, пасадзіўшы Марынку ля стала і наліўшы ёй чаю, хоць тая і аднеквалася, сеў сам і пачаў распытваць:

— Ну, то як, чулі, што нашы мантажнікі надумалі?

— Н-не...

— От я вам раскажу. Малайцы, адным словам, малайцы хлопцы! Шукаюць новыя формы спаборніцтва.

— Так ужо і новыя? — здзівілася Вера, ружовая, свежая пасля купання.— Есці хочацца-а...

— Вечна не па-вашаму...

Вера абняла бацьку за шыю, пацалавала ў шчаку:

— Не крыўдуй... Мы з табой з пароды малавераў. Ты лепш скажы, іх новая форма спаборніцтва паможа хутчэй паставіць кран?

— Пры чым тут кран?— крыху памякчэў Рыгор Карпавіч.— Кран — гэта тэхніка, правераная. А задума мантажнікаў — так званы маральны бок справы. Яна сама па сабе знойдзе водгук.— Ён нецярпліва паглядзеў на гадзіннік.— А ўвогуле мяне радуе, што такія абавязацельствы возьмуць упершыню на нашай будоўлі... Ну, але мне час.

— Заўсёды так,— сумна сказала Вера, калі за бацькам зачыніліся дзверы.— Галоўнае, каб шуму больш.

— Ты несправядлівая, Вера,— запярэчыла Марынка.— Рыгор Карпавіч добры, ён любіць будоўлю.

— Гэта праўда,— згадзілася Вера.

— Галоўнае, каб ён падтрымаў хлопцаў,— прадаўжала Марынка.— На першым часе гэта вельмі важна.

— Глядзі ты, як загаварыла!..— усміхнулася Вера і запыталася: — Ты не сустракала больш Косцю?

Як заўсёды, Марынка не магла здагадацца пра кірунак Верыных думак. Але нешта большае за звычайную цікаўнасць да сяброўчыных спраў пачулася ёй у гэтым пытанні. Яна падазрона зірнула на Веру і абыякава запыталася:

— Падабаецца табе?

Вера не адказала.

Няшчырасць Веры, а Марынка цяпер была пераканана ў гэтым, закранула за жывое, і яна дзёрзка кінула:

— Можаш забраць сабе, у мяне без яго паклоннікаў хопіць.

— Пракідаешся...

Марынка хацела сказаць штосьці крыўднае, але прамаўчала, толькі ў думках працягвала спрачацца з ёю. Ад сябе яна не ўтойвала, што, не ўспомні Вера пра Косцю, наўрад ці ўспомніла б і яна. Такіх знаёмстваў-аднадзёнак у яе было нямала. Траплялiся нават хлопцы лепшыя за Косцю. А ён тады ёй зусім не спадабаўся. Але ж адно, калі хлопец табе сімпатызуе і ты можаш лічыць яго сваім, хоць ён табе і абыякавы, і зусім другое, калі яго можа хто-небудзь перацягнуць на свой бок, асабліва сяброўка. Марынка захацела даказаць Веры, што Косця належыць толькі ёй. Безумоўна, яна на шыю яму не кінецца, а павядзе сябе так, што Вера не здагадаецца пра яе захады.





Сустрэча адбылася нечакана. Косцеву брыгаду паставілі ў той дзень працаваць побач з комплекснай брыгадай, у якой былі Вера з Марынкай.

Косця не адразу пазнаў Марынку. У сіняй кофтачцы з закасанымі на поўных руках рукавамі, у шараварах, у беленькай хустачцы, насунутай на самыя вочы, каб не загараў на сонцы лоб, яна выглядала крыху таўставатай і зусім не падобнай на колішнюю прыгожую дзяўчыну. Косця быў расчараваўся. Але калі Марынка, убачыўшы яго, шчыра засмяялася і на яе шчоках зноў з'явіліся тыя самыя ямачкі, Косця ўзрадаваўся і падбег прывітацца.

— А-а, наземны вышыннік?..— жартавала Марынка.— Калі мы вас убачым побач з комінам?

— Хутка ўжо, вось толькі крылы з Мінска прывязуць. Прычаплю і буду лятаць там,— паказаў Косця рукой на стодваццацімятровы комін.

— А не зваліцеся?

— Хіба калі вы пажадаеце...

Усё адбывалася так, як і прадбачыла Марынка. Косця быў рады яе ўвазе. І раптам Вера... Яна скінула брызентавую рукавіцу і працягнула Косцю руку:

— Рада вас бачыць. Мы сёння з Марынкай у пасёлак рачнікоў ідзём. Вы з намі?

Косцю вельмі хацелся пайсці, але ён не ведаў, ці будзе гэта прыемна Марынцы. А без Марынкі прагулка — не прагулка.

— Вядома,— зразумела яго нерашучасць Марынка.

Косця аж заззяў. Вера падабрала губы. А пасля работы, калі ўжо чакалі Косцю, папракнула:

— Марынка, так нельга.

Марынчыны вочы зрабіліся круглымі і нявіннымі.

— Не прыкідвайся... Навошта Косцю баламуціш? Ён добры хлопец.

— Верачка, няўжо ты думаеш, мне ніхто падабацца не можа?

— Ой, глядзі, дзеўка...

Марынка, як многія прыгожыя дзяўчаты, не пазбаўленыя хлапечай увагі, не надта цаніла чужое пачуццё. Яна любіла кружыць галовы, любіла, каб ля яе ўвіваліся хлопцы, аднак ніводнаму з іх перавагі не аддавала. Вера паспела ўжо добра вывучыць характар сяброўкі. Таму яе

крыху супакоіла, што Косця быў першы, каго Марынка нейкім чынам вылучыла з астатніх. Ён і ёй падабаўся, бо з ім было цікава. У ім угадвалася сур'ёзнасць, удумлівасць — якраз тыя якасці, якія Вера цаніла ў людзях больш за ўсё. І яна непакоілася, што Марынка зробіць з яго сабе чарговую забаву...

У пасёлак пайшлі не напрасткі, як хадзілі звычайна рабочыя з будоўлі, а праз лес. Нядаўна прайшоў дождж, які паспеў прыбіць толькі пыл на дарозе. У бярэзніку, што пачынаўся адразу за прыгарадным полем, пахла прэлым леташнім лісцем. Сцяжынка была вузенькая, якраз стаць дваім. Вера пакінула Марынку з Косцем, а сама пайшла наперадзе. Марынка адразу здагадалася, што яна не ў гуморы і таму ўвесь час маўчыць, нават не азірнецца. А Косця не звяртаў на яе ўвагі, ён, бадай, не заўважыў бы наогул, калі б Вера зараз куды-небудзь знікла.

Перад тым, як зрабіць апошні паварот, за якім ужо відаць будзе гарадок, Косця прыпыніўся. Ён часта глядзеў на будоўлю і з гэтага, і з іншых месц: здавалася, закрыўшы вочы, можа расказаць, дзе што знаходзіцца. Але сёння на фоне цёмнага сасонніку, што сцяной стаяў далей, на тым баку, гарадок здаўся як ніколі прыгожым. Адсюль добра можна было разгледзець правільныя квадраты кварталаў, прамыя скрыжаванні вуліц, светла-зялёныя двухпавярховыя домікі з чырвонымі чарапічнымі дахамі. Над усім гэтым нібы панаваў высачэзны комін, вакол якога ўнізе — катлаваны, карпусы, склады.

— Чакайце... — крануў Косця за руку Марынку.

Яна таксама азірнулася, спытала:

— Хіба пажар там?

— Давайце палюбуемся.

Як на карціну выдатнага мастака, Косця мог доўгія гадзіны глядзець на свой гарадок, штохвіліну адкрываючы ў ім новае і радуючыся гэтаму новаму. Вунь там, на будаўніцтве школы, узвялі трэці паверх, а там, ля бетоннага завода, з'явіўся яшчэ адзін штабель гатовых блокаў, а там вуліцу забрукавалі... А вунь іх участак, маленькі-маленькі на гэтай агромністай панараме. «Свае» аб'екты Косця пазнаваў беспамылкова.

Марынка раптам напомніла:

— Вера чакае.

Гэта было цудоўна: і лес, і гарадок, як на далоні, і яна, Марынка, побач. Косця пашкадаваў, што недзе там, за паваротам, чакае Вера.

Вера акінула іх уважлівым позіркам і нічога не сказала, быццам яны яе зусім не цікавілі.

— Косця гарадком захапіўся,— растлумачыла Марынка.

— Нават не верыцца, што гэта наш, — дадаў Косця.

— А што тут цікавага?— махнула рукой Марынка,— і так кожны дзень бачым. Каб што незвычайнае...

— Хіба вунь той падасінавік? — засмяялася Вера і нагнулася да куста, дзе з-пад лісця выбілася чырвоная шапка грыба.

— Дзе ён? — аж закрычала Марынка.

— Ды вунь, глядзіце як многа!

— Набяром, Вера? Дай тваю сумку.

— Спознімся, — коратка адказала Вера, зноў выходзячы ўперад.

На гэты раз Косця зразумеў, што паміж дзяўчатамі напэўна працягваецца нейкая старая спрэчка.

— Раскажы што-небудзь пра сябе, — нечакана звярнулася на «ты» Марынка да Косці, — толькі сур'ёзна, не так, як мінулы раз.



Каб не нагаварыць лішняга, Косця рашыў зноў пажартаваць:

— Нарадзіўся дваццаць гадоў таму назад. Подзвігаў яшчэ няма, але будуць абавязкова. Абяцаю. Тады на радзіме героя, гэта значыць маёй, у Магілёве, удзячныя землякі паставяць помнік...

— Толькі не з бронзы, як гэта звычайна робіцца, а са зборнага жалезабетону, — Вера, аказваецца, хоць і была наперадзе, уважліва слухала іх размову.

— А я думаў, што вы не чуеце.

— А я думала, — спынілася Вера, — што вы пра свае планы, брыгадныя, вядома, раскажаце. Інакш не падслухоўвала б.

— Пра іх вось так, на хаду, не раскажаш.

— Нават калі Марынка папросіць? — прыжмурылася Вера.

— Ох і злючка вы, — Косця губляўся перад тымі дзяўчатамі, якія падабаліся яму. Веры ж ён мог адказваць як хацеў, не задумваючыся.

Яна зразумела гэта.

— Я пажартавала.

— І я таксама.

— Ну, то можа, калі мір усталяваўся, раскажаце, — папрасіла Вера.

— Майго тут мала, — нехаця сказаў Косця. — Тут справа ўсёй брыгады. У суботу нашы хлопцы збяруцца, каб канчаткова вызначыць, што і як.

— А нам можна паслухаць? — не адставала Вера.

— Вам? Сакрэтаў тут, канешне, няма...

— Але...

Косця крыху падумаў і прапанаваў:

— Толькі пераходзьце да нас у брыгаду. Нас усё роўна папаўняць будуць.

— Марынка, чуеш?

— Чую.

— То як?

— Згодна.

— Праўда? — узрадаваўся Косця, — я пагавару з Банжыным.

— Пасля некаторай дружалюбнай дыскусіі, — заключыла Вера, — бакі прыйшлі да згоды. Але што мы будзем рабіць у вашай брыгадзе?

— Заваёўваць вышыню,— Косця сказаў гэта так сур'ёзна, што дзяўчаты дружна засмяяліся.

— Ай, — спахапілася Вера, — вышыня — вышынёй, а мы спазняемся, краўчыха прачакалася напэўна.

Косцю гэта ўжо непакоіла мала. Ён быў у такім стане, што мог блукаць хоць да раніцы, абы разам з Марынкай. Ягоны настрой не пагоршыўся і тады, калі дзяўчаты зайшлі ў хату да краўчыхі, пакінуўшы яго аднаго чакаць на лавачцы ля плота. Косця цярпліва сядзеў, забываючы на час: Марынка сама папрасіла чакаць. Яго радавала ўсё — і тое, што дзяўчаты, відаць, затрымліваюцца, і тое, што гаспадыня хаты з цікавасцю пазірае праз акно на яго. Ён чакаў дзяўчыну ўпершыню так адкрыта. І калі вярталіся назад, ён у поцемках назбіраў кветак і падараваў іх Марынцы і Веры.

## VI

Шырокая, крыху радасная і крыху сарамлівая ўсмешка выдала Косцю. Хлопцы адразу здагадаліся, што здарылася нешта незвычайнае і напэўна прыемнае. Аднак ён не ўдзельнічаў сёння ў агульнай рабоце, і Сяргей, хаваючы вясёласць, пачаў выгаварваць яму.

— Мічман, — стаў прасіць Косця, — выслухай спачатку. Ну, вінаваты я, вінаваты... Заўтра на досвітку ўстану і зраблю сваю долю, а сёння не мог. Ну, вось так, — правёў ён далонню па шыі.

— Ну, добра, — злітаваўся Сяргей. — Можаш спаць... Бот гатовы, засталося толькі парус зрабіць.

Любоў да мора Сяргей прынёс з сабой сюды, на будаўніцтва. Яго не задавальняла тая гульня ў маракоў, што вялася ў іх інтэрнаце. Яму трэба было нешта большае. Так нарадзілася ў яго думка пабудаваць маленькі бот, накшталт таго, які некалі зрабіў сабе Пётр Першы. Недзе ў старым часопісе Сеня раскапаў чарцяжы. Пачаліся пошукі лесу — выручылі камсамольцы з суднаверфі. Яны прапанoўвалі сваю дапамогу і ў пабудове бота. Сяргей адмовіўся. Яму, балтыйскаму матросу, вучыцца марской справе ў людзей, якія ніколі не бачылі мора! Можа таму бот будаваўся вельмі доўга. Прынамсі на верфі за гэты час ледзь не цэлы флот рачных барак спусцілі на ваду. Нарэшце і іхні бот, што пахне ворванню і свежай сасной, таксама гойдаецца ў бухце пад самым дэбаркадэрам, выклікаючы зайздрасць у астатніх хлопцаў.

— Ну, то можа я цяпер парусам займуся? — прапанаваў Косця. Яму было-такі няёмка, што ён сёння забыўся пра свой абавязак.

— Спі ўжо лепш. Пакуль на вёслах паходзім. А за тое, што прагуляў, — цябе першага пасадзім.

Такое пакаранне Косця прыняў з ахвотай. Усе з нецярпеннем чакалі, калі ўжо можна будзе зрабіць першы выхад на прастору ракі.

— Паедзем далёка-далёка...— радаваўся Сеня.

— Хіба заўтра ў парадку выключэння, — паменшыў яго радасць Сяргей. — Спачатку будзеце вучыцца: і веславанню, і парусам кіраваць, пакуль сапраўднымі маракамі не станеце.

— Каб знаў, што ты такі тэрарыст, нізавошта не ўвязаўся б у гэтую выдумку, — абурыўся Міхась.

— Па-першае, — засмяяўся Сяргей, — не тэрарыст. Ты нешта блытаеш. Мусіць, тыран. А па-другое, яшчэ дзякуй скажаш. Я з цябе сапраўднага марака зраблю.

— Ну, канешне, і тут мяне вучыць будуць.

— Затое, уяві сабе Міхась,—Сяргей задумаўся.—Недзе, дапусцім у Гомелі, на лодачнай станцыі ты бярэш двухвёславую шлюпку і так праходзіш міма пляжа, апускаючы вёслы, нібы нож у масла, што ўсе дзяўчаты ад захаплення нямеюць. Га? І табе ўслед ляцяць: «Хто гэта? Які мастак! Ах! Ох!» А ты сядзіш і нібы не чуеш, корпус прамы, рукі гэтак рытмічна і лёгка: раз—два, раз—два. А ты кажаш, «вучыць»...

— Калі дзяўчаты, — палагаднеў, аднак, Міхась, — то гэта, відаць, больш Клубовічу трэба.

Але яго ніхто не падтрымаў. Хлопцы паважалі інтымныя справы адзін аднаго.

Назаўтра быў выхадны. Яшчэ з раніцы ў інтэрнат зайшоў Алесь Антонавіч Банжын. Дома былі толькі Косця з Сяргеем. Пераводзячы дыханне, Банжын сеў на крэсла.

— От ужо гэтыя вашы трапы!.. Ледзь узлез...

— Пачакайце, мы і з вас хутка марака зробім, — паабяцаў Сяргей.

— Каб мог, дык усіх зрабіў бы маракамі, — растлумачыў Косця Банжыну. — Спіць і мора сніць.

— Мора — такая любоў, што праз усё жыццё не забываецца, — падтрымаў Банжын Сяргея. — Мора і варта гэтага. Я толькі ў адпачынак ездзіў туды, а і то часта заплюшчу вочы і нібы чую шум прыбою, бачу, як чайкі кружаць над хвалямі. Можа і вабіць чалавека гэта магутная і незразумелая сіла хваль?



Сяргея ўсцешылі словы Банжына, і ён адчуў, што няма нічога такога, чаго б ён не зрабіў, папрасі яго інжынер.

Банжын між тым з цікавасцю азіраўся навокал. Проста і чыста было ў пакоі, ніводнай непатрэбнай рэчы. «Як на сапраўдным караблі», — усміхнуўся ён сам сабе і ўголас сказаў:

— Мне падабаецца ваш парадак.

— З такім мічманам, як наш Сяргей, — пажартаваў Косця, — апошні салажонак матросам стане.

— А абавязацельствы — чыя ініцыятыва?

— То ўжо Косцева. У нас абавязкі падзелены.

— Своечасова вы іх берыцё! Вельмі своечасова. Заўтра кран пачнем збіраць. А вы ведаеце, якое напружанае становішча склалася на будаўніцтве? Усе тэрміны праходзяць. Толькі калі кожны рабочы адчуе сваю адказнасць за ход будаўніцтва, мы зможам нагнаць страчаны час. Вось чаму я зацікавіўся вашымі абавязацельствамі. Пакажы, Косця, што вы там яшчэ напісалі.

Косця дастаў з тумбачкі сіні вучнёўскі сшытак, падаў Банжыну.

Алесь Антонавіч уважліва прачытаў запісы, задаволена сказаў:

— Дамоўлюся, каб у шматтыражцы надрукавалі.

— Што вы, — збянтэжыўся Косця. — Гэта асабіста нашы планы, нават ніводнай лічбы няма.

— А яны і не патрэбны. Справа не ў лічбах, а ў тым, як вы ставіцеся да свайго рабочага абавязку.

Банжын чытаў абавязацельствы і час ад часу паўтараў:

— Малайцы! Малайцы!

Шчыраму чалавеку заўсёды робіцца ніякавата, калі яго занадта хваляць, таму Косця паспрабаваў адвесці ад сябе ўвагу Банжына:

— Алес Антонавіч, дзяўчаты нашы яшчэ гаварылі, што мы павінны і за вучобу ўзяцца.

— Дзяўчаты?

— Вера Кіеня, — удакладніў Сяргей. — Што з Марынай Акунец да нас перайшла.

— А-а, з комплекснай брыгады Саковіча. Помню, помню. Можа і дарэмна вы іх сарвалі адтуль, асабліва Веру. Яна там на месцы была. Але калі зроблена, няхай. Аднак слушна гаварылі, слушна. Абмазгуйце, раю...

— Да вас можна? — на парозе стаялі Вера з Марынкай.

— Прывёў, — высунуўся з-за іх Сеня.

— Правільна зрабіў, — узрадаваўся Косця. — Разам пагаворым.

— Калі гаспадар забыўся, — усміхнуўся Банжын, — я вазьму яго ролю. Хлопцы, садзіцеся на ложкі, дзяўчаты — да стала. Мэблі ў вас не надта...

— На гасцей мы раней неяк не разлічвалі, — праставата заўважыў Сяргей.

Вера прыйшла сюды ўпершыню, але адчувала сябе вольна. Марынка ж, на якую ў гэты момант пільна паглядзеў Банжын, сумелася:

— Мы вам перашкодзілі?

— Наадварот, — Банжыну спадабалася Верына рашучасць. — Мы тут пра вашу работу гаварылі. Думаю, што выдатныя абавязацельствы, але аднаго пункта не хапае. А раптам хто парушыць дагавор? Як тады?

— У нас такіх... — рашуча пачаў быў Сяргей.

— Ведаем, ведаем, — замахала рукамі Вера, — у вас такіх у маленстве з рагатак забівалі.
— Не, з брыгады выганялі! — сярдзіта сказаў Сяргей, бо Вера, як здалося яму, недарэчы ўспомніла яго любімую прымаўку.
— А ты, брыгадзір, што думаеш? — выслухаўшы гэту кароткую перапалку, звярнуўся да Косці Банжын.
— Сяргей гарачы ў нас, — Косця яўна не спяшаўся, узважваючы словы перш, чым адказаць. — Але тут хто ведае... Толькі думаю — дружную брыгаду не разваліш. Але задача брыгады не толькі ў тым, каб не разваліцца. Брыгада павінна справіцца і з тым, хто ёй не падпарадкоўваецца...
— Напэўна так, як мы з Кацубам? — спытаўся Сеня.
Вера з Марынкай засмяяліся.
— Кацуба таксама не прапашчы. Вунь з вамі лодку будаваў. Яго зацікавіць трэба, памагчы. Аб гэтым я і хацеў параіць. Хай жа дэвізам вашай брыгады будзе: «Адзін за ўсіх — усе за аднаго!».
— Як прыгожа! — першай адазвался Марынка.
Вера зірнула на яе строга:
— Прыгожа — не тое слова, нават несур'ёзнае...
— Навошта так, Вера, — Косця ўзяў пад абарону Марынку. — Хіба сапраўднае сяброўства не прыгожае?
Банжын зразумеў, што без яго цяпер можа атрымацца ў моладзі цікавая размова, і са шкадаваннем развітаўся.
Калі ён пайшоў, Марынка накінулася на сяброўку:
— Чаго ты прычапілася да маіх слоў?
— Таму, што толькі адну прыгажосць шукаеш, а сама сутнасць для цябе не мае значэння.
— Завялася. Мне дык ужо нельга быць, як усе.
— Заўсёды вы так, — перапыніў іх Сяргей. — У нас...
— Што ў вас, зноў з рагаткі? — не астыла яшчэ Вера.
— У нас былі дзве такія: вучылі адна адну заўсёды.
— Чым гэта скончылася? — падхапіў Сеня.
— Парасталі, як замуж павыходзілі.
— Ды ну цябе, — пачырванела Вера.
— Мастак ты, Сяргей, зубы скаліць,— заўважыў Косця,— а тут справа сур'ёзная.
— Хіба я што кажу? Канешне, сур'ёзная. Але ўсё гэта пацерпіць да заўтра. Няўжо сёння, у выхадны дзень, мы не можам даць сабе адпачынак?
— А сапраўды, — умяшалася Марынка, — пойдзем куды-небудзь.
— Пойдзем, пазней толькі, — згадзіўся Косця. — Пачакаем Міхася. Сёння ў нас паездка на лодцы. А ён яе таксама будаваў.
— Паездка — паездкай, а я не хачу дзяліць свае думкі на службовыя і святочныя,— сказала Вера.— Чытаю я пра людзей моцных, адданых Радзіме. Ну, пра такіх, для каторых ідэя перш за ўсё, і зайздрошчу ім. Хочацца мне хоць кропельку на іх быць падобнай.
— Але ты ў брыгадзе будаўнікоў вельмі добра працавала, значыць нечым таксама на іх падобная, — заўважыў Сяргей.
— Многа ты ведаеш, — нечакана раззлавалася Вера. — Працаваць добра — адно. А адчуваць у сабе патрэбу працаваць яшчэ лепш — другое.
— Можна падумаць, што ты за доўгім рублём пагналася, — сказаў Сяргей.



— Грошы што! За бацькавай спіной мне іх не трэба, — паківала галавой Вера. — А ці ведаеш, чаму я сюды прыехала? Думаеш, будаўніцтва захапіла? У інстытут не ўдалося паступіць. Рашыла, папрацую разам з бацькам два гады, тады па-за конкурсам прымуць.
— Гэта ўсё роўна, — загаварыў Косця, — кожнага з нас сюды прывялі свае дарогі. Важна тое, што і як мы тут робім. У краіне нашай хутка ціхага месца не застанецца. У Сібіры, на Далёкім Усходзе, на Поўначы — толькі і чуеш, што нешта новае пабудавалі, нешта новае адкрылі. Каб вы ведалі, як не хочацца адстаць ад усяго гэтага! Каб мог, здаецца, усюды пабываў бы, не экскурсантам, а рабочым. Нам яшчэ і пры камунізме пажыць прыдзецца. Якімі мы туды прыйдзем? Вось у чым справа...
— Ой, як правільна кажаш, Косця, — у Марынкі аж вочы загарэліся.— Мы ўсе павінны быць добрым-добрымі. Праўда?
Косця непрыкметна крануўся яе рукі. Марынка павяла галавой, ці не бачыць хто, і на момант прыхінулася галавою да Косцевай шчакі. Упершыню за колькі часу мацней застукала сэрца ў Марынкі. «Што гэта са мной, — падумала яна, — яшчэ закахаюся». Каб Косця раптам не падумаў чаго лішняга, яна адвярнулася, адчыніла акно.
— Мух напусціш, задрай ілюмінатар! — закрычаў Сеня.
— Што, што? — здзівілася Вера і раптам, зразумеўшы, зарагатала. — Ой, насмяшыў! Ой, выдумшчыкі!
Яна смяялася доўга і не магла суняцца, нават калі Марынка папрасіла Косцю:
— Раскажы, навошта нам такі вялізны кран патрэбны. Няўжо з тым, што ёсць на будоўлі, не можна пачынаць мантаж.
Хлопцы загулі, нехта зарагатаў:
— А яшчэ мантажніца...
— Які ж гэта кран!..
Калі шум сціх, Косця сказаў, пазіраючы на Марынку:
— Нічога дзіўнага тут няма, Марынка ўпершыню на будоўлі, — і, ужо звяртаючыся толькі да адной Марынкі, растлумачыў: — Нам давядзецца падымаць вялікія жалезабетонныя канструкцыі. А ўстанавіць іх можна толькі з дапамогай нашага крана: яны цяжкія і падымаць іх трэба аж да дзесятага паверха.
— Ведаем, паважаны прафесар, — падхапілася Вера, — дзякуем. Апладысменты будуць пасля, праўда, Марынка?
— За мной не прападзе, Вера, не сумнявайся...
Калі выходзілі, Косця паспеў шапнуць Марынцы:
— А ты не саромейся. Мы і самі яшчэ не вялікія спецыялісты.
Дзяўчына моўчкі ўзяла яго пад руку.

## VII

Пакуль не пачнеш працаваць над чым-небудзь, усё здаецца лёгкім і простым. Так было і з мантажом вялізнага вежавага крана. Кіеня ўдакладніў складзены Банжыным паводле заводскай схемы дэталёвы графік зборкі асобных вузлоў, нават сёе-тое рашыў паскорыць. Мантаж павінен быў закончыцца не за дзевяноста, а за восемдзесят дзён. Так было на паперы. А на справе аказалася крыху інакш, не так дакладна, як думалася напярэдадні. У першы ж дзень высветлілася, што рэйкі, па якіх павінен будзе рухацца кран, укладзены не надта моцна. Пакуль гэта не мела істотнага значэння, але з часам магло прывесці да аварыі.

Мантажнікі запатрабавалі пераробкі. Так графік быў парушаны з самага пачатку.

Кіраўнікі будаўніцтва выклікалі Кіеню.

— Справа новая, пачатак заўсёды цяжкі, — апраўдваўся ён.

— Вашы словы і паведамім ураду? — іранічна запытаўся ў Кіені сакратар парткома Лядкоў.

— Уладзімір Лявонцевіч, — абурыўся Кіеня, — зборны жалезабетон — гэта ж першы эксперымент на нашай станцыі.

— Наколькі мне вядома, — спакойна заўважыў Лядкоў, — наша станцыя — другая ўжо такога тыпу. А па-другое, кран — гэта не зборны жалезабетон. Яго манціруюць на любой будоўлі.

Апошнюю рэпліку Кіеня прапусціў міма вушэй.

— Так, але да нас прыедуць вывучаць вопыт, — вёў ён сваё, — навуковыя супрацоўнікі саюзнага інстытута. Да нас, заўважце, а не на тую, як вы кажаце, першую станцыю.

— Таму не можам мы, не маем права працаваць дрэнна, Рыгор Карпавіч.

— Але ні я, ні вы, Уладзімір Лявонцевіч, ні тым больш нашы мантажнікі, хлопцы ўвогуле бывалыя, ніколі мантажом падобных кранаў не займаліся.

— Не крыўдуйце, Рыгор Карпавіч... — пачаў быў Лядкоў. Але Кіеня, зразумеўшы гэтыя словы па-свойму, запэўніў:

— Хто крыўдуе на шчырую размову...

— Я не пра тое, — усміхнуўся Лядкоў. — Тэрміны, як вы любіце гаварыць, ёсць тэрміны, і парушаць іх нікому не дазволена. У тым ліку і нам з вамі. Таму прасіў бы вас заняцца графікам яшчэ раз.

— Воля ваша, — па прывычцы ўвабраў галаву ў плечы Кіеня. Увесь яго выгляд нібы гаварыў: дарэмна вы лаеце мяне, непаладкі яшчэ будуць, тут мы з вамі бяссільныя.

Рыгор Карпавіч пасля гэтай непрыемнай размовы адразу накіраваўся на мантажную пляцоўку. Некаторы час пастаяў там, паглядзеў на работу мантажнікаў. Думкі яго, аднак, былі далёкія і ад гэтай пляцоўкі, і ад гэтага крана, што стаў прадметам клопатаў ледзь не ўсяго вялікага калектыва будаўнікоў.

Што ў такім выпадку рабіць? З аднаго боку, патрабаванне кіраўніцтва, з другога — уласнае перакананне вопытнага інжынера. Ён не быў з тых спецыялістаў, што абыякавыя да сваіх абавязкаў, што працуюць абы дзень адбыць. Рыгор Карпавіч любіў вытворчасць, дыханне працоўнага рытму. Любіў так, як любіць дырыжор зладжаны аркестр, што падпарадкоўваецца кожнаму ўзмаху яго палачкі. Ён вельмі даражыў гэтай зладжанасцю, бо патраціў многа сіл і ўмення, каб дабіцца яе. Але да пачуцця пэўнага задавальнення прымешвалася адчуванне прыкрасці: ён бачыў, што ім незадаволены, што ад яго чакаюць большага.

Чаго? Адказаць на гэта яму было цяжэй за ўсё. Кіеня не быў спецыялістам з фантазіяй. Амаль усе гады працы інжынерам яму даводзілася ажыццяўляць чужыя задумы. Сваё ўдавалася рэдка. Але ўжо калі ён даводзіў што-кольвек да ладу, то рабіў гэта бадай віртуозна. Таму яго і цанілі і павышалі па службе.

Кіеня падбіраў сабе здольных, часта таленавітых памочнікаў. Урэшце так і трэба. Аднак з цягам часу, баючыся за свой аўтарытэт, ён пачаў асцерагацца, каб выпадкова які памочнік не замяніў яго. Кіеня не заціраў сваіх памочнікаў. Ён дабіваўся пераводу іх на які-небудзь іншы аб'ект, прычым матывы заўсёды былі самыя грунтоўныя: моладзь трэба вылучаць.





Калі ў Мінску, у трэсце, Кіеню прапанавалі ўзяць інжынерам па мантажу Банжына, ён перш-наперш захацеў пагутарыць з ім.

Алесь Банжын, нядаўні выпускнік Беларускага політэхнічнага інстытута, за некалькі год набыў немалы вопыт на розных будоўлях краіны. Ён узводзіў электрастанцыі пад Масквой і на Урале, пад Ленінградам і на Паволжжы. Потым, калі пачалася ўзмоцненая электрыфікацыя Беларусі, яго пацягнула ў родныя мясціны. Да Палескай станцыі ён будаваў Смалявіцкую. На ўсіх іх быў радавым інжынерам-мантажнікам, што і прывабіла Кіеню.

Паступова ён перакладаў на Банжына ўсё, што датычыла мантажу.

І толькі, калі стала вядома, што кран безнадзейна позніцца, узяўся за справу сам. Тады з'явіўся гэты самы графік.

Кіеня рашыў пагаварыць з Банжыным. Але знайсці яго было не так проста. Не было Банжына ні на асноўнай пляцоўцы, ні на падсобных, дзе ляжалі канструкцыі, што былі падрыхтаваны да зборкі. Кіеня ўзлаваўся. Такі адказны момант, а інжынер, якому даручана важнейшая справа, знаходзіцца нямаведама дзе. Нехта з рабочых, пазнаўшы галоўнага інжынера, падказаў:

— Алесь Антонавіч у канторы.

— Дзе? — не паверыў сваім вушам Кіеня, адчуваючы, што ягонае залатое правіла быць гранічна ветлівым з падначаленымі пачынала здраджваць яму.

Да невысокага барака, які стаяў за агарожай тэрыторыі электрастанцыі і ў якім размяшчалася мантажнае ўпраўленне, было недалёка. Але Кіеня, пакуль дайшоў туды, паспеў добра задыхацца. Стрымліваючы злосць, тузануў клямку дзвярэй пакойчыка, у якім звычайна працаваў Банжын. Дзверы не паддаваліся. Кіеня бездапаможна азірнуўся.

— Ёсць, ёсць, — сказала дзяўчыначарцёжніца, што сядзела ў суседнім пакоі.

Кіеня замалаціў кулаком.

— Хто там?..— пачуўся нездаволены голас Банжына.

— Я!..

Дзверы адчыніліся.

— Гэта чорт ведае што!..— вылаяўся Кіеня.

— Не разумею, Рыгор Карпавіч.

Кіеня зірнуў у спакойныя, стомленыя вочы Банжына і прабурчаў:

— Сапраўды не разумееце або прыкідваецеся — дапытвацца не буду. Але чаму вы, Алесь Антонавіч, знаходзіцеся тут, у кабінеце. Хіба мантаж ідзе па графіку?

— Таму і сяджу. Бо ні я, ні нават вы не паможам графіку, колькі б ні таўкліся ля крана.

— Аднак...

— Я прывык давяраць брыгадзірам, тэхнікам.

— Аднак, што вы тут робіце?

— Думаю.

— М-так... — Кіеня плюхнуўся ў крэсла і выцер хусткай успацелы лоб. — Дык што будзем рабіць?

— Думаць і яшчэ раз думаць.

Упартая самастойнасць, што раптам з'явілася ў Банжына, вельмі здзівіла Кіеню.

— Думаць не забараняю, нават раю. Аднак папрашу помніць: вы асабіста адказваеце за мантаж.

— Добра, — усміхнуўся Банжын, і Кіеня зноў адчуў сябе чамусьці няўпэўнена.

## VIII

У кніжным магазіне адкрылася падпіска на збор твораў Фадзеева. Пасля работы Косця на хвіліну забег дадому, пераапрануўся і паспяшаўся ў магазін. Ля прылаўка ён сутыкнуўся з Верай.

— О, добра...— узрадавалася дзяўчына.

Косця азірнуўся па баках і расчаравана спытаў:

— Ты адна?

Лёгкі цень прабег па Верыным твары, але Косця не заўважыў яго. Ужо спакойна Вера адказала:

— Адна. Ты паможаш мне сёе-тое купіць?

«От ужо гэтая Вера, — падумалася Косцю, — здагадалася, няйначай, што я Марынку хацеў сустрэць». Трэба было неяк апраўдацца і ён сказаў:

— Пытаешся яшчэ...— Урэшце Вера ж Марынчына сяброўка і напэўна потым раскажа ёй, што бачыла яго, перадасць, пра што гаварылі.

Пачалі выбіраць кнігі. Вера захацела набыць «Разгром» і «Маладую гвардыю».

— Ты лепш бы падпісалася, — параіў Косця.— Поўны збор твораў мела б.

— У нас дома так павялося, што падпіскай бацька займаецца. У Мінску ў нас многа кніг. А тут ён не хоча падпісвацца, бо адсюль жа не перавядзеш падпіску, вунь бачыш, аб'ява папярэджвае аб гэтым.

— Навошта пераводзіць, паспееш усе тамы атрымаць, — прыкінуў Косця, колькі часу ім засталося тут працаваць.

Вера адказала не адразу. Яны выйшлі на вуліцу, пайшлі ў бок яе дома. Гуляючы каменьчыкам, што выпадкова трапіўся пад ногі, Вера сказала:

— Бацька лічыць, што мы тут часова. У нас у Мінску кватэра.

— Як гэта часова? — шчыра здзівіўся Косця. — Як так можна працаваць?

— Некалі ж будоўля скончыцца, бацьку перавядуць на новае месца. Так было ўжо не адзін раз. А пакуль дадуць новую работу, маці кажа, што трэба мець недзе пастаяннае прыстанішча. Мінск ёй падыходзіць больш за ўсё. Горад вялікі, чаму не застацца там і назаўсёды.



Вера сказала гэта нібы знарок абыякава. Косця так і не зразумеў, ухваляе яна намеры сваёй маці, ці не.

— А ты? — спытаўся ён. — Таксама чакаеш, калі вернешся ў Мінск?

Вера зноў адказала не адразу, потым, шпурнуўшы каменьчык з усёй сілы, шчыра загаварыла:

— Не крыўдзі мяне, Косця. Я яшчэ і сама не ведаю, што хачу. Вось, здаецца, працую і нічога мне больш не трэба. А іншы раз як падумаю, што магу тут застацца адна, пачынаю баяцца. Раптам захочацца следам за бацькамі паехаць. Ты не думай, я не такая ўжо самастойная, як можа каму ўяўляецца. Я прывыкла да ванны і не прывыкла пра вячэру ці абед клапаціцца. Табе гэта можа і смешна...

— Прыдзецца застацца адной — пражывеш, як мы.— Для Косці самастойнае жыццё ўжо не было праблемай і ён не верыў, што яно можа быць праблемай для каго іншага.

Вера збоку зірнула на хлопца і весела засмяялася:

— Эх ты, суцяшальнік! Я колькі начэй не спала і нічога не магла рашыць. А ты раз і разматаў гэты вузел.

— Гледзячы, што для каго вузлом лічыць, — пакрыўдзіўся Косця.

— Ну, не злуйся... Можа і твая праўда. — Косця ў гэты момант нагадаў Веры пакрыўджанае дзіцё, і ёй захацелася зрабіць яму што-небудзь прыемнае. Яна не ўтрымалася і пагладзіла яго па галаве. Збоку гэта было, бадай, смешна, але калі яны зірнулі адно на аднаго, то раптам сумеліся.

— Дзе ж гэта Марынка? — першы схамянуўся Косця.

— Павінна была зайсці да мяне, — нельга сказаць, што Вера была задаволена яго пытаннем, але Косця зноў нічога не заўважыў. Ён зноў успомніў пра Марынку, і астатняе ўжо для яго перастала існаваць.

А Марынка ў гэты час сапраўды была ад іх недалёка. Яна ішла да Веры і прыкмеціла, як тая з Косцем выйшлі з магазіна. Гэта яе зацікавіла, і яна пайшла следам, стараючыся, аднак, каб яе не заўважылі. Але хутка ёй не спадабалася іх ажыўленая размова. Надта ўжо Косця захапіўся. Марынка занервавалася. Вера была дзяўчына разумная і ўмела пагаварыць, нездарма ж у любой сур'ёзнай кампаніі Марынка была пры ёй, як бедная сваячка: яе цярпелі, але за парадай не звярталіся. І яна рашыла ўмяшацца:

— Вось дзе вы.— Інтанацыя, з якой было гэта сказана, і ўсмешка, стрыманая, зняважлівая, сведчылі, што Марынка злуецца. Косця адчуў сябе вінаватым.

— Марыначка, пойдзем з намі, — прапанаваў ён.

Адразу даравацъ? Не, гэтага рабіць Марынка не хацела. Трэба было даць адчуць Косцю, трэба паказаць, што ён не цікавіць яе ні кропелькі.

— Мне, відаць, з вамі не па дарозе. Вы гуляеце, а я ў клуб. Там сёння спеўка ў хоры.

— Але ж ты... — пачала была Вера.

— Рашыла спяваць, не турбуйся.

Косця зжахнуўся: там столькі хлопцаў будзе і, не зважаючы на Веру, рашуча сказаў:

— Пайду з табой.

— Як хочаш,— Марынка ласкава звярнулася да сяброўкі.— Даруй, Верачка, мы ж не праводзім цябе.

— А мне і не трэба!

— Вось мы і ўдвох...

Ад гэтых Марынчыных слоў Косця нібы ажыў. Марынка ўжо не зла-

валася, яна глядзела на яго па-ранейшаму цёпла і прыязна. Яна даравала. Яны зноў удвох.

У клубе, як заўсёды ўвечары, было многа моладзі. Косця з некім гаварыў, некаму нешта адказваў. Жартавала, смяялася, размаўляючы са знаёмымі, і Марынка, але ён, бадай, нікога і нічога навокал не заўважаў. Ён бачыў толькі Марынку, прыгожую, вясёлую, і адчуваў, што яны і тут, сярод людзей, знаходзяцца ўдвох. Нават калі Марынка адна зайшла да кіраўніка хору, пачуццё, што Марынка побач, у Косці не прапала. З-за дзвярэй ён чуў яе голас не надта моцны, але мілагучны, і здзіўляўся, як гэта ніхто з прысутных у калідоры не звяртае ўвагі на яе спеў.

Марынка затрымалася. Занепакоены, Косця пачаў хадзіць сюды-туды. Яго таксама ледзь не завербавалі ў самадзейнасць. Сустрэліся знаёмыя дзяўчаты, якія ведалі, што ён любіць і добра чытае вершы, і прапанавалі яму далучыцца да іх драматычнага гуртка. Але як ён мог згадзіцца, калі Марынка будзе ў харавым? Ён у гэты час шчыра бедаваў, што не мае голасу.

Нарэшце вярнулася Марынка. Радасная, узрушаная. Яна паведаміла:

— Буду спяваць. Сола. Песню «Куды бяжыш, сцяжынка мілая». Ведаеш такую?

— Вельмі люблю.

— Праўда? А то можа наўмысля кажаш? Не? То прыходзь паслухаць, як я спяваю. Канцэрт праз месяц.

Косцю непрыемна ўразіла гэта «прыходзь паслухаць». Ён жа спадзяваўся, што Марынка будзе сюды хадзіць кожны раз з ім.

— Толькі акампаніраваць няма каму. Пад баян я не хачу,— раптам сказала Марынка.

— Ну, не бяда,— абнадзеіў Косця.— Адзін мой знаёмы на піяніна ўмее іграць.

Гаворачы так, Косця меў на ўвазе Банжына. Ён не вадзіў з ім блізкага знаёмства. Аднак цяпер здавалася, што гэта не мае істотнага значэння. Бо хіба можа хто адмовіць Марынцы.

— Будзе ў цябе акампаніятар!

— Я так любіла некалі выступаць,— усё не магла супакоіцца Марынка,— яшчэ ў школе. Стаіш на сцэне на віду ўсёй залы. І ўся ўвага толькі табе. І ведаеш, што самае страшнае? Той момант, калі ты скончыла песню і табе вось-вось пачнуць апладзіраваць. Так хвалюешся. А раптам апладысментаў не будзе?

— Ну, іх у цябе, відаць, хапала...

— Канешне. А табе што, не падабаецца гэта?

— Чаму...— схлусіў Косця.

— Бачу,— засмяялася Марынка.— А пра што гэта вы з Верай размаўлялі з такім захапленнем?

— Мы і пагаварыць не паспелі,— прызнаўся Косця.

— Перашкодзіла? Шкадуеш?

— Навошта ты? Ты ж ведаеш, што я з табой пайшоў...

Марынка спалохалася. Раптам ён вось цяпер адважыцца і скажа што-небудзь такое, пра што яна здагадвалася ўжо даўно сама і чаго, урэшце, баялася.

— Я пайду, Косця,— сказала Марынка.— Мой дом побач.

— Не,— запярэчыў Косця.— А я думаў, мы пагуляем...

Марынцы стала шкада хлопца. Яна падала яму руку на развітанне.

— Не магу, Косцечка, стамілася,— і раптам пацалавала яго ў лоб.



Пакуль Косця зразумеў, што здарылася, яна была ўжо за брамай. Косця доўга стаяў, чакаючы, што Марынка яшчэ вернецца. Але яна не вярнулася.

## IX

Іх было дзве сястры: Марынка і малодшая — Ніна. Неяк ужо так павялося, што, як Марынка памятае сябе, заўсёды вылучалі з іх дзвюх яе адну. Што гэтаму было прычынай, яна не задумвалася. Можа так здарылася таму, што яна раней пайшла ў школу і раней падрасла. А можа таму, што была прыгажэйшая, байчэйшая і лепш вучылася? Толькі новыя сукенкі куплялі Марынцы, а Ніна хадзіла ў абносках. Марынку бралі ў кіно, Ніну пакідалі дома. Нават падручнікі і кнігі даставаліся Ніне пасля Марынкі.

Марынка хутка заўважыла сваё асаблівае становішча ў доме і навучылася ім карыстацца. Неўзабаве кожнаму яе жаданню павінны былі падпарадкоўвацца і Ніна, і маці, і бабулька. Перакананне, што яна лепшая, мацнела ў ёй усё больш і больш. Гэта перакананне яна прынесла з сабой і ў школу.

Вучылася Марынка добра. Не таму, што вучоба яе надта цікавіла. Яна і тут хацела быць першай. Спачатку так і было. Але паступова, у старэйшых класах, гэта першынство пахіснулася, а потым зусім было ўпушчана. Марынку не зацікавіў па-сапраўднаму ні адзін прадмет, ёй было ўсё роўна што вучыць, абы атрымаць добрую адзнаку. У той час, калі яе аднагодкі на камсамольскіх сходах, літаратурных дыспутах спрачаліся, шукаючы сваё месца ў жыцці, яна, седзячы побач з імі, слухаючы, заставалася абыякавай. У душы была надзея на нейкі іншы лёс. Які? Хто ведае, але не такі — не завод, не цяжкая праца. Жыццё павінна быць святам. Гэта не была канчатковая ўпэўненасць. Але такое перакананне пусціла ўжо свае карэньчыкі.

Маці з бабулькай не шкадавалі грошай, і Марынка заўсёды апраналася так, як патрабавала апошняя мода. Гэта вылучала яе сярод сябровак, рабіла сталейшай. Калі аднакласніцы яшчэ толькі ўпотай марылі аб каханні, яна ўжо назначала спатканні.

Адчуваючы сябе зусім сталай, Марынка ў дзесятым класе многа хадзіла на танцы, у кіно, гуляла позна па вечарах. Яна не задумвалася, што неўзабаве яе чакаюць экзамены, а за імі — самастойнасць.

На медаль Марынка не выцягнула. Без медаля паступіць у інстытут цяжка. Гэта Марынка ведала. Трэба было рыхтавацца, сядзець усё лета, паўтараць тое, да чаго, здавалася, ужо ніколі не прыдзецца вяртацца. Чым больш праходзіла дзён, тым часцей непакой халадзіў душу. У такія мінуты Марынка старалася весяліцца яшчэ больш, смяялася з тых, хто сядзеў над падручнікамі.

Паступаць у інстытут у Мінску Марынка не хацела. Яна вырашыла ехаць у Ленінград.

Провады былі ўрачыстыя. Дома зрабілі вечарынку. Упершыню, не таячыся, пілі віно, гаварылі тосты, жадалі ўдачы. Гэткай жа шумнай кампаніяй адправіліся на вакзал. Стоячы ля вагона ленінградскага поезда, Марынка бачыла ўжо сябе студэнткай універсітэта і з адчуваннем гэтай новай сваёй годнасці лавіла позіркі сяброў, то поўныя прызнання яе незвычайнасці, то — зайздрасці. На развітанне яна нават не ўтрымалася і сказала: «У наступнае лета не чакайце мяне, у нас будзе замежная практыка».

Экзамены Марынка праваліла. Гэта быў неспадзяваны і моцны ўдар — першы на яе жыццёвым шляху.

Па-ранейшаму свяціла сонца, поўніліся натоўпам вуліцы Ленінграда, велічна несла свае воды прыгажуня Нява...

Марынка блукала па вуліцах, ездзіла да Фінскага заліва, купалася, а сама думала, што гэта цяжкі сон, які хутка павінен скончыцца. Ён сапраўды скончыўся: трэба было вызваляць месца ў інтэрнаце.

У Мінск Марынка вярнулася ў адчаі. Што было рабіць? Аднакласнікі, хто таксама не паступіў у інстытут, пайшлі на заводы, падаліся на курсы. Паследаваць іх прыкладу? На гэта не магла адважыцца Марынка. Яна ўсё яшчэ лічыла, што ёй проста не пашанцавала. Некалькі месяцаў яна праседзела дома, баючыся, што калі выйдзе, то сустрэне каго знаёмага. Пачнуць распытваць, спачуваць. Цэлымі днямі Марынка валялася на ложку, чытала, глядзела тэлевізар. Ні маці, ні бабулька яе не папракалі. Толькі Ніна з кожным днём усё смялела. Гэта было, бадай, самым невыносным.

Невядома, колькі працягвалася б такое становішча, калі б аднойчы Марынка не ўскіпела:

— Замінаю табе?

— Мне? — засмяялася Ніна. — Эх ты, дармаедка!

— Мама! — азірнулася Марынка на маці. — Што гэта?

Маці адвяла вочы, а бабулька толькі ўздыхнула.

Глытаючы слёзы, Марынка сказала:

— Паеду, паеду, куды вочы глядзяць!

Яна рашыла, што будзе жыць у суседнім раёне. Там, прынамсі, не будзе знаёмых. Але знаёмыя аказаліся і там — яе аднакласніца Вера Кіеня, якая прыязджала ў госці да цёткі. Даведаўшыся аб Марынчыных нягодах, Вера запрасіла сяброўку на будаўніцтва Палескай электрастанцыі, дзе працавалі ўжо яе бацькі і куды яна збіралася неўзабаве сама. Марынка згадзілася.

Яны з Верай па-рознаму глядзелі на жыццё. Калі Вера, не раздумваючы, пачала вучыцца на муляра, Марынка выбрала сабе іншае: месца ўчотчыцы.

З часам многае забылася. Яна стала амаль такой, як і была. Прыгажосць яе нават зрабілася больш строгай. Па-ранейшаму хлопцы заглядваліся на яе пры сустрэчы. Але яна вырашыла ні з кім нічога не мець. Толькі вось з Косцем атрымлівалася нешта не так. Марынка часам шкадавала яго. Можа Косця быў не падобны на яе даўніх знаёмых?

## X

Кажуць, пачатак часта бывае нялёгкі. З гэтым можна згадзіцца. Але гэта мала суцяшае, калі пачатак менавіта тваёй справы акажацца цяжкі. Пачуўшы, што брыгада Клубовіча не выканала заданне, Банжын не на жарты занепакоіўся. Дзе гарантыя, што і астатнія брыгады не пачнуць выбівацца з графіка?

Косця, сустрэўшы Банжына пасля работы, не ведаў, куды схаваць вочы. Чакаў вымовы, якую, думалася, заслужыў. Аднак яму не стала лягчэй, калі Банжын, нават не папракнуўшы, проста запытаўся, чаму гэта здарылася.

— Кацуба ўчора недзе напіўся надвячоркам. Мы параіліся і вырашылі не дапусціць яго сёння да работы...



— Правільна зрабілі.

— Відаць, не зусім. Разлічвалі, што без яго ўправімся. А яно вунь як выйшла.

— Вось што, Клубовіч, ідзі адпачні. А потым заходзь да мяне, падумаем разам.

Злосны прыйшоў Косця ў інтэрнат. Ні Сяргей, ні Сеня яшчэ не клаліся спаць. Адзін Міхась валяўся на ложку: пэўна галава балела.

Косця наліў у шклянку халоднай вады, падаў Міхасю:

— Пахмяліся! Гаварыць будзем.

Міхась прагна выпіў, задаволена спытаў:

— Не справіліся без мяне?

— Учора—не,—пастараўся стрымацца Косця,—сёння—справімся.

— Слухай, брыгадзір, — прапанаваў Сяргей, — давай вывезем яго на тачцы з нашай брыгады. Я ўжо і тачку нагледзеў — шык, як у карэце пракоцім...

— Чуеш, Міхась?

— Не вывезеш. Вы ў абавязацельствах што запісалі? Выхоўваць.

— Ага, — Сяргей перасеў да Кацубы на ложак, паклаў сваю моцную руку яму на плячо. — Слухай! Прасіцца будзеш, каб выгналі — не выганім. Я вазьмуся за тваё выхаванне. Я! — і так сціснуў плячо Кацубу, што той заенчыў:

— Пусці! Не маеш права, буду скардзіцца.

— Скардзіцца? — грымеў Сяргей. — З гэтай хвіліны, лічы, я табе за бацьку буду, за начальства. Я з цябе чалавека рабіць буду!

Косця пачаў прасіцца:

— Дайце хоць крышку паспаць. А з табой, Кацуба, я таксама яшчэ пагавару. Рыхтуйся.

Косця лёг, заплюшчыў вочы. Па стомленым целе разліўся спакой, навакольнае адсунулася некуды далёка-далёка. Яшчэ размаўлялі хлопцы, пра нешта, здаецца, спрачаліся, а яму ўжо не было да гэтага ніякай справы. У галаве мроілася сваё. Яно не мела непасрэднага дачынення да сённяшняй падзеі і разам з тым не давала заснуць. Чаму? Хіба можа быць лепш у жыцці? У яго цікавая работа і на свеце ёсць цудоўная, адзіная Марынка, такая ласкавая, уважлівая. Побач з ёй ён адчувае сябе здольным зрабіць што-небудзь выдатнае. Але нібы хто трымае за тыя крылы, што выраслі ў яго за апошні час, не дае ўзняць іх. Узялі абавязацельствы, расшумеліся, нахваліліся. А як было, так і засталося. Нават часам горш. Як сёння, напрыклад. Нечага недагледзеў ён, не прадумаў — і вось вынік. А можа гэта Марынка адбірае ў яго ўсю ўвагу, і тую, што яшчэ нядаўна ён аддаваў толькі брыгадзе, толькі рабоце? Не прынесла яму спакою гэта сяброўства. Ніколі не ўведаеш, як яна паглядзіць на цябе ў наступную хвіліну: прыязна або холадна. Але не, не можа быць вінаватай яна. Хіба Кацуба раней не піў, не прагульваў, не біў лынды? А можа гэта ён, Косця, сабе апраўданне шукае? Што было раней, не можа быць цяпер. Да якога часу можна таптацца на месцы? Няўжо праз аднаго Кацубу на цэлую брыгаду нападуць нягоды? Ён адзін, а ёсць брыгада, брыгадзір...

Малады, здаровы сон прыйшоў сам сабой, заглушыў непрыемны роздум.

Прачнуўся Косця апоўдні. Не пабудзіўшы хлопцаў, хуценька сабраўся і накіраваўся да Банжына. А там ужо ішла нарада. Сядзелі брыгадзіры, майстры, многія з тых, хто, як і ён, меў за плячыма вопыт другіх будоўляў.

Самы малады сярод брыгадзіраў, Косця сціпла прысеў у кутку і пачаў слухаць.

— Скарочанага графіка нам, відаць, не вытрымаць, — працягваў размову Банжын.— Такую махіну з ходу не збярэш. Адна пад'ёмная страла, ліха на яе, мае сорак метраў. Патрэбен час, і мы павінны знайсці яго...

— Па дзве змены працаваць, — прапанаваў нехта.

— Адзін аднаму перашкаджаць будзем... — пачуліся галасы.

— Так, гэта не выхад, — адхіліў прапанову Банжын, і Косця, уявіўшы сабе, як выглядае пляцоўка, вымушан быў згадзіцца з ім.

Брыгадзіры задумаліся, успаміналі розныя прыклады, падобныя выпадкі, але прыдумаць нічога не маглі.

— Адным словам, вышыня... — задумаўся Косця.

— Вышыня? — перапытаў Банжын, і раптам яго схуднелы, пахмуры твар ажывіўся. — Вышыня, кажаш?

— Алесь Антонавіч, але ж ад вышыні мы і плачам.

— Плакалі, дарагі, а цяпер не будзем. З вышынёй на зямлі змагацца будзем, брыгадзіры! А як — пазней скажу, калі сам абдумаю ўсё да рэшты.

Пасля нарады Косця затрымаўся ў Банжына. Больш зручнага выпадку выканаць Марынчыну просьбу не можна было і чакаць.

— І ўсяе просьбы? — на дзіва хутка згадзіўся Банжын.—Гэта якая? Тая шэравокая, што з дачкой Кіені сябруе?

— Яна, яна.

— Кахаеш?

Косця спачатку хацеў быў казаць праўду, бо вельмі любіў і паважаў Банжына. Але засаромеўся. Ды з кім у дваццаць год падобнага не бывае?

— Не, — сказаў ён, пачырванеўшы.

— Хлусіш, мабыць, — не паверыў Банжын, — дзяўчына яна прыгожая, закахацца можна.

— Вера таксама нішто сабе, — зноў не знайшоў сілы прызнацца Косця.

— Ну, як ведаеш, — чамусьці ўздыхнуў Банжын, — а мне яна падабаецца.

Незадаволенасць сабой доўгі час не пакідала Косцю пасля гэтых слоў Банжына. Ён, як толькі трапілася мінута, адразу пабег шукаць Марынку. У інтэрнаце сказалі, што яна напэўна пайшла да Веры. Косця ні разу не быў на кватэры галоўнага інжынера. Ды і адносіны з Верай пасля той сустрэчы ў кніжным магазіне зрабіліся халоднымі. Дзяўчына нечага крыўдзілася. Але не ў такім стане быў Косця, каб заўважыць і зразумець чужую крыўду.

Дзверы адчыніў сам Кіеня. Ён, відаць, не ўспомніў Косцю, з якім гутарыў на будоўлі толькі разы са два.

— Вам каго?

— Веру.

— Вера, да цябе, — сказаў некуды ў бакоўку Кіеня і прапусціў хлопца наперад.

— Тата, гэта ж Клубовіч, — сустрэла Косцю дзяўчына.

— Не пазнаў я... Прабачце, малады чалавек. Вочы мае ўжо дрэнныя.

— Нічога, Рыгор Карпавіч, — збянтэжыўся Косця ад увагі, якую праявіў раптам галоўны інжынер да яго.

А той не адставаў:



— У такім разе, дачка, і я да цябе зайду.

Рыгор Карпавіч прымусіў, нарэшце, Косцю зайсці ў Верын пакой. Марынка была там. Яна сядзела ў мяккім крэсле з выглядам чалавека, які прывык бываць у гэтым пакоі. Яе не здзівіў прыход Косці з гаспадаром дома. Не звяртаючы на іх увагі, яна забаўлялася з плюшавым мядзведзем. Косця якое імгненне глядзеў на яе, чакаючы сустрэчнага позірку. Не дачакаўшыся, пачаў глядзець па баках. Мноства кніг — гэта было адзінае, што нечакана ўразіла яго. Кнігі ляжалі на стале, на тумбачцы, на канапе. Відаць, да іх звярталіся тут часта. Косця нават пазайздросціў такой магчымасці. У бібліятэцы клуба будаўнікоў на цікавую кнігу трэба было перачакаць чаргу. Аднак доўга стаяць моўчкі было няёмка. Добра, што выручыў сам гаспадар.

— Няўдача, малады чалавек? — загаварыў ён, зусім не цікавячыся, чаго Косця з'явіўся тут.

У голасе галоўнага інжынера не чулася строгасці, як гэта звычайна было на рабоце. Тут ён быў зусім свойскі, крыху састарэлы, лагодны дзядзька. Косця асмялеў, расказаў, чаму не выканалі план уначы.

— Вы павінны дабіцца, каб гэтага... як, Вера, яго?.. перавялі куды-небудзь.

— Кацубу, — падсказала Марынка.

— Яго выхоўваць трэба, — загарачылася Вера. Ёй вельмі было няёмка перад Косцем за тое, што бацька так абыякава сказаў пра члена іх брыгады.

— Не тое, дачка, гаворыш. Сама, мабыць, інакш думаеш. Якія з вас педагогі, кашы мала з'елі. Выхоўваць Кацубу трэба было значна раней. Так, брыгадзір?

Прыкладна такі самы сэнс быў у нядаўнім пытанні Банжына. Тады Косця адказаў ад сэрца, бо верыў: Банжына хвалюе, што ўрэшце адбудзецца з Кацубам. Тон Кіені яму не спадабаўся, і ён наўмысля запярэчыў:

— Дрэнныя мы былі б камсамольцы, каб пакінулі чалавека ў бядзе. Нам шкада яго, шкада, што ён не разумее, па якой дарозе ідзе.

Кіеня ўважліва паглядзеў на Косцю, усміхнуўся:

— Значыць, план пакінем пад пагрозай?

— Пакуль паднаціснем самі, а там і Кацубу прымусім.

— Упэўнены?

— Канешне! Акрамя таго, Банжын таксама нешта прыдумаў.

— Банжын?

Косця расказаў пра нараду. Рыгор Карпавіч аж ускочыў:

— Няўжо?

— Вось і вы нешта ведаеце,— спахмурнеў Косця,— а я дык нічога не зразумеў.

— Эх, малады чалавек, тут і разумець няма чаго. Проста Банжын, відаць, рашыў вузлы крана збіраць на зямлі і ў гатовым выглядзе падымаць.

— Хіба можна?

— Задумана смела, я сказаў бы, занадта смела,— Кіеня гаварыў нібы сам з сабой, — але і рызыка вялікая.

Косця больш яго не цікавіў, намеры Банжына ўсхвалявалі яго так моцна, што ён забыўся развітацца.

— Косця, куды гэта варта,— скрывіла губы Марынка,— як толькі ты з'явішся, абавязкова любую размову на кран перавядзеш.

— Гэта ж мая праца,— хлопец вінавата пачаў апраўдвацца.— Няўжо табе ўсё роўна: добра мы працуем, ці не?

— Сама не ведаю. Але бывае часам, калі хочацца нечага больш узнёслага і, безумоўна, хоць крапельку ўвагі.

— Скажы прама — каханне! — Вера паклала кнігу, якую да гэтага трымала ў руках, і павярнулася да Марынкі.

— Глядзі, Верачка, ці не кранула яно цябе?

— З хворай галавы—на здаровую,—чамусьці раззлавалася Вера. — То можа, калі табе хочацца ўвагі, пойдзем на танцы. Музыка, позіркі паклоннікаў. Ад меланхоліі не застанецца і знаку.

Ні музыкі, ні паклоннікаў, як прадказвала Вера, на вуліцы не было. Толькі вецер ганяў калючы пясок па дарозе. Марынка папрасіла, каб яе праводзілі дадому. Косця павярнуў да яе інтэрната, але стаў маўклівы, панылы. Ён так спадзяваўся на сённяшні вечар, а тут Марынка зноў аказался няўлоўнай. З Косцем засталася яе сяброўка. Ну, што ж, часам закаханага і гэта цешыць.

Вяртацца назад было недалёка. Не паспелі і двух слоў сказаць, як апынуліся ля Верынай кватэры. Было яшчэ не позна, і Вера запрасіла на чай. Косця пачаў быў аднеквацца.

— Чаго там, — махнула рукой Вера, — вячэры табе ж ніхто не падрыхтаваў.

Яны зноў сядзелі ў Верыным пакоі. Усё тут было, як паўгадзіны назад, не было толькі Марынкі. Гэта засмучала Косцю і разам з тым рабіла яго больш упэўненым, гаваркім. Вера больш, відаць, не крыўдзілася, і Косця адчуваў сябе з ёй на дзіва лёгка, як, скажам, з Сяргеем або з Сенем. З Верай можна было гаварыць пра што хочаш, хоць пра той самы кран, і яна ўважліва слухала, рабіла заўвагі. Не выпадкова, што Косця загаварыў пра справы ў брыгадзе. Косцю непакоіла сённяшняя няўдача. Вера лічыла, што ў здарэнні з Кацубам вінавата ўся брыгада.

— Ты, Косця, глыбей глядзі,— гаварыла Вера.— Час ідзе, а што мы паспелі ажыццявіць з задуманага? Нічога. Няма моцнай дружбы ў нас.

— Адразу нічога не зробіш.

— Само таксама не зробіцца. За дружбу трэба змагацца. А ў нас? Гаварылі, гаварылі, а па-ранейшаму, як змену скончылі, хто куды: адзін у клуб, другі ў буфет. Нешта такое трэба прыдумаць, каб у нас агульныя інтарэсы былі і пасля работы. Скажам, вучоба.

— Хлопцы пойдуць у вячэрнюю школу, але гэта восенню.

— То можа цяпер ужо рыхтавацца час? Я пра Сеню думаю. З ім, напэўна, трэба пазаймацца, каб мог у сёмы клас пайсці. Усё год выйграе.

— А праўда, Сяргей усё роўна ў тэхнікум рыхтуецца, папросім памагчы заадно.

— Бачыш? Але гэта не ўсё. Я вось што думаю. Многа ў нас вольнага часу. Давайце разам у кіно хадзіць, на лекцыі, на спектаклі, калі артысты прыязджаюць. Вось паглядзі.— Вера выцягнула з шуфлядкі стала ліст паперы, падала Косцю.— Растлумачыць? Я прыкінула, што мы свой культфонд можам стварыць. З палучкі па колькі там рублёў... Галоўнае, што разам хадзіць будзем. Пасля і абмеркаваць, што ўбачым, можна і паспрачацца.

— Разумніца ты, Вера, — не ўтрымаўся, каб не пахваліць Косця.



Ён ішоў па пасёлку, дзе хадзіў не аднойчы, і думаў: чаму Марынка не падобна на Веру, такую моцную, сур'ёзную. Але як бы здзівіўся Косця, калі б хто яму сказаў, што ў гэты самы час Вера стаіць ля акна і кончыкамі косаў стараецца выцерці слёзы.

Так, моцная, сур'ёзная Вера, якой звычайна зайздросцілі сяброўкі, думала пра сваё жыццё і плакала. Што ж, сэрца застаецца сэрцам нават у моцных дзяўчат. І калі не ўдаецца каханне, яны плачуць гэтак жа, як і тыя, каго лічаць слабымі...

...Бадай кожная школа — сельская ці гарадская, малая або вялікая, узорная ці непрыкметная — тым не менш з'яўляецца родным домам для падлетка. Там — настаўнікі, важатыя, таварышы. Там — кнігі з героямі, якія палюбіліся, на якіх хочацца быць падобным. Там — цікавыя зборы, гульні, паходы.

Для Веры школа стала домам, прынамсі з таго часу, калі яна навучылася крытычна ставіцца і да свайго жыцця і да жыцця іншых. Маці з яе абмежаванымі інтарэсамі, якія не ішлі далей зарплаты мужа, мэблі ў хаце і модных сукенак, перастала раптам быць для яе аўтарытэтам. Яна ўжо не раілася з ёю, не дзялілася думкамі, таямніцамі. Заставаўся бацька, якога Вера любіла, да якога цягнулася. Бацька быў будаўніком, адным з тых, хто ўзводзіў фабрыкі, заводы, гарады, і гэта выклікала ў Веры гонар. Будаўніцтва — гэта ж нешта вунь якое вялікае!.. Так паступова ўмацавалася думка аб яе прызванні. Быць толькі будаўніком. Дзе? Ці мае гэта значэнне? Уперадзе яшчэ школа, інстытут...

Школа была скончана, з інстытутам не атрымалася. Але Вера гаварыла няпраўду, калі тлумачыла, што прыехала на Палессе за бацькамі. Для яе гэта быў проста шчаслівы выпадак.

На летнія канікулы група вучняў іх дзевятага класа пайшла ў турысцкі паход па рэках Палесся, па месцах колішніх партызанскіх лагераў. Юнакам і дзяўчатам, якія ведалі пра вайну толькі з кніг або расказаў старэйшых, хацелася пабачыць легендарныя мясціны, пахадзіць па партызанскіх сцежках і можа хоць на хвіліну адчуць суровы подых таго часу.

Вера таксама была ў паходзе. Яна бачыла акопы, зямлянкі і сцежку, па якой у дні блакады выслізнулі з вогненнага кола партызаны, што стаялі лагерам у Забярозаўскай пушчы. Вера крыху адстала ад таварышаў, хадзіла адна. Здавалася, што так ёй не будуць перашкаджаць глядзець, думаць. Яна ледзь не прагледзела галоўнае — сціплы слупок з чырвонай зорачкай. Вера пачула, як праваднік расказваў:

— Праз гэтае балота адыходзіў апошні атрад. Але немцы здагадаліся, што недзе, відаць, ёсць выхад і зрабілі спробу апярэдзіць нас. Нешматлікія нашы заслоны былі змяты. Заставаўся адзін толькі кулямёт, вось якраз на гэтым месцы. Пазіцыя зручная, бачыце, лагер, у які ўварваліся тады немцы, увесь перад вамі. І раптам кулямёт сціх. Паранены кулямётчык спрабаваў быў падняць галаву, дацягнуцца да гашэткі, але новая куля абарвала яго жыццё. Мы разгубіліся, і тады з калоны кінулася да кулямёта наша санітарка. Як яе прозвішча, пэўна ведалі ў штабе. Мы ж называлі яе проста Вера. Атрад быў выратаваны.

— А Вера?

— Вера загінула... Вось тут.

Доўга пасля сніла Вера Кіеня тую палескую палянку з магілай.

Сніла палянку і бярозку, якую яна пасадзіла пасля цішком побач з магілай. І ніхто не ведаў, што тады Вера дала клятву і сабе і той партызанцы: быць падобнай на яе.

## XI

Выпадковая рэпліка Клубовіча падала Банжыну цікавую ідэю. Магутны саракатонны вежавы кран мае вышыню добрых сорак метраў. Але, як і кожны кран такога тыпу, ён разборны. Гэта значыць, што пры ўстаноўцы на новым месцы яго трэба кожны раз зноў збіраць. І вось гэта аказваецца самым складаным. Бо чым вышэй узнімаецца кран, тым больш цяжка прыходзіцца мантажнікам. Тое, што на зямлі можа зрабіць больш-менш кваліфікаваны слесар, на вышыні пятага ці шостага паверха пад сілу толькі віртуозу-мантажніку.

Ледзь не да світання прасядзеў Банжын ля свайго рабочага стала, прыкідваючы, як найлепш арганізаваць мантаж. Яму было ясна, што толькі зборка вузлоў і буйных дэталей на зямлі паможа выйграць час. Але як падняць іх пасля наверх? Якая дапусцімая мяжа вагі такой узбуйненай канструкцыі? На гэта ніхто яму пакуль не мог даць адказу: такім спосабам кранаў яшчэ не збіралі, трэба было самому думаць, рыхтавацца да адказнасці, бо без рызыкі тут абысціся нельга.

За сценкай у суседзяў заплакала дзіцё. Банжын схамянуўся, зірнуў на гадзіннік. Тры гадзіны. На ўсходзе пабялела неба. Пачынаўся дзень, поўны і ранейшых клопатаў, і новых, якія ён, Банжын, возьме на сябе пасля сённяшняй бяссоннай ночы.

Ад доўгага сядзення цела зрабілася чужое, непаслухмянае. Банжын выйшаў на балкон. Гарадок яшчэ спаў, аднак жыццё на будаўнічых пляцоўках не спынялася і ўначы. Ярка свяцілі ліхтары, мігалі зялёныя маланкі электразваркі, недзе ля склада крычаў манеўровы паравоз. Усё навокал было прывычнае, роднае.

А зара разгаралася. Дзень уваходзіў у свае правы. Што прынясе ён? Як сустрэне праект Кіеня? Пакуль у Банжына не было падстаў скардзіцца на галоўнага інжынера. Адносіны паміж імі былі дзелавыя, у сур'ёзных выпадках Кіеня заўсёды яго падтрымліваў. Але разам з тым сумесная работа не здружыла іх, не надала іх адносінам неабходнай у такіх выпадках цеплыні і прыязнасці. Таму Банжын і непакоіўся, хваляваўся.

Нечая постаць мільганула ўнізе, на тратуары. Банжыну здалося, што гэта Клубовіч. Падумалася, вяртаецца хлопец са спаткання. Ад каго? Ці не ад той шэравокай, пра якую яны ўчора гаварылі? Дзівак, чаго саромецца свайго кахання? Банжын пастараўся ўявіць сабе Марынку і, калі гэта ўдалося, адчуў на сэрцы лёгкі смутак. А можа то быў смутак толькі ад неўладкаванасці яго асабістага жыцця?..

На работу Банжын з'явіўся рана. Кіеня, аднак, прыйшоў яшчэ раней. Банжын далажыў, што было зроблена напярэдадні, расказаў планы на бягучы дзень. Кіеня слухаў, але, здавалася, яго думкі былі далёка. Ён так і не дачакаўся канца даклада, перабіў:

— Нешта вы не хваліцеся самым галоўным?

Пытанне здзівіла Банжына: адкуль Кіеня ўжо ведае? Але ён разгарнуў папку, што прынёс з дому, і падаў яе галоўнаму інжынеру. Той таропка прагледзеў разлікі, неспадзявана чмыхнуў:

— Вам не падабаецца? — насцярожыўся Банжын.

— Падабацца ці не падабацца можа дзяўчына. А гэта — інжынерныя разлікі. Іх можна або адобрыць або забракаваць.

— І..

— Ні першае, ні другое. Рашэнне арыгінальнае, паверце майму вопыту. Гэта не камплімент.

— Значыць, прыменім?..



— Пазнаю моладзь...— Кіеня, не спяшаючыся, зняў акуляры, працёр шкельцы хустачкай і толькі тады растлумачыў: — Мы павінны дэталёва вывучаць усе «за» і «супраць», правесці эксперыменты і толькі тады, паўтараю, толькі тады даваць заданні мантажнікам. Мы не маем права рызыкаваць адзіным кранам. Нарэшце, і для людзей эксперыменты небяспечныя. Што мы будзем рабіць, калі некалькі тон жалеза абарвецца і зваліцца нам на галовы?

— Рыгор Карпавіч, але нас падпіраюць тэрміны. Электрастанцыю ж трэба будаваць, — сказаў Банжын, забыўшыся, што амаль гэтак жа сама нядаўна гаварыў ім Лядкоў.

Але Кіеня не забыўся, чые гэта словы.

— Вы таксама інжынер і таксама ведаеце, што тэрміны складаюцца не толькі з нашага крана. Можна будзе нагнаць некаторы час, калі пачнем ставіць корпус, агрэгаты. У нас наперадзе, да пуску станцыі на поўную магутнасць, тры гады. Тры гады!

— А колькі да пуску першай турбіны? Восем месяцаў!

— Што-небудзь прыдумаем. Я ніколі загадзя не задумваўся, а заўсёды, калі пачыналася работа, знаходзіў рашэнне. Спадзяюся, што мае мазгі яшчэ не высахлі.

— Рыгор Карпавіч, вы ведаеце, што такое чартапышча? — нечакана спытаўся Банжын.

— У нас сур'ёзная размова, Алесь Антонавіч,— здзівіўся Кіеня.

— А я сур'ёзна пытаюся. Чартапышча — гэта тое месца, дзе мы з вамі электрастанцыю будуем. Так яго называлі раней: тут былі непраходныя лес ды балота. Уяўляеце, якую перамену мы прынеслі сюды, як людзі чакаюць нашай станцыі. Нядаўна мне давялося пабываць у суседніх вёсках. Толькі і гаворкі, што хутка электрычнасць будзе. Маторы ўжо людзі купілі, праводку зрабілі. Уяўляеце, Рыгор Карпавіч, пройдзе восем месяцаў, усяго восем месяцаў, і гэты некалі глухі багністы куток...

— Вы — інжынер, які займаецца канкрэтнымі, вытворчымі пытаннямі. Розныя там паэтычныя параўнанні патрэбны вам, прабачце, як рыбе парасон.

Кіеня не мог даравань «чартапышча».

— Рыгор Карпавіч! — ускочыў Банжын.— Лічыце, што разлікі я падаў вам афіцыйна. Калі ласка, паклапаціцеся даць мне афіцыйны адказ. І не праз два тыдні, а сёння. Інакш я пайду ў партком.

— Вось яна, ваша ўдзячнасць,— апусціў вочы за акулярамі Кіеня.— Ледзь тэхнічная спрэчка пачала складвацца не ў вашу карысць — адразу пагрозы. Дзякуй, малады чалавек, дзякуй...

Кіеня абмяк, апатычна пацягнуўся за папкай. Схаваўшы яе ў шуфляду, паабяцаў хутка даць адказ. Ён не затрымліваў Банжына. Яму аднаму хацелася падумаць, асэнсаваць, што ўсё-такі здарылася, чаму ён нечакана для самога сябе хваравіта сустрэў гэту ўрэшце можа і добрую навіну.

Пры ўсіх сваіх недахопах Рыгор Карпавіч меў адну станоўчую рысу: ніколі не хлусіў самому сабе, заўсёды дашукваўся прычыны сваіх паводзін. Так было раней, калі ён толькі пачынаў свой працоўны шлях. Так вялося і цяпер. Толькі цяпер ён мог часам і пакрывіць душой перад кім-небудзь, калі лічыў, што такім чынам для сябе будзе лягчэй. Што выклікала такую перамену?

Малады Рыгор Карпавіч не ўмеў зайздросціць людзям. Ён быў дужы, поўны надзей, верыў у сваё. Тады ён радаваўся і кожнай удачы сваіх таварышаў. Міналі гады. Сталеў Рыгор Карпавіч, адчуваючы, што

многія мары маладосці так ніколі і не здзейсняцца. Ён кіраваў, вырашаў, падпраўляў. Чужая слава амаль заўсёды закранала яго аўтарытэт. Гэта было не тое, да чаго ён імкнуўся, але гэта ў нейкай меры задавальняла яго. Ён яшчэ часам любіў пры выпадку сказаць: мы таксама маглі б вынаходніцтвам займацца, шматзначна намякаючы на сваю занятасць. Але сам ён добра разумеў, што ўжо ніякага вынаходніцтва не зробіць.

Колькі разоў Банжын прыходзіў да яго!.. Варта было падтрымаць тады Банжына, хоць на словах выказаць жаданне шукаць новае, як усё было б інакш. Банжын не змог бы весці разлікі без яго.

Рыгор Карпавіч выцягнуў папку Банжына, зноў перагарнуў паперы, сям-там панаставіў чырвоным алоўкам птушак. Не, відаць, добра, што не падтрымаў. Банжын думае раму партала, на якой будуць стаяць і вежа, і электраматоры-рухавікі, падняць наверх у гатовым выглядзе. А пад'ёмнік абавязкова перакуліцца. Рама цяжэйшая — перацягне. Тады аварыя, тады адказнасць. Не! Праз гэтую ж чортаву адказнасць і апынуўся ён тут, былы галоўны інжынер трэста. А за кран могуць так даць па шапцы, што не ачуняеш ужо...

## XII

Без дазволу Кіені змяненні ў парадак мантажа крана ўносіць было нельга. А на яго дазвол Банжын перастаў спадзявацца. Каб хутчэй бег час, ён застаўся на рабочай пляцоўцы, памагаў мантажнікам, баючыся, што неўзабаве рабочы дзень скончыцца і ён застанецца сам-насам са сваімі думкамі.

Але змена скончыла працу, апусцела на некаторы час пляцоўка. Банжын выйшаў за рабочымі, прайшоў па гарадку, завярнуў да Косці ў інтэрнат. Там было пуста. І тут Банжыну ўспомнілася Косцева просьба.

У клубе Банжын бываў рэдка, толькі хіба на ўрачыстасцях, калі мог сустрэць сяброў і знаёмых свайго ўзросту. У іншыя дні, пабыўшы там гадзіну-другую, абавязкова пачынаў сумаваць. Карцела весяліцца разам з моладдзю і не ставала адвагі на гэта. Ён ужо не лічыў сябе маладым. У свае дваццаць сем год ён быў, безумоўна, старэй ад большасці юнакоў і дзяўчат, якія працавалі разам з ім на будоўлі. Ягоная маладосць, здавалася яму, засталася ў інстытуце, а ў самастойнае жыццё ўступіў не па гадах сталым. Усё гэта высветлілася ў самы апошні момант, калі яму ўручылі дыплом інжынера-энергетыка.

Пяцікурснікі энергафака былі ўпэўнены, што раней чым атрымаюць дыпломы, згуляюць вяселле Алеся Банжына: такое доўгае сяброўства было ў яго з дзяўчынай, якая вучылася на курс ніжэй. Дзяўчына была харошая, не адзін уздыхаў, гледзячы на яе. Але і Банжын быў не кепскі. Праўда, не такі прыгожы, затое жартаўнік, весялун, які не дасць сумаваць у кампаніі нікому. А як ён іграў на піяніна! Дзяўчатам Банжын падабаўся. Здавалася, дзяўчына кахае Банжына. Прынамсі, так лічылі ўсе знаёмыя. Не лічыў толькі так сам Алесь.

Ён ніколі не гаварыў дзяўчыне пра свае пачуцці, нават не пацалаваў яе. Нейкае прадчуванне не дазваляла адважыцца на гэта. Думалася, што нарэшце прыйдзе той дзень, калі ён зможа сказаць усё патрэбнае.

Той дзень, аднак, на прыходзіў. Алесь чакаў бы яшчэ, каб не дыплом і накіраванне на работу на Урал. Ён адважыўся на размову. Яна была кароткая і зусім недарэчная. Яны рассталіся, а праз год дзяўчына выйшла замуж.



Незнаёмыя мясціны, цікавая работа прыцішылі пачуцці. Аддаючы ўсю ўвагу адной рабоце, ён нібы абмінаў сваю маладосць, не здагадваючыся, што яна яшчэ возьме некалі сваё.

Каб у Алеся хто спытаў, чаму ён сёння прыйшоў у клуб, ён, бадай, не здолеў бы растлумачыць. Сказаў бы, напэўна, што не сядзіцца дома, бо рабіць няма чаго і няма сілы ў адзіноце чакаць рашэння Кіені. Гэта была праўда, аднак няпоўная. Сёння яму раптам захацелася выканаць Косцеву просьбу. А захацелася пасля таго, як выпадкова сустрэў тую самую спявачку. Але пра гэта Банжын стараўся не думаць.

Ён прыйшоў рана і быў нават задаволены, што яшчэ нікога ў клубе няма. Загадчык адчыніў яму дзверы на сцэну, дзе стаяла піяніна. Банжын захваляваўся, міжволі паскорыў крокі і крыху супакоіўся толькі тады, калі, сеўшы, паклаў рукі на клавішы, калі першыя гукі парушылі цішыню пустой залы.

Банжын любіў музыку. Праз хвіліну ён ужо забыўся на ўсе нягоды. Музыка перанесла яго ў нейкі фантастычны свет, далёкі ад усяго таго, што трывожыла хвіліну назад. Яму раптам успомнілася першае каханне, дзяўчына, якая ўмела быць, калі хацела, чулай і ласкавай, успомніліся да дробязей няўдачы, прыезд сюды. І раптам ён адчуў, што ў душы нібыта зноў нараджаецца жыццё. Што гэта магло б значыць?

— Алесь Антонавіч!

Банжын уздрыгнуў. Хто б то мог быць? Ён павярнуўся і нават устаў ад нечаканасці. Перад ім стаяла Марынка.

— Я перашкодзіла вам?

— Ды не. Я ж прыйшоў дзеля вас.

— Дзякую, — Марынка апусціла вочы.

Банжыну зрабілася няёмка.

— Што вам сыграць?

— Калі можна, не трэба сёння, я не змагу спяваць.

— А ў мяне вольны вечар.

— Тады, прашу вас, іграйце. Мне так падабалася.

— Праўда?

Марынка не хлусіла. Музыка сапраўды нечым уразіла яе, і Банжын зразумеў гэта. Ён зноў павярнуўся да піяніна. Узяў адзін акорд, другі. Хацелася сыграць нешта незвычайнае, узнёслае і раданае, але ў залу сталі заходзіць людзі.



Пачаліся заняткі спевакоў. Акампаніраваў ім баяніст. Юнакоў і дзяўчат было многа, кожны займаўся сваім і ніхто не звяртаў увагі на Банжына. А таму гэта і трэба было. Аглядваючы залу, ён міжволі спыняў позірк на Марынцы. Яна, здавалася, не заўважала яго, стаяла строгая, задумлівая, час ад часу шэпчучы нешта сваёй суседцы. І толькі адзін раз паглядзела ў яго бок — пільным, доўгім позіркам.

Банжын непрыкметна выйшаў.

Цёплы ліпеньскі вечар вабіў кудысьці далёка-далёка, нашэптваў нешта таямнічае. Банжын спыніўся ля выхаду. Злева чулася гаманлівае жыццё галоўнай вуліцы. Звычайна ён любіў пахадзіць там увечары, палюбавацца на яркія агні ліхтароў. Яго заўсёды трохі здзіўляла, што моладзь, якая ў большасці гуляла тут, амаль перастала ўжо заўважаць гэта незвычайнае, што зусім нядаўна ўпісалася ў будаўнічы пейзаж.

Але сёння яму ўпершыню не захацелася на людзі. Ён збочыў за клуб, дзе ледзь угадваліся ў цемры абрысы будучага стадыёна. Ён і тут ведаў кожную сцяжынку сярод наваленай цэглы, штабялёў цёсу і выкапаных ям.

У левым сектары ўжо былі гатовы трыбуны. Банжын дабраўся да іх, узлез на самы верх і сеў на белую не пафарбаваную яшчэ лаўку. Адгэтуль панарама гарадка здавалася нібы шырэйшай. Недзе там, ля Беразіны, што адбівалася агеньчыкамі пасёлка, быў яго дом. Халасцяцкі пакой, пусты, па-роднаму прывычны, цяпер здаўся яму чужым. Банжын ужо не мог зразумець, як гэта ён цэлы год не заўважаў свайго адзіноцтва.

## XIII

Косця хутчэй адчуў, чым заўважыў нешта новае ў паводзінах Марынкі. Раніцай на мантажную пляцоўку заглянуў Банжын. Ён вітаўся з рабочымі, гутарыў. Прывітаўся і з Марынкай, відаць, пры гэтым пажартаваўшы, бо дзяўчына ўсміхнулася ў адказ. Яна смяялася часта, ніхто на гэта нават увагі не звярнуў. Ніхто, акрамя Косці. Ён адзін прыкмеціў, як раптам імгненна запалымнелі яе шчокі, як засвяціліся вочы.

Неўзабаве Банжын падышоў і да Косці. І тут інжынер, які заўсёды быў з ім шчыры, ветлівы, раптам адвёў позірк. Што магло здарыцца?

— Клубовіч, зайдзіце да мяне.

Такі зварот яшчэ больш збянтэжыў Косцю. Аднак размова, што неўзабаве адбылася паміж імі, на некаторы час развеяла яго падазронасць. Банжын падрабязна расказаў, як думае манціраваць кран узбуйненымі вузламі.

Слухаючы Банжына, Косця ківаў галавой, паказваючы, што ўсё разумее. Ён толькі яшчэ не ўяўляў сабе, чаму Банжын расказвае гэта яму аднаму, а не ўсім брыгадзірам.

— Бачыш, якая справа,— нібы згадаўшы Косцевы думкі, сказаў Банжын,— раптам можа аварыя здарыцца. Таму, бадай, лепш за ўсё буйныя вузлы ў нядзелю падымаць. Вось я і спадзяюся на тваю брыгаду.

— А калі Кіеня не зацвердзіць?

— То мы, мажліва,— Банжын усміхнуўся,— яму на практыцы дакажам, калі што якое.

Такі кірунак справы Косцю спадабаўся. Тут табе і таямнічасць, і рызыка, і ні з чым непараўнанае пачуццё першай сур'ёзнай адказнасці, якая раптам ляжа на твае плечы.

— Будзе зроблена!



— Але каб не перашкаджала планавай рабоце, — папярэдзіў Банжын.

— Вядома,— Косцю здавалася, што цяпер хопіць сіл зрабіць нешта самае цяжкае, самае вялікае.

...Сяргей выканаў абяцанне: узяў шэфства над Кацубам. Міхась з таго часу стаў яго падручным. Але гэта мала што змяніла. На работу Кацуба выходзіў, а працаваў як хацеў: калі работа аж кіпела ў яго-ных руках, а калі ён соваўся з месца на месца, як сонны. Так было і сёння.

Гэта засмуціла Косцю. Ён быў упэўнены, што ніхто з яго брыгады не адмовіцца ад прапанаванай Банжыным работы. Вось толькі Кацуба... Ён адзін можа падвесці брыгаду. Каб гэтага не здарылася, з ім трэба нешта рабіць. А што?

Гэтае пытанне Косця задаваў сабе не адзін раз да канца змены, але адказу знайсці не мог. Сам тут рады не дасі. Трэба будзе параіцца з Сяргеем. І з Верай. Дзяўчына, здаецца, з паўслова разумее. Добрыя ж у яго сябры. І Сяргей, і Вера і... Марынка. Так, Марынка, любая, каханая. Косця зірнуў у той бок, дзе працавала Марынка, і падзівіўся яе смеласці. Яна, седзячы на перакладзіне, прыкручвала вялікім ключом мацавальную гайку, зусім не зважаючы на вышыню. Косця хацеў быў крыкнуць, каб асцерагалася, але залюбаваўся і доўга потым не мог адвесці ад яе вачэй. Нейкая была яна цяпер не падобная на звычайную Марынку, скаваную, асцярожную. Яна, мусіць, не здагадваецца, колькі ягоных думак прызначана ёй. А сказаць аб гэтым — боязна, раптам пакрыўдзіцца і не будзе нават тых рэдкіх хвілін, калі Марынка пасапраўднаму здаецца родным і блізкім чалавекам. Як хораша ў яго тады на душы! У такія хвіліны адлятаюць прэч усе сумненні, уяўляецца, што і яна, Марынка, любіць яго. Не, не можа быць, каб ён быў для яе абыякавы. Калі не каханне, то ва ўсякім выпадку прыязнасць ёсць.

Пасля работы Косця падышоў да Марынкі.

— І не надакучыў табе Кацуба? — занятая чымсьці сваім, спытала раптам Марынка.

— Як ты не разумееш!..— голас у Косці раптам задрыжаў: ён жа так спадзяваўся на яе.

Затое і Сяргей і Вера падтрымалі Косцю. Разам яны прыйшлі да думкі, што Кацубу нечым трэба зацікавіць.

— А што з паруснікам? — запыталася Вера.— Няўжо Міхась не захапіўся?

— Цягаў яго разы са два,— адказаў Сяргей,— а цікавасці не праяўляе. Не марская душа ў яго.

— Акрамя мора, ты хоць пра што-небудзь думаеш? — папракнула Марынка.— Кацуба далёка не да ўсяго абыякавы. Франт ён, во хто!

— Нічога,— абняў дзяўчат Сяргей.— Будзе і на крапіву мароз. Адолеем Кацубу.

— Даўно абяцаеш, час адолець,— выслізнула з-пад яго рук Марынка,— а ў мяне сваіх клопатаў нямала.

— Але ж з тваёй прыгажосцю... — Сяргей аж прыцмокнуў.

— Мая прыгажосць другому прызначана, — гулліва адказала Марынка і ўжо да Косці: — Правядзі мяне да клуба.

— Круціць хлопцу галаву,— раздумліва сказаў Сяргей, калі яны з Верай засталіся ўдваіх. Вера нічога не адказала. Так яны пастаялі некалькі хвілін моўчкі, не ведаючы, як прадаўжаць размову і не рашаючыся разысціся.



— Глядзі,— раптам ажывілася Вера.— Кацуба бяжыць.

— Нішто, — усміхнуўся Сяргей.

— Не, ты толькі паглядзі, як бяжыць!

Нічога незвычайнага ў тым, што два хлопцы беглі навыперадкі, не было. Але спрактыкаванае Верына вока заўважыла незвычайную лёгкасць, з якой Кацуба апярэдзіў другога хлопца.

— Вось каму бегаць,— шчыра пазайздросціла Вера,— давай яго на стадыён зацягнем!

Сяргей з сумненнем паківаў галавой. У свой час ён думаў Міхася спакусіць лодкай. А ці атрымалася?

Пазней уся брыгада, акрамя Марынкі, сабралася разам. Сяргей з Верай паспелі шапнуць Косцю пра сваю ідэю, і той ухваліў. Але збор быў па іншай прычыне. Косця хацеў расказаць пра просьбу Банжына. Пярэчанняў не было. Толькі Кацуба недаверліва пацікавіўся:

— Няўжо можа ўпасці?

— Можа,— коратка пацвердзіў Косця, паказваючы гэтым, што тут не да жартаў.

— Тады пойдзем,— гэтак жа сур'ёзна згадзіўся Міхась.

Косця ўзяў ліст чыстай паперы і алоўкам накідаў просты чарцёж крана, разбіўшы яго на асобныя вузлы.

— Бачыце, што атрымліваецца? Як па тэхналогіі, то трэба манціраваць вежу, а потым ужо ўстанаўліваць верхнюю раму партала. Чаму? Ды таму, што вежа, якая спачатку стаіць на зямлі, памагае манціраваць пляцоўку партала. Алесь жа Антонавіч мяркуе і раму, і ніжнюю частку вежы манціраваць недзе побач. А тады ўжо ў гатовым выглядзе падымаць і ўстанаўліваць наверсе.

— Зусім проста,— расчараваны прамовіў Сеня Варывончык.

— Гэтак і я падумаў быў,— паківаў галавой Косця.— На справе інакш. Проста, ды не зусім. Проста збіраць вузел на зямлі, а як яго падняць на вышыню? Уяўляеце, калі такая цацка зваліцца? І яшчэ. Замацоўваць такія буйныя вузлы — таксама справа складаная... Спрыт трэба мець.

— То ўжо табе з Сяргеем прыдзецца мацаваць,— зноў перабіў Косцю Сеня.

— Многа мы ўдваіх наробім...— Сяргей узяў з Косцевых рук паперу і аловак.— Трэба, каб большасць з нас магла ў любых умовах працаваць. Я вось што думаю.— Ён абвёў вачыма хлопцаў і пачаў пісаць:— З заўтрашняга дня прэч усё пабочнае: лодку — раз, кіно — два, танцулькі — тры. Так, так, і нават кніжкі,— заўважыўшы грымасу на Верыным твары, дадаў Сяргей.— Часова, вядома. Будзем вучыцца мантажу ўсе.

Косця быў падумаў, што цяпер зусім не будзе часу пабыць з Марынкай, але пярэчыць Сяргею не адважыўся.

— А як з Кацубам? — тузанула Вера Косцю за рукаў, калі хлопцы пачалі разыходзіцца. Заўтра не будзе часу.

— Ой, забыўся,— схамянуўся Косця і закрычаў Кацубу наўздагон:— Міхась, ты куды?

— Сам не ведаю,— пазяхнуў той.

— Можа з намі на стадыён? — паказаў Косця на Веру і Сяргея.

— А што мне там рабіць?

— Бачыла, як ты бегаеш,— сказала Вера.

— Ну...

— А я цябе пераганю.

— Ты-ы? Падумаеш, рэкардсменка. Я ўсё-ткі хлопец.— Міхась змераў яе позіркам. Дзяўчына была на галаву ніжэй за доўгага Міхася.

І яна пагражае абагнаць?— Ану пойдзем. Гэта табе не на спаборніцтвы ў Гомель ездзіць.

Самаўпэўненасць Веры закранула Міхася за жывое. Адно было непрыемна, што сведкамі іх незвычайнага спаборніцтва будуць усе, хто цяпер знаходзіцца на стадыёне.

Ім пашанцавала. Лёгкаатлеты ўжо скончылі заняткі, і бегавыя дарожкі былі пустыя. Затое ў сектарах было многа юнакоў і дзяўчат.

— Ты будзеш за суддзю на фінішы,— скамандавала Вера Косцю,— а Сяргей — на старце. Бяжым стомятроўку. Згодзен?

— Хоць кіламетр.

— Спартсмен скажа: «тысячу метраў», цемната! — папpавіла Вера.

Іх падрыхтоўку заўважылі. Моладзь перастала займацца і чакала, што ўрэшце адбудзецца. Уголас выказвала свае меркаванні і сімпатыі. Веры гэта падабалася, Кацубу — злавала.

— Бяжым, ці што? — не вытрымаў ён.

— Давай,— Вера клікнула Сяргея: — Пачнем.

— Раз, два... — пачаў лічыць Сяргей.

Вера прыгнулася, гатовая імкліва сарвацца з месца. Міхась стаяў роўна, таксама з нецярпеннем чакаючы сігналу.

— Тры!

Пад крыкі і свіст Вера адразу вырвалася наперад. Для яе цяпер не існавала тут нічога, акрамя Косці з узнятай рукой і тупату ззаду. Міхась жа, убачыўшы Верыну спіну, узлаваўся не на жарты. Ён не мог дазволіць сабе аскандаліцца перад столькімі гледачамі. Тады людзі гаварылі б: гэта не той Кацуба, у якога малпа на гальштуку, а той, якога перагнала Вера Кіеня.

Міхась напружыў усе сілы. На якоесьці імгненне яму ўдалося зраўняцца з дзяўчынай, але яна матнула галавой і апынулася зноў наперадзе. Так першай яна і прыйшла да фінішу. Пануры Міхась вяртаўся да таго месца, дзе пакінуў пінжак. Таму недаўменна ўзняў галаву, калі нехта затрымаў яго за руку.

— А ты будзеш бегаць, — сказаў незнаёмы.

— А вы хто такі? — груба спытаўся Міхась.

— Трэнер. Хочаш займацца?

Міхась пачакаў для выгляду некаторы час і згадзіўся.

— Прыходзь да нас у секцыю. Задаткі ў цябе добрыя, — прапанаваў трэнер.

## XIV

Бацька ад'язджаў у камандзіроўку. Вера прыслухоўвалася да ягоных збораў і пачуццё, што яна нечага важнага не зрабіла, што вінавата перад бацькам, мацнела з кожнай хвілінай. Ці ведае ён, што Банжын рашыў усё-ткі манціраваць кран па-свойму? Ці ведае, што і яна, яго дачка, будзе памагаць Банжыну?

Вера з маленства прывыкла верыць бацьку. Дык што здарылася цяпер, чаму раптам пахіснулася ўпэўненасць у бацькавай праўдзе? А раптам памыляецца не ён, а Банжын? І Вера пайшла да бацькі.

Выслухаўшы дачку, Рыгор Карпавіч задумаўся. Яго не трывожыў Банжын. Ён чалавек дысцыплінаваны і без дазволу наўрад ці пачне мантаж па-свойму. Хутчэй за ўсё Банжын падрыхтуецца як след і паспрабуе яшчэ раз атакаваць і яго, і кіраўнікоў будаўніцтва. Але расказ дачкі тым не менш занепакоіў Рыгора Карпавіча. Як хутка Банжыну



ўдалося знайсці прыхільнікаў. Нават Вера, радавая мантажніца, і тая ўпэўнена, што задума Банжына — адзіны правільны выхад. Моладзь, моладзь... Няўжо і ён быў некалі такім гарачым, няўрымслівым, якому ўсё здаецца простым і ясным?

— Дачка мая, — сумна прамовіў Рыгор Карпавіч, — ты заўсёды разумела мяне. Дык выслухай, што скажу. Мне далёка не семнаццаць. Я не толькі не маю права рызыкаваць, я ведаю, што гэта неажыццявіма. Так мне падказвае мой шматгадовы вопыт.

— Тата... А ты паспрабуй памажы. Ты ж ведаеш, якая будзе выгада.

— Вера! Зразумей толькі правільна. Банжыну яшчэ няма чаго траціць. А я ўжо рызыкнуў раз.

— Ты баішся?

— Так, баюся, — схіліў галаву Рыгор Карпавіч і ў гэты момант успомніў, як некалі даўно ён вучыў малую Веру, што чалавек павінен быць смелы, не баяцца цяжкасцей, калі толькі гэта можа прынесці карысць людзям.

І Веры таксама прыйшло тое на ўспамін. Яна глядзела і дзівілася, як гэта бацька стаў нібы другім чалавекам. Яшчэ не трацячы надзеі, яна спытала:

— Але ў прынцыпе Банжын правільна задумаў? Ты мне скажы, тата.

— Усяму сваё месца. У пэўных умовах, вядома, можна было б зрабіць так, як ён хоча. Але ў нас няма такіх умоў. Чым вы будзеце падымаць, напрыклад, раму?

— У нас ёсць малы кран.

— Які важыць амаль столькі, колькі і ўся рама? Ён не вытрымае цяжару і ці перакуліцца, ці наогул не зрушыць з месца канструкцыю.

— Рызыка толькі ў гэтым?

— Табе мала?

— Але, — Вера падышла да бацькі, ласкава дакранулася да яго пляча, — каб ты, ты нам памог...

— І не прасі, не, не!

— Тады мы зробім самі!

— Пакуль я галоўны інжынер...

— Ты можаш ім не быць, — не магла стрымацца Вера.

...Бацька паехаў. Вера засталася са сваімі думкамі адна. Было прыкра і крыўдна, што не змагла ўгаварыць бацьку. А як было б добра, каб ён падтрымаў іх. З такім вопытам, ведамі ён знайшоў бы спосаб падняць раму, абы толькі захацеў. Але ён якраз, відаць, гэтага не хацеў, больш таго — забараняў. Вельмі цяжка бачыць, што твой бацька зусім не такі, якім уяўляўся табе.

А Рыгор Карпавіч таксама думаў пра сваю размову з дачкой. У думках ён спрачаўся, даказваў сваё, у каторы раз прыкідваў па памяці ход мантажу крана, вагу вузлоў і не мог адважыцца на рызыку. Але ўсё ж перад ад'ездам зайшоў да Банжына.

— Ні вы, ні я адзін аднаго не пераканаем. Давайце зробім так: пакуль я не вярнуся з Мінска, ніякіх самастойных дзеянняў. А то даручылі блазнюкам...

Банжын вымушаны быў з ім згадзіцца. Адно чаго ён дабіўся — гэта дазволу Косцевай брыгадзе рыхтаваць узбуйненыя вузлы.

— А калі ў Мінску не адобраць, — папярэдзіў Кіеня, — такім жа чынам, у нерабочы час паставіце ўсё на сваё месца.

Банжын згадзіўся, упэўнены, што праўда на яго баку.

## XV

Аб рашэнні Кіені Банжын паведаміў Косцевай брыгадзе.

— Паспяшайцеся, — папрасіў ён, — каб мы маглі, калі спатрэбіцца, адразу пачаць работу. Так, Вера Рыгораўна? — нечакана звярнуўся Банжын да Веры. У яго быў добры настрой, яму падабалася, што дачка Кіені разам з імі.

— Гэта мне падабаецца, — замест Веры сказаў Кацуба. — Або будзе, або не, як пугаю па вадзе. А мы працуй, вучыся.

— Баішся, што на танцах без цябе не абыдуцца? — запыталася Марынка. Ёй хацелася, каб і на яе звярнуў увагу Банжын.

— Адстала ад жыцця, — зняважліва адвярнуўся Кацуба. — Вера, чым я займаюся? Скажы ёй...

— Бегаць вучыцца, — пацвердзіў Сяргей, — можа на ногі стане.

— І піць меней будзе Міхасёк,— сказала Вера.

Нечакана загаварыў Банжын:

— Маё заданне трэба выконваць так, каб гэта не шкодзіла вашым асноўным планам.

— Для нас кран самае асноўнае, — запярэчыў Косця.

— Ну, калі вы не здолееце арганізаваць работу так, каб яна не шкодзіла адпачынку, прыдзецца даручыць каму іншаму.

— Алесь Антонавіч! — занепакоіліся хлопцы.

— Вось вам і Алесь Антонавіч... Я сказаў праўду. Выбірайце, але каб і на стадыён і на клуб часу хапала.

— Давайце так зробім, — прапанавала Марынка, — кожны дзень пасля работы збярэмся гадзіны на дзве і будзем манціраваць.

Усім спадабалася прапанова, толькі Кацуба нешта чмыхнуў сабе пад нос, ды Вера з цікавасцю зірнула на Марынку.

— Давайце на стадыён, — сказаў Косця.

— Чаго? — здзівілася Марынка.

— Як хочаш, а мы на стадыён...

Рушылі ўсе. Затрымаўся адзін Косця. Ён пакрыўдзіўся. Любое яе жаданне было для яго законам, а ён сёння ўпершыню папрасіў пайсці разам на стадыён, і яна адмовілася.

— Ну, а ты чаму застаўся? Ідзі.

— Расхацелася. Пайду ў клуб.

— Як хочаш...

Такая ж нецярплівая, нервовая была Марынка і ў клубе. З Косцем размаўляла рэдка і ўсё азіралася на дзверы, быццам чакала каго. Нарэшце яна выбегла з пакоя. Косця выйшаў следам.

Сумная была іх прагулка. Косця спрабаваў быў загаварыць з Марынкай, развесяліць. Яна або не адказвала, або прасіла адчапіцца. Косця вымушаны быў змоўкнуць.

Толькі ля свайго дома Марынка на хвіліну зрабілася ласкавай і папрасіла:

— Даруй, Косця, я такая нягодная.

Хіба мог ён крыўдзіцца?

Марынка счакала, пакуль схаваўся з вачэй Косця, і зайшла ў кветнік. Села на лавачку. Адкуль яно, гэтае хваляванне? Чаму раптам так хочацца заплакаць? Было сорамна за свае сённяшнія паводзіны, за крыўду на Косцю. Хіба можна вінаваціць чалавека за каханне? Сама вінаватая: хадзіла з ім, усміхалася.

Марынка асцярожна выглянула за агарожу. На вуліцы не было нікога. Яна выбегла за брамку і хутка апынулася ля дома Веры, зазірнула ў акно. Вера, лежачы на ложку, чытала. Марынка асцярожна пастукала ў шыбіну.



Пазнаўшы сяброўку, Вера адчыніла акно. Праз хвіліну Марынка апынулася побач з Верай пад коўдрай.

— Вера, ён любіць мяне?

— Хто? — недаўменна зірнула на Марынку Вера.

Не адказваючы, Марынка гаварыла:

— Іншы раз здаецца, што вось ён той, якому я даражэй за ўсё. Тады мне хочацца нават можа пайсці за яго замуж. А іншы раз не магу бачыць яго.

— Зразумей, калі ты яго не кахаеш...

— Я не ведаю, можа і не кахаю.

— А я ведала б нават, калі б ён маўчаў або ўвесь вечар пра кран расказваў. Усё роўна ведала б.

— Ты іншая справа, — сказала Марынка. — У цябе ўсё ясна ў жыцці.

— Нічога ты, Марыначка, не ведаеш... А яго ты не кахаеш. У сяброўак пра гэта не пытаюць.

— Дык што мне рабіць?

Што магла адказаць Вера?

## XVI

Недзе ўнізе грукнулі дзверы, зарыпела лесвіца. Косця, адарваўшыся ад чарцяжа, прыслухаўся, спыніўшы тлумачэнні на паўслове. Хлопцы пераглянуліся. Косця апамятаўся, падазрона зірнуў на таварышаў і, перадыхнуўшы, зноў пачаў вадзіць алоўкам:

— Калі вось гэтыя апорныя калоны ўстаноўлены, можна адразу ставіць на іх раму...

Нехта зноў падымаўся па лесвіцы, і Косця зноў прыслухаўся.

— Марынка не прыйдзе, — нібы між іншым сказала Вера, — нагу вывіхнула.

— І ты маўчала? — захваляваўся Косця.

— Ат, нічога сур'ёзнага, няма чаго гаварыць .

— Як гэта няма?— абурыўся Косця. Яна ж член нашай брыгады.

— Міхася таксама няма ўжо другі дзень, — папракнула Вера.

— Дадому паехаў, — кінуў Сяргей, — маці захварэла.

— Ну, хопіць, прадоўжым. Значыць, на чым мы спыніліся? Ага, раму можна падымаць без папярэдняй зборкі ствала.

— Косця, а мы ж можам ужо зрабіць гэта. Калоны ўстаноўлены.

— Пакінь, Сеня, дазволу яшчэ няма. А гэта ж небяспечна, бацька гаварыў.

— Дык ён, Вера, наогул пярэчыць.

— Але слушнае мы павінны ўлічваць, так і Алесь Антонавіч думае.

У гэты час увайшоў Кацуба.

— Ты? — спытаў Косця.

— Я. — Міхась прабраўся да кутка, дзе стаяў ягоны ложак. Яму менш за ўсё хацелася трапляць цяпер на вочы хлопцам. Але да яго падышоў Сяргей.

— Як маці?

— Што? — Міхась недаўменна зірнуў на Сяргея. — А-а!.. Нішто, лепш.

— А цяпер давайце ўсё-ткі займацца, а то мы цэлы вечар страцім, — каторы раз схіляўся Косця над чарцяжом.— Міхась, ідзі сюды.

Міхась падсеў да стала, але, задумаўшыся, слухаў няўважліва.

За свае невялікія гады Міхась паспеў ужо і ў калгасе папрацаваць, і ў дэпо, і цяпер вось на будоўлі. Ён не быў з пароды «летуноў», якія ўвесь час шукаюць, дзе даўжэйшы рубель. Проста яго заўсёды вабіла новае, здавалася, што менавіта тут, нарэшце, ён знойдзе самога сябе. Перакананне, што ён яшчэ павінен паказаць сябе, і вадзіла яго з месца на месца.

Дадому ён паехаў з думкай, што не вернецца больш на будоўлю. Ён так расказваў пра сваю брыгаду, што старшыня падумаў і пра яго, як пра аднаго з найлепшых, і прапанаваў пераходзіць у калгас, дзе вельмі патрэбны спецыялісты, якія ведаюць і любяць тэхніку. Не вытрымала сэрца ў Міхася. На будоўлі яго лаялі, а тут, нарэшце, ацанілі. Ён згадзіўся, з крыўдай думаючы: хай цяпер брыгада папрацуе без яго...

Два дні прабыў Міхась у калгасе, прыглядаючыся да работы механізатараў. І вось тады ўзнікла першае сумненне: ці зможа ён стаць тым, каго тут чакаюць? Як спатрэбіліся б калгасу такія спецыялісты, як Косця, Сяргей, Сеня! А ён?..

І ўсё ж не гэта было галоўнае. Кладучыся ўвечары спаць, Міхась раптам адчуў нейкую непрывычную пустэчу. Думкі міжволі перанесліся ў інтэрнат. Хлопцы цяпер, напэўна, усе дома, дзеляцца ўражаннямі, спрачаюцца. Так захацелася зноў у інтэрнат, што Міхась аж заскрыгатаў зубамі. Маці спалохана нахілілася над ім:

— Баліць, сынку?

— Не... — Міхась адвярнуўся да сцяны.

Ён не спаў усю ноч. Чуў, як на досвітку ўстала маці і запаліла ў печы. Чуў, як па вуліцы прайшлі людзі да брыгаднага двара. Трэба было ўставаць. Ён успомніў, што не хапае Сяргеевай каманды, Сяргея ў цяльняшцы, Косці і Сені з вядром і швабрай. «Сёння мая чарга прыбіраць кубрык», — падумаў Міхась, і ўпершыню ў яго варухнулася прыкрае пачуццё.

Ён застаўся яшчэ на дзень. І калі надвячоркам выпадкова апынуўся на калгасным стадыёне, дзе займаліся фізкультурнікі, то зразумеў, што абавязкова вернецца на будоўлю, што ўжо не зможа забыць ні Косцю, які, можа, часам залішне надакучліва стараўся перавыхаваць яго, ні Сяргея з яго любоўю да мінулай марской службы, ні свайго трэнера...

І вось ён зноў сярод сваіх. Яны нават не ведаюць, што адбылося ў ягоным сэрцы за гэтыя два дні. І няхай не ведаюць. Ён нікуды не паедзе адсюль, нікуды. Міхась правёў позіркам па тварах таварышаў, засяроджаных, уважлівых, і нечакана прамовіў:

— Нікуды не паеду...

У другіх абставінах Косця, напэўна, аднёсся б да Міхасёвых слоў інакш, ва ўсякім выпадку пагутарыў бы з хлопцам. Але цяпер яму было не да Кацубы. Цалюткі вечар, праводзячы заняткі з брыгадай, ён думаў толькі пра Марынку. І калі заняткі скончыліся, ён падумаў, што можна праведаць Марынку і, калі трэба, памагчы нечым, яна ж ляжыць з хворай нагой у сваім інтэрнацкім пакоі.

— Няма дома,— сказалі Косцю дзяўчаты, што жылі разам з ёю.

— У бальніцы?— захваляваўся Косця.

— На танцах,—сказала адна з дзяўчат, з жалем пазіраючы на Косцю. Косця паімчаўся на танцавальную пляцоўку. Не адразу ён заўважыў Марынку. Яна была... з Банжыным. Радасная, узбуджаная. «Гэта ўсё»,— зразумеў Косця. Хацелася плакаць, зрабіць нешта такое, каб Марынка пашкадавала, што пакінула яго, Косцю.

Але што? Што? І раптам, як маланка, прамільгнула думка: заўтра нядзеля. Кіеня, калі дазволіць збіраць кран, то толькі ў панядзелак. А заўтра на будаўніцтве нікога не будзе. Нават Банжына. Яны без Банжына і Кіені паспрабуюць самі ўстанавіць раму. Адны хлопцы. Веры і Марынцы — ні слова. Аднак ці згодзяцца хлопцы? Асабліва Сяргей... А ці трэба ім гаварыць праўду? Можна спаслацца на Банжына. А пераможцаў не строга судзяць. Затое слава будзе Косцю.

## XVII

«Ля гэтай сасны»... Ён сказаў: «ля гэтай сасны а дзевятай гадзіне раніцы». І вось яна тут. А яго яшчэ няма. Заспаў. Яны ж так позна гулялі. Алесь... Саша... Неяк не прывычна яго так зваць. Падумаць толькі, яшчэ ўчора раніцай для яе ён быў «Алесь Антонавіч», а сёння ўжо Алесь, Саша... Ці асмеліцца яна назваць яго так? Калі нават не асмеліцца, то ў думках усё роўна будзе зваць так. Але чаму ён не ідзе? Ужо дзесятая гадзіна. А раптам не прыйдзе? Не. Ён сам сказаў: «Ля гэтай сасны». Яны так доўга ўчора стаялі тут. «Мне чамусьці сумна ля гэтай сасны,— сказаў ён.— Ведаеш чаму? Адшумелі сосны ў нашым горадзе, саступілі месца ліпам, бярозам. Сосны капрызныя, яны не могуць жыць у горадзе». І ёй таксама ад гэтага стала крыху сумна. А потым, дзівак, спытаў: «Ты не будзеш капрызная?» Яна засмяялася. Як можна быць з ім капрызнай... А ён не ідзе...

Банжын спяшаўся на спатканне і не яго віна, што спазніўся. Яго сустрэў разгневаны Кіеня.

— Гэта самаўпраўства! — закрычаў ён адразу.

Банжын разгублена спыніўся.

— Хто вам дазволіў? Хто?— насядаў Кіеня.

— Не разумею, Рыгор Карпавіч...

— Ах, вы не разумееце? Ну, то хадзем, я вам пакажу, што вы нарабілі... — сказаўшы гэта амаль спакойна, Кіеня зноў не вытрымаў і закрычаў: — Кран! Вы кран ледзь не загубілі!..

А здарылася вось што. Хлопцы згадзіліся выйсці на работу, не зважаючы на выхадны. Працавалі хутка і зладжана. Сеня стаў за кранаўшчыка. Да гатовай рамы падагналі дапаможны кран, падчапілі, павярнулі яе і пачалі падымаць, каб паставіць на калоны.

Косця, бы спрактыкаваны мантажнік-вышыннік, камандаваў: «майна», «віра»...

Рама ішла ўверх. Ужо Сяргей працягнуў рукі, каб ухапіць яе, ужо Косця паставіў нагу на лесвіцу, каб лезці яму на дапамогу, як раптам пачуўся роспачлівы крык Міхася:

— Куляецца!..

Каромысла з рамай парушыла раўнавагу, і пляцоўка цялежкі маленькага крана пачала намервацца стаць на дыбкі. Хвіліна і... катастрофа... Сяргей, не раздумваючы, скочыў з чатырохмятровай вышыні, замахаў Сеню:

— Стой!

Рама спынілася, хістаючыся, быццам у роздуме: вісець ці ляцець уніз.

— Брыгадзір! — тузануў Косцю за нагу Сяргей. — Злазь!

Косця апамятаўся, кінуўся да крана, узлез на цялежку, стараючыся сваёй вагой перавесіць раму. Але гэтага было мала. Кран пагрозліва хістаўся.

— Давайце сюды! — клікаў Косця. — Перацягнем.

Падбеглі хлопцы. Кран хіснуўся раз, другі і замёр. Трэба было нешта рабіць, але яны баяліся паварушыцца, тым больш пакінуць цялежку: хто ведае, колькі грузу трэба для раўнавагі. Так і стаялі, разгублена пазіраючы на раму.

Выручыў Міхась. Крыкнуўшы: «Я зараз», ён кінуўся да гарадка шукаць Банжына, але сутыкнуўся з Кіенем.

Кіеня прыбег напалоханы, трымаючы руку ля сэрца. І толькі ўбачыўшы хлопцаў, якія згрудзіліся на самым крайку пляцоўкі, перавёў дыханне:

— Скульптурная група. Аўтар... Банжын.

Кіеня быў упэўнены, што гэта работа Банжына. Ён бачыў, што ідэя ўзбуйненых канструкцый апраўдалася, але каб хлопцы здагадаліся раней пакласці з дзесятак добрых камянёў, то рама ўжо была б на месцы.

... Калі Кіеня прывёў Банжына да крана, той адразу зразумеў, што адбылося.

— Што за свавольства? — накінуўся ён на хлопцаў.

— А хіба вы...— здзіўлены Сяргей не змог нават дагаварыць.

— Я? Дазволіў? Клубовіч!

Косця маўчаў. Не мог жа ён вось так проста ўзяць і расказаць, чым кіраваўся, калі наважыўся падымаць раму.

— Ну, добра... Пасля пагаворым. Я зараз вярнуся. А работу — спыніць!

— Справы! — сказаў яму ўслед Сяргей і зірнуў на Косцю.

Вера даведалася пра здарэнне ад бацькі.

— Значыць, атрымалася? — спачатку ўзрадавалася яна. Пасля спахмурнела. — Кажаш, Банжын не дазволіў? Што ж з Косцем?

— Не ведаю. А ўсё таму, што не слухалі мяне, калі папярэджваў. Добра, што яшчэ аварыі не было.

— Папярэджваў... — пакрыўдзілася Вера. — Каго? Каб ты хацеў нам памагчы, гэтага не здарылася б. Ты ж ведаў, дзе галоўная небяспека? Ведаў? Што ж цяпер будзе?

— Зноў нагарыць, мабыць знімуць...

Вера пра гэта не думала. Былі ў бацькі няўдачы і раней, але яны неяк абыходзілі Веру. Ды і бацька ніколі не дзяліўся дома сваімі нягодамі. Сёння — упершыню. Ён нібы паставіў Веру побач, як дарослую. Ёй неяк стала шкада яго. Яна на імгненне ўявіла яго не сярод машын і рыштаванняў, як звычайна, а ў іх садзіку ля кветак, дзе ён часам любіў у вольны час пакорпацца, і жахнулася. Адарві бацьку ад прывычнай справы, — змарнее ён, бо і так ужо стаў зусім старэнькі і нейкі бездапаможны.

— Тата, — пачала супакойваць яго Вера. — Ты яшчэ папрацуеш...

— Не заўважыў, як ты вырасла ў мяне, — усміхнуўся Рыгор Карпавіч. — Не шкадуй мяне, я на пенсію пакуль не думаю.

... Косця шмат перажыў за якую гадзіну. Але нават сабе не змог бы цяпер растлумачыць, як гэта ўсё здарылася, як ён надумаўся пайсці на падман таварышаў. І разам з тым яму хацелася некаму адкрыцца, каб аблегчыць душу. Ён не чакаў спачування, бо прывык адказваць за свае ўчынкі.

— Размазня... — толькі і сказала Вера, калі знайшла яго і выслухала споведзь. — Я таксама кахаю аднаго дурня. Ён, між іншым, не здагадваецца. Што, і мне тады краны ламаць?

— Пойдзем у інтэрнат... — памаўчаўшы, сказаў Косця, — нарабіў— буду трымаць адказ перад кім хочаш.

Зноў, зусім як у той нядаўні дзень, амаль уся брыгада сабралася ў іх пакойчыку.

Косця адчыніў дзверы і спыніўся на парозе. Сеня кіўнуў яму галавой, маўляў, хадзі сюды, і прадаўжаў гаварыць:

— У дэпо станцыі Масква-Сартыровачная, дзе некалі адбываліся першыя суботнікі, перадавыя рабочыя дабіваюцца права называцца калектывам камуністычнай працы. Мы таксама маглі паследаваць іх прыкладу. А цяпер?

Косця падняў руку, суцішваючы хлопцаў:

— Я вінаваты. Здымайце мяне з брыгадзіра.

Сяргей спахмурнеў:

— Напалохаўся? У каго ёсць якія меркаванні?

— Хай скажа, чаму пайшоў на падман... — загаманілі хлопцы.

Косця, які быў гатовы шчыра павініцца, запнуўся. Не мог ён яшчэ раз схлусіць таварышам. Але і не мог сказаць праўду.

— Маўчыш? — спытаўся Сеня.

— Прычына ёсць, я аб ёй ведаю. Глупства, а не прычына. Але дазвольце Косцю не гаварыць... — ціха сказала Вера.

З Верыным словам у брыгадзе лічыліся.

— Можаш не гаварыць... — адказаў Сяргей. — А вось наконт брыгадзірства — гэта, як кажуць, у кусты збегчы. Не, ты, Косця, папрацуй, ды так, каб добрае імя вярнуць. Так, таварышы?

За гэта прагаласавала ўся брыгада.



Сцяпан ГАЎРУСЁЎ

# СЕВАСТОПАЛЬ



Зніміце шапкі прад гэтым ветрам, —
Тут кожны камень разбіты ўшчэнт!
На кожнай пядзі, на кожным метры
Збярэш асколкаў на манумент.

Ніхто не думаў пра п'едэсталы,
Ніхто на вечнасць не загадаў, —
Кварталы складваліся на кварталы,
Пакуль сам горад плітою стаў.

Метал, што далі зямныя нетры,
Метал, ад юнай крыві руды,
Крактаў з нахрапістасцю ў паветры,
Жывых і мёртвых шукаў сляды.

Тады гарэла агнём жалеза,
Байцы прыкурвалі ад штыка,
Не засталося на месцы лесу
Ані галінкі, ані лістка.

Якою славай герояў славіць,
Якой хвалою? — Была пара —
Здалося, бомбы зямлю расплавяць,
Зямлю расплавяць аж да ядра.

І калі сонца самлела ў дыме —
Яго таксама агонь дастаў, —
Тады над выбухамі густымі
Баец з гранатай на ўзводзе ўстаў.

На найвышэйшым стаў п'едэстале —
Свабоднай пядзі сваёй зямлі.
І ўсёю сілай агню і сталі
Яго фашысты ўжо не змаглі.

. . . . . . . . . . . . . .

Цяпер тут ціха. Адно лунаюць
Чародкі мірныя галубкоў.
Не знаю, ды і яны не знаюць,
Ці многа дрэмле тут землякоў.



У далях столькі святла-сінечы:
Дыхнуць баюся — страсеш расу.
І груз цяжэзны мне лёг на плечы.
Ці данясу ж я? Ці данясу?..

* * *



Румянае, здаровых поўна сіл,
Ад шчодрасці шчаслівае бясконца,
На вымыты дажджамі небасхіл
Выкатваецца ранішняе сонца.

Ты сустракаеш непачаты дзень,
Плячом падпёршы маладое неба,
І далягляды твой злучае·цень,
Як шлях, што сёння змераць табе трэба.

На край зямлі пралёг ён напраскі,
Рассеяўшы іскрынкі пырскаў дробных,
І нават лёгкі ўзмах тваёй рукі
Цяпер на волатаў узмах падобны.

Сонцападобных сонца пазнае,
На свой аршын людскія сілы мерыць
І па сабе заданні нам дае —
Спрадвеку
сонца ў чалавека верыць!

* * *



Яшчэ ў рухавіках стаіўся гром,
Не чутна грукату яго ўдалечы,
І вымыты дажджом аэрадром
Спакойна дрэмле ў ранішняй сінечы.

І вось, і вось — гайдаючы бетон,
Зямлю штурхнуўшы, у сярдзітым гудзе
Узвіўся рэактыўны — столькі тон! —
Ляціць, а тут — пахіствающца людзі.

Шырокім шлейфам — дыму паласа,
А сам далёка — з макавае зерне.
Ды ён не конь, каб папрасіць аўса:
Прыстане — на абочыну не зверне.

На сонцы бліснуў і прапаў з вачэй,
Ірвецца шлейфу стужка трапяткая.
Чыёсьці сэрца б'ецца гарачэй,
Калі высокі рокат замаўкае.

Нялёгка нам даецца вышыня —
Нябёсы маладушных не прымаюць,
Таму і помняць лётчыкі штодня
Пра рукі, што ў палёце іх трымаюць.

* * *



За выдумку благую не прыміце
Сапраўдны сон — мне сніўся гэты сон:
Вінтоўкі не знайшоў я ў пірамідзе,
Вярнуўшыся з дарогі ў гарнізон.

Сваёй вінтоўкі. Быў ці не героем
Баец, што да мяне яе трымаў,—
Не знаю, браткі. Сам я перад строем
Яе з суровай клятваю прыняў.

Дык дзе яна? Казарма апусцела.
Няма нікога. Выйшаў я на двор.
Світальны халадок праймае цела.
Вядуць сляды знаёмыя да гор.

Я чую урачыстасць палігона.
Ці кроў, ці рэха ў перапонкі б'е?
Мне старшына, пасля дзяжурства сонны,
Чэсць памылкова першы аддае.

І раптам грудзі захліснула родным:
За крокаў можа сотню усяго,
У ланцугу, што з долу ўзняты ротным,
Я двайніка распазнаю свайго.

Дзень добры, аднакашнікі! Выходзіць,
Што я да гэтых дзён не запасны,
Калі і на дзесяты год прыходзяць
У дом мой мірны воінскія сны.

* * *



Я думаў: вярнуся парой лістападнай,
Калі рукавы закасаюць марозы,
Аб хлопцу служывым, аб выпраўцы
статнай,
Аб нечым сардэчным зашэпчуць бярозы.

Я думаў, што выбежыць нехта на ганак
І ахне шчаслівa, вядро сваё ўроніць,
Бо колькі салдатаў і столькі каханых,
І кожны салдат сваю радасць бароніць.

Я гэтак раздумваў, а выйшла другое:
За родным сталом прывітаў мяне жнівень.
А хлопцаў сушыла паветра сухое,
А хлопцаў абстукваў бязлітасны лівень.

І дзверы яны адчынялі мне насцеж,
Бо я не расстаўся з сваімі сябрамі,
Бо зведаў сваё я сапраўднае шчасце,
Калі над паходнымі грэўся кастрамі.

Кастрычніцкі дождж у акно барабаніць,
Бярозу вятрамі тугімі сагнула.
А погляд мой іншая далеч туманіць,
А пільнасць мая і цяпер не заснула.



* * *



Успракаваныя ямбы
Дыхне мартэнаў новых жар,
Скалістыя ўздыбяцца дамбы,
Падпёршы грэбнем Вісажар.

Высокім токам хлыне сіла,
Якую бачаць сёння ўсе,
Што нас да Месяца насіла,
Што нас да Марса данясе.

Бяскрылацьь стане нецярпімай,
І будзе кожнаму з рукі
Падараваць сваёй любімай
Букет маланак трапяткі.

І сонца спыніцца ў зеніце,
Вачамі гэтак павядзе,
Што і на стоптаным граніце
Мак пурпуровы зацвіце.

Ад Сахаліна да Каўказа,
Ад дзвінскіх хваль да Кулунды
Ярчэй якуцкага алмаза
Ўсе людзі зробяцца тады.

І будзе ў кожнай іхняй грані
Зіхцець нязнаных яблынь цвет
І зменшаны, як на экране,
Да ног пакладзены сусвет.

* * *



Калі прынёс я ў хату дроў,
Калі агонь развёў,—
У вушы хлынуў шум дуброў
І лёскат салаўёў.

Агонь шуміць, агонь расце,
І — печка загула.
Глядзіш — і вестку на хвасце
Сарока прынясла.

Надзею-вестачку аб ёй,
Якую я, мядзведзь,
Па-за вясельнай кісяёй
Хацеў бы разглядзець.

Яна не можа разлюбіць,
За што я і цаню
Сваё каханне... Так і быць —
Даверуся агню.

Ён кажа — будзе ўсё, як след,
Прыкметы ўсе ў руку,
Хаця і каркнула мне ўслед
Варона на суку.

* * *



Усмешку сіні бэз абтрос,
Квітнеюць ярка ружы.
Па гонкай жэрдцы да нябёс
Імкнецца хмель дасужы.

А з-пад зялёнае ліствы
Ірдзяцца памідоры,
Як бы з начное сінявы
Адборнейшыя зоры.

І, не хаваючыся ў цень
Сваім гарачым тварам,
Сланечнік стаць гатоў за дзень
Нагрэтым самаварам.

Гарбуз аборыны пляце,
Па частаколу ўецца.
А мак цвіце, а мак цвіце,
Нібы маё маленства.

* * *



Белагрудыя воблакі, белагрудыя воблакі
За акном самалёта спяшаюць назад,
Нагадаўшы сабой незабыўныя воблікі,
Нагадаўшы сабой затуманены сад.

Пад галінамі роснымі сцішышся некалі,
Пасмуглеўшай шчакой прыпадзеш да ствала.
А вакол цішыня — ці прайшлі б, ці праехалі,
А вакол цішыня — ні іскрынкі святла.

Вось такою парой у душы нешта будзіцца,
Вось такою парой толькі глупствы вярзеш.
Хоць трывога твая аніколі не збудзецца,
Ты яе дзіваком скрозь жыццё пранясеш.

Белагрудыя воблакі, белагрудыя воблакі
Праплывалі над садам, дажджы несучы,
Атуляючы ценем няўлоўныя воблікі,
Што прыйсці не паспелі да гэтай начы.

І былі тыя воблакі чыстымі гэткімі,
Што ў адчаі гатоў быў падаць ім руку,
Жартаваць і смяяцца, нібыта з суседкамі,
Што ганялі са мною гусей на раку.

А цяпер яны блізка. Ды, пэўна, халодныя,
Можа ў вочы лінуць асвяжальны струмень.
І нястомна працуюць вінты самалётныя,
Даганяючы зараз апошні прамень.



Еўдакія ЛОСЬ

# ДЗВЕ МІНІЯТУРЫ

## МАЦІ

Мал. Г. Скамарохава.



— Не ведаю, як чые, а наша маці любіла хадзіць у школу на бацькоўскія сходы. Не ведаю, як чые дзеці, а мы заўжды з нецярплівасцю чакалі яе звароту са сходу і адразу наскоквалі з роспытамі: што гаварылі? як? пра каго? хвалілі ці лаялі? Пра лаянку, па праўдзе, мы запытвалі дзеля формы, бо ў душы лічылі: не павінны б нас лаяць! Вучыліся мы ўсе добра, і на школьную дошку гонару нас здымалі не паасобку, а ўсіх траіх разам — брата, сястру, мяне. І яшчэ падпісвалі: «Сям'я выдатнікаў». Карацей, у школе вокнаў і насоў мы нікому не білі, на занятккі прыходзілі ў чыстым адзенні, з чыстымі рукамі і вушамі.

Маці прыйшла дадому нейкая асаблівая, урачыстая. Паважна агледзела нас, спытала, ці абедалі. А калі падала есці і мы надзвычай дысцыплінавана паселі вакол місы з адагрэтым малаком, тады хтосьці з нас спытаў:

— Мам, ну што там было?

— Ды так, нічога. Васіль Іванавіч даклад чытаў (Васіль Іванавіч — наш дырэктар). Тады настаўнікі... Буслава мальца ганілі. Мяне выступіць прымушалі. А я ў прэзідыуме сядзела і нізашто...

— Ты ў прэзідыуме сядзела?!

— А пра што выступіць?— шумім мы ўжо больш дружна, пераканаўшыся, што сход ішоў, як трэба, і што маці самой ахвота пагаманіць. Яна ўжо зняла з сябе святочную баціставую сукенку, адзелася ў штодзённую рабочую вопратку.



— Прасілі, каб расказала, як вас выхоўваю...
— А ты нас хіба выхоўваеш?! Мы ж самі расцём!
— Самі, дзеткі, самі...
— І б'ешся, а біцца няможна пры выхаванні...
— Ага. Тата дык хоць ручніком, а ты дык адразу далонню ўпаліш...

*Маці смяецца, збірае са стала, парадкуе ў печы.*

— Я ж і не выступала. Што гаварыць? Ну, дзеткі, пагуляйце трошкі, ды пойдзем... Паможаце мне на рабоце падлогу мыць!.. Хто па ваду, хто шараваць, так вось талакой скоранька справімся!

Мы моршчымся, ныем, але лезем у бакоўку, дастаём старыя вёдры, анучы, дзеркачы і ідзём памагаць маці, — гэтай самай маці, якая не ўмее нас выхоўваць...

## ПАЦЕРКІ

Мал. А. Плаксіна.



Я любіла Маю Чарнову. За тое, што весялуха і неганарыстая, хаця прыехала да нас з вялікага горада, што яна прыгожа размаўляе па-руску, што, нарэшце, бацька Маі — ваенны, пагранічнік.

Любіла сяброўку — і ўсё-такі пасварылася з ёй. З-за пацерак. Бліскучых, рознакаляровых шкляных пацерак. Пачэпіш іх на шыю цэлы маток — яны гараць і пазвоньваюць: зінь-зінь-зінь! Сшыеш з кардону і шаўковых абрэзкаў карону, нашыеш на ёй з тых пацерак сонца з промнямі, надзенеш — і танцуй тады «Свеціць месяц» ці «Неапалітанскі»... Цяжка ўявіць сябе сапраўднай артысткай без такіх пацерак! Я і не ўяўляла. А Мая — наадварот. Яна сказала, што галоўнае — добра танцаваць, і пацерак не дала. Паб'юцца, сказала. У глыбіні душы я згадзілася з яе развагай, але пакрыўдзілася. Станцавала свой «Свеціць месяц», раздалі нам табелі з адзнакамі і адпусцілі на летнія канікулы.



Я не падышла да Маі, не спытала, што яна будзе рабіць летам, ці паедзе куды (а варта было: пераводзілі Маінага бацьку на новае месца службы)... Аб сабе то я не вельмі думала, бо ведала, што буду пасвіць карову.

Вяду аднойчы сваю Бурую з поля, абыходжу вуліцу, дзе жывуць Чарновы, і чую: бяжыць хтосьці, мяне кліча. Майка! Убачыла яе блакітныя круглыя вочы, светлы чубок і шчэрбінку ў роце і ледзь не заплакала ад замілавання, аднак выгляду не падала, толькі мацней павадок на руку накруціла... «Стой, — гаворыць мне Мая, — і вочы заплюшчы». Заплюшчыла і ў тую ж хвіліну адчула, як шыі кранулася нешта халоднае. Майчын жа і след прастыў...

Але ці карова мяне тарганула, ці сама, зацятая ў крыўдзе, ірванула я маток на шыі,— адно зазвінелі дадолу далікатныя шкляныя пацеркі...

Пасля вярнулася на тое месца і падабрала з пылу рознакаляровыя асколачкі...

Уладзімір ПАЎЛАЎ

# РАЗМОВА З СЭРЦАМ



У баку засталіся
Вясновыя ростані.
Адляцеў пералётнаю птушкаю
Май.
Сэрца,
З табою мы разам выросталі,
Сэрца,
Пагутарым шчыра
Давай.
Усю чыстую праўду
Адкрый
Набалелую.
Можа радасць сваю
Ад людзей я хаваў,
Перад хцівымі можа
Было ты
Нясмелае,
Можа шапку прад імі
Здалёк я
Здымаў.
Можа быў я калі
На жыццёвай абочыне,
Можа ў твані мяшчанскай
Калі я пагруз?
Не маўчы,
Маё сэрца,
Калі ты азмрочана,
І вынось для прысуду сумеснага
Друз...
Навальніцамі ўмытыя,
Майскія просіні
Пачынаюць ад сонца
Улетку бялець.
Хоць далёка з табою нам, сэрца,
Да восені,
Ды няма ўсё ж калі,
Склаўшы рукі,
Сядзець.
Памаўчым пасля споведзі,—
Гэтак заведзена,—
А затым у дарогу
Збірацца нам час.



Недзе ў летніх садах
Наша сцежка замецена,
Зачакаліся добрыя справы
Нас.

# КЛІЧУЦЬ ДАЛЁКІЯ ЗОРЫ

1



У высокім бяздонні планеты жахаюцца
І ад пылу касмічнага Месяц зачах.
Ноччу светлыя зоры з арбітаў зрываюцца
І згараюць каметамі ў нас на вачах.

А Зямля сваёй сцежкаю ходзіць адвечнаю,—
Ні спачыну няма, ні спакою старой,—
Для Сусвету гадуе жыццё чалавечае
На радзіме герояў — Радзіме маёй.

Зоры ў холадзе сыйдуцца купкамі цеснымі
Паглядзець, як стартуе мая маладосць.
Не ўсміхайся з пагардай, Венера нябесная,
Мы разгледзім бліжэй і тваю прыгажосць.

2



Пройдзе дождж і абросіцца луг,
І запахне ў паветры жывіцай,
І тады палымнеюць наўкруг
Палахлівыя бліскавіцы.

І тады на абмытай зямлі
Салаўі зноў раскладваюць ноты,
І чутно, як у чорнай далі
Пераклічку вядуць грымоты.

Там страчаюць у рост ячмяні
Летні дождж, зухаваты і спорны.
А тут моўчкі ў начной цішыні
Нас гукаюць далёкія зоры.

І калі мы рванёмся ў палёт,
У ракетах не раз нам прысніцца,
Як гарацць усю ноч навылёт
Палахлівыя бліскавіцы.

**Васіль ВІТКА**

# ЗАПАВЕТ

Тайную сваю просьбу, якую даверыў ён мне ў цяжкую хвіліну, калі жыццё яго вісела на валаску, я не споўніў. Неўзабаве гэтая просьба сама па сабе страціла сэнс: ён перамог смерць, вярнуўся да жыцця.

Асмельваюся цяпер сказаць, аб чым прасіў мяне дарагі і блізкі чалавек, толькі таму, што ўжо шаснаццаць год, як няма яго на свеце, але ўсе мы, хто знаў яго, гаворым аб ім, як аб жывым, і будзем гаварыць, пакуль жывыя.

Усё было прыгожае ў ім — і яго душа, поўная чалавечнасці і тонкай чуласці, і яго аблічча з высокім ілбом, з вачыма — вясёлымі і разумнымі, праніклівымі і назіральнымі, з мяккімі, па-дзіцячы прыпухлымі губамі, у якіх заўсёды стрымлівалася добрая ўсмешка, і з ямачкай у круглым падбароддзі. Густыя светлакаштанавыя валасы, якіх ён ніколі не песціў і не пялегаваў, кучараўіліся самі сабой, адцяняючы поўны адкрыты твар і тыя дзве рэзкія лініі на ім, што, разыходзячыся ад крылляў носа і агінаючы куткі губ, былі заўсёды ў руху.

Цяпер ужо для нас ён як легенда. Але ўбачыўшы яго аблічча, высечанае скульптарам у мармуры, я зноў адчуў радасць сустрэчы з ім, як жывым. Сапраўды, ён быў такі, якім перадае яго разбяр у вечным матэрыяле мастацтва — без бытавых драбніц, без другарадных і неабавязковых падрабязнасцей. Перад намі — мастак, філосаф, народны пясняр ва ўсёй сваёй праўдзе — прастаце і складанасці, даступнасці і велічнасці.

Ён і сам заўсёды вылучаў у чалавеку галоўнае і мог некалькімі штрыхамі стварыць партрэт, які потым урэзваўся вам у памяць на ўсё жыццё. І яму было ў дасканаласці вядома майстэрства скульптурнай лепкі людскога характару. Як цяпер яго добры друг высек твар пісьменніка з мармуровай глыбы, так і ён з жыццёвых глыбаў высякаў аблічча сваіх герояў. Сапраўднае мастацтва здзіўляе нас сілай сваёй выразнасці мабыць таму, што за вобразам мы яшчэ бачым і тую прастору, якая будзіць нашу фантазію, калі мы становімся саўдзельнікамі мастака ў яго творчым працэсе. Скульптар з глыбы мармуру высякае толькі адзін твар, пакідаючы някранутай усю глыбу. Кампазітар стварае свой бессмяротны «Гапак», пачынаючы яго з моманту, калі музыкі толькі яшчэ прабуюць і настройваюць інструменты, рыхтуючыся іграць. Твор і натура, вобраз і матэрыял, з якога ён нараджаецца,— толькі сапраўдны мастак ведае мяжу паміж імі. І ў той жа час ён не хавае сваіх сакрэтаў. Як той легендарны творца, бярэ прыгаршчы зямлі і лепіць з яе жывую душу.

Шмат бачыў я прыгожых людзей, але такога, як ён, не сустракаў. Самім шчасцем ужо была атмасфера, што заўсёды жыла вакол яго, калі цябе як магнітам цягнула да гэтага чалавека, з якім табе станавілася радасна



і лёгка, і сам ты здаваўся сабе лепшым і шчаслівейшым. Я ўдзячны лёсу, які звёў мяне з ім.



**Кузьма Чорны.** Скульптура З. Азгура.

Кузьма Чорны! — як многа гаворыць гэтае імя сэрцу кожнага, хто любіць наша жывое слова, паэзію жыцця народа. У часы маладосці, калі ён узяў сабе гэтае імя, сябры жартам часта казалі яму: «Які ж ты Чорны?», і сапраўды, яго белы да хваравітасці твар, светлыя валасы, блакітныя вочы ніяк не стасаваліся да яго псеўдоніму. І мала хто ведаў, што Чорным ён стаў не па выпадковай прыхамаці, а ўзяў сабе як у спадчыну прозвішча, якое насілі яго яшчэ не зусім далёкія продкі. Сын фальварковага парабка, ён вельмі любіў сваю маці, Глікерыю Міхайлаўну, якая памерла ад сухотаў у маладым яшчэ веку. Яна таксама паходзіла з парабкоўскай сям'і. што, не маючы зямлі, займалася ткацтвам сурвэт, адбываючы гэтым прыгонную павіннасць у радзівілаўскіх маёнтках. Як зазначаў сам пісьменнік, ткачоўскае рамяство было шырока распаўсюджана па ўсёй Случчыне. Сурвэты ішлі не толькі на панскі ўжытак. Яны вывозіліся ў Польшчу і Германію. Дзеда Міхала, як і другога свайго дзеда Фэльку, пісьменнік ведаў з самага малку і да першых год юнацтва. Абодва дзяды жылі разам пры дачцы і сыну і для дапытлівага, цікаўнага ўнука былі цэлай скарбніцай спазнання свету, энцыклапедыяй народнага жыцця з яго паданнямі, казкамі, песнямі і гісторыяй той зацятай барацьбы двух рэлігійных уплываў, што сотні год калечыла людскія душы на нашай зямлі. Праваслаўе і каталіцызм то раз'ятрываліся да таго, што грызлі адзін аднаму горла, то шукалі пагаднення, уступаючы ў змовы, каб разам ачмурадзь цёмнага чалавека. Пасля ў сваіх творах Чорны не раз будзе звяртацца да паказу людскіх лёсаў, якіх рэлігійны дурман і азвярэлы фанатызм уласніцтва з яго філасофіяй: чалавек чалавеку — воўк даводзілі да жахлівых жыццёвых трагедый. Будучы пісьменнік ужо з малых год спазнаў фальш і крывадушнасць, пры дапамозе якіх клерыкалы атручвалі людскую свядомасць. Перакрыжаванне рэлігійных уплываў, касцёл і царква — усё гэта ў самых вычварных, дурных і часам даволі смешных супярэчнасцях так аблытвала чалавека, што ён, спадзеючыся ўжо толькі на сябе, на сваю працу, а не на бога, безнадзейна махаў рукою на вырашэнне праблемы — хто ён: католік ці праваслаўны, і перад самім усявышнім адбываў тую ж павіннасць, што і перад панам, і перадураднікам, і перад валасным старастам, і перад павятовым воінскім начальнікам.

Успамінаючы маленства, пісьменнік, звычайна, пачынаў з дзядоў: Фэлькі Рамаsucceeded Раманоўскага і Міхала Парыбка. Жывучы ў адной хаце, яны ніколі не сварыліся, хоць былі рознае веры: Фэлька — католік, а Міхал — праваслаўны. Праўда, седзячы вечарам на палацях і звесіўшы на хату худыя босыя ногі ў белых споднiках, дзяды часам спрабавалі весці між сабой дыскусіі — чый бог лепшы, але, так і не дайшоўшы да яснасці, згодна ўдвох кладзіся спаць на тых жа палацях. Дзяды былі неразлучныя, і рэлігійныя забабоны не заміналі іх сяброўству. Але каб не гнявіць бога, як усякай іншай улады над сабою, яны адну нядзелю разам ішлі ў касцёл, а наступную — у царкву. Аднак рэлігійная мяжа не канчалася на дзядах. Яна

ішла далей, дзелячы і бацькоў. Карл Фэліксавіч і Глікерыя Міхайлаўна, адпаведна прапісаныя па розных духоўных ведамствах, гэтак жа адбываюць сваю рэлігійную павіннасць. І толькі ў трэцім пакаленні магутны плуг гісторыі вынішчае і самую мяжу і той чартапалох, які стагоддзямі рос абапал яе. Ужо ў сваіх першых творах сын былога парабка і парабчанкі выстаўляе на ўсенароднае асмяянне хцівых царкоўнікаў, ксяндзоў, папоў і ўбоства іх змізарнелых душ.

Выхадзец з самых нізоў, з тых мільённых безымянных сямей, чые дзеці толькі пасля вялікай народнай рэвалюцыі навучыліся грамаце, не дзіва, што ён, як і ўсе мы, сваю радаслоўную кнігу, сваю генеалогію пачынае не з прапрабабкі і нават не з прадзеда, а з дзеда, якога сам бачыў на ўласныя вочы.

Малады пісьменнік стаў Чорным, узяўшы прозвішча, якое насіў матчын бацька Міхал Парыбак. Прыстаўка «Чорны» была прыпісана прыгоннаму ткачу, каб адрозніваць яго ад тых Парыбкаў (парабкаў), якія выбіліся з кабалы і ўжо не служылі ў маёнтку. Парыбкі ж Чорныя былі бесхацінцамі, туляліся па дворных кутах. Іх называлі «кутнікамі» і «пакутнікамі», як і ўсіх тых, хто нараджаўся і зжываў свой век у парабкоўскай афіцыне.

Так Мікалай Раманоўскі, надрукаваўшы ў 1923 годзе сваё першае апавяданне, зрабіўся Кузьмой Чорным, па праву абвясціўшы сябе патомным спадчыннікам магутнай дынастыі чорных парабкаў.

Сапраўдны мастак, ён з чэсцю пранёс гэтае імя, уславіўшы свой мужны і працавіты народ, усёю душою адданы нясхіснай веры ў сваё шчасце.

«Я ўспамінаю жыццё сваіх бацькоў і сваё маленства,— пісаў Чорны.— Гэта быў жудасны час, калі кавалак хлеба і палатняная рубашка — адна на год — здаваліся шчасцем. Так жылі ўсе тыя людзі, сярод якіх я вырас і выгадаваўся. Так жыў народ. Бацькі мае цьмяна марылі аб нейкай невядомай ім лепшай долі для сваіх дзяцей. Я стаў пісьменнікам. Больш таго, я пішу на мове тых простых людзей, сярод якіх і вырас. Гэтыя людзі сталі шчаслівымі на зямлі, іх мова стала дзяржаўнай мовай. Я пішу аб гэтых людзях у сваіх кнігах.

Вялікае шчасце для пісьменніка пісаць аб народзе і яго шчасці і самому быць шчаслівым разам з народам...»

Якую ж трэба было мець сілу характару, нястомную прагнасць да ведаў, да авалодання ўсімі сакрэтамі прафесіі, суровую самадысцыпліну, каб выпрацаваць у сабе творчую неабходнасць пісаць штодня і ў любых умовах, думаць, жыць, ні на хвіліну не расстаючыся са сваімі героямі!

Мне заўсёды здавалася, што ў гэтым чалавеку сабраліся здольнасці ўсіх Раманоўскіх і Парыбкаў, людзей па сваёй прыродзе душэўна багатых. І вось на высокай хвалі гісторыі яны ўпершыню са свайго асяроддзя вылучаюць выразніка сваіх самабытных здольнасцей. Толькі чалавек вялікага таленту, багатай натуры і мужнага характару мог выканаць адказны абавязак, ускладзены на яго цэлымі пакаленнямі, каб за такое кароткае жыццё падняцца да вышынь культуры, авалодаць багаццямі, што назапашваліся стагоддзямі, і самому стварыць скарбы, што яшчэ доўга будуць радаваць людскія сэрцы.

Для яго, як мастака, разуменне народа было не абстрактнай катэгорыяй. Яно раскрывалася ў канкрэтных жыццёвых характарах, у людзях, якіх ён сам ведаў і за лёсам якіх уважліва сачыў усё жыццё. Колькі з яго вусных апавяданняў паўставала перад намі незабыўных персанажаў, што маглі б зрабіцца жывым увасабленнем яго раманаў, драм і аповесцей! Але яны не сталі літаратурнымі героямі. Запасы жыццёвых назіранняў пісьменніка былі настолькі багатыя, што творчая фантазія, фармуючы тып, характар, кіравалася ўжо не адным фактам, не адной з'яваю з усімі яе падрабязнасцямі і нават не даставернасцю прататыпа, за што заўсёды хапаецца пісьменнік без мастацкага таленту як за апраўданне дакументальнай адпаведнасці свайго ўбогага стварэння жыццю, а крытэрыямі той адзінай праўды, якою мерае сваіх герояў народ і якая вымагае ад мастака не толькі таленту, але і грамадзянскай адказнасці, смеласці, а часта і сапраўднага творчага подзвігу ўсяго жыцця.

Імкненне тварыць было яго заўсёднай патрэбай. Цяпер расказваюцца



як вясёлыя прыгоды, калі яго артыстычныя імправізацыі, выдумкі і розыгрышы ператвараліся ў цэлыя сюжэты, многія з якіх жывуць ужо дзесяткі год. Ён мог пераўвасабляцца ў самыя разнастайныя характары, дасканала раскрываючы псіхалогію людзей, з якімі сустракаўся, умеючы знайсці агульную мову і з эрудзітам-інтэлігентам і з цімкаўскім сваім земляком дзядзькам Беляком, што служыў вартаўніком на салатопцы. У яго гаворцы я чуў спасылкі на такія аўтарытэты, як француз Рэнье, рафініраваны эстэт і вытанчаны стыліст, і каваль Кірыла з Лешні, у якога Чорны вучыўся гранічнай выразнасці слова: «А адзін немец сам у плен падаўся!» Будучы прызнаным знаўцам мовы, ён прагна ўслухоўваўся ў мелодыю сказа, у яго гукавыя і сэнсавыя адценні, з цікавасцю ловячы кожнае незнаёмае слова. І калі адразу не даходзіў яго азначэння, незаўважна вымушаў субяседніка вымавіць яго яшчэ раз. Чытаючы яго творы, нельга не заўважыць, як выраз, які прыйшоўся яму па душы, пісьменнік сам вымаўляе з асаблівай асалодай перад тым, як напісаць або ўкласці ў вусны свайму герою. «Раймонт!» — колькі разоў вар'іруецца ўпадабанае слоўца ў гаворцы старога Стафанковіча ў «Любе Лук'янскай».

Якое дзіва, што некаторыя лінгвісты, самі тугія на вуха, абыякавыя да народных скарбаў, прызнаючы непагрэшнасць яго аўтарытэту ў веданні мовы, часам гатовы былі нават друкарскую памылку прыпісваць яму як самабытнае слова. У часе рэпетыцый «Бацькаўшчыны» ў адным з тэатраў актрысе, якая іграла жонку Леапольда Гушкі, прыйшлася па ролі нейкая недарэчнасць: «паклявацкаваць». «Што гэта азначае, які мае сэнс?» — пачала дамагацца артыстка ад рэжысёра. І той з важным выглядам растлумачыў: паколькі Чорны напісаў, значыць ёсць такое слова і нават паказаў, як яно вымаўляецца, з якім націскам. Дайшло да прэм'еры, на якую з'явіўся аўтар. Пачуўшы са сцэны сказанае з пафасам «паклявацкаваць», ён разгубіўся ад нечаканасці. «Дайце п'есу!». Пачаў гартаць і, дайшоўшы да патрэбнага месца, зайшоўся са смеху: «Па хлявах хаваць!» — сказаў ён. Так выпадковая безуважнасць машыністкі ператварылася ў чорнаўскае слова.

Сам Чорны высмейваў гульню ў словы і тую моўную абракадабру, на якой гавораць людзі, што вельмі ж хочуць паказаць сябе разумнымі. Часта гэта — тып дзялкоў, прабітных прыстасаванцаў, якіх ён называў «трапетунамі». Будучы сам па сваёй натуры чалавекам актыўным, жвавым і няўрымслівым, ён ненавідзеў трапетуноў. Хітраванне, імкненне патрапіць у тон прывучылі людзей гэтага гатунку да такой формы і манеры гаворкі, калі ў слоўным шумавінні канчаткова траціцца нават намёк на які-небудзь сэнс, на сцверджанне, за якое трэба браць адказнасць. Трапятун са скуры лузаецца, каб ашаламаніць вас патокам слоў і ў той жа час не выказаць ніводнай свае думкі. За гэтай катэгорыяй людзей пісьменнік з пільнай цікавасцю сачыў у жыцці і не раз са злой і вясёлай ironiяй маляваў іх на старонках сваіх кніг. У мяне захоўваецца адзін рукапісны экспромт Чорнага. Прыводжу яго тут як доказ, наколькі тып трапетуна займаў увагу пісьменніка, калі нават у жартоўнай мініятуры ён змог перадаць сутнасць характару:

Гаворка трапетуноў:

— Улыбачка!
— Ну?! Быць не мажа!
— Чэснае слова!
— Ну і што?!
— Вабчэ дажа.
— Ну? Што т-ты кажаш?
— Каб я так жыў.
— Э, дык жа добра.
— Да. Харашо.

(Разыходзяцца).

Тонкі, праніклівы псіхолаг, ён навылёт бачыў убоства і змізарнеласць і тых мяшчан, што, як п'яўкі, прысмактаўшыся да нашага ладу жыцця, дзеля ўласнай нажывы гатовы на самую подлую крывадушнасць.

Яшчэ ішла вайна, і мы, вярнуўшыся ў родны Мінск на руіны і папялі-

шчы, рады былі кутку, дзе можна прытуліць галаву. Ніхто не разлічваў на адмысловыя ўмовы. Як і ўсе, хто радаваўся вызваленню роднай зямлі, мы пачыналі жыццё на голым месцы. Кузьма Чорны, яшчэ не ачуняўшы ад цяжкага ўдару, які нанесла яму хвароба, пасяліўся з сям'ёй у пакойчыку драўлянага дома на вуліцы Берсана, дзе размясцілася праўленне Саюза пісьменнікаў. Пакой быў настолькі малы, што не было дзе паставіць стала. Але і ў гэтых умовах Чорны пісаў.

Штовечар ён выходзіў прайсціся, падумаць, адпачыць. Адзінай расчышчанай магістраллю была Савецкая вуліца, і ўсякая падзея на ёй, сустрэча са знаёмымі не абміналі ўвагі пісьменніка. Аднаго вечара, праходзячы паўз цэркаўку, што трухлявым грыбам прыляпілася да вуліцы, Чорны, сцепануўшы плячом, спытаўся:

— Хочаш пабачыць Шпулькевіча?

— Вэню?— здзівіўся я.— Таго, што з купцом Хурсам гандляваў свіннямі?

— Не, яго бацьку, што трымаў на Камароўцы рамізніцкую біржу. Зойдзем?— паказаў ён кійком на адчыненыя дзверы цэркаўкі, весела пасміхаючыся і як бы выпрабоўваючы маю цікаўнасць.

Мы зайшлі. На клірасе цьмяна гарэлі свечкі і нейкі цень снаваўся між іх. Раптам цень хістануўся ад свечак да дзвярэй і мы ўбачылі прысадзістага здаравяка з гладкім чырвоным тварам.

— Мікалай Карлавіч! — саладжавым голасам усклікнуў ён. Так, гэта быў адзін з чорнаўскіх прататыпаў: гарадскі кулак, самалюбны мешчанін з тых, што, умасціўшыся некалі на выгадную службу, заўсёды пішчом лез на паказ, абы быць на відавоку — насіць пратэсу ў часе крэснага ходу, стаяць пры свечках, прыслужваць архірэю і гандляваць салам, як свіны купец Хурс, — усё адно, толькі была б магчымасць паказаць на людзях сваю хрысціянскую любоў да бліжняга, у якой так салодка заходзіцца чуллівае сэрца!..

Спыніўшыся ў парозе царквы і не ведаючы, з чаго пачаць гаворку, Чорны акінуў вачыма цёмныя сцены і асветленыя лампадкамі абразы і, стараючыся патрапіць у тон ялейнасці, якая гучала з кожнага слова яго субяседніка, з разважным выглядам спытаўся:

— Ці вялікія маеце прынашэнні ад прыхажан?

Царкоўнік затрапятаўся:

— Якія, Мікалай Карлавіч, прынашэнні!— і спаважна дадаў:— Цяпер жа мы работаем сключыцельна на абарону.

У нас хапіла сілы ўтрымацца ад рогату. Але выйшаўшы на вуліцу, Чорны яшчэ доўга не мог супакоіцца:

— Бач ты яго! Ён ужо работае на абарону!

Нянавісць да драпежніцкіх інстынктаў уласніцтва і духоўнага паразітызму, нянавісць непрымірымая і бязлітасная, у душы парабкоўскага сына і парабкоўскага ўнука была такой жа глыбокай, як і любоў да працоўнага чалавека, рукамі і сэрцам якога ствараецца народнае шчасце.

Балюча перажываў ён сваю доўгую разлуку з роднай зямлёй, з мясцінамі, знаёмымі з маленства, з людзьмі, душэўна дарагімі яму.



**Пры дарозе.** Малюнак, зроблены К. Чорным у лістападзе 1941 г.





**Кузьма Чорны.** 1944 г. Замалёўка з натуры З. Паўлоўскага.

Позняй восенню першага года вайны, у час нашых нялёгкіх вандровак мы спыніліся ў Вязніках пад Масквой у хаце фабрычнай работніцы. Седзячы за дашчаным сталом і пішучы — ён апавяданне, а я верш, мы вярталіся ў думках да тых любых сэрцу восеньскіх краявідаў і настрояў, якія абуджаюць яны ў час перад блізкаю зімою. Тады ўзнік у мяне ў вершы вобраз Случчыны і тае прыдарожнай алешыны, што была знаёмаю нам абодвум. Гэты верш я прысвяціў Чорнаму, а ён тут жа на лістку майго блакнота вострымі, тонкімі штрыхамі алоўка накідаў разгалістае бязлістае дрэва, а паблізу яго пяньчук з адскочыўшым за лета парасткам, і прыдарожны паплавец, абгароджаны яловымі жардзінамі. Гэтую яго замалёўку я захоўваю як дарагую для мяне рэліквію.

Восенню другога года вайны цяжкая раптоўная хвароба абрушылася на яго. Ні на хвіліну не сумняваючыся ў перамозе над фашызмам, ён не спадзяваўся толькі, што дажыве да шчаслівага дня вызвалення.

Прыкаваны да пасцелі, страціўшы зрок і не пазнаючы нават сваіх блізкіх, ён часта ўпадаў у забыццё, надоўга трацячы прытомнасць. Калі ж вярнулася памяць, яго адзіным запаветам, з якога я пачаў гэтае апавяданне, былі словы, сказаныя мне пад вялікаю тайнаю.

— Нахіліся, братка,— сказаў ён ледзь чутна. І калі я нахіліўся вухам да самых яго губ, папрасіў:— Скажаш, каб спалілі мяне ў крэматорыі...

Жахлівы гэты наказ перавярнуў усю маю душу. Я ўжо не памятаю, што гаварыў. Словы суцяшэння былі марнымі. Ён ляжаў, цяжка дыхаючы, і толькі вочы выказалі мне ўсю глыбіню гэтай просьбы: няхай хоць жменькай попелу лягу я ў зямлю, якую любіў і аб якой заўсёды думаў.

І ўсё ж ён перамог тады ў страшным паядынку. Ён сабраў усю сваю волю да жыцця, каб яшчэ многа зрабіць для чаканага дня перамогі. Гэта быў яго сапраўды вялікі подзвіг.

Як толькі стаў вяртацца зрок і пачалі варушыцца пальцы на спаралізаванай руцэ, ён зноў узяўся за пяро, вярнуўся да творчасці. Выпісаўшыся з бальніцы, ён настойліва, з зацятай упартасцю пачаў трэніравацца ў рухах, «расходжвацца», як ён казаў. З намаганнем падцягваючы нагу, абапіраючыся на кіёк, ён выходжваў доўгія гасцінічныя калідоры, і ўжо неўзабаве ў тыя суровыя і трывожныя дні, якія перажывала сталіца нашай радзімы, яго можна было ўбачыць і на прыцiхлай, нешматлюднай тады вуліцы Горкага. Радуючыся, што можа хадзіць, ён штодня з'яўляўся ў будынак «Известий» на Пушкінскай плошчы, дзе змяшчаліся тады рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь» і часопіса «Раздавім фашысцкую гадзіну», каб здаць у чарговыя нумары новае апавяданне, гнеўны артыкул аб фашысцкіх злачынствах або знішчальны па сваёй трапнасці фельетон аб подлых здрадніках, што слугавалі акупантам.

Трывожачыся за стан здароўя Чорнага, кіруючыя работнікі рэспублікі і пісьменнікі, якіх была тады ў Маскве невялікая частачка, угаварылі яго выехаць на лета за горад. Чорны згадзіўся, але, як я цяпер думаю, не таму, што ў гэты цяжкі час яго прывабіла прырода, якую ён любіў. Хутчэй за ўсё для творчага замыслу, які тады займаў пісьменніка, вельмі ж падыходзіла асяроддзе, у якое ён трапляў. Чорны паехаў у Пушкіна пад Ма-

сквой, дзе змяшчаўся шпіталь Цэнтральнага партызанскага штаба. Там ён з прагавітай цікаўнасцю сустракаў кожнага, хто прыходзіў з варожага тылу, распытваў аб народных мсціўцах, аб подзвігах савецкіх патрыётаў. Гэта было ўжо трэцяе лета вайны. Пісьменнік жыў тады сваім запаветным замыслам — напісаць некалькі твораў аб народным змаганні супраць захопнікаў, аб'яднаўшы іх пад агульнай назвай «Сумліцкая хроніка». Калі ён пераехаў у Пушкіна, якраз у тыя дні жорсткі раматус зваліў мяне з ног, і я болей за паўгода не бачыў свайго друга. Лежачы ў Пірагоўскай бальніцы, я часта меў ад яго пісьмы. Будучы сам хворы, ён рупіўся, каб падвесяліць і абнадзеіць мяне. Прывяду першае з гэтых пісем, якое дае пэўнае ўяўленне аб пачуццях і настроях пісьменніка ў партызанскім шпіталі.

«Дарагі братка!

Дачуўся, што ты захварэў на старую сваю хваробу і ляжыш у бальніцы. І так мне нядобра на душы стала. А я чакаў, што ўбачуся неўзабаве з табою ў добрым нашым здароўі. Мне здаецца, што я ўжо не бачыўся з табою вечнасць. Няхай гэтыя хваробы пойдуць агнём і дымам на мокрае, як той казаў, балота. Праўся, братка мой, каб скора ты быў здаровенек. Што да мяне, то я пакрысе праўлюся. Тут усё сышлося разам: і час ідзе (а мая папраўка залежыць у самай значнай меры ад часу), і паветра вельмі ж добрае. Прырода тут цудоўная. Дом з трох бакоў абкружаны лесам — хвоя і яліна. Я хаджу па лесе і, як дазваляе мне мой зрок, наглядаю за мурашкамі, дзятламі, чарвякамі і ляснымі сцежкамі. Хаджу ўжо лепш і больш, як у Маскве. Зрок палепшаў значна, але трэба яшчэ чакаць; няхай ідзе час. Я заўсёды казаў і нават пісаў, бо сам гэта многа разоў перажыў быў, што час найлепшы доктар для чалавечай душы. І не толькі для душы. Цяпер правяраю гэта яшчэ раз на сабе і на людзях, з якімі тут жыву. З некаторымі я пасябраваў. Многія з іх перажылі такое, ад чаго сапраўды-такі валасы на галаве ўстаюць. Дзеля прыкладу: стаіць чалавек, прывязаны дротам да сцяны свае хаты, а немцы перад яго вачыма страляюць па адным трое яго дзяцей і жонку. Гэты чалавек, выбраўшыся з бяды, за кожнае сваё дзіця ўжо адабраў нямецкай крывёй і крывёй тых, хто служыць немцу. Я заўважаю, як час, у якой меры ён ідзе, лечыць душу гэтага чалавека...»

Перачытваючы раман «Вялікі дзень», я заўсёды ўспамінаю гэтае пісьмо, бо ў вобразе старога Антона Цвіркі пазнаю жывыя рысы гэтага грознага народнага мсціўцы.

Просты чалавек, чалавек з народа — гэта любімы герой Чорнага. Ратуючы сваю радзіму, ён узнімаецца над сваімі ворагамі як вялікі суддзя, вызначаны самой гісторыяй. Савецкі чалавек расправўляецца з захопнікамі не толькі фізічна, ён вынішчае фашызм як пошасць, што пагражае свету.

Сустрэліся мы з Чорным у самым канцы года і зноў працавалі разам ужо ў рэдакцыі новага, тады кагадзе ўтворанага часопіса «Беларусь».

— Дзень добры, Беларуская зямля! — так пачынаўся артыкул, які адкрываў першы нумар часопіса і ў якім Чорны з усхваляванай радасцю пісаў, што ўжо «блізка дзень поўнага ачышчэння нашай бацькаўшчыны ад паганых чужынцаў».

У друкарнях савецкай сталіцы адна за адной пачынаюць выходзіць кнігі беларускіх пісьменнікаў. Маскоўскія рабочыя набіралі і друкавалі іх на нашай роднай мове. Хіба можна калі забыць гэтую сардэчную братнюю дапамогу нам, нашаму народу ў тыя цяжкія часіны, калі мы вярталіся на сваю спустошаную зямлю, у паселішчы і гарады, дзе разам з народным набыткам былі разграблены і спалены бібліятэкі. Чорны радаваўся выхаду кожнай новай кнігі. Тады ж паявіўся на свет і маленечкі зборнічак маіх вершаў «Гартаванне». І па сённяшні дзень берагу я рукапіс рэцэнзіі Чорнага як першы і дарагі мне водгук на свой сціплы дэбют у літаратуры.

З многіх жыццёвых рыс і рысачак паўстае воблік гэтага незабыўнага чалавека. З удзячнасцю гляджу я цяпер на эскізны накід на грубым лісце абгортачнай паперы, якою быў засланы рэдакцыйны стол, — накід, зроблены тады яшчэ зусім маладым мастаком, студэнтам у шынялі з сержанцкімі нашыўкамі З. Паўлоўскім. Забегшы ў рэдакцыю, ён незаўважна для Чорнага накідаў яго партрэт. Зроблены на хаду, але непасрэдна з натуры, ён здаецца мне цяпер каштоўнай занатоўкай, у якой у характэрным профілі пісьменніка перадаецца пастава і імклівая ўзрушанасць Чорнага тых дзён.

Бязлітасная хвароба зрабіла яму скупую ўступку. Ненадоўга адтэрмінавала яна трагічную развязку. Свой удар яна нанесла знянацку, калі ён за рабочым сталом ужо ў новай кватэры на той жа Савецкай вуліцы пісаў «Скіп'ёўскі лес». Аповесць абарвалася на сказе, поўным таго глыбокага сэнсу, якім жыў не толькі герой твора Кастусь Прыбыткоўскі, але і сам пісьменнік у тыя дні: «Ён перасіліў боль і свой неспакой і пачаў думаць пра тое, як ён ачуняе і рушыць у вялікую дарогу, туды, дзе барацьба і смерць і нараджэнне новага жыцця». Апошні сказ, напісаны Чорным, абарваўся на паўслове. Аповесць засталася няскончанай, як і многія замыслы пісьменніка, якія ён спадзяваўся ажыццявіць на роднай зямлі, у вызваленым Мінску. Няскончанай засталася нават кароценькая запіска, якую ён хацеў падаць жонцы, адчуўшы, што ўжо не можа гаварыць. «Заві пісьм...» — паспеў напісаць ён і страціў прытомнасць. Калі ўстрывожаныя мы збегліся ў яго кватэру, ён ляжаў на палатнянай раскладушцы. Нястомны і вялікі падзвіжнік, ён і ў апошнюю сваю хвіліну застаўся велічным у сваёй прастасці і сціпласці. Позна ўвечары мы ўдваіх з яго жонкай асцярожна паднялі яго і з раскладушкі перанеслі на ложак. Насупраць сядзела яго тады яшчэ малая дачка, закрыўшы твар рукамі. Я сеў да яе спіною, каб засланіць твар бацькі, ужо назаўсёды застылы ў сваіх абрысах. Люстэрка, якое паднесла да яго вуснаў жонка, засталося чыстым, як тыя старонкі, што не паспеў ён напісаць...

Яшчэ многія гады і пасля нас маладыя пісьменнікі будуць вучыцца ў яго не толькі дасканаласці слова і майстэрству пранікнення ў глыбіні чалавечага сэрца, але беручы за прыклад і яго жыццё як узор самаадданага служэння радзіме.

Колькі светлых пачуццяў падымаецца ў душы, калі чытаеш яго творы, штораз адкрываючы ў іх усё новыя скарбы. Як бы з ім жывым ты зноў вядзеш задушэўную размову, радуючыся вялікаму шчасцю, што ў цябе ёсць такі цудоўны друг.



*Уладзіміру Мікалаевічу Дубоўку шэсцьдзесят год.*

# МОЦ І ХАРАСТВО ПАЭТЫЧНАГА СЛОВА

Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, як ачышчальная майская навальніца, прашумела над зямлёй. На адной шостай свету яна дазвання зруйнавала стары лад, заснаваны на ўціску і эксплуатацыі, і адкрыла неабмежаваныя магчымасці для развіцця духоўных сіл народа.

У літаратуру адзін за адным пачалі прыходзіць людзі з самых народных гушчаў. Адным з першых сярод іх быў Уладзімір Дубоўка. Пачатак яго жыццёвага шляху ў некаторай ступені тыповы для творчай моладзі паслярэвалюцыйнай пары. Пасля службы ў Чырвонай Арміі Уладзімір Дубоўка ў 1921 годзе паступае ў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут у Маскве. Жыццё ў творчым асяроддзі, вучоба пад кіраўніцтвам выдатнага пісьменніка і аднаго з самых эрудзіраваных людзей свайго часу — В. Я. Брусава садзейнічалі хуткаму фармаванню маладога паэта. Нельга пераацаніць тую ролю, якую адыграў В. Я. Брусаў у выхаванні літаратурнай моладзі пачатку 20-х гадоў, калі шырока бытавалі тэорыі «пралеткульта» з іх нігілістычным адмаўленнем культурнай спадчыны мінулых эпох. Некаторыя паэты ў той час выступалі з вершамі накшталт:



Мы во власти мятежного,
страстного хмеля;
Пусть кричат нам: «Вы палачи
красоты»;
Во имя нашего Завтра —
сожжем Рафаэля,
Разрушим музеи, растопчем
искусства цветы.

Наперакор гэтаму пралеткультаўскаму нігілізму Брусаў скіроўваў увагу сваіх выхаванцаў на глыбокае засваенне класічнай спадчыны, на вывучэнне гісторыі рускай і сусветнай культуры.

Станаўленне У. Дубоўкі як паэта адносіцца да часу навучання ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце.

Першыя яго творы, аб'яднаныя ў зборніку «Строма», паказалі, што аўтар іх мае адметную творчую манеру, нясе новае для беларускай літаратуры сваё слова. У яго паэзіі адразу вылучаецца лірычны пачатак, багатая настраёвасць, арыгінальная вобразная структура. Тэматыка твораў паэта 20-х гадоў — самая шырокая. Ён адлюстроўвае ў сваёй паэзіі той рэвалюцыйны парыў, які абудзіў Кастрычнік у народзе, паказвае новых людзей, біяграфію якіх пісала рэвалюцыя («Камсамолка Ганна», «Студэнт», «Жыхары» і інш.). Паэт марыць пра вясну чалавецтва — «камуну свету». Вера ў шчаслівую будучыню сваёй Радзімы і ўсёй зямлі выступае ў яго як сэнс усяго жыцця.

Радасць мая — Рэвалюцыі час!
. . . . . . . . . . . . . .
Шчасце маё ужо нават у тым,
што я ўдзельнік вялікіх часін.

(Паэма «Кругі».)

Тэма Радзімы ў творчасці беларускіх паэтаў 20—30 гадоў вельмі часта выступае непарыўна звязанай з тэмай Заходняй Беларусі. Услед за Янкам Купалам і Якубам Коласам свае гнеўныя і ўзрушаныя песні прысвяцілі былой Заходняй Беларусі Міхась Чарот, Уладзімір Дубоўка, Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Андрэй Александровіч, Тодар Кляшторны і іншыя. Аднак не будзе перабольшваннем сказаць, што ў 20-я гады гэтая тэма ў творчасці Уладзіміра Дубоўкі займала значна большае месца, чым у творчасці іншых нашых паэтаў. У гэтым, відавочна, пэўную ролю адыграла і асабістае: край маленства паэта, нарачанскі край, часова апынуўся ва ўладзе паноў і асаднікаў Пілсудскага.

Вершы, прысвечаныя жыццю і барацьбе рабочых і сялян Заходняй Беларусі, Уладзімір Дубоўка аб'яднаў у двзюх нізках — «Плач навальніцы» і «Зара-зарніца». Не толькі гневам і нянавісцю да прыгнятальнікаў дыхаюць радкі гэтых твораў. Паэт выразна бачыць, што «вецер ад Усходу будзіць міліёны». Ён заклікае не кленчыць перад нядоляй, а цвёрда верыць у перамогу народа, у светлае «ранне». Веру гэту мацавала тая рэвалюцыйная, вызваленчая барацьба, якая высокай хваляй паднялася ў заняволеным краі:

У снежных далінах
далінах бяскрайніх,
гарыць і палае
пад ветрам паходня.
І носяцца іскры
над студжаным краем,
наўсцяж
Беларусі Заходняй.

Той мінор, якім вее ад некаторых вершаў цыклу «Заходняя Беларусь», змяняецца радасцю за сваё пакаленне, якому выпала шчасце зрабіць першы крок у край лепшай мары чалавецтва, пракласці першы, хай сабе нялёгкі, след у новы свет.

У шмат якіх вершах 20-х гадоў знайшоў выражэнне роздум паэта над жыццём, над творчасцю, над лёсам краіны і ўласным лёсам. Гэта ў першую чаргу вершы «Летуценнем пройдзем мы над краем», «Якое шчасце спатыкаць усход», «Перамерыць гоні шмат разоў араты», «Вядзі мяне, як і вяло ты, сэрца» і іншыя, якія ўвайшлі ў зборнікі «Трысцё», «Там, дзе кіпарысы», «Credo».

Шматгранны свет чалавечых пачуццяў змяшчае ў сабе інтымная лірыка Дубоўкі, якая займае ў яго творчасці вельмі значнае месца. Тут бадай найпаўней выступае адметнасць таленту паэта, ба-

гацце душэўных перажыванняў яго лірычнага героя. Уладзімір Дубоўка дасягае выразнасці малюнка шматфарбным вобразам, багатай моўнай палітрай. Народнае слова, народную мудрасць паэт не толькі выкарыстоўвае, але і ўзбагачае. Гутарковая мова народа ляжыць у аснове моўнай тканіны яго твораў, але паэт не слепа пераймае яе, а часам сам займаецца словатворчасцю. Вядома, не ўсё з наватвораў паэта вытрымала выпрабаванне часу. Але цікава адзначыць, што слова «адлюстраванне» і вытворныя ад яго замацаваліся ў нашай літаратурнай мове і сталі такімі арганічнымі для яе з лёгкай рукі Уладзіміра Дубоўкі.

Багатай нюансіроўкай і свежасцю фарбаў вылучаюцца такія творы паэта, як «На родных прасторах», «Залатая асенняя раніца», «Цягнік спяшаўся», «Кругі» і іншыя.

Нельга не звярнуць увагі на перакладчыцкую дзейнасць Уладзіміра Дубоўкі. Яна істотна дапаўняе яго творчую біяграфію. Яшчэ на пачатку свайго творчага шляху У. Дубоўка перакладаў лірыку Дж. Ч. Байрана. Пазней ён бліскуча перакладае выдатную паэму Байрана «Шыльёнскі вязень» і працуе над перакладам «Паломніцтва Чайльд-Гарольда». У апошні час Уладзімір Дубоўка працаваў над перакладамі на беларускую мову твораў выдатнага прадстаўніка польскага рамантызму Юльюша Славацкага, а таксама кітайскіх класікаў.

З 1958 года, пасля працяглага перапынку, У. Дубоўка зноў актыўна ўключаецца ў літаратурнае жыццё рэспублікі. Яго горача хвалюе гераічная стваральная праца савецкіх людзей. Гімнам гэтай волатаўскай працы гучаць творы паэта «Паходная песня», «Чакае ля берага човен мяне», «Ты, Ларыса, таксама зарніца» і іншыя. Сардэчнай цеплынёй і глыбокім чалавечым роздумам кранае нізка вершаў У. Дубоўкі, прысвечаных родным мясцінам.

Эпічны пачатак, які выявіўся ў «Крычаўскай спакусе» і іншых ранніх творах паэта, выразна ўзмацніўся ў яго паэзіі апошняга часу і асабліва ў народных казках, якія ўвайшлі часткова ў «Выбраныя творы», а часткова аб'яднаны ў зборніку для дзяцей «Цудоўная знаходка». У казках, заснаваных на вуснай народнай паэзіі, паэт выявіў сябе майстрам яшчэ аднаго жанру.

Творчая актыўнасць Уладзіміра Мікалаевіча Дубоўкі, яго нястомнасць, яго жывы, сардэчны інтарэс да ўсіх праяў жыцця народа даюць падставу спадзявацца, што паэт яшчэ не раз парадуе нас добрымі творамі. Пажадаем жа яму ў дзень 60-годдзя, каб працавітая яго рука доўга і нястомна трымала пяро на радасць нам, у імя светлай будучыні нашага народа.

**Арсень ЛІС.**

---

**Уладзімір ДУБОЎКА**

# СТАЛІЦА МІРУ

...С земли до звезд встает Москва!
В. БРЮСОВ



Не востры меч і не гарматы
да ясных зор цябе ўзнялі.
Ты словам Леніна узнята,
праслаўлена па ўсёй зямлі.

Праслаўлена таму, што слова
ідзе ў вянку, ў сузор'ях дзей,
як сімвал знішчаных аковаў,
як сімвал здзейсненых надзей.

Праменне зор Крамля сівога
дужэй мячоў, мацней гармат.
Яго бязмежная дарога —
увесь бязмежны далягляд.

Яго ўсе людзі добрай волі
на свеце ведаюць усім.
І не зацьміць яго ніколі
ні дым хлусні, ні войнаў дым!

Яго браты ўсе нашы знаюць,
І вераць нашы ўсе браты,
што пройдзе праўда залатая
і праз калючыя драты.

Цяпер Гоанго не глухі ўжо,
загаварыў нямы Непал,
а на пагібель сілы хіжай
бліжэе ўжо дзевяты вал.

На ўсе варожыя пагрозы,
на тэрмаядзерны ўвесь жах
два словы даў твой ясны розум,
што не ўміраюць у вяках:

Мір! Дружба!
Так яны і ходзяць,—
як два браты,— плячо ў плячо,

як сонца яснае на ўсходзе,
накрыўшыся святла плашчом.

Пасланцаў гэтых спатыкаюць,
як самых дарагіх гасцей.
а дзе яны удвух бываюць,
там слава і твая расце!

Каля калыскі кожна маці
згадае іх не раз, не два
і скажа да свайго дзіцяці:
— Жадае шчасця нам Масква!

Не пышнасцю і не багаццем
сталіцай стала ўсіх сталіц,
Масква, а здольнасцю змагацца
за мір і дружбу — без граніц!






Васіль Гапоненка ў дарозе.

Сцяпан КУХАРАЎ

# КАМСАМОЛЬСКАЯ ДУША

### Нарыс

З сакратаром Хойніцкага райкома камсамола мне ўпершыню давялося сустрэцца ў Гомелі на пленуме абкома.

Жвавы, камлюкаваты хлопец у сціплым сінім гарнітуры з камсамольскім значком на лацкане, у хромавых ботах, моцна цісне мне руку і, крышку збянтэжыўшыся, глухаватым баском знаёміцца:

— Гапоненка...

У яго простым і разам з тым валявым абліччы адчувалася ней-

кая прывабнасць. Цяжка сказаць, чым прывабіў ён адразу, але ўжо адчуваеш, што нечым спадабаўся. Можа такім адкрытым, ясным позіркам быстрых карых вачэй і дабрадушнай цёплай усмешкай на адкрытым чарнявым твары? Мажліва. Можа раптоўнай, шчырай згодай на тваю прапанову з ім пазнаёміцца і прыехаць да яго ў госці? Таксама. А можа простай, з палескім вымаўленнем гаворкай, чалавечай непасрэднасцю? Напэўна.

— Калі ласка, прыязджайце, — згадзіўся тут жа Васіль. — Але ж я не ведаю, ці спадабаецца вам... Ці знойдзеце вы ў нас тое, што вам патрэбна...

Ужо спяшаючыся ў залу на пасяджэнне, Васіль, усміхнуўшыся, пацвердзіў сваю згоду:

— Прыязджайце. У нас якраз моладзь маецца спраўляць веснавое свята песні. На матацыкле паважу вас. З ветрыкам...

## 1

Хойніцкі райком камсамола змяшчаецца ў двух невялічкіх пакойчыках на цэнтральнай вуліцы пасёлка, пад адным дахам з мясцовай гасцініцай. Гэты мураваны дамок нядаўна адрамантавалі, і ён весела і зухавата ўзвышаецца сярод сваіх драўляных хат-суседзяў, нечым нагадваючы маленькі жаўтлявы караблік у зялёнай затоцы. Уражанне гэтае падкрэслівае сакавітая, выпеставаная шчодрым сонцам зеляніна тапаляў, якія, нібы асілкі-вартавыя, пасталі з двух бакоў уздоўж вуліцы. А за дварамі — бела-ружовыя шапкі садоў...

У пакойчыку тры сталы: за адным працуе першы сакратар Васіль Гапоненка, пры ім на тумбачцы тэлефон; за другім, побач — другі сакратар Уладзімір Шагавік і пры ўваходзе — справа стол старшыні раённага Савета спартыўных таварыстваў Эдуарда Мартыненкі. Інструктару Казіміру Зінукову няма месца, каб паставіць стол, і хлопцы замацавалі за ім старую рыпучую канапу.

У другім пакойчыку праз дзверы — райкомаўская гаспадарка. Там працуе інструктар Ніна Ціханенка. Яна па сумяшчэнню выконвае і працу загадчыка сектара ўліку.

Увесь невялічкі калектыў штатных работнікаў райкома — былыя дзесяцікласнікі. Шагавік і Зінукоў адслужылі вайсковую службу і цяпер па сваёй ахвоце засталіся працаваць у райкоме. Шагавік ужо працуе некалькі год і вучыцца завочна ў сельскагаспадарчай акадэміі, а Зінукоў толькі што адслужыў на флоце. Ніна Ціханенка скончыла педагагічны інстытут. Самы меншы стаж камсамольскай работы ў Казіка Зінукова, але і ён ужо асвойтаўся і ўваходзіць у курс справы на новым месцы.

... Насцеж адчыніліся дзверы, аж паразляталіся на сталах паперы, і ў пакой зайшоў Васіль Гапоненка. Выціраючы спацелы твар, ён з кожным павітаўся за руку і са словамі «Як тут у вас, што чуваць?» пачаў выкладваць з кішэні на стол брашуркі, плакаты.

Хлопцы неяк падцягнуліся, прыціхлі, чакаючы, што скажа ім першы сакратар. І Васіль не прымусіў, каб яго доўга чакалі. Ён сеў за стол, раскрыў у зашмальцаванай вокладцы кніжачку, адгарнуў адну-другую старонку, прабег вачамі па запісах, а потым звярнуўся да сваіх сяброў-памочнікаў:

— Што вы збіраецеся рабіць, хлопцы?

— Трэба было б у калгас ехаць, — паварушыўся на месцы маўклівы Шагавік.

— Я паеду ў Вялікі Бор, — бліснуў гарачымі вачыма Казік. — Пабуду ў калгасе, яшчэ зайду ў Вялікаборскую школу, пацікаўлюся, як там піянерважатая...

— Так, таварышы, ёсць важныя справы, — і Васіль раздаў хлопцам па лістку. — Гэта пісьмо абкома партыі. Зварот да ўсіх камсамольцаў і моладзі Гомельшчыны. Яго трэба абмеркаваць у кожнай камсамольскай арганізацыі. Наша задача — узняць моладзь на выкананне сваіх сацыялістычных абавязацельстваў на



другі год сямігодкі. Вы ж ведаеце, што не ўсюды падабраны добрыя кадры жывёлаводаў, ёсць асобныя калгасы, дзе моладзь усё яшчэ раскачваецца. Так што ехаць трэба, і сёння ж...

— Васіль Міхайлавіч, у тым Вялікім Бары цяжка моладзь сабраць на сход. Што рабіць, калі не збяруцца? — хвалюючыся, сказаў Казік Зінукоў.

— Што рабіць? — скупа ўсміхнуўся сакратар, і на момант над высокім чыстым ілбом уздрыгнулі крылатыя бровы. — Што рабіць, пытаешся?..

Васіль ужо стаіць пасярод пакоя і, энергічна размахваючы рукамі, заўзята расказвае пра тое, як гады тры таму назад, калі ён толькі прыйшоў у райком і стаў працаваць інструктарам, ездзіў у Карчавую да калгасных камсамольцаў.

— Толькі прыйшоў я ў райком з Рудакова, дзе быў камсоргам у школе механізатараў, а мне адразу камандзіроўка, — чуўся глухаваты басок Васіля. — Выклікае мяне сакратар райкома і гаворыць: «Трэба пад'ехаць у «Сацыялізм»... Там паўгода як сходу не было... Камсамольцы не плацяць членскіх узносаў... Хоць наперад ведаю, што ты там нічога не зробіш, але з'ездзі...» Вось, хлопцы, якая была сітуацыя. Узяў я веласіпед, на багажнік паўбоханa хлеба — і ў дарогу. Прыехаў я з трывогай, думаючы, што ж рабіць? Вось, думаю, будзе работа... Рашыў спярша пагаварыць з моладдзю, пазнаёміцца, хто што думае. Спачатку ў клуб заглянуў — на дзвярах замок. Стрэў траіх хлопцаў. «Як справы?» Тыя махнулі рукамі — дрэнь! А тут якраз на пакос ішлі фурманкі. Хлопцы, дзяўчаты з песнямі ехалі на сенажаць. «Прымеце мяне?» «Калі ласка!» З моладдзю да вечара папрацаваў на лузе. Пагаварылі і пра вечарынкі, і пра клуб, наогул пра жыццё-быццё... «Дык вы, мусіць, з райкома?» — пацікавіліся дзяўчаты. Я прызнаўся, што з райкома. Увечары вярнуліся, і я на калгасным двары сабраў камсамольцаў. І адразу ім — дакладзік пра слаўны шлях камсамола. Тут стрэўся і са старшынёю. Запрасілі гарманіста. Напісалі аб'яву, каб заўтра сабраліся ў клуб на камсамольскі сход.

— Быў я там два дні, хлопчыкі, — Васіль ужо сядзеў на канапцы і крадком назіраў за тым, як рэагуе на яго расказ Казік. — Прыйшоў у клуб і разгубіўся: поўна людзей. Думаў сабе, можа за якога міністра мяне прынялі. Прыйшоў на сход і парторг. Выбралі прэзідыум. Адным словам, сход прайшоў удала. Потым пагулялі, патанцавалі. Як ад'язджаў, моладзь крычала: часцей прыязджайце!

Сакратар падхапіўся, прайшоўся сюды-туды па пакоі, падмаргнуў Казіку, які старанна нешта занатоўваў сабе ў запісную кніжачку, і весела сказаў:

— Ясна, Казік?

— Ясна, Васіль Міхайлавіч.

— Вось гэта і добра, што ясна.

## 2

Увішны «ІЖ» імчыць па шырокай, каляістай дарозе. Як ні стараецца Васіль пацэліць па накату, пракладзенаму шынамі аўтамашын, але яму гэта не заўсёды ўдаецца: матацыкл грукоча, падскаквае на вялізных камлыгах, нібы наравісты конь. Васіль вінавата азіраецца і ўсё прыбаўляе ходу.

Раскручваецца няроўная стужка дарогі, скачуць упрысядкі чубатыя таполі, перад вачамі мільгаюць зялёныя палеткі, а з бяздоннага сіняга неба ласкава ўсміхаецца шчодрае сонца. Надоечы прайшоў цёплы майскі лівень, і на дарогах улёгся пыл, абмыліся травы, заіскрыліся толькі што засеяныя палі.

— Як лёгка дыхаецца! — Васіль выпростваецца, падстаўляе загарэлы твар стрэчнаму ветру і гучна, каб мне было чутно, крычыць: — І які гэта дзівак не любіць хуткай язды!..

І зноў прыбаўляе хуткасць, аж вецер свішча ў вушах.

— Вось і Вяляцін, — прытармазіўшы на ціхай вясковай вуліцы, сказаў Васіль. — Заедзем да калгаснага камсорга Кардаша.

— Паўла няма, — крыкнула на панадворку пажылая гаспадыня. — Як паехаў з раніцы некуды, дык і дагэтуль няма...

Праз якіх хвілін пяць Васіль ужо збегаў у кантору, даведаўся, што сход маецца быць увечары, а цяпер ёсць магчымасць пабываць на кашары — туды ідзе спадарожны грузавік па малако.

— Якраз дарэчы, — загарэўся Васіль, — і гутарку там з даяркамі правяду...

Хойнікі — такі раён, дзе вельмі ўдала спалучаецца роўнядзь чыстых, без аніводнага кусціка палёў з прыгожымі цяністымі барамі і шумлівымі гаямі-пералескамі. Яшчэ колькі хвілін мы ехалі полем, а цяпер грузавік віхляе па вузкай баравой дарозе, падскаквае на вышмараваных карэннях. Над галавою — стромкія сосны на моцных вяршынях узнялі сіні міткаль неба, там-сям на дарогу выбягаюць сёстры-бярозкі ў блішчастых зялёных абновах, а з гушчарніку задзірыста выглядаюць падлеткі-дубкі, прывітальна памахваючы тапырыстымі галінамі. Паветра густое, настоенае на смале-жывіцы, такое духмянае, хоць пі яго набгом!..

Мінулі ўжо дзве кашары, а шафёр, маўклівы хлопец-прыгажун, усё націскае, удала абмінаючы хвойкі і сасонкі, якія, нібы гарэзніцы-дзяўчаты, выскакваюць на самую дарогу, каб пахваліцца сваёй прыгажосцю.

— Наша ў Асаўцы, на паляне, — заўважыўшы нашу нецярплівасць, гаворыць чарнавокая дзяўчына-заатэхнік Ніна Чэркас. — Але спачатку заедзем у лагер. — Гэта трошкі збоч, паглядзім, як там цялушкі гадуюцца...

— Толькі хутчэй, бо нам яшчэ малако на завод трэба адвезці, — непакоіцца возчык, загарэлы кірпаносы хлопец у выцвілай салдацкай пілотцы.

— Нічога, паспееце. Спярша з цялушкамі пабачымся, — дадае другая дзяўчына, што стаіць побач з Нінай у кузаве. Гэта ветфельчар Ніна Пігулеўская.

Васіль паспеў пазнаёміцца ўжо з дзяўчатамі. Яны маладыя спецыялісты, камсамолкі, нядаўна прыехалі ў калгас на працу і ўжо ўключыліся ў камсамольскае жыццё, запісаліся ў хор, але яшчэ на сцэне не выступалі. Ён дазнаўся, што як выгналі статак на кашару, зменшылася малако. Прычына, напэўна, тая, што пастухі іншы раз заспяць, ды і з падкормкай перабоі здараюцца.

Грузавік апошні раз грымнуў парожнімі бідонамі, высока падскочылі седакі ў кузаве, хапаючыся адзін за другога, з кабіны паказалася чарнявая галава шафёра:

— Станцыя Беразайка! Прыехалі!

Насустрач беглі загарэлыя, узрадаваныя дзяўчаты. Ззаду іх клыпаў куртаты хлопец у расхрыстаным пінжаку і шапцы набакір, з-пад якой ва ўсе бакі тырчалі доўгія саламянага колеру валасы. Дабрадушна ўсміхаючыся, хлопец пачаў распараджацца, куды ставіць бідоны, і сам завіхаўся з дзяўчатамі.

Пакуль ішла пагрузка, Васіль пабываў у хатцы, дзе жывуць маладыя жывёлаводы, прагледзеў кніжкі, якія стосам ляжалі на стале, у думках пахваліў дзяўчат за тое, што яны насцеж расчынілі вокны і вынеслі на сонца ўсе сеннікі і чамаданы. Вачамі прабег спіс, які вісеў на сцяне. Можа ён і не ведае гэтых людзей, але, як толькі прыйшлі дзяўчаты і талакой акружылі сакратара райкома, ён з імі пачаў размову, нібы са старымі знаёмымі.

— Ну, як жывеш, Волька? — звяртаўся Васіль да адной з дзяўчат і тут жа гаварыў ёй, што трэба падцягнуцца, бо ўжо каторы дзень Вольку абганяе Марыля Валочка. Марыля бянтэжылася, перастаўляла то на адно, то на другое месца на стале букет чаромхі і з падробленай крыўдай у голасе старалася выручыць сяброўку:

— А можа Волька і болей за мяне надойвае, адкуль вы ведаеце?

— Го, адкуль? — весела ўсклікнуў Васіль. — Ведаю. Сарока на хвасце прынесла!..

Усе засмяяліся. Падышоў той хлопец з саламяным чубам — гэта «дзявочы начальнік» брыгадзір Васіль Лобан.





На ферме калгаса «Ленінскі шлях» Васіль Гапоненка сустрэўся з даяркамі.

— Што, таварыш сакратар, хіба якую бяседку правядзем?

— Можна, — сакратар характэрным жэстам абедзвюх рук прыгладзіў густыя чорныя валасы і прысеў на маленькі ўслончык, з якім дзяўчаты звычайна ходзяць даіць кароў. — Але з прэзідыумам ці без?

— Пастухоў нашых у прэзідыум трэба, — пачуліся злаславыя галасы. — Асабліва нашага Гардзейчыка!..

— Давайце яго першага, каб зноў у прымы не даў цягу! — з'едліва кінула высокая дзяўчына ў малінавым світары.

Сакратар быў задаволены такім пачаткам. Было прыемна, што так хутка ўдалося выклікаць дзяўчат на шчырую размову. Тыя выказалі свае прэтэнзіі да калгаснага начальства, але і самі прызналіся, што не ўсё зрабілі, каб ракою ішло вялікае малако другога года сямігодкі.

Гутарачы, Васіль дастаў з кішэні сваю кніжку ў рудой вокладцы, якую ён жартам назваў камсамольскай спадарожніцай, і ледзь паспяваў запісваць, што прапаноўвалі дзяўчаты.

— Нам спортпляцоўка патрэбна! — гаварыла сінявокая Галя Краўчанка. — Не глядзіце, што ў нас хлопцаў на кашары мала, а каманда будзе вунь якая!..

— Газеты на кашару рэдка прывозяць, — дадавала ціхманая Таня Шчэрба.

— Пастараемся памагчы вам, дзяўчаткі, — запэўніў моладзь сакратар. — Але і самім трэба быць жвавейшымі, каб не сумавала кашара...

Адразу ж вызначылі адказнага за выпуск «баявога лістка», разам з групкамсоргам Ганнай Кардаш накідалі план работы. Дзяўчаты паабяцалі, што не адстануць ад іншых ферм, рашылі перасягнуць рубеж, вызначаны на бягучы год. Лічба 2 500, за якую яны змагаюцца, будзе дасягнута.

На развілцы лясных дарог давялося чакаць звароту чарговай машыны, што пайшла на кашару. Мы разлегліся на мяккай шаўкавістай траве пад лапатлівай бярозкай, і Васіль доўгі час маўчаў,

летуценна пазіраючы ў бездань летняга неба.

І вось ён ужо нечакана падхапіўся, як звычайна, аберуч прыгладзіў бліпчастыя валасы, задумліва прыжмурыў жвавыя з хітрынкай вочы.

— Вось вы кажаце пра аганёк у рабоце, — горача загаварыў Васіль, нібы збіраючыся рынуцца на кагосьці ў атаку. — А які ён, гэты аганёк, у чым ён? Вось у нас ёсць у райкоме Валодзя Шагавік, другім сакратаром працуе. Пісьменны хлопец. Як і я, вучыцца завочна ў сельскагаспадарчай акадэміі, іншы раз ініцыятыву ўмее праявіць. Ён узяўся за дружыну і стварыў яе. Некалі ў Хойніках не было ні аднаго вечара без прыкрых здарэнняў. А цяпер — парадак і на вечарах, і на танцпляцоўках. І ў камсамольскую арганізацыю, калі паедзе, зробіць усё, што даручаць. Але, я думаю, гэтага мала, трэба самому ўвесь час гарэць, непакоіцца, хвалявацьца, шукаць, думаць... І самае, я думаю, галоўнае — любіць і верыць у тое, што робіш, да чаго заклікаеш іншых...

— Я вам скажу, — Васіль падхапіўся, сарваў лісток з бярозкі і пачаў разглядаць, як нейкае дзіва. Потым зноў сеў, скамечыў лісток, памаўчаў, задумаўшыся. — Я хачу сказаць, калі камсамольскі работнік дакладвае: «У мяне працоўны дзень скончыўся» і ідзе дахаты, — гэта не камсамольскі работнік. Вось, скажам, заўтра субота — кароткі дзень, а потым нядзеля — выхадны. У нядзелю, скажам, у нас камсамольскае свята будзе. І калі я не паеду, — які пасля гэтага з мяне, чорт пабяры, будзе сакратар!..

У руках Васіля апынулася знаёмая рудая кніжачка. Памахваючы ёю, Васіль прадаўжаў:

— Вось прыехаў я ў Вяляцін, у калгас «Бальшавік», сход камсамольскі правесці. Мы думаем узняць вяляцінскіх камсамольцаў, каб яны выступілі з пачынам аб пераходзе клубаў на самаабслугоўванне. Дык я загадзя прадумаў гэта ўсё, пагутарыў з камсоргам, з загадчыкам клуба, з сакратаром партыйнай арганізацыі. Парторг выступіць з дакладам, раскажа, як працуе моладзь, як камсамольцы выконваюць свае сацыялістычныя абавязацельствы. Гэта ў нас цяпер тое важнае звяно, за якое мы бяромся. Кожны камсамолец вызначыў сваё месца ў барацьбе за сямігодку, і наша задача — памагчы яму не збіцца з нагі, падбадзёрваць адстаўшых, заахвочваць перадавікоў. Вось адзін толькі прыклад. Летась у раёне дзевяноста камсамольска-маладзёжных звеняў вырошчвалі кукурузу. Моладзь добра папрацавала, па 505 цэнтнераў зялёнай масы вырасціла на кожным гектары. І побач працавала 11 трактарных агрэгатаў. Яны вырасцілі большы ўраджай, а сабекошт кукурузы ў іх у некалькі разоў ніжэйшы.

Мы ў райкоме задумаліся, як бы гэта ва ўсіх калгасах стварыць маладзёжныя трактарныя брыгады і каб яны ўсю кукурузу вырошчвалі механізаваным спосабам. Параіліся з райкомам партыі, нас падтрымалі. Перад сяўбой яшчэ пабывалі ва ўсіх калгасах, падабралі добрых хлопцаў-трактарыстаў, правялі з імі заняткі, выпрацавалі ўмовы спаборніцтва, памаглі заключыць сацыялістычныя дагаворы, і за справу. На сяўбе спаборнічаюць сёлета 20 трактарных агрэгатаў, іх узначальваюць лепшыя камсамольцы. Нашы трактарысты-гвардзейцы Аляксей Міхаленка і Уладзімір Кот трымаюць лінію на 1 100 цэнтнераў зялёнай масы з пачаткамі. Яны апрацоўваюць па сто гектараў. Для пераможцаў устанавілі пераходныя вымпелы і прэміі.

— Такую «місію» мы правялі, — жартаўліва сказаў Васіль і насцярожыў вуха. — Ідзе машына. Едзем. — І, ужо стоячы ў кузаве, паўтарыў: — Правялі такую работу, а цяпер сочым, як ідзе выкананне!

... Позна ўначы Васіль крочыў са сходу і не хаваў свайго задавальнення: справа зроблена. Камсамольцы калгаса «Бальшавік» блізка да сэрца прынялі прапанову аб пераходзе клубаў на сваё абслугоўванне; руплівa гаварылі пра сваю працу на палях і на фермах, заўзята крытыкавалі загадчыка клуба ў Вяляціне Васіля Гардзейчыка. Усе дружна пляскалі, калі камсамолец Кечык сказаў: «Цяпер у нас будзе сваё абслугоўванне і Гардзейчык павінен задумацца: працаваць так далей, як ён працаваў дагэтуль, нельга. Мы можам абысціся і без яго».

— Моладзь з усімі задачамі спраўляецца нядрэнна, — гаварыў групкамсорг Уладзімір Здор, — а хіба нам старшыня не знойдзе грошай на мяч і сетку? Потым пра клубы. У нас іх тры, а парадку няма. Бруд, смецце па калена. Мы папрацуем ад душы і зробім так, каб былі ў нас і валейбол, і танцавальная пляцоўка, і ў клубе чысціня. Мы можам гэта зрабіць сваімі сіламі, толькі накірунак нам добры дайце, падтрымка каб была ад кіраўнікоў калгаса, ад партыйнай арганізацыі.

Выводзячы з варот на вуліцу матацыкл, Васіль думаў пра тое, што Паўлу Кардашу не пад сілу кіраваць такой буйной камсамольскай арганізацыяй. У яго ёсць старанне, але ў летні час ён круглыя суткі на трактары.

— А актыў, члены камітэта?

— На тое і шчупак у рацэ, каб карась не драмаў, — пажартаваў Васіль і разважліва дадаў: — Каб згуртаваць добры актыў, трэба важаку як мае быць варушыцца. Лягчэй загадваць, калі сам наперадзе!..

Весела завуркатаў матор, і вялізнае лупатае вока матацыкла выхапіла з парнага цемрыва ружаваты каснічок дарогі. Зашасталі, заварушыліся прыдарожныя цені. З палёў бруілася пахучая свежасць. Была ўжо другая гадзіна ночы, калі мы ўз'ехалі на брук раённага гарадка.

## 3

Неспакойная, нялёгкая пасада ў сакратара райкома. Яго працу не змерыш ніякай меркаю, не ўцісне ні ў якія рамкі. І таму, хто глядзіць на яе як на звычайны вытворчы занятак, каб толькі зарабляць «на хлеб» ды наматваць стужку стажу, можна загадзя сказаць: не чакай, браце, душэўнай асалоды, не заваяваць табе сапраўднага, шчырага даверу людзей. Не ўсюды цябе раскусяць адразу, мажліва, табе ўдасца і надзейна схавацца пад прыгожай маскай, удала іграць ролю кіраўніка-дабрачынца, свайго хлопца-дэмакрата, але ведай: калі не гарыш ты той справай, якая наканавана табе жыццём, калі не аддаеш ёй гарачыню сваёй душы, то рана ці позна настане расчараванне, людзі даведаюцца, што ты прытвора, а не працаўнік-творца.

У грамадскай працы, у абыходжанні з людзьмі вельмі важна тваё сумленне, твая шчырасць і тваё прызванне. «Любоў горш за няволю», — гаворыць народная прыказка. У ёй — вялікі сэнс.

... Васіль Гапоненка надумаў быў з раніцы паехаць у калгас «Кастрычнік», пабываць у трактарыстаў, бо хутка трэба будзе падводзіць вынікі спаборніцтва, але зайшоў у райком, і безліч спраў — вялікіх і дробязных — запаланілі яго. Пайшлі наведвальнікі, пачуліся тэлефонныя званкі, адным словам, не паспееш зрабіць адно, як на чарзе — другое.

На сваім рабочым месцы ўжо быў Уладзімір Шагавік, другі сакратар. Уладзімір сціпла адказаў на прывітанне і апусціў у паперы стомленыя вочы.

— А ты, Валодзя, хіба не ў калгасе? — спытаў Васіль, сеўшы за свой стол.

— Разумееш... пазванілі тады ж з першай школы. — Шагавік налёг грудзьмі на стальніцу, пачціва выцягнуў шыю. — У школе будзе сход, дык я ўжо лепей сюды схаджу...

— А, канешне, разумею, маладая жонка не хоча адпускаць, — пажартаваў Васіль.

— Ды не, спісы ж тыя трэба...

— Зноў спісы, — нахмурыўся Васіль. У гэты час зазваніў тэлефон. Сакратар узяў трубку і, паклікаўшы Шагавіка, са словамі «з абкома» — перадаў яму.

Шагавік крычаў у трубку, што райком ужо пасылаў спісы.

апраўдваўся ў нечым, але ўрэшце здаўся:

— Добра. Прышлём,— і чырвоны, злосны сеў за стол. Потым устаў, патаптаўся на месцы з хвіліну і некаму пагражальна кінуў: — Ну, няхай трымаюцца. З мяне патрабуюць, дык і я скуру злуплю!..

— Мы ж пасылалі спісы ў абком, — стараючыся супакоіць Шагавіка, сказаў Васіль. — Што ім яшчэ трэба?

— Зноў накрычалі. Сказалі, калі не прышлём, дык выклічуць на бюро, — і Шагавік павольна пайшоў да тэлефона.

— Так, шмат патрабуюць з абкома ўсякіх паперак і звестак, — задумліва прагаварыў Васіль, гартаючы сваю кніжку-спадарожніцу. — Іншы раз столькі, што не ведаеш, за што спачатку ўзяцца. Не паспееш даць адно, як падавай другое. Ды бывае так: сёння нядзеля, а ў панядзелак давай дадзеныя. Удумайцеся, слова якое — «дадзеныя»! Значыцца, невядома, рэальныя ці не, абы дадзеныя. Я памятаю, было раней, каб не абы якія дадзеныя былі, а багатыя, салідныя лічбы. «Што ты мне, — гаворыць, — даеш не лічбы, а сарамаццё нейкае. Вунь з Рэчыцы ці з Рагачова перадалі — «гэта дадзеныя!» І хоць крычы, дасі рэальную лічбу — цябе б'юць, мяшаюць з гразёю. Дасі «харошую» лічбу — парадак, спакойнае жыццё. Але я раз і назаўсёды адмовіўся ад дутых лічбаў. — Васіль узняўся, строга бліснуў цёмнымі вачмі. — Няхай лепш аблаюць, але даём толькі тое, што ў нас ёсць, толькі рэальныя лічбы!..

А Шагавік ужо натужна крычаў у трубку:

— Алё! Судкова? Перадай Лёню Новіку, каб заўтра прыслаў спісы маладых жывёлаводаў-камсамольцаў, уключна да дваццаці васьмі год. Што, пасылалі? Нічога не ведаю. Калі спісаў не будзе, то прыязджай на бюро, будзем разбірацца...

Праз колькі хвілін такая ж тэлефанаграма ляцела ў калгас «Шлях сацыялізма». Васіль слухаў усё гэта, а потым падышоў да Шагавіка:

— Таварыш дарагі, Валодзя, — сказаў ён з дакорам. — Вось спісы з гэтага калгаса, тыдзень таму назад прыслалі, — і ён працягнуў Шагавіку лісткі спісанай паперы.

— А я адкуль ведаю, — пакрыўджана кінуў Шагавік, а потым падбадзёрыўся. — Гэтыя ўжо ўстарэлі. Трэба новыя...

Між іншым, і на наступны дзень у тэлефонную трубку ўсё яшчэ грымеў сваім прастуджаным голасам Шагавік, патрабуючы з калгасаў тыя злашчасныя спісы, якіх так настойліва дамагаліся з абкома камсамола. І ў гэты дзень не абышлося без прыгод, якія лішні раз сцвярджаюць, што райкомаўцы яшчэ шмат робяць дробязнай непатрэбшчыны, трацячы на яе каштоўны час і сілу.

У пакой завітаў доўгі вяснушчаты хлопец, зняў з плячэй дарожную сумку, прысеў на канапцы, азіраючыся навокал, магчыма збіраючыся з думкамі. Але яму не даў аномацца Шагавік.

— А спісы прынёс, Міша?

— Прынёс,— адказаў хлопец і дастаў з сумкі складзены напал школьны сшытак.

— О, дык гэта ж не ўсё тут, — расчаравана прамовіў Шагавік, узіраючыся ў радкі. — Ты ўнёс сюды толькі тых, хто пайшоў на фермы вясной, а трэба ўсіх, уключна да дваццаці васьмі год...

— Дык пра тых я перадаваў раней,— няўцямна пацісну́ў плячамі хлопец.

— Хопіць табе ўжо, Валодзя, ты ўсё са сваімі спісамі... Трэба больш займацца жывымі людзьмі, — сур'ёзна сказаў Васіль і падсеў бліжэй да хлопца. — Міша, раскажы, як там у вас у «Кастрычніку» кукурузу пасеялі?

— Ужо скончылі, Васіль Міхайлавіч, — ажывіўся хлопец (гэта быў Міхаіл Карнакоў, сакратар перадавой у раёне камсамольскай арганізацыі калгаса «Кастрычнік»). — Валодзя Кот з двума напарнікамі сто семдзесят гектараў пасеяў. Гэта ж не жартачкі: утраіх усё пасеялі! А летась рабілі аж шэсць звенняў. Вось што азначае механізацыя!

— А наконт сцяга як? Утрымаеце? — спытаў сакратар райкома і дадаў: — Ведай, браток, што той пераходны сцяг ЦК ЛКСМБ і Міністэрства сельскай гаспадаркі, які вы летась заваявалі, сёлета будзе цяжэй утрымаць: за першынство змагаюцца тысячы маладзёжных механізаваных агрэгатаў. — Васіль адчыніў шуфлядку і падаў камсоргу ёмкую кніжку, на якой золатам было напісана: «Спадарожнік камсамольскага актывіста. Запісная кніжка». — Вось, Міша, калі будзеш у Гомелі, не пашкадуй пяцерыка — купі сабе такую кніжку, вельмі каштоўная рэч!

Карнакоў доўга трымаў у руках кніжку, старанна пагартаў яе і, вяртаючы, даверліва сказаў:

— Куплю. Абавязкова куплю. Ну, а наконт сцяга... Утрымаем!..

Спакойны, здавалася, застылы твар Мішы Карнакова ажывіўся, прасвятлеў, ярчэй акрэсліліся на абветраных шчоках вяснушкі, а вялікія блакітныя вочы засвяціліся чыстай яснай сінявой.

— Тады пажадаем удачы, — Васіль з усяго маху пацісну́ў руку Карнакову.

— Дзяўчаты прыехалі на бюро, — нечакана пачуўся з дзвярэй бадзёры голас, і ўсе ўзнялі галовы: на парозе стаяў запылены Казік Зінукоў, упіраючыся ледзь не ў самую столь кучаравай галавой і шырока ўсміхаючыся. — Будзем прымаць?

— Будзем. А як жа! — Васіль абцягнуў пінжак, папраўвіў камсамольскі значок і пачаў збіраць са стала паперы. — Паклічце членаў бюро...

Прыём у камсамол... Хто не памятае гэтага незабыўнага, хвалюючага моманту! Юнак ці дзяўчына, становячыся камсамольцам, як бы дае сабе зарок: заўсёды ісці з тымі, хто моцны і смелы душою, хто не шкадуе свайго маладога жыцця для сваёй сацыялістычнай Радзімы, дзеля шчасця свайго народа.

У райком зайшла танклявая, светлавалосая дзяўчынка. Прывіталася. Села на краёк крэсла. Стараецца схаваць сваё хваляванне, але яе выдаюць шчокі — палаюць макавым цветам; трымціць рука, хапаецца за ражок хусцінкі, што крылом чырванапёрай птушкі спадае з плячэй.



**На кукурузных палетках калгаса «Бальшавіцкая перамога» сакратар райкома Васіль Гапоненка гутарыць з механізатарамі Валянцінам Прыходзькам** (злева) **і Мікалаем Кудрыцкім.**

Фота П. Белавуса.

— Казімірчук Таня, 1943 года нараджэння, калгасніца, адукацыя — сем класаў, — чытае Таніну анкету інструктар райкома. — Рэкамендацыя члена КПСС, калгаснага брыгадзіра Мікалая Якаўлевіча Петуха.

Дзяўчына ўстала, чакаючы пытанняў.

— Статут ВЛКСМ чытала, Таня? — пытае сакратар райкома.

— Чытала...

— Раскажы, што такое ВЛКСМ, хто прымаецца ў члены камсамола?

Таня, цярэбячы ражок хусцінкі, адказвае:

— Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз... У камсамол прымаецца перадавая, баявая наша моладзь!..

— А ведаеш, Таня, на які ўчастак цяпер накіроўваюць лепшых вясковых камсамольцаў? — чуецца новае пытанне.

— На фермы, — выгуквае Таня і цішэй: — І я пайшла б у даяркі, каб прынялі, але гавораць, што яшчэ малая...

— Якія прапановы будуць?

— Зацвердзіць!

— Вось, Таня, — устае з-за стала сакратар райкома, — прымаем цябе ў члены ВЛКСМ. Спадзяемся, што апраўдаеш высокае званне члена Ленінскага камсамола!..

— Апраўдаю!

Заходзяць Ліда Бяспалая, Валя Дземідзенка, Ганна Лушч, Ліда Атаман, Надзя Сівая — шэсць дзяўчат з адной брыгады калгаса «Шлях да камунізма».

Васіль паціскае ім рукі, уручае чырвоныя кніжачкі з сілуэтам роднага Ільіча на вокладцы. Віншуе навічкоў-камсамольцаў, і знаёмае, перажытае некалі самім хваляванне напаўняе яго сэрца. І яму вось так некалі, у гэтым жа райкоме, уручалі камсамольскі білет, з якім ён прайшоў сваё юнацтва.

Хто ў юнацтве вось гэтак, як гэтыя дзяўчаткі з далёкай лясной вёскі, стаяў перад сталом, засланым чырвоным абрусам, і, хвалюючыся, расказваў сваю біяграфію, — той назаўсёды ў душы зберажэ агонь маладосці, не збочыць з дарогі, якую праклалі яго неспакойныя папярэднікі.

---

З маляўнічай Барысаўшчыны са свята песні і працы мы прыехалі пад вечар. Дамовіліся сустрэцца ў гасцініцы, пагаварыць на развітанне, бо мая камандзіроўка канчалася.

Васіль прыйшоў пасвяжэлы, у добрым настроі. Ён яшчэ больш загарэў, драбнаваты асмужаны твар свяціўся задавальненнем, у цёмнакарых вачах цяплілася даверлівасць.

Доўга застанецца ў памяці тая наша сустрэча. Ніхто нам не перашкаджаў, калі не лічыць рэпрадуктара на сцяне ў светлым пакойчыку, але і адтуль лілася чароўная музыка, і нам было прыемна гутарыць. Пра што толькі мы не перагаварылі: і пра Васілёву нялёгкую і патрэбную працу, і пра яго сяброў-паплечнікаў, з якімі ён ідзе ў адным страі, і пра мір на зямлі, за які так адважна змагаюцца лепшыя людзі чалавецтва.

Кажуць, што з чалавекам трэба пуд солі з'есці, каб ён раскрыў сваю душу. З Васілём мы, канешне, пуда солі не з'елі, але ўдосталь пахадзілі па вёсках, пабывалі на камсамольскіх сходах, а гэта ўжо нямала.

Васілю пайшоў дваццаць сёмы год. У яго ўжо ёсць сынок. «Дзедава імя яму даў, — задумліва разважае Васіль. — Міхасём назваў. Мой бацька загінуў недзе пад Берлінам у мінулую вайну. Дык няхай жыве аб бацьку памяць у маім сыне...»

Здаецца, было перагаворана ўсё, але адчувалася, што яшчэ не ўсё дасказана.

— Васіль Міхайлавіч, кім вы марылі стаць у маленстве?

— Кім марыў быць? — перахапіў Васіль і ў нерашучасці завагаўся, задумаўся аб нечым. Потым нейкім не сваім голасам выдыхну: — Мастаком збіраўся стаць або паэтам. Не верыце?

І Васіль неяк рыўком, зухавата паправіў папружку:

— Калі ўжо раскрывацца, дык да канца! Я зараз... Адну хвілінку, — і ён умомант знік з пакоя.

Праз хвілін дзесяць Васіль паказваў сваю творчасць: альбом малюнкаў, якія ён рабіў у школе і на вайсковай службе. Там былі і пейзажы роднага Палесся, але большасць малюнкаў — гэта партрэты любімых пісьменнікаў, вучоных. Вось Лермантаў, намаляваны па памяці пасля прагляду кінафільма, а гэта партрэт Пушкіна, а гэта — Дабралюбаў, Горкі... Канешне, малюнкі недасканалыя, але ў іх бачна часцінка душы аўтара. Не выпадкова, што на вокладцы альбома надпіс: «Юныя гады — лепшым людзям».

Адклаўшы ўбок альбом, Васіль зноў на момант задумаўся: «Паказаць ці не?.. Зноў змагаюцца ў ім сарамлівасць і шчырасць. Нейкі момант павагаўшыся, Васіль рашуча дастае з-пад папружкі тоўсты школьны сшытак у цыратавай вокладцы.

— Я вам сёе-тое пачытаю...

Вершы пра каханне, чыстае і свежае, як светлы маёвы ранак. Вершы пра падзеі, што хвалявалі і хвалююць усіх сумленных людзей: пра Маноліса Глезаса, пра імперыялістаў, што напалі на Карэю, пра дружбу рускіх і кітайцаў... Думкі, запісы... Роздум над сваім жыццём, над лёсам чалавека. З усяго гэтага яскрава паўстае юнак з чыстай, адкрытай душою. Юнак, які ведае, хто яго выхаваў, куды яму ісці: «Я веру ў сваю будучыню, яна належыць мне таксама, як і ўсяму нашаму народу».

Сшытак гэты, відаць, даўно не гартаўся, папера пажоўкла, зляжалася.

— Бывала, — прызнаецца Васіль, — у маёй пастуховай торбачцы разам з полуднем звычайна ляжалі кніжка і вось гэты сшытак... Сядзіш сабе дзе-небудзь на курганку пад дубком і марыш...

У адным з юнацкіх вершаў Васіль пытаўся сам у сябе: «Исполню ль я песню такую, которая увидела б свет?»

Хочацца абнадзеіць маладога чалавека, які некалі выйшаў у сваю дарогу з ясным жаданнем — аддана служыць людзям, сваёй сацыялістычнай маці-Айчыне, — так, хлопча, твая песня прагучыць на поўную сілу, бо ты знайшоў сваё прызванне і шчыра аддаеш людзям усю гарачыню сваёй маладой, чыстай душы.

* * *

Лагодна перастукваюцца колы цягніка, ціха пакалыхваецца вагон. То заціхаюць, то набіраюць сілу дарожныя размовы. Прыслухоўваешся да іх і ўлаўліваеш знаёмыя ноткі роздуму пра сваіх дзяцей, пра іх лёс. «Вось некалі мы маладыя і нагараваліся, і напрацаваліся... Мы, брат, калгас зачыналі, з кулакамі ваявалі... А што цяпер маладыя: ім усё ясна, у іх няма ніякіх клопатаў...»

Ці ж так гэта?

Не зусім так... Пакаленні, нібы хвалі быстраплыннай ракі, змяняюць адно другое. Старыя, нажыўшы сабе змену, перадаюць ёй сваю жыццёвую эстафету, сваю мудрасць, і бясконцая рака жыцця паўнее, вірыць бурлівымі хвалямі. Толькі скептык і эгаіст не можа бачыць, як з кожным годам расце і гартуецца ў штодзённых буднях жыцця наша моладзь і якая адказнасць кладзецца на яе плечы.

Маладым сучаснікам завяшчаецца бацькоўская мара аб нашай светлай будучыні. І яны здзейсняць яе, бо ў іх арлінае, падараванае Леніным імя — камсамольцы.

# СВАІМІ РУКАМІ

Адразу ж за школай расцягнуўся ў даўжыню белы будынак з мноствам квадратных вокнаў, у шыбах якіх свавольна гулялі сонечныя зайчыкі. Над чырвоным дахам густа звісала зялёнае вецце дрэў, што блізка падступалі да камяністай сцяны.

— Вось ён, наш школьны завод, — у кутках губ Феакціста Якаўлевіча Малышава застыла на хвілінку ледзь улоўная ўсмешка задаволенасці. Ён з юначай зухаватасцю правёў рукою па твары, сцёр дробненькія гарошынкі поту і, хітравата прыжмурыўшыся, сказаў: — Толькі не падумайце, што мы тут на ўсю моц прадукцыю выпускаем. Не ў гэтым, ведаеце, галоўнае. Важна навучыць дзяцей правільна валодаць напільнікам, рубанкам, станком, прывучыць іх да працы.

Феакціст Якаўлевіч адчыніў дзверы і таропка закрочыў да

сцяны, дзе на стэндзе акуратна віселі разнастайныя вырабы — лобзікі для вырэзвання, палічкі, рыхліцелі для праполкі, кельмы... З замілаваннем разглядаеш гэтыя цудоўныя рэчы, і проста неяк не верыцца, што зрабілі ўсё гэта дзеці, якім толькі па 11—14 год.

Праз які час слясарна-механічную і сталярную майстэрні запоўнілі жвавыя хлопчыкі і больш стрыманыя дзяўчынкі. І неўзабаве іх звонкія галасы сціхаюць і толькі чуваць, як лязгаюць ручкі ціскоў, шоргаюць напільнікі, стукаюць аб сухія смалістыя дошкі рубанкі ды манатонна гудуць такарныя і свідравальныя станкі...

Калі бліжэй пазнаёмішся з гэтымі цікаўнымі да ўсяго хлопчыкамі і дзяўчынкамі, міжволі здзівішся іх настойлівасці ў працы, іх жаданню распазнаць таямніцы невядомага...

## Гісторыя аднаго вынаходніцтва

Ужо каторы дзень Валодзя Матусевіч ходзіць у задуменні. Неяк у магазіне ён убачыў лобзік для вырэзвання. Можа цэлую гадзіну круціўся хлопчык каля прылаўка, усё прыглядаўся да таго лобзіка. Ужо хацеў быў купіць, але падумаў: а што тады скажа Іван Гаўрылавіч ды і ўсе таварышы... Лепшы слесар у школьнай майстэрні і на табе — купляе лобзік... А няўжо самому зрабіць цяжка?

Усхваляваны, Валодзя адышоў ад прылаўка. А назаўтра на перапынку пабег у майстэрню і — да выкладчыка слясарнай справы Івана Гаўрылавіча Максімовіча:

— Лобзік, Іван Гаўрылавіч, бачыў у магазіне. І які!.. Вось бы нам такія вырабляць...

Настаўнік зняў акуляры і, кончыкам аправы пашкрабаўшы рэдкую сівізну на скронях, усміхнуўся:

— Трэба падумаць... Дай мне, слесар, дзень-два на роздум.

А на чарговых занятках настаўнік і вучань сядзелі разам за невялічкім сталом і вялі жывую гамонку.

— Перш чым узяцца за лобзік, трэба зрабіць вось такое прыстасаванне, — паказаў Іван Гаўрылавіч наспех накіданы чарцёж на адваротным баку плаката. — Без гэтага ніяк не сагнеш дужку для лобзіка. Вось бярыся і зрабі спачатку чарцёж. І дэталі рыхтуй...

Валодзя корпаўся над чарцяжом, кусаючы губы і раз-пораз выціраючы потны лоб. А Іван Гаўрылавіч зрэдку кідаў пільны позірк на чарцёж і задаволена жмурыў вочы.

Валодзя сам рабіў, выточваў і падганяў дэталі для новага прыстасавання. Быццам сталы слесар, біў па зубілу малатком, абсякаючы лішнія кавалкі жалеза. А побач стаяў Іван Гаўрылавіч і ўсё з той жа ўважлівасцю назіраў за вучнем.

— Цішэй трохі, не спяшайся. А то пальцы паадбіваеш.

Але на Валодзевай руцэ ўжо сядзеў пульхны сіняк, а ён, здаецца, і не заўважаў яго.

Падышоў аднакласнік Юрка Марынцаў.

— Што гэта ты тут мудрыеш?

— Не бачыш хіба? Спецыяльнае прыстасаванне. Дужкі для лобзіка будзем гнуць.

— Прыстаса-а-ванне... — узняў вочы Юрка. — І можа скажаш, сам прыдумаў?

— А што ж тут такога, узяў і прыдумаў...

— Глядзі ты — інжынер, — цыркнуў Юрка праз зубы і, падкідваючы на хаду напільнік, лянiва пакрочыў да свайго варштата.

Новае прыстасаванне заняло ў Валодзі не адну гадзіну, і ўсё ж, нарэшце, яно было гатова. Дужкі гнуліся лёгка. Уставіш у адтуліну жалезную палоску, націснеш на ручку-рычаг, і дужка гатова. Цяпер да яе канцоў трэба прымацаваць пілку, набіць ручку і вось табе лобзік!

Першы лобзік Валодзя павесіў на сцяне. Глядзеў на яго доўга, усміхаючыся сам сабе, і адчуваў, як недзе ў душы трапяталася нешта ўсхваляванае, радаснае. Іван Гаўрылавіч падышоў да Валодзі і, кідаючы позірк то на новае прыстасаванне, то на малюнак у часопісе «Політэхнічнае навучанне», сказаў:

— Глядзі ты, як дзве кроплі вады падобны. Акуратна зроблена!

А Юрка тут як тут:

— Я думаў, ты сам выдумаў! А ты — з кніжкі...

Настаўнік правёў рукой па Юркавых шорсткіх віхрах і сказаў:

— Нічога... Прыйдзе час — і вы будзеце самастойна ствараць станкі, машыны, а можа і касмічныя караблі... А цяпер для вас і гэта — выдатна...

## Праблема завесаў

Намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы Міхаіл Парфір'евіч Цюрын збіўся з ног, шукаючы завесаў для парт. Абышоў усе магазіны горада і нідзе іх не знайшоў. Ну, проста, дэфіцыт нейкі. Прыйшоў у школу раззлаваны і адразу — да дырэктара. Аляксандр Піліпавіч Жораў спакойна выслухаў яго і ўсміхнуўся:

— А нашто было хадзіць па гэтых магазінах? Да вучняў звярніцеся — усё зробяць. — І з нейкім гонарам дадаў: — Яны ж сёлета ўсю школьную мэблю рамантаваць будуць, не тое што зрабіць сотню-другую завесаў...

Феакціст Якаўлевіч, загадчык майстэрняў, выслухаўшы Цюрына, развёў рукамі.

— Зрабіць то яны зробяць, ды вось толькі металу малавата.

— Металу, кажаце, няма? — умяшаўся ў размову Алег Карпенка, сакратар камсамольскай арганізацыі школы, які стаяў побач. — Ды мы вам усю майстэрню завалім. Бачылі ж, можа, колькі металалому назбіралі — тон 50 будзе. А там столькі можна выбраць прыгоднага, што ой-ёй-ёй!..

Неўзабаве хлопчыкі і дзяўчынкі нанасілі ў слясарна-механічную майстэрню столькі металу, што дзець не было куды. Іван Гаўрылавіч даў заданне шасцікласнікам Леанідзе Кавалёвай і Валерыку Іванюце падрыхтаваць чарцёж для завесаў. У майстэрні такі парадак: спачатку вычарціць дэталь на паперы, а потым ужо брацца за выраб. Неўзабаве чарцёж ляжаў на стале ў настаўніка — чысты, акуратны. Кожны з дзевятнаццаці вучняў групы высякаў кавалкі металу, старанна загінаў вушкі, кожны з дзевятнаццаці вельмі хацеў, каб яму даручылі самую апошнюю аперацыю — прасвідраваць на станку адтуліны. Дзевятнаццаць пар дапытлівых вачэй цёпла глядзелі на Івана Гаўрылавіча, быццам хацелі сказаць: «Даручыце мне — лепш за ўсіх спраўлюся». І ведаў Іван Гаўрылавіч, што любога пастаў да станка — зробіць як след.

— Ну што ж, — па чарзе. Згода? — і сам першы падышоў да станка.

Глядзіць настаўнік, як спраўна і ўмела завіхаюцца ля станка Анна Саўчанка, Ілля Давыдзенка, Валеры Іванюта, адзін за другім бярэ ў рукі яшчэ цёплыя завесы, круціць у руках — цудоўна. І на душы ў яго цёпла і радасна. Усе дзевятнаццаць адышлі ад станка з такой задаволенасцю, быццам выпілі ў невыносную спёку шклянку сцюдзёнай вады.

А Міхаіл Парфір'евіч на сёмым небе — ёсць каля тысячы завесаў. Толькі адно непакоіць гаспадарлівага чалавека — сёлета школьную мэблю будзе рамантаваць вучнёўская брыгада. Ці зробяць усё як след? Камсамольскі важак школы Алег Карпенка нібы ўгадаў, што непакоіць Міхаіла Парфір'евіча, і сказаў:

— Вось вам і завесы... А хутка за мэблю возьмемся і так адрамантуем, што нават сталяры здзівяцца.

## І муляры і сталяры

Хто падаў такую думку — невядома. Але ўсім — вучням малодшых і старэйшых класаў — яна прыйшлася да спадобы: пабудаваць школьную цяпліцу. Гэта ж цудоўна — на дварэ яшчэ трымаецца зіма, а ў цяпліцы бу-

дуць расці кветкі і свежая гароднiна!

Толькі адно непакоіла ўсіх — дзе ўзяць цэглы? Трэба ж не адзін дзесятак тысяч цаглін! І тут хтосьці знайшоўся:

— Рабяты, вунь побач баракі зносяць — цэглы хоць адбаўляй.

І пайшла камсамолія ды піянерыя па будаўнічы матэрыял. Дватры дні — і на школьным двары з'явілася добрых 70 тысяч цаглін. Хопіць на цяпліцу!

— Ну, цяпер пазычыць бы ў будаўнікоў кельмы — і за справу,— пачуліся гаспадарлівыя ноткі ў тонкім галаску сямікласніцы Ніны Філіпавай.

— Пазычыць, кажаш,— перабіў яе Валеры Зазулінскі.— А самі хіба зрабіць не можам? Няхай толькі Іван Гаўрылавіч...

Беражна, з любоўю і ў той жа час хутка і ўмела працавалі над кельмамі Валеры Зазулінскі і Алег Старажукаў. Здавалася, што яны хочуць укласці ў гэтую работу ўсю сваю душу. Яшчэ б — самі кельмы робяць, самі і працаваць імі будуць! І хочацца, каб яны былі не толькі трывалыя, але і прыгожыя на выгляд. Алег вось ужо некалькі хвілін шліфуе напільнікам рабро кельмы, і яна блішчыць, быццам шкло.

— Хопіць, Алег — падышоў настаўнік,— а то зусім зрэжаш.

— Што вы, Іван Гаўрылавіч, толькі паглядзіце, моц якая...

А праз які час дзве школьныя брыгады падышлі да катлавана, які выкапалі яшчэ раней непадалёку ад школы. Заклалі першыя цагліны. Клалі іх беражліва, з хваляваннем — першыя цаглінкі ў жыцці.

І можа не апошнія. Можа праз некалькі год стануць яны сталымі мулярамі і будуць узводзіць дамы-прыгажуны і з глыбокай павагай прыпомняць сваю родную школу, дзе кволыя дзіцячыя рукі ўпершыню крануліся шурпатых цяжкіх цаглін, а сэрца спазнала радасную асалоду працы.

* * *

Сонца стаіць у зеніце. Гарачыня. Феакціст Якаўлевіч Малышаў, звесіўшы на руку пінжак, млява прысеў на лавачку і прытуліўся да невысокай прыгожай агарожы.

— А гэта таксама нашы выхаванцы зрабілі. У сталярнай майстэрні кожную штакеціну габлявалі, як той аловак вастрылі. А наогул, ведаеце, у дзяцей занадта вялікая цяга да тэхнікі, да працы. Гэта вельмі мудра зрабілі, што так цесна звязалі школу з жыццём. Мудра!

Ён на хвілінку замоўк, быццам нешта перабіраў у памяці, а потым, кінуўшы некуды ўбок хуткі позірк, дадаў:

— А там, на мотавелазаводзе, таксама нашы вучні. Дзевяцікласнікі дык проста ля станка займаюцца. Такую дэталь вытачаць, што залюбуешся. Завод нам у многім дапамагае — і станок далі і інструмент... Што значыць моц добрых шэфаў! Нездарма дырэктар мотавелазавода значком «Выдатнік асветы» ўзнагароджаны... Ёсць за што...

З дзвярэй майстэрні, быццам чародка птушак, выпырхнула група хлопчыкаў і дзяўчынак і, пераскакваючы праз лужы ад начнога дажджу, імкліва панеслася па цяністай алейцы. Лёгкі ветрык варушыў белыя каўнерыкі, і здавалася, што крыллямі махае чародка беласнежных галубоў.

**В. ГУБАРОЎСКІ.**

**г. Мінск, сярэдняя школа № 47.**



*„Маладосць" вядзе рэпартаж...*

# ГАРАЧАЯ СТУДЭНЦКАЯ ПАРА

**Рэпартаж з Беларускага політэхнічнага інстытута**

Фота **В. Бараноўскага.**

У аўдыторыях, у калідорах, як і два, і тры, і шмат год назад, гучаць маладыя, звонкія галасы, мільгаюць то гарэзныя, то задуменныя позіркі...

Адчуванне вечнай маладосці не пакідае вас у гэтых сценах не толькі таму, што тут сапраўды пераважаюць юнакі і дзяўчаты. Сярод студэнтаў можна сустрэць не зусім ужо і маладых, у каго за плячыма даволі багаты працоўны і жыццёвы вопыт. Але той, хто хоча авалодваць ведамі, павінен мець няўрымслівае юнацкае сэрца, дзёрзкасць маладосці, няўтольную прагу пазнаваць нязведаныя таямніцы навукі. Такіх вы і ўбачыце тут у любой аўдыторыі. Такія тут і вучацца. Кожны з іх авалодвае прафесіяй, якая абрана на ўсё жыццё.

У кожнага — свой клопат, свая радасць, свой неспакой. Але ва ўсіх — адно імкненне: набыць як мага больш ведаў, каб стаць у першыя шэрагі будаўнікоў камунізма. Усе яны такія розныя і такія падобныя. Юнакі і дзяўчаты... Камсамольцы... Крылатае племя... Яны дастойна нясуць у будучыню эстафету, атрыманую з рук папярэднікаў, якія са зброяй у руках адстаялі вялікае права марыць, вучыцца, будаваць.

Паглядзіце, якая шчаслівая ўсмешка асвятляе твар Люды Міхейчык! Сяброўкі добра разумеюць і падзяляюць яе радасць: выдатная адзнака ў заліковай кніжцы! Здадзены яшчэ адзін экзамен— «Асновы і фундаменты»... Яшчэ зусім нядаўна гэтыя словы былі для Люды за-







гадкай, якую трэба разгадаць. І вось яна разгадана. Але колькі спатрэбілася для гэтага ўпартай працы! Пройдзе яшчэ адзін год, і Люда атрымае дыплом інжынера-будаўніка. Здзейсніцца яе запаветная мара. І што б ні давялося ёй будаваць — карпусы новага прадпрыемства, палац культуры ці жыллё для працоўных, яна будзе рабіць гэта так, як патрабуе камсамольскае сумленне.

Ужо зусім на парозе самастойнай працы — Ігар Свяцкі. Ён працуе над рэальным праектам спартыўнага павільёна ў Мінску. Гэта — яго дыпломная работа. Юнаку хочацца, каб збудаванне, у якое ён уклаў сваю думку, сваю мару, было дасканалым, прывабным, зручным, каб яно яшчэ больш упрыгожыла беларускую сталіцу.

Над дыпломным праектам працуе таксама студэнтка V курса Іна Раманоўская. Каб падрыхтаваць добры праект, трэба дакладна разлічыць кожную дэталь чарцяжа. Нязначная, здавалася б, памылка на якую-небудзь долю міліметра можа сапсаваць усю справу. Шмат узнікае пытанняў у дыпламантаў. На дапамогу ім прыходзяць старэйшыя таварышы — выкладчыкі, спецыялісты. Вось і Іна зараз кансультуецца ў кандыдата тэхнічных навук дацэнта Я. Г. Пераплётчыкава.

Першакурснікам Іры Лебедзевай, Тамары Залескай, Галіне Шыбалавай і Валянціну Зенберману да дыплома яшчэ далёка. Яны толькі асвойваюць тэадаліт. Але ў душы кожны з іх адчувае сябе ўжо сапраўдным будаўніком.



Са студэнтамі І курса механіка-тэхналагічнага факультэта Уладзімірам Шопалавым і Рыгорам Рафановічам мы пазнаёміліся ў кавальскім цэху завода. Гэта — неразлучныя сябры. Разам займаліся яны ў секцыі лёгкай атлетыкі, разам скончылі тэхнікум, разам прыйшлі на завод. Пасля змены скінуць яны рабочую вопратку, возьмуць кнігі і сядуць за стол у студэнцкай аўдыторыі. Напрацаваўшыся ў цэху, яны прыносяць у аўдыторыю радасную стому натхнёнай працы. Не толькі стому, а і прагу да ведаў. І тут праца ў кавальскім цэху аказвае ім немалую паслугу: абстрактныя формулы, адцягненая тэорыя набываюць рэальны сэнс. Веды, якія набываюць юнакі, па-сапраўднаму трывалыя.





Тэарэтычную вучобу з практычнымі заняткамі спалучаюць і студэнты другога курса хіміка-тэхналагічнага факультэта Галіна Камалава, Іра Язерская, Візоры Таскаеў. Спрытна працуюць яны абцугамі ля распаленай печы. Толькі не ў кузні, а ў лабараторыі аналітычнай хіміі. Прыйшоў у лабараторыю і студэнт Маскоўскага завочнага хіміка-тэхналагічнага інстытута Іван Ефімашка. Ён выконвае самастойна цыкл лабараторных работ. У Івана — дэвіз: 6 год за 4 гады. Свой дэвіз ён паспяхова здзяйсняе. За два гады Ефімашка скончыў тры курсы інстытута.





Часта студэнты прыходзяць на дапамогу адзін аднаму. Цяжкая задача? Нічога. І яна будзе адолена!

Апошнія хвіліны... Хутка і ім здаваць курсавы праект. Пажадаем будучым інжынерам удачы!

Не беларучкамі з дыпломамі прыдуць яны на будаўнічыя пляцоўкі, у цэхі прадпрыемстваў, у лабараторыі даследчых установ. Радзіма чакае высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія аддадуць ёй усе свае веды, усе сілы. Такіх спецыялістаў і рыхтуе інстытут.





# Mums 20 metų

# Meil on seljataga 20 aastat

# Mums 20 gadu

— Нам 20 год! — ускліквае кожная на сваёй мове: літоўка Яніна Паруцітэ, латышка Аусма Путаліс, эстонка Нейда Труу. І хоць кожная з іх пражыла на свеце сапраўды па два дзесяткі гадоў, дзяўчаты маюць на ўвазе зусім не свой дзень нараджэння. Яны маюць шчасце падзяліцца радасцю народаў трох рэспублік, аб'яднаных агульным паняццем Савецкая Прыбалтыка.

Савецкай Прыбалтыцы дваццаць год!

«Маладосць» у Прыбалтыцы мае сваіх сяброў-таварышаў — маладзёжныя часопісы: літоўскі «Яуніма Грятас» («Маладзёжны сцяг»), латышскі «Ліесма» («Полымя») і эстонскі «Ноорус» («Маладосць»). Напярэдадні свята рэдакцыі гэтых часопісаў і памаглі нам арганізаваць рэпартаж аб жыцці рэспублік-юбіляраў.

Мы рушылі ў дарогу...

Пачатак маршруту — старажытны Вільнюс, сталіца Савецкай Літвы.

У Цэнтральным Камітэце ЛКСМ Літвы нам расказалі пра тое, як сустракае рэспубліка свой цудоўны юбілей. Амаль



дзве тысячы брыгад, змен, цэхаў і прадпрыемстваў змагаюцца за званне калектываў камуністычнай працы. Лепшыя з лепшых, больш за дзвесце калектываў заваявалі ўжо гэтае ганаровае званне.

Нас пазнаёмілі з адным з чатырохсот людзей, якія носяць званне ўдарніка камуністычнай працы, з экскаватаршчыкам Акмянскага цэментнага завода Антанасам Габалісам. У Вільнюсе ён быў праездам, па дарозе з Масквы, дзе прымаў удзел на Усесаюзнай нарадзе перадавікоў спаборніцтва брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы. Гэта да Антанаса, як і да ўсіх удзельнікаў нарады і іх таварышаў па спаборніцтву, звяртаўся Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў:

— Вы з'яўляецеся перадавымі людзьмі нашага грамадства. Сваёй працай, сваім прыкладам у жыцці вы адкрываеце новую старонку ў разуменні высокага прызвання савецкага чалавека — будаўніка камуністычнага грамадства.

А калі пад канец нарады быў зачытан Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Антанас Габаліс ледзь перамог хваляванне, якое ахапіла яго. Сярод дзесяткаў найлепшых было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы і літоўскаму будаўніку.

Мы спыталіся ў Антанаса пра яго планы.

— Пракладаць шлях у будучыню, — сказаў ён, — значыць перш за ўсё добра працаваць. Мы будзем старацца абудзіць у як мага большай частні сваіх таварышаў камуністычныя адносіны да



Герой Сацыялістычнай працы Антанас Габаліс.

працы, выхаваць настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты!..

Знаёмячыся з жыццём сельскай моладзі Літвы, мы даведаліся пра тое, што даяркі, свінаркі, цялятніцы, птушніцы, пастухі, кукурузаводы, механізатары — усе ўключыліся ў барацьбу за выкананне высокіх сацыялістычных абавязацельстваў па далейшаму росту грамадскай жывёлагадоўлі.

Трымаем шлях на Каунас. Кароткі прыпынак на будаўнічай пляцоўцы Каунаскай ГЭС. Воды ўтаймаванага Нёмана падаюць ужо на лапаткі магутных турбін, патокі энергіі «белага вугалю» імчацца па правадах у розныя канцы рэспублікі. Штодзень сюды прыбываюць шматлікія экскурсіі, каб убачыць першынец літоўскага гідрабудаўніцтва, адчуць сілу савецкай навукі і тэхнікі, якія здзейснілі «цуд на Нёмане».

Яшчэ каля ста кіламетраў на захад па цудоўнай асфальтаванай шашы ўздоўж паўнаводнага Нёмана. Ля раённага цэнтра Юрбаркас паромам перабіраемся на левы бераг. Кароткі шлях праз лугі, і вось мы ўжо на высокім узгорку, дзе ўзвышаецца будынак Дома культуры калгаса «Нямунас». Двухпавярховы палац пабудаваны летась па праекту тутэйшага калгаснага цесляра І. Дзямяніса. У двух вельмі светлых фае размясцілася карцінная галерэя твораў вядучых мастакоў Літвы. Круглая глядзельная зала вельмі зручная для гледачоў. Сцэна, сістэма асвятлення дазваляюць прафесійным тэатральным калектывам паказваць тут спектаклі па некалькі разоў у месяц.

Дом культуры калгаса «Нямунас» узяў шэфства над суседнім калгасам. Альгімантас Эндрукайтас, Альбіна Усайтэ і іншыя ўдзельнікі самадзейнасці вядуць у суседзяў рэгулярныя заняткі па музыцы, спевах, танцах...

І вось мы едзем туды. Калгас імя Марытэ Мельнікайтэ Рассеняйскага раёна. Тут нас пазнаёмілі з камсамолкай Стасяй Алескітэ. Яна нарадзілася ў знамянальны год устанаўлення Савецкай улады ў Літве і сваё дваццацігоддзе будзе святкаваць разам з юбілеем рэспублікі. Сёлета ў жыцці Стасі адбылася вялікая падзея. Па выніках працы ў мінулым годзе яна ўзнагароджана ордэнам Леніна: звяно па вырошчванню кукурузы, якое яна ўзначальвала, дабілася рэкорднага ўраджаю — па 1 135 цэнтнераў зялёнай масы з гектара. Цяпер Стася Алескітэ працуе даяркай.

Яшчэ крыху на поўнач і — новая сустрэча. На гэты раз з Янінай Паруцітэ—студэнткай Шауляйскага педагагічнага інстытута (на нашым першым здымку—злева). Смеючыся, яна гаворыць, што інстытут хоць і маладзейшы за яе, але мае ўжо багатыя традыцыі. Адна з іх — працоўнае выхаванне студэнтаў. Яніна расказвае пра летнія працоўныя лагеры





Група маладых калгаснікаў сельгасарцелі «Нямунас» на адпачынку.

ў падшэфным калгасе «Энергія». Потым Яніна ўспамінае пра традыцыйны інстытуцкі клуб «Дай руку, таварыш далёкі». Кожны дзень у клуб прыходзяць пісьмы і пасылкі ад студэнтаў іншых рэспублік. Па пошце быў атрыманы нават... канцэрт. Гэта студэнты Калінінградскага педагагічнага інстытута прыслалі магнітны запіс свайго канцэрта, падрыхтаванага спецыяльна для шауляйцаў.

На наступны дзень мы былі ўжо ў Рызе.

За трыццаць кіламетраў ад Рыгі, на беразе ляснога возера створан палатачны лагер, які знаходзіцца на поўным самаабслугоўванні. Практычна ён з'яўляецца базай для аматараў мясцовага турызму, для рыбаловаў, для ўсіх, хто любіць слухаць спевы птушак ці хадзіць босым па расе. Такіх лагераў у рыжскай моладзі шмат, але самым вядомым застаецца лагер трамвайшчыкаў. Цяпер, пры пераходзе на скарочаны рабочы дзень, адпачываючых у палатачным лагеры становіцца ўсё больш і больш.

Паехалі і не вярнуліся на ноч у Рыгу, хоць там і чакаў нас цудоўны нумар у гасцініцы, а засталіся ў лагеры. Раніцай быў туман. З-за цёплай дрыготкай пеляны ледзь прабівалася сонца. З нябачных вяршынь далятаў шматгалосы птушыны спеў. Гуллівыя рыбкі некалькі разоў запар усплёсквалі ля самага берага возера. Разам з Віяй Земеліс і Дзідрай Ілгаж, якія адпачывалі тут, мы прыгатавалі на кастры сабе снеданне. Як усё гэта было цудоўна!..

І ўсё ж прыйшлося развітацца, каб прадоўжыць рэпартаж. Калі гавораць пра буйнейшыя прадпрыемствы Латвіі, абавязкова пачынаюць са славутага «ВЭФ» — Дзяржаўнага электратэхнічнага завода. З назвай гэтага завода звязана ўяўленне аб няспынным тэхнічным прагрэсе — ці то гутарка ідзе аб прадукцыі, што тут выпускаецца, ці аб тэхналогіі вытворчасці. Тэлефоны і радыёлы, аўтаматы і кішэнныя радыёпрыёмнікі, — усё, за што б ні браліся вэфаўцы, вядома ў краіне як прадукцыя самай высокай якасці.

Дзесятак за дзесяткам кіламетраў знікаюць пад коламі аўтамабіля. Асфальт змяняецца гравійкай, і ўрэшце селавая дарога. Едзем то густым лесам, то лугам, які расцвіў жоўтымі і ружовымі кветкамі. Перасякаем некалькі маленькіх быстрых рэчак. І раптам на ўзгорку з-за зеляніны блiснула срабрыстая страла... Другая... Паявіліся трактары, цягачы з прычэпамі, нарэшце можна было ўжо разгледзець і людзей.

Брыгад на будоўлі многа, і ў кожнай з іх можна сустрэць братнюю садружнасць. Вадзіцель электракрана латыш Арнольд Крыеванс, маляр літовец Іеранім Маткавічус, шафёр рускі Віктар Пшонаў працуюць побач. Працуюць напорыста, на поўную сілу. Значэнне новай лініі велізарнае. Па ёй Эстонія пашле амаль столькі ж энергіі, колькі сёння дае Рыжская электрастанцыя.

Лясная дарога хутка выводзіць нас на шашу, што вядзе да Таліна.

Эстонія таксама ганарыцца выдатнымі поспехамі брыгад камуністычнай працы, цудоўнымі справамі працаўнікоў вёскі, новымі здабыткамі культуры.

Прыкладна на палавіне дарогі паміж Талінам і Ленінградам знаходзіцца горад эстонскіх сланцавікоў Кохтла-



У палатачным лагеры рыжскіх трамвайшчыкаў.

Ярве. Тут усё новае, нядаўна створанае. Горад стаіць між шахт. Высокія тэрыконы ўзнімаюцца нават на яго ўскраінах. Гонарам Эстоніі з'яўляецца сланцаперапрацоўчы камбінат імя У. І. Леніна.

Сакратар камітэта камсамола камбіната Наташа Раднова і яе намеснік Ір'я Нуйя знаёмяць нас з прадпрыемствам, з тым, як з бураватых сланцаў здабываюць важныя хімічныя прадукты — газ, смолы, бензін, фенолы, гіпасульфіт, серу, без якіх ужо немагчыма развіццё многіх галін тэхнікі.

На Усесаюзнай нарадзе перадавікоў спаборніцтва брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы з Кохтла-Ярве было адразу два дэлегаты: шахцёр Адольф Таальберг і брыгадзір з цэха канатных дарог Генадзі Гладышаў. Таальберг першы ў рэспубліцы падхапіў сцяг новага руху. Цяпер ужо ўвесь камбінат уключыўся ў барацьбу за званне калектыву камуністычнай працы.



Брыгадзір Айта Вііpэс са сваёй дачкой Крээтэ.

Наступны пункт нашага маршруту — калгас імя Эдуарда Вільдэ, непадалёку ад горада Ракверэ. Гэта — узорная гаспадарка, пра якую можна напісаць вялікую кнігу. Тут развіты амаль усе галіны сельскай гаспадаркі. Сума грашовых даходаў за мінулы год склала каля сямі з паловай мільёнаў рублёў. На фермах, у полі, на механізмах працуе шмат моладзі. На адной са шматлікіх жывёлагадоўчых ферм мы сустрэлі камсамолку Крээтэ Вііpэс. Яна заканчвае сярэднюю школу, але ўжо з поспехам пераймае прафесію маці, якая працуе брыгадзірам на ферме. Ці ж гэта не гарачае жаданне быць як мага больш карысным у сваім родным калгасе!

У гэтыя дні рэспублікі-сёстры атрымліваюць гарачыя віншаванні з усіх канцоў савецкай Радзімы. Ад імя моладзі і камсамольцаў нашай рэспублікі «Маладосць» далучае да гэтай плыні віншаванняў шчырае беларускае:

— З вялікім святам, сябры! Са слаўным дваццацігоддзем!

Тэкст і фота **А. Дзітлава.**





Люда Будзілоўская вучыцца іграць на флейце...

# МУЗЫЧНАЯ АЎТАЗАВОДСКАЯ...

Знешне гэты невялічкі белы домік з зялёным дахам мала чым адрозніваецца ад такіх самых двухпавярховых збудаванняў, што выстраіліся ўздоўж адной з вуліц у гарадку мінскіх аўтазаводцаў. Чатыры калоны з капітэлямі падтрымліваюць карніз над маленькім ганкам, а перад ім садок, абгароджаны зялёным парканам. Толькі статуя дзяўчыны з дырыжорскай палачкай у руцэ, што стаіць у цэнтры садка, быццам сцвярджае: не, тут не такі дом, як іншыя...

І гэта сапраўды так. У гэтым доміку, па вуліцы Чалюскінцаў, 26, рыхтуюць маленькіх музыкантаў. Калектыў педагогаў-энтузіястаў на чале з дырэктарам музычнай школы Васілём Міхалаевічам Варатніковым нямала папрацаваў, каб стварыць узорную навучальную ўстанову для дзяцей бацькоў, якія сваёй працай заваявалі сусветную вядомасць беларускаму аўтамабілебудаванню.

Аўтазаводская музычная школа, дзе навучаецца каля 350 дзяцей, мае класы ігры на флейце, габоі, кларнеце, фаготе, трубе, валторне, трамбоне, ксілафоне, віяланчэлі, цымбалах, кантрабасе, балалайцы, домры і іншых музычных інструментах, уключаючы і традыцыйныя — фартэпіяна, скрыпку, баян. Педагогі аўтазаводскай музычнай школы, добра разумеючы, што сапраўдная падрыхтоўка маладых музыкантаў немагчымая без навыкаў калектыўнай ігры, здолелі стварыць аркестр баяністаў, рускі народны аркестр, цымбальны аркестр, духавы аркестр, якія наладжваюць канцэрты не толькі ў сваёй школе, але і ў клубах і дамах культуры рэспублікі.

Не багата ў краіне музычных школ, якія маюць хоры хлопчыкаў. І тут аўтазаводская школа паказвае прыклад: пры дапамозе народнага артыста СССР Р. Шырмы ў пачатку 1959 г. пры ёй створаны *хор хлопчыкаў — адзіны* ў нашай рэспубліцы. Заняткі хору, акрамя вучняў музычнай школы, наведваюць і дзеці агульнаадукацыйных школ.

Варта прыгадаць і традыцыйныя конкурсы на лепшае выкананне музычных твораў. У конкурсах, акрамя салістаў, прымаюць удзел інструментальныя ансамблі. А хіба не выдатнай традыцыяй у школе стала выступаць са спра-



...а Ігар Жаўлакоў на трубе.



Вучні музычнай школы сустрэліся з кампазітарам Р. Пукстам пасля таго, як праслухалі яго оперу «Марынка».

вaздачнымі канцэртамі перад рабочымі і служачымі свайго завода? Або арганізацыя музычнага лекторыя для аўтазаводцаў, наладжванне канцэртаў беларускай музыкі, вечароў, прысвечаных Глінку, Чайкоўскаму, Моцарту, Гайдну, сустрэч з дзеячамі мастацтва і культуры? Усё гэта добры прыклад таго, як трымаць навучальнай установе сувязь з жыццём народа, як рыхтаваць маладую змену музыкантаў!

І яшчэ адзін факт: арганізацыя школьнага музея. У ім сабраны запісы сучасных народных песень, рукапісы твораў беларускіх кампазітараў, афішы канцэртаў, фотаздымкі дзеячоў культуры рэспублікі, іх аўтографы і г. д.

Шмат цікавага можна было б расказаць з жыцця музычнай школы аўтазаводцаў, з дзейнасці яе педагогаў В. Варатнікова і В. Макарэвіча, Л. Пекеліс і Б. Шубіка, А. Захарошка і Д. Рудзько, С. Пракопчык і В. Лосева, О. Варыводскага і Ф. Ліўшыца. Тут і выступленні вучняў па тэлебачанню, і іх удзел у якасці салістаў сімфанічных канцэртаў Белдзяржфілармоніі з выкананнем буйных твораў Бетховена, Гайдна, Шастаковіча, Кабалеўскага, і экскурсіі на радзіму Глінкі ў сяло Новаспаскае на Смаленшчыне, на фабрыку піяніна ў Барысаве, удзел педагогаў у метадычных канферэнцыях па пытаннях музыкі.

Не менш яркімі фактамі пазашкольнай дзейнасці трэба лічыць творчыя сувязі з навучальнымі музычнымі установамі братніх савецкіх рэспублік і краін народнай дэмакратыі. Пісьмы, якія прыйшлі ў аўтазаводскую школу з Пазнані і Хэйбэя, Сафіі і Брно, Пекіна і Шанхая, Масквы і Кіева, Ленінграда і Тбілісі, Баку і Ерэвана і іншых гарадоў,— гэта не проста пісьмы-прывітанні, даніна ветлівасці з боку тых, да каго звярталася заводская музычная школа, а грунтоўны абмен думкамі па розных галінах музычнай педагогікі. Побач з тым у пісьмах шмат практычных прапаноў: з Хэйбэйскай школы просяць даслаць вучэбныя праграмы, міністэрства асветы і культуры Балгарыі прапаноўвае зрабіць абмен нотнымі выданнямі, а кіраўнік школы ў Брно цікавіцца распарадкам дня музычнай школы.

Музычная школа аўтазавода існуе ўсяго дзесяць год — тэрмін параўнаўча невялікі. Але першае дзесяцігоддзе прайшло ў творчых пошуках, напружанай працы педагогаў і навучэнцаў.

Тэкст **І. Нісневіча.**

Фота С. Чырэшкіна.



Вучні школы ля помніка М. Глінку ў Смаленску.



**Уладзімір КАЗАЧОНАК**

# БАРАЦЬБА НЕ СПЫНЯЛАСЯ...

### З запісак былога падпольшчыка

У заняты фашыстамі Мінск я вярнуўся па партыйнаму заданню ўвосень трывожнага 1941 года, перайшоўшы праз лінію фронта. Тут я сустрэў знаёмых камуністаў Хасана Александровіча, Яўгена Афнагеля і Іосіфа Беланоўскага. Наша невялічкая падпольная група, як і многія іншыя падпольшчыкі, парушала сродкі сувязі ворага, распаўсюджвала напісаныя ад рукі лістоўкі, а крыху пазней, калі была ўстаноўлена сувязь з Мінскім падпольным гаркомам партыі, займалася разведкай. Нам удавалася збіраць больш-менш дакладныя звесткі аб руху фашысцкіх войск і тэхнікі.

Падпольны гарком прыспешваў сваіх людзей. На кожнай сустрэчы ад нас патрабавалі ўсё больш і больш звестак. Ужо значна пазней мне стала вядома, што мы працавалі на разведгрупу, якая дзейнічала ў Мінску.

Пры самай актыўнай дапамозе мінскіх падпольшчыкаў савецкія разведчыкі паспяхова перадавалі важныя звесткі ў родную Маскву.

...Неяк вечарам у сярэдзіне мая да мяне на вуліцу Куйбышава зайшоў «Аляксандр» — Мікалай Шугаеў, які ўзначальваў падпольны Варашылаўскі райком партыі. Працягваючы руку, ён замест прывітання прамовіў:

— Ну, як справы, дружа?

— Стараюся! — жартам адказаў я. — Толькі вось работа не зусім задавальняе мяне.

— Чаму? — здзівіўся ён.

— Каб што больш канкрэтнае...

— Напрыклад?

— Ну, рабіць такія пакеты, з дапамогай якіх можна было б адпраўляць фашыстаў на той свет. Толькі дзе матэрыял узяць?

— Які матэрыял?

— Ну, скажам, крыху берталетавай солі, цукру і салянай кіслаты.

— А далей?

— З гэтага можна было б зрабіць пакеты для падпалу ваенных аб'ектаў.

— Так... Справа вартая, — скручваючы цыгарку, задумліва прагаварыў «Аляксандр». — Трэба паспрабаваць. Я пазнаёмлю цябе з адным чалавекам. Ён напэўна дапаможа табе. Калі лепш вам сустрэцца?

— Чым хутчэй, тым лепш.

— Добра. Заўтра на рагу Беламорскай і Цнянскай а дзесятай гадзіне раніцы. Падыходзіць? Таварыш, які прыйдзе на яўку, назаве сябе Ігнатам Ігнатавічам, а ты яму адкажаш: «А я вас даўно чакаю».

Назаўтра, дакладна ў вызначаны час, з'явіўся Ігнат. Пры сустрэчы мы рассмяяліся. Аказваецца, гэта быў той самы Ігнат Барсук, з якім мяне ўжо даўно пазнаёміў



Л. Фокін. Увечары.



Л. Шчыпачоў. Жонка прыехала.



**Эцюд.** Масла. **Выканан рабочым-друкаром А. Сіроціным.** Студыя пры Мінскім палацы культуры прафсаюзаў.

**Эцюд.** Акварэль. **Работа студэнта Беларускага палітэхнічнага інстытута М. Халімона.** Студыя пры Мінскім палацы культуры прафсаюзаў.





**Партрэт сталявара.** Акварэль. **Работа студэнта Беларускага палітэхнічнага інстытута Ю. Бярковіча.** Студыя выяўленчага мастацтва пры Мінскім палацы культуры прафсаюзаў.

Іосіф Беланоўскі, кіраўнік адной з падпольных груп. Я расказаў Ігнату, у чым справа.

— Пастараюся, таварыш «даўно чакаю»,— смеючыся, сказаў ён.

Мы дамовіліся сустрэцца на наступны дзень на Чырвонай вуліцы, прыкладна на тым месцы, дзе цяпер знаходзіцца радыёзавод.

Раніцай я выйшаў з дому загадзя і, пашпацыраваўшы па вуліцы Куйбышава, накіраваўся да месца сустрэчы. На ўсякі выпадак стуліўся ля сцяны разбуранага дома, адкуль добра была бачна Чырвоная і частка вуліцы Куйбышава. Неўзабаве з боку вуліцы Пушкіна з'явіўся веласіпедыст. Калі ён наблізіўся, я ўбачыў, што гэта Ігнат Ігнатавіч. Паблізу нікога не было, і я паспяшаўся насустрач.

— Усё ў парадку,— весела сказаў Ігнат, злазячы з веласіпеда.— Вось, калі ласка,— і ён працягнуў мне скрутак, а затым з адной і з другой кішэні дастаў па бутэльцы.

Дома я разгарнуў пакет і там знайшоў тое, што мне трэба было: берталетавую соль, саляную кіслату і цукар. Самы звычайны цукарпясок, які ў той час цяжка было дастаць.

У адным доме, па суседству са мной, жылі добрыя старыя людзі Ульчыцы. Гаспадыня часта, калі я быў адзін, заходзіла да мяне ў пакой, расказвала пра сваіх сыноў, пра якіх даўно не было чутак.

Часта яна частавала мяне дранікамі, якія я любіў з маленства. Ведаючы гасціннасць Ульчыцаў, я імкнуўся радзей заходзіць да іх на кватэру. Але цяпер мне спатрэбілася ступка, каб пацерці цукар, і я пастукаўся.

— Зайдзіце,— адказала гаспадыня.

— Дайце, калі ласка, маці, на некалькі хвілін ступку.

— Зрабіце ласку, вазьміце. Але што гэта, калі не сакрэт, вы збіраецеся таўчы ў ёй?

— Кофе,— схлусіў я.

Я хутка перацёр цукар у парашок і перамяшаў яго з берталетавай соллю. Гэтую сумесь рассыпаў у невялічкія пакецікі. А каб сумесь загарэлася, туды трэба было дадаць хоць адну кроплю салянай кіслаты.

Так побач з разведкай я пачаў



Іосіф Беланоўскі.

рабіць пакеты для падпалаў варожых ваенных аб'ектаў у горадзе.

Была другая гадзіна дня. Я ішоў ад Яўгена Афнагеля. На чыгуначным пераездзе па вуліцы Розы Люксембург пачуў, як людзі перашэптваліся аб тым, што немцы збіраюцца вешаць злоўленых партызан.

— Дзе?— спытаў я ў незнаёмага, які крочыў побач.— І адкуль вы гэта ведаеце?

— Па ўсім горадзе. Аб гэтым толькі што немцы па радыё аб'явілі.

— А ўсё ж дзе?— паўтарыў я сваё пытанне.

— На Суражскім рынку таксама.

Я збочыў на Газетны завулак, потым выйшаў на Маскоўскую вуліцу і хутка падаўся ў бок Суражскага рынку. Узышоўшы на бетонны мост, убачыў, як з двара паліцэйскага ўчастка паказаліся грузавікі. Неўзабаве каля тэлеграфных слупоў яны спыніліся. На слупах матляліся кавалкі чорнага тэлефоннага дроту, прычэпленыя за спецыяльныя крукі. Адзін з такіх пачарнелых ад часу слупоў з іржавым жалезным крукам захаваўся і дагэтуль. Ён стаіць каля самай трансфарматарнай будкі, побач з бетонным мастом, як напамінак аб тых жудасных днях.



Гестапаўцы ў шапках набакір, з эсэсаўскай эмблемай — чалавечым чэрапам і дзвюма скрыжаванымі косткамі — спрабавалі трываласць шыбеніц. Не спяшаючыся, з выключнай нямецкай акуратнасцю, яны рабілі петлі і гэтак жа не спяшаючыся накідвалі іх на свае ахвяры.

Навокал з фотаапаратамі тоўпіліся салдаты і афіцэры, з задавальненнем фіксуючы старанную работу гестапаўцаў.

У натоўпе мінчан я стаяў на мосце, і сэрца заходзілася, гледзячы на гэтую страшэнную трагедыю.

Савецкія патрыёты трымалі сябе мужна. Асабліва моцна запомніліся два чалавекі. Аднаму з іх было крыху больш за дваццаць год, а другому — пад пяцьдзесят. Калі гітлераўскі кат узяўся за дрот і пачаў накідваць пажылому чалавеку на шыю пятлю, той крыкнуў:

— Вылюдкі! Паплоціцеся за нашу кроў! Будзьце вы прак...

У гэты момант кат-эсэсавец нейкім прадметам моцна выцяў яго па галаве. На твары героя зачырванелася кроў.

— Герасімовіч, Герасімовіч!..— пранеслася ў натоўпе.

Так, гэта быў інжынер Мікалай Піліпавіч Герасімовіч, адзін з актыўных падпольшчыкаў, які стаў



Мікалай Герасімовіч.



на шлях барацьбы з фашыстамі ў першыя дні акупацыі горада.

Не меней гераічна трымаўся і юнак. У самы твар кату ён кінуў:

— Не, не мінаваць вам кары! Смерць фашысцкім захопнікам!..

Потым я дазнаўся яго прозвішча. Гэта быў камсамолец Іосіф Кавалеўскі. Зімой у ліку іншых дэсантнікаў ён на парашуце спусціўся пад Мінскам. Дэсантнікі былі заўважаны і абстраляны. Іосіфа паранілі. У Мінску сёстры Антаніна Іванаўна Фалкіна і Варвара Іванаўна Паўловіч, якія жылі па вуліцы Чкалава, вылечылі яго. Ачуняўшы, Іосіф па заданню падпольшчыкаў чыгуначнага вузла выконваў самыя адказныя даручэнні.

Шыбеніцамі былі застаўлены ўвесь Цэнтральны сквер, плошча Свабоды, Чэрвенскі, Камароўскі і Юбілейны рынкі. У гэты дзень фашысты павесілі 28 падпольшчыкаў, у тым ліку Ісая Казінца, Яфіма Горыцу, Георгія Глухава, Пятра Алейчыка, Георгія Сямёнава, Георгія Ігнатовіча, Пятра Хадкевіча і іншых.

Сэрцы абліваліся крывёю ў тых, хто быў сведкай гэтых нечуваных катаванняў. Не заўважаючы нічога вакол сябе, я ішоў па Савецкай вуліцы, як раптам пачуў знаёмы голас:

— Валодзя!

Узняў галаву. Амаль побач са мной крочылі Іосіф Беланоўскі і Мікалай Шугаеў. Прайшлі квартал і каля ўваходу ў сквер спыніліся. На дрэвах і тэлеграфных слупах віселі людзі. Сярод іх мы пазналі Ісая Казінца. Падышлі зусім блізка і моўчкі пазіралі на знявечаны твар Слаўкі, як любоўна называлі сябры-падпольшчыкі гэтага маладога жыццярадаснага чалавека, які зусім нядаўна быў з намі.

— Гэта сапраўдны герой, — пачуўся жаночы голас. — Каб вы чулі, якія словы кінуў ён у твар фашыстам перад смерцю!— Жанчына азірнулася:— «Не схаваецеся вы, звяр'ё лютае, ад народнага гневу!»— такія былі апошнія яго словы. Як ён не хацеў паміраць! Малады. Вось, бачыце,— жанчына паказала на чаравік, які валяўся збоч.— Гэта ж ён намерваўся ўдарыць фашыста, але той стуліўся, і чаравік адляцеў вунь куды...

Толькі цяпер мы заўважылі, што ў Слаўкі на адной назе сапраўды няма чаравіка.

— Так... Гэтага дараваць нельга, — прамовіў у гневе Беланоўскі.

7 мая 1942 года мінчане былі сведкамі таго, як з двара турмы выходзілі вялізныя чорныя машыны, беручы кірунак у бок Лагойскага гасцінца. У гэты ж дзень па горадзе імгненна разнесліся чуткі аб тым, што вялікай групе смяротнікаў удалося за горадам разбегчыся. Неўзабаве выявілася, што сярод уцёкшых быў і камсамолец Пятро Фалькові з падпольнай камсамольскай групы Аляксандра Арндта.

Сувязныя гаркома прыйшлі на Падлесную вуліцу, дзе жылі сваякі Пятра. Ад іх дазналіся, што Пятру сапраўды ўдалося ўцячы. Дачакаўшыся ночы, знясілены і змардаваны, Пятро дайшоў да дома і, ледзь пераступіўшы парог, без памяці зваліўся на падлогу. Пятро быў у адной бялізне, як і ўсе вязні, якіх везлі на расстрэл. Але ад бялізны засталіся толькі шматкі, увесь ён быў пабіты, акрываўлены. Пятра зваліў тыфус. Ён ляжаў без памяці, калі на кватэру наляцелі гестапаўцы. Яны схапілі і расстралялі Пятра.

Вешалі савецкіх патрыётаў звычайна апоўдні, іменна ў той час, калі на рынках і на вуліцах было найбольш людна. Па ўсім горадзе былі расклеены лістоўкі, дзе абяцалася, што кожнага, хто адважыцца выступіць супраць «новага парадку», чакае такі ж лёс. На грудзях ва ўсіх пакараных віселі карткі з надпісам: «Мы партызаны, якія стралялі па германскіх войсках». Было надрукавана і нешта накшталт афіцыйнага паведамлення мясцовых ваенных і грамадзянскіх фашысцкіх улад, у якім гаварылася, што ў Мінску раскрыта і ліквідавана падпольная «бальшавіцкая» арганізацыя, якая сеяла паніку сярод насельніцтва, займалася стварэннем «бальшавіцкіх банд», забяспечвала іх зброяй і медыкаментамі, і што 28 удзельнікаў гэтай арганізацыі павешаны, а 150 расстраляны.

Усё гэта рабілася з мэтай запалохаць людзей, але вораг жорстка памыляўся, мяркуючы, што такім



Яўген Афнагель.

чынам яму ўдасца зламаць волю народа, паставіць яго на калені перад акупантамі.

...Надвячоркам на вуліцы Куйбышава, 71 «в», дзе я жыў, сабраліся Мікалай Шугаеў, Іосіф Беланоўскі, Ігнат Барсук і Сцяпан Грынвальд-Муха.

— Трэба прымаць нейкія рашучыя меры, таварышы, — пачаў Шугаеў. — Перш за ўсё трэба паказаць гітлераўцам, што з падполлем не ўсё скончана!..

Да позняга вечара ўчацвярых пры цьмяным святле газоўкі мы складалі лістоўку. Яна заканчвалася заклікам да мінчан: «Далучайцеся да партызан! Знішчайце гітлераўскіх гадаў усюды, дзе толькі іх сустрэнеце! Няхай жыве наша вялікая Радзіма! Смерць нямецкім акупантам!»

Гэтая кароценькая лістоўка 8 мая была размножана на машынцы Марыяй Траццяковай. Расклейвалі яе, галоўным чынам, на месцах гібелі савецкіх патрыётаў, а таксама ў самых людных мясцінах.

Расклейванне лістовак — вельмі небяспечная работа. Патрэбна была вялікая ўвішнасць і асцярожнасць. Гэта рабілася так: дзе-небудзь у больш спакойным месцы, скажам, на двары ці за сцяной згарэлага дома, хлопец намазваў мучным клеем невялічкую, прыкладна з далонь лістоўку і, улучыўшы момант, ляпіў яе на які-небудзь загад ці адозву гітлераўцаў, якімі стракацеў увесь горад.

Некаторым з падпольшчыкаў гэта работа каштавала жыцця. Асабліва жорстка расправіліся гітлераўцы з камсамольцам Георгіем Ігнатовічам. Ужо было цёмна, калі Георгі ля Чэрвенскага рынку расклейваў лістоўкі. Зусім нечакана ля яго, нібы з-пад зямлі, з'явіліся тры гестапаўцы. Георгі кінуўся бегчы, але пачулася аўтаматная чарга, куля трапіла ў нагу, і Георгі паваліўся.

У гестапа, куды прыцягнулі параненага Ігнатовіча, яго пачалі ўгаворваць, каб выдаў падпольшчыкаў. Асабліва стараўся гестапаўскі следчы, калі дазнаўся, што Георгі — інжынер, выхаванец Мінскага політэхнічнага інстытута. Але камсамолец маўчаў.

Некалькі дзён Георгія мучылі, але ён быў нязломны. Упэўніўшыся, што ўсе старанні дарэмныя, гітлераўцы павесілі Георгія на Цнянскай вуліцы непадалёку ад Камароўскага рынку.

Тады ж падпольшчык камуніст Валодзя Амельянюк напісаў лістоўку аб зверствах гітлераўцаў, якая была набрана ў Доме друку Барысам Пупко і надрукавана на кватэры Воранавых, што жылі на Рымарнай вуліцы.

Неўзабаве я сустрэўся з «Аляксандрам» на Чэрвенскім гасцінцы. Мы гаварылі аб становішчы на франтах, аб настроі мінчан.

— Ёсць яшчэ людзі, — заўважыў я, — якія ў той ці іншай ступені знаходзяцца пад уплывам фашысцкай прапаганды.

— Трэба, — сказаў «Аляксандр», — вырваць іх з-пад гэтага ўплыву.

— Але як? Мы іншы раз расклейваем рукапісныя ці друкаваныя на машынцы лістоўкі, але гэтага вельмі мала...

«Аляксандр» выцягнуў з унутранай кішэні пінжака акуратна складзеную паперку. Не спяшаючыся, ён разгарнуў яе і, падаючы мне, сказаў:

— Чытай!

Гэта былі зашмараваныя дзве лістоўкі, зробленыя ў друкарні, якія мне даводзілася чытаць яшчэ ў красавіку на Нова-Уфімскай вуліцы.

— І гэтага мала. Вось каб газета!..

Я расказаў Шугаеву, што працаваў у свой час у Быхаўскай раённай газеце, а перад самай вайной у Дзяржаўным выдавецтве БССР. Крыху ведаю гэтую справу. Можна паспрабаваць арганізаваць выданне падпольнай газеты...

Гэта было ў першыя дні чэрвеня. У дзверы маёй кватэры чатыры разы злёгку пастукалі. Я здагадаўся, што стукае «Аляксандр» (так было дамоўлена).

— Зайдзіце!

Адчыніліся дзверы, і крыху ззаду «Аляксандра» я ўбачыў «Ваціка» (Вечаслава Нікіфарава). Рэзка страсянуўшы галавой, ён абедзвюма рукамі паправіў свае прамыя светлыя валасы і, моцна паціснуўшы руку, прамовіў:

— Ты, значыць, газетчык? Чаму ж дагэтуль маўчаў?

— Ды ўсё неяк не было выпадку, — адказаў я. — Чыталі нядаўна з «Аляксандрам» лістоўкі, і вось прыгадалася...

— Аб газеце марыш? На, чытай! — і «Максім» (другая клічка Нікіфарава) працягнуў мне невялічкі скрутачак.

Я разгарнуў яго і вачам не веру — «Звязда». Такая ж, як і некалькі месяцаў таму назад. Толькі фармат меншы, а побач з назвай словы: «Таварышы! З сённяшняга дня Мінскі гарком КП(б)Б аднаўляе выданне свайго органа газеты «Звязда». Пішыце ў газету аб жыцці партызанскіх атрадаў, аб баявой іх дзейнасці аб паасобных партызанах, праявіўшых сябе ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі».

Сэрцы нашы напоўніліся гордасцю і радасцю за людзей, якія рабілі сапраўды вялікі подзвіг.

— Ну як, здорава? — усміхнуўся «Максім».

— Малайцы, героі!

Праз некалькі дзён да мяне на вуліцу Куйбышава зноў зайшоў «Вацік». Я не вытрымаў і спытаў яго, ці нельга пачытаць наступныя нумары «Звязды».

— Нельга, Валодзя, нельга! — скрушліва адказаў ён.

— А чаму? Першы нумар можна было, а цяпер нельга?..

І «Максім» расказаў мне аб трагічнай гібелі Валодзі Амельянюка, які арганізаваў выданне першага нумара падпольнай «Звязды», і наборшчыка Барыса Пупко. Расказаў ён мне і аб тым, як Валодзя рыхтаваў першы нумар падпольнай «Звязды». Пасля вызвалення Мінска гэты яго расказ дапоўнілі людзі, якія працавалі разам з імі, — Марыя Рынкевіч, Анастасія Цітовіч, Броня Гофман і другія.

Рашэнне падпольнага гарадскога камітэта аб выданні «Звязды» было прынята ў маі 1942 года.

Матэрыял для газеты Валодзя Амельянюк пачаў рыхтаваць адразу, як толькі былі наладжаны сувязі з партызанскімі атрадамі, адкуль падполле атрымлівала звесткі аб баявой дзейнасці народных мсціўцаў. Інфармацыі аб становішчы на франтах Валодзя запісваў, слухаючы Маскву па радыёпрыёмніку, які быў устаноўлены на Нямізе, на кватэры Анастасіі Якаўлеўны Цітовіч.

Анастасія Якаўлеўна працавала тады ў жыллёвым аддзеле гарадской управы машыністкай. Валодзя і запрасіў яе да працы па выданню газеты. Яна друкавала таксама лістоўкі. Падрыхтаваныя для набору матэрыялы Уладзімір перадаваў бацьку і сыну Воранавым. Набор рабіўся ў Доме друку, потым часткамі пераносіўся ў дом, дзе, апрача Воранавых, жыла і сям'я Цімоха Трафемюка. Сюды ж з друкарні дастаўляліся гранкі, заціскі, вярстатка, фарба, валікі, папера і іншыя матэрыялы.

У доме № 9 па Рымарнай вуліцы на кватэры ў Воранавых быў надрукаваны першы нумар падпольнай «Звязды». Выдаваўся ён двойчы: першы раз у сярэдзіне мая і другі — у чэрвені. Падпольшчыкі друкарні не абмяжоўваліся наборам газеты і лістовак. На былой вуліцы Пушкіна, насупраць Дома друку, там, дзе цяпер адзін з карпусоў Акадэміі навук, стаяў вялікі драўляны дом-барак. Адзін з яго пакояў, ключ ад якога знаходзіўся ў «Старога», з'яўляўся як



Вечаслаў Нікіфараў.

бы перавалачным пунктам. Тут захоўваліся шрыфт, папера і іншыя матэрыялы, якія потым, згодна ўказання падпольнага камітэта, перапраўляліся да партызан.

Унутры друкарня не ахоўвалася. Пасты стаялі толькі ля галоўнага ўваходу ў Дом друку і пры ўездзе на двор. Вось чаму Барысу Пупко, які жыў у друкарні, удавалася набіраць лістоўкі і газеты толькі ноччу, пры газоўцы. Рабілася ўсё на складзе шрыфтоў.

Падпольшчыкам было вядома, што ўначы цэхі іншы раз наведваў шэф друкарні Вальтэр, які жыў тут жа, у Доме друку, на другім паверсе. Таму, калі Барыс працаваў, Броня Гофман пільна сачыла, каб у друкарні не з'явіўся шэф.

Барыс быў вельмі смелы, але не зусім асцярожны чалавек. Часта ён захапляўся работай, забываючы пра абставіны, у якіх знаходзіўся. Былі выпадкі, калі ён днём выносіў вялікія звязкі шрыфту проста цераз акно, што выходзіла на Выдавецкую вуліцу. Неасцярожнасць і прывяла Барыса ў рукі гестапаўцаў.

Калі падпольная газета трапіла ў гестапа, было выяўлена, што частка яе набрана шрыфтам, які быў толькі што прывезены з Рыгі.

3 чэрвеня 1942 года ў друкарні з'явіліся гестапаўцы. Там яны і накінуліся на Барыса. Пад канвоем яго даставілі ў кантору друкарні. Тут і прад'явілі абвінавачанне ў пакражы шрыфту.

— Не можа быць, каб Барыс такое зрабіў, — уступіўся за хлопца шэф. — Ён адзін з маіх лепшых рабочых і я за яго ручаюся.

Барыса адпусцілі. Гэта ўсё ж насцярожыла сяброў-падпольшчыкаў, і яны вырашылі, каб Барыс прыкінуўся хворым і некалькі дзён не выходзіў на работу. Яны схавалі яго на складзе ў папяровых абрыўках. У гэты час Броня назірала, што робіцца ў друкарні.

Праз дзень гестапа зноў зрабіла налёт на друкарню. Броня адразу ж папярэдзіла аб гэтым Барыса. Варта не зусім строга адносілася да рабочых, тым больш да Барыса і Броні, якія, як усе ведалі, карысталіся павагай шэфа і яго жонкі. Барыс і Броня праз дзірку ў плоце без асаблівых прыгод уцяклі. Барыс быў у адной споднямі сарочцы і ўжо амаль на вуліцы спахапіўся, што няёмка ў такім выглядзе ісці ў горад.

— Ты ідзі, а я вярнуся і вазьму пінжак, — сказаў Барыс і знік.

Броня праз акно пранікла ў знаёмы дом, куды яны не раз з Барысам, рызыкуючы жыццём, прыносілі шрыфты, набор і лістоўкі. Туды ж, як было дамоўлена, павінен быў прыйсці і Барыс. Марудна цягнуўся час. Прайшла гадзіна, другая, трэцяя... Суткі, другія, а Барыса ўсё няма. «Які жах, а мы ж амаль што ўцяклі», — хвалявалася Броня.

Праз некалькі дзён на досвітку Броня падхапілася ад бразгатання дзвярнога замка. Яна расплюшчыла вочы: на парозе стаяў «Стары».

— Што з Барысам? — спалохана прагаварыла Броня.

— Барыс у гестапа, — стомлена садзячыся на адзіны ў пакоіку табурэт, з горыччу прамовіў «Стары».

Потым друкары расказалі, што, пралезшы ў двор друкарні, Барыс накіраваўся ў свой пакой. Але як толькі ён адчыніў дзверы, яго схапілі гестапаўцы. У гестапа Барысу Пупко ўчынілі жудасны допыт. Ён мужна пераносіў усе здзекі і катаванні і загінуў, як герой, не выдаўшы сваіх таварышаў па падпольнай барацьбе.

Воранавы і Свірыдаў пайшлі яшчэ глыбей у падполле, а Броню Гофман пераправілі ў Налібоцкую пушчу да партызан.

Нястомным змагаром у падполлі быў і Валодзя Амельянюк. Надыходзіла чарговая адпраўка падпольшчыкаў у партызанскі атрад на Дзяржыншчыну. З гэтага выпадку адбылося пасяджэнне падпольнага камітэта, на якім абмяркоўваўся парадак адпраўкі людзей і зброі. З горада людзі выязджалі пад выглядам лесарубаў, з пропускамі аддзела гарадской управы.

— Ёсць магчымасць, — сказаў Уладзімір Амельянюк, — адправіць людзей у атрад на машыне. Шафёр — свой чалавек. Я яго ведаю!..

Камітэт згадзіўся з гэтай прапановай.

Нягледзячы на тое, што былі прыняты ўсе меры перасцярогі, гестапа дазналася аб часе і месцы адпраўкі. Гэта было 26 мая. Як толькі машына з людзьмі кранулася ў дарогу, яе абстралялі з засады эсэсаўцы. Частка людзей загінула, а частка трапіла ў рукі ворага. Сярод захопленых была і адважная сувязная камсамолка Вольга Купрыянава, а таксама Мікола Сідарэнка, сувязны з атрада імя Сталіна, што размяшчаўся у Бокінаўскім лесе.

У той момант, калі аўтамашына кранулася з месца, Валодзя па Чыгуначнай, а затым па Маскоўскай вуліцы накіраваўся ў аптэку, што знаходзілася насупраць Дома ўрада. Перачакаўшы крыху ў загадчыка аптэкі, свайго баявога таварыша па падполлю камсамольца Жоры Фалевіча, ён выйшаў на вуліцу. Але як толькі павярнуў на Сувязны завулак, да будынка медыцынскага інстытута, грымнуў стрэл, і Валодзя мёртвы асунуўся на брук.

Мінскае падполле страціла аднаго з найбольш выдатных сваіх таварышаў — палымянага змагара супраць фашызма.



Уладзімір Амельянюк.

Пасля трагічнай смерці Уладзіміра Амельянюка загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі падпольны камітэт прызначыў Вечаслава Нікіфарава («Ваціка»), які дагэтуль займаўся арганізацыяй дыверсій у горадзе.

— Валодзя загінуў. Загінуў і Барыс Пупко, а газету і лістоўкі выпускаць трэба, — як бы сам сабе сказаў «Вацік».

— А што патрэбна для гэтага? — запытаўся я.

— Людзі, — адказаў ён. — І галоўным чынам — наборшчык.

— У мяне ёсць надзейны чалавек.

— Тады пачнём. На першым часе давядзецца тут, у цябе друкаваць. Справа тэрміновая. Немцы разгарнулі шырокую агітацыю сярод калгаснікаў з тым, каб забяспечыць нямецкую армію хлебам. Мы ўсяляк павінны перашкодзіць гэтаму, — сказаў «Вацік».

Праз некалькі дзён тэкст лістоўкі быў гатовы. Дамовіліся сустрэцца на наступны дзень раніцай а дзесятай гадзіне. «Вацік» пабяцаў прынесці шрыфт і ўсе неабходныя матэрыялы для друкавання.

Вечаслаў Нікіфараў быў чалавек дакладны. Са шматлікіх нашых сустрэч не памятаю ні аднаго выпадку, каб ён хоць бы на адну з іх спазніўся. І на гэты раз дакладна ў вызначаны час я выйшаў на вуліцу. З боку бензакалонкі па Чырвонай вуліцы па сцяжынцы напрасткі ішлі два чалавекі. Прыгнуўшыся, яны неслі вялікі кош. Аднаго з іх я хутка пазнаў — гэта быў «Максім». Заставалася нейкіх метраў сто да нашага дома, як ззаду іх нечакана з'явіліся два матацыклісты. Па бляхах у іх на грудзях было відаць, што гэта жандары. Сэрца маё замёрла. «Ну усё, загінулі хлопцы!»

Пачуўшы трэск матораў, «Максім» і яго напарнік спакойна збочылі са сцежкі, прапусцілі варту «новага парадку» і гэтак жа спакойна пайшлі далей. Праз некалькі мінут кош стаяў на падлозе пасярод майго пакоя. У кашы былі вярстатка, невялікая гранка, заціскі і пудоў каля трох шрыфту.

— Пазнаёмся, Валодзя, — сказаў «Максім», выціраючы ўзмакрэлы лоб. — Ты так поркаешся ў кашы, што нічога не бачыш!..

— Добры дзень, добры дзень, сябры!

Спачатку я павітаўся з «Максімам», а затым падышоў да высокага пажылога чалавека. Працягваючы мне руку, ён замест прывітання, прамовіў:

— «Стары».

(Пра тое, што гэта быў Васіль Іванавіч Сайчык, я дазнаўся толькі ў самым канцы 1942 года, калі мы знаходзіліся ўжо на Вялікай зямлі.)

Мы ўмовіліся, што пасля выдання лістоўкі я павінен буду сам знайсці памяшканне для друкарні, яе месца ведаць будуць толькі тыя, хто будзе там працаваць, і што людзей, якія заняты ў друкарні, ніхто не павінен ведаць і ніякіх іншых даручэнняў у іх не будзе.

За наборшчыка згадзіўся Хасан Александровіч, якога я добра ведаў па сумеснай рабоце ў Дзяржаўным выдавецтве, дзе ён быў намеснікам дырэктара, а я рэдактарам. Александровіч працаваў чорнарабочым на гарадской электрастанцыі. Неяк будучы на кватэры ў Александровіча, быццам жартам я сказаў яму:

— Хасан, ёсць добрая па сумяшчэнню работа...

— Ведаеш, Валодзя, колькі ні працуй, больш чым на чарпак гітлераўскай баланды ўсё роўна не заробіш, — сумна адказаў ён. — Але ты пра што?

Я расказаў, што ёсць шрыфт і іншыя друкарскія прылады. А пакуль што трэба тэрмінова зрабіць набор лістоўкі.

— Та-а-к. Вось гэта дык работка! Трапіш фашысту ў зубы, дык і баланда не спатрэбіцца, — смеючыся, адказаў Хасан.

— Воўка баяцца — у лес не хадзіць.

— Ты не забывай, што я лічуся на працы і мая адсутнасць там можа выклікаць падазрэнне. Во, каб бюлетэнь можна было афарміць?

І сапраўды, гэтай перашкоды я не прадугледзеў. У той жа дзень пры сустрэчы з «Вацікам» я расказаў, што так атрымалася.

— Ну, гэта не так ужо і страшна, — сказаў «Вацік». — Няхай ён заўтра ідзе на вуліцу Крапоткіна ў 5-ю паліклініку і звернецца да доктара Зязіна. Ён зробіць усё, што трэба. Пароль: «Я да вас ад «Максіма».

Потым, калі набіралі газету ці лістоўкі, Александровіч без асаблівых цяжкасцей атрымліваў за подпісам Яўгена Зязіна бюлетэнь па хваробе.

Хасан — падпольная клічка Александровіча. Наборшчык ён быў спрактыкаваны, высокай кваліфікацыі. Яшчэ да рэвалюцыі, 12-гадовым хлапчуком ён пачаў свой працоўны шлях. Некалькі год набіраў газету «Копейка», а затым з устанаўленнем на Беларусі савецкай улады — газету «Звязда».

За дзень Хасан разабраў шрыфт. І назаўтра, пакуль мы з «Вацікам» прынеслі фарбу, валік і паперу, ён набраў лістоўку. За ноч мы яе надрукавалі. Праз партызанскіх сувязных і падпольшчыкаў-чыгуначнікаў лістоўка была дастаўлена ў шмат якія гарады і сёлы Беларусі. З'явілася яна і на вуліцах Мінска.

У доме на вуліцы Куйбышава было набрана некалькі паведамленняў Саўінфармбюро, якія рас-



Хасан Александровіч.

паўсюджваліся затым па ўсім горадзе. На каробцы разбуранага будынка ГУМа, на рагу Савецкай і Камсамольскай вуліц яны віселі некалькі дзён, а на абутковай фабрыцы лістоўка была наклеена нават на дзверы кабінета шэфа.

Трэба было знайсці кватэру, дзе можна было абсталяваць друкарню. Параіўшыся з Александровічам, мы рашылі схадзіць да Ядвігі Савіцкай, з якой ён добра быў знаёмы. Жыла яна на Пераможнай вуліцы. Выявілася, што яе кватэра зусім не падыходзіць да гэтага таму, што паблізу жылі людзі, якім нельга было давяраць. Толькі сабраліся ісці ад Ядзі, як зайшоў «Вацік». Стала ясна, што Ядзя звязана і з ім. На чарговай яўцы «Вацік» спытаў у мяне, адкуль я ведаю Ядзю.

— Хасан пазнаёміў.

— Добра. Цяпер будзем працаваць разам.

На пошукі падыходзячай кватэры мы з Александровічам патрацілі некалькі дзён, але нічога не знайшлі. Позна ўвечары стомленыя вярнуліся дадому. Не паспеў я распаліць прымус, каб згатаваць чай, як адчыніліся дзверы і на парозе з'явіўся «Вацік».

— Знайшлі?

— Пакуль што не.

— Адна падпольшчыца параіла кватэру на Выдавецкай вуліцы.

— Хто?

— «Цёця Нюра». Чуў пра такую? Не зусім, вядома, добра, што пра друкарню будзе ведаць яшчэ адзін чалавек, але нічога не зробіш. Іншага выйсця пакуль няма. Чалавек яна надзейны. Не падвядзе.

— Ну што ж, на Выдавецкую. дык на Выдавецкую!..

Напакаваўшы кашы шрыфтам, мы з «Вацікам» праз Камароўскае балота накіраваліся на Выдавецкую вуліцу. Падышлі да высачэзнага плота, за якім віднеўся невялікі домік. «Вацік» сказаў:

— Вось сюды.

Зайшлі на двор. Нас ветліва сустрэла гаспадыня Тацяна Якавенка. Шрыфт мы перанеслі за тры разы і схавалі яго пад паветкай. На наступны дзень тут апынулася і астатняе небагатае абсталяванне друкарні. Зноў пачалася дзейсная падрыхтоўка да выхаду падпольнай «Звязды», ці, як любоўна называлі яе мінчане, «Звёздачкі».

Чарговы нумар вырашана было выпусціць у бліжэйшую нядзелю ліпеня. Матэрыял, за выключэннем паведамленняў з франтоў, быў падрыхтаваны. Але, калі справа дайшла да шрыфту, то выявілася, што спатрэбіцца яшчэ час, каб упарадкаваць яго. Пасля друкавання набор звычайна ссыпаўся ў адно месца. Каб разабраць шрыфт, патрэбна была наборная каса. Але дзе яе ўзяць? Вынесці з нямецкай друкарні не ўдасца — занадта ўжо яна груваcткая. Што ж рабіць?

Выручыў Хасан. На аркушы ватману ён начарціў схему наборнай касы, а яго жонка, Галіна Адамаўна, сшыла каля двухсот невялічкіх мяшэчкаў з марлі. У іх былі раскладзены літары. У час набору шрыфт у мяшэчках раскладвалі па схеме. Гэта было зручна ў час працы і пры пераносцы шрыфту ў выпадку небяспекі.

Пасля разбору выявілася, што не хапае шмат якіх літар, а таксама прабельнага матэрыялу. Спатрэбіўся час і на тое, каб вынесці ўсё гэта з Дома друку. Пры ўсім старанні чарговы нумар газеты ўдалося выпусціць толькі ў жніўні.

Друкарня размясцілася ў пакоі, які займаў Грышын. Сюды мы прынеслі чатыры гранаты Ф-1, якія намерваліся прымяніць у выпадку нечаканага нападу. Здавалася, усе падрыхтаванні былі ўжо закончаны. Я зайшоў да Ядвігі Савіцкай і забраў у яе матэрыялы, якія яна падрыхтавала. Яшчэ раз іх перачыталі.

Александровіч расклаў па схеме шрыфт на вялікім раскладным стале. Калі ён пачаў рабіць набор, то выявілася, што не хапае яшчэ некаторых знакаў, асабліва самых ходкіх літар. Рашылі замест іх ставіць шпацыі, каб потым замяніць у карэктуры. І вось набор нарэшце гатовы, сабраны ў гранкі. Александровіч робіць адбіткі палос. Абое мы моцна хвалюемся. Чытаю першую старонку. Праз усю паласу надпіс: «Беларусь была і будзе Савецкай!» Далей перадавы артыкул — «Правал планаў Гітлера», заканчваўся ён вядомымі словамі Аляксандра Неўскага: «На чым стаяла зямля руская, на тым і стаяць будзе. Хто з мечам прыйдзе на яе, той ад меча і загіне». Другая паласа пачыналася загалоўкам: «Пасля поўнага знішчэння ворага наша вольная радзіма спытае ў кожнага з нас: што ты зрабіў, каб вызваліць сваю краіну ад здзекаў нямецкага фашызма?» Затым — апісанні асобных эпізодаў з баявых дзеянняў партызанскіх атрадаў.

Пад вечар у друкарню прыйшлі Сяргей Благаразумаў і Клава — друкары. Хоць газета друкавалася ўручную, самым прымітыўным спосабам, тым не менш Хасану даводзілася нямала папрацаваць, каб навучыць Сяргея і Клаву друкаваць яе хутка і больш-менш якасна. Гэта была не толькі небяспечная, але і занадта цяжкая работа. За некалькі дзён з невялікімі перапынкамі Сяргей, Клава і Хасан аддрукавалі тысячы чатыры экземпляраў.

Шмат турбот было і ў нашай гаспадыні Тацяны Якавенка. Кожны раз пасля працы друкароў ёй даводзілася, і не адзін раз на дні, грэць ваду, каб прывесці іх у парадак.

Чарговыя нумары «Звязды» выдаваліся лягчэй, бо ў нас быў ужо амаль поўны камплект шрыфту. Хапала і паперы: «Вацік» бесперабойна здабываў яе з дапамогай падпольшчыкаў у Доме друку. Вырашана было выдаваць падпольную газету хоць бы тры-чатыры разы ў месяц, па нядзелях. Трэці нумар і выйшаў у нядзелю 6 верасня.

У той час фашысцкая прапаганда асабліва ўзмоцнена ліла паклёп на народных мсціўцаў. Вось чаму ўвесь трэці нумар «Звязды» цалкам быў прысвечаны заклікам да ўсенароднай партызанскай вайны супраць фашысцкіх захопнікаў.

У «Звяздзе» была змешчана і партызанская песня «Адпомсцім», якую напісаў народны паэт Якуб Колас:

Ваякі-партызаны,
На Гітлера ў паход!
Раскрышым зброд паганы.
Нямецкі чорны зброд.

Словамі гэтай суровай песні клікаў паэт свой народ на барацьбу з ворагам.

Асабліва шмат шуму ў горадзе нарабіла надрукаваная ў трэцім нумары адозва да чыгуначнікаў былога начальніка мінскага паравознага дэпо Фёдара Кузняцова з партызанскай брыгады Варанянскага, у якой Кузняцоў быў камісарам. Адозва зрабіла на мінчан вельмі моцнае ўражанне, тым больш. што гітлераўцы доўгі час хваліліся, што Кузняцоў злоўлены і расстраляны.

У нядзелю 20 верасня выйшаў чацвёрты нумар падпольнай «Звязды». Перадавы артыкул «Да моладзі» выкрываў зладзейскі намер гітлераўцаў уцягнуць моладзь у так званы корпус беларускай самаахоўы. У газеце прыводзіліся канкрэтныя факты аб тым, як моладзь асобных вёсак ішла ў рады партызан і сурова помсціла лютаму ворагу...

«Звязда» шырока распаўсюджвалася не толькі ў Мінску, у партызанскіх атрадах, з якімі гарадское падполле мела цесную су-



вязь, але і ў іншых гарадах і сёлах рэспублікі.

Канспіратыўныя кватэры Варвары Мацюшка па вуліцы Дабралюбава і Ганны Кавальчук па вуліцы Карла Лібкнехта з'яўляліся своеасаблівымі газетнымі экспедыцыямі. Адсюль «Звязда» і лістоўкі размяркоўваліся па Мінску, а з дапамогай чыгуначнікаў — па іншых населеных пунктах Беларусі.

Па горадзе шнырылі дзесяткі гестапаўскіх агентаў. За выдачу падпольнай друкарні гаўляйтар Кубэ дакляраваў буйную ўзнагароду — 50 тысяч марак. Але трапіць на след друкарні гестапаўцам не ўдавалася. Яны жорстка распраўляліся не толькі з падпольшчыкамі, якія траплялі ў іх лапы, але і з тымі, хто чытаў нашу літаратуру. Кожны дзень хапалі людзей і кідалі іх у засценкі. Многія з тых, хто трапіў у турмы, загінулі, не вытрымаўшы катаванняў. Аднак жа падпольны рух у горадзе з кожным днём рос і пашыраўся, набываў усё больш масавы характар. І ў гэтым была немалая заслуга падпольнай «Звязды».

Выпуск пятага нумара «Звязды» быў намечаны на нядзелю 27 верасня. Матэрыял, які прынеслі з партызанскіх атрадаў Іосіф Будаеў, Іван Кабушкін («Жан»), Апанас Балашоў і іншыя падпольшчыкі, мы апрацавалі загадзя. У пятніцу Александровіч набраў і звярстаў газету, пакінуўшы месца для зводкі Саўінфармбюро, якую Нікіфараў, як было дамоўлена, павінен быў прынесці вечарам.

Прачакаў «Ваціка» я ў друкарні да раніцы. Трывожныя думкі непакоілі мяне: «Няўжо што-небудзь здарылася». Хвалявалася і Тацяна Якавенка. Кожныя 5—10 хвілін яна выходзіла з дому, каб паглядзець, ці не ідзе «Вацік», і кожны раз, вярнуўшыся, паўтарала адно і тое ж:

— Не, не відаць.

Чакаць «Ваціка» ў друкарні на Выдавецкай вуліцы, 10 (цяпер, 4) давялося два дні. За гэты час да мяне двойчы прыходзіў Сяргей Благаразумаў з просьбай дапамагчы яму выправіць набор партызанскай прысягі, якую ён з Лідай Ларынай друкаваў на Танкавай вуліцы.

Раніцай 28 верасня нехта пастукаў у дзверы. «Нарэшце», — з палёгкай уздыхнуў я і асцярожна прыадчыніў дзверы. На парозе стаяла маладая дзяўчына.

— Валодзя тут? — спытала яна ў гаспадыні.

— Тут.

— Зараз жа папярэдзьце яго, няхай хаваецца — пачаліся арышты. Маму мінулай ноччу арыштавала гестапа. Яна паспела мне сказаць, каб я ўсіх вас папярэдзіла.

Я выйшаў з пакоя і пазнаёміўся з дзяўчынай. Гэта была Галя, дачка камуністкі Ганны Фёдараўны Шырко («Цёці Нюры»).

— Ад шасці раніцы хаджу, — сказала яна. — Ледзь не ўвесь раён выхадзіла, пакуль знайшла вас. Мама не паспела сказаць ваш адрас. Добра, што я прыблізна ведала, дзе Таня жыве, дык вось і знайшла...

Я ведаў, што на кватэру Ядвігі Савіцкай наведваліся многія падпольшчыкі, таму, развітаўшыся з Галяй, хутчэй пабег на Пераможную вуліцу, каб папярэдзіць Ядзю. Але ж у доме застаўся шрыфт і іншыя друкарскія матэрыялы. Іх неадкладна трэба было куды-небудзь перанесці. Але куды? Запасная канспіратыўная кватэра, якую, апрача мяне, ніхто не ведаў, знаходзілася на другім канцы горада. Шрыфту было шмат, пудоў каля шасці. І я, памеркаваўшы, не адважыўся насіць яго праз увесь горад. Пакінуць жа шрыфт на Выдавецкай вуліцы — значыць паставіць пад смяротэльную пагрозу Тацяну Якавенка і яе маленькіх дзяцей.

— Перанясу на Пераможную, да Ядзі, — рашыў я. — Там прыхаваем, а потым відаць будзе, што з ім рабіць.

Так і зрабіў. За некалькі разоў перанёс шрыфт на Пераможную вуліцу. Пад гэты час Ядзя з групай падпольшчыкаў пайшла ў Слуцкую зону да партызан, і прыхаваць шрыфт і іншыя друкарскія матэрыялы дапамагла мне яе маці Яўгенія Хрыстафараўна. Шрыфт мы закапалі на гародзе, а фарбу, гранкі, вярстатку і іншыя





Анастасія Пашко (Ася).

матэрыялы схавала жонка Александровіча.

Калі я зноў вярнуўся на Выдавецкую вуліцу, каб яшчэ раз праверыць, ці не засталося там што-небудзь, што магло б выклікаць падазрэнне супраць гаспадыні, то ў дом, засопшыся, прыбег Сяргей Благаразумаў.

— «Ваціка» арыштавалі, — яшчэ з парога прагаварыў ён.

Праз некалькі дзён нам стала вядома, што ў розных кутках горада былі арыштаваны многія падпольшчыкі, у тым ліку і Сярожа Благаразумаў. Папярэдзіўшы мяне аб небяспецы, ён пайшоў на вуліцу Пушкіна, на адну з явачных кватэр, там яго і схапілі гестапаўцы.

Я пайшоў на Старавіленскую вуліцу да Паўла Ляхоўскага, дзе сустрэў Іосіфа Будаева. Гэта мяне здзівіла, бо я ведаў, што ён разам з Ігнатам Барсуком па даручэнню падпольнага камітэта пайшоў у Смалявіцкі раён, каб адправіць у партызанскую брыгаду «Дзядзі Колі» зброю, якую здабылі падпольшчыкі вёсак Дамашаны і Скураты.

Перад гэтым падпольшчыкі выехалі з Мінска на двух фурманках. На адной — Анастасія Вікенцьеўна Пашко («Ася»), а на другой пляменнік Ігната Барсука — Валодзя Антанюк. Іосіф Будаеў і Ігнат Барсук адправіліся на веласіпедах.

— Як гэта? Учора паехалі, а сёння ўжо ў Мінску? — спытаў я ў Іосіфа.

Ён расказаў мне, што ўдваіх з Ігнатам пабывалі ўжо ў Дамашанах і Скуратах, паўскладалі там на фурманкі зброю і накіравалі «Асю» і Валодзю ў Прылепы. Там яны павінны былі адшукаць кіраўніка мясцовай падпольнай групы Яфіма Ганчарова, з яго дапамогай забраць схаваную на прылепскіх могілках зброю і адвезці на Палік, у брыгаду «Дзядзі Колі». Сам жа ён разам з Барсуком вярнуўся ў Мінск, а затым накіраваўся ў Воўчкавічы, дзе мясцовыя падпольшчыкі здабылі для партызан станковы кулямёт і некалькі вінтовак.

Калі я расказаў Іосіфу аб тым, што гестапаўцы арыштавалі «Ваціка», «Цёцю Нюру» і Сярожу Благаразумава, Будаеў адразу ж пайшоў, каб папярэдзіць сваіх таварышаў аб небяспецы. Увечары я накіраваўся на Беламорскую вуліцу да Будаева, каб узяць у яго чысты бланк пашпарта і змяніць прозвішча, бо пад сваім прозвішчам хадзіць па горадзе было рызыкоўна. На рагу Цнянскай і Беламорскай вуліц выпадкова сустрэліся мне Іосіф Беланоўскі і Мікола Шугаеў. Ужо цямнела. Паблізу ад нас нікога не было, і я ціха сказаў ім, каб неадкладна змянілі кватэры, бо пачаліся арышты.

На сваю новую кватэру па Старавіленскай вуліцы я прыйшоў ужо з новым пашпартам у кішэні на імя Расолькі Ігара Уладзіміравіча.

Назаўтра накіраваўся на Выдавецкую вуліцу, каб даведацца аб лёсе Тацяны Якавенка. Здалёк убачыў, што акно завешана белай фіранкай. Гэта пароль: у кватэры было гестапа. Гаспадыня з дзецьмі поркалася на гародзе. Яна часта азіралася навокал. Заўважыўшы мяне, хутка сцягнула з галавы хусцінку, што азначала: небяспека. Не спыняючыся, я падаўся праз Камароўскі рынак у кірунку фізкультурнага інстытута.

І ўсё ж мне не давала спакою цікаўнасць. Праз некалькі дзён я зноў наведаўся на Выдавецкую. На гэты раз, убачыўшы мяне, Тацяна пайшла насустрач. Мы доўга хадзілі па адной з тагачасных ускраінных вуліц — 3-й лініі. Тацяна расказала мне аб тым, што адбылося ў яе на кватэры пасля таго, як мы выбраліся.

— Ужо было позна, — расказвала наша гаспадыня. — Ляжу я з расплюшчанымі вачыма. Дзеткі мае, Галя і Шура, бесклапотна спяць. І раптам у пакоі стала светла, нібы ўдзень. Я прахапілася, гляджу то ў адно, то ў другое акно. На вуліцы аўтамашыны, людзі. Некаторыя з іх палезлі ўжо цераз плот. І вось ужо моцны грукат у дзверы. Адчыніла, бо, думаю, усё роўна выламаюць. У калідор уляцела адразу некалькі чалавек з наведзенымі пісталетамі ў руках. Адчыніла, а сама схапіла на рукі дзяцей і села на ложку. А фашысты адразу ў пакой Грышына, туды, дзе была друкарня. Чую, лаюцца па-нямецку і па-руску. Потым удары. Грышына, небараку, моцна білі. Я яму гаварыла, каб сышоў куды, але ён чамусьці не паслухаўся і затрымаўся. «Вось за гэтым сталом набіралі бальшавіцкую газету!» — крычаў адзін з гестапаўцаў. «Дзе шрыфт, хто друкаваў газету?» — шалеў другі, дамагаючыся ад Грышына адказу. Але ён адказваў: «Нічога не ведаю».

— Усё перавярнулі ў доме, і пад паветкай, і нават на вуліцы вакол дома, але нічога не знайшлі. Пашнырыўшы, яны паехалі і павезлі з сабой акрываўленага Грышына.

З болем у сэрцы слухаў я Тацяну Якавенка і думаў, да чаго можа прывесці бесклапотнасць. Грышын жа папаўся з-за гэтай праклятай бесклапотнасці, якой не маглі пазбыцца некаторыя з нас нават у самыя небяспечныя моманты. І многім каштавала гэта жыцця. Праз некалькі дзён пасля арышту Грышына стала вядома, што там апынуўся і Шугаеў. Замест таго, каб неадкладна шукаць новую кватэру, ён пайшоў на старую, якую ўжо акружылі гестапаўцы. Як толькі «Аляксандр» паказаўся ў дзвярах, яго адразу моцна аглушылі нечым па галаве. Апрытомнеў ён ужо ў наручніках, прывязаны ланцугом да кузава аўтамашыны.

Праз некалькі дзён тое ж самае здарылася і з маім сябрам Іосіфам Беланоўскім.

На кватэры ў Паўла Ляхоўскага я пражыў больш тыдня. І аднойчы дазнаўся, што яе наведвалі многія падпольшчыкі, сярод іх былі ўжо і арыштаваныя. Заставацца тут далей нельга было. Як ні шкадаваў я Ляхоўскіх, гэтых цудоўных савецкіх людзей, але інакшага выйсця я не бачыў. Развітаўшыся з гаспадарамі, я накіраваўся на пошукі новай кватэры. Павандраваўшы, давялося пазней вярнуцца зноў сюды, бо выявілася, што ў іх пакуль што ўсё ціха. Тут мы цяпер сустракаліся з Хасанам амаль кожны дзень.

... Гэта было ў першыя дні кастрычніка. Мы з Александровічам сядзелі ў Паўла Ляхоўскага. Неўзабаве сюды прыйшлі Будаеў і Каліноўскі. Іосіф Змітравіч Будаеў расказаў нам аб тым, што здарылася з ім і яго таварышамі.

Тады мы ўсе разышліся па горадзе, каб папярэдзіць, каго ведалі, аб небяспецы. На Старажоўскім скверы ў мяне была прызначана яўка з Мішам Шэйбакам, а Іосіф Змітравіч, выправіўшы сваю жонку ў Прылепы, каб папярэдзіць групу Ганчарова, з Праскоўяй Аляксандраўнай Ляхоўскай накіраваўся на вуліцу Някрасава да Барсукоў.

Калі Будаеў зайшоў на двор да Барсукоў, то жахнуўся. Там стаялі тыя самыя партызанскія фурманкі са зброяй, якія «Ася» і Валодзя павінны былі даставіць у брыгаду «Дзядзі Колі».

Іосіф хутка зайшоў у дом.

— Што здарылася? — спытаў ён у «Асі».

— Нельга было даехаць, — стомлена адказала «Ася».

— Чаму? — ледзь стрымліваючы сябе, спытаў ён. — Расказвай, што здарылася?

— Не даехаўшы да Прылеп, — пачала свой расказ «Ася», — мы завярнулі ў хмызняк, бо ў вёску нельга было ехаць без папярэдняй разведкі. Валодзя застаўся каля фурманак, а я пайшла ў вёску. Сустрэлася з Ганчаровым, а ён мне і гаворыць: «Зараз жа вяртайцеся назад. Усюды па дарозе да партызан варожыя засады». Думалі-думалі мы з Валодзем што рабіць і вырашылі ехаць у горад. Вось і ўсё...

К таму часу Міша Шэйбак і Ігнат Барсук, якіх мне ўдалося папярэдзіць аб небяспецы, на веласіпедах паехалі ў партызанскую вёску Малыя Бясяды. Усе ж астатнія члены сям'і Барсука, як і было дамоўлена, павінны былі ісці туды пехатой.

Дом на вуліцы Някрасава, дзе жылі Барсукі, доўгі час з'яўляўся адной з кватэр падпольнага камітэта, якую ведалі многія падпольшчыкі. Таму заставацца тут, і тым больш са зброяй, нельга было. Вырашылі на ноч схаваць зброю на Усходнім завулку ў Абламскіх, а раніцою адправіць у партызанскую брыгаду «Штурмавая». Не пакідаць жа зброю ў горадзе!

На кватэры Абламскага сабраліся Іосіф Будаеў, Іосіф Беланоўскі, Уладзімір Чалаў, сястра Ігната Барсука Алена з сынам Валодзем Антанюком. Пад раніцу сюды ж павінны былі прыбыць «Ася» і сям'я Ігната Барсука, каб разам пайсці ў лес да партызан.

На досвітку нехта моцна пастукаў у дзверы. Усе хапіліся за зброю. Стук паўтарыўся ў акно.



Ігнат Барсук.

Мужчыны паўстаўлялі ўзрывальнікі ў гранаты. Гаспадыня дома адчыніла дзверы. У пакой убегла Вольга Пятроўна Барсук і цяжка села на табурэт, а за ёю ў пакой зайшлі яе сыны Аляксандр і Уладзімір.

— Што здарылася? — у адзін голас спыталі падпольшчыкі. — Дзе «Ася»?

— Гестапа... — спалохана прамовіла яна. — Гестапа напала на наш дом, «Асю» схапілі...

— Трэба збірацца і ісці зараз жа. Фурманкі са зброяй адправім спачатку!.. — задумліва прагаварыў Будаеў.

... Я са сваімі таварышамі застаўся ў Мінску — нам трэба было яшчэ надрукаваць і распаўсюдзіць па горадзе адозву.

Пад гэты час гестапа схапіла «Дзіму» (Змітра Андрэевіча Караткевіча), Ермалая Максімавіча Баранава, Мікалая Яўстаф'евіча Герасіменку, Анатоля Іосіфавіча Кушалевіча, Георгія Паўлавіча Сапуна, Паўла Мікітавіча Хмялеўскага, Пятра Міхайлавіча Цвяткова, яго жонку Надзежду Цімохаўну і многіх іншых падпольшчыкаў.

Мы ішлі з Пятром Калейнікавым па вуліцы Даумана і думалі аб тым, хто мог выдаць падпольшчыкаў.

— Пытанне вельмі складанае, — заўважыў Пятро і тут жа спытаў: — А лістоўку дзе друкаваць думаеш?

— Над гэтым пытаннем я яшчэ, прызнацца, не думаў...

— А што калі ў лазні?

— У лазні?

— А што ж, памяшканне вялікае, ёсць дзе разгарнуцца!..

На гэтым і парашылі.

Па шрыфт трэба было ісці на Пераможную вуліцу, на кватэру Ядвігі Савіцкай, дзе жыла яе старая маці.

Дні праз два, упэўніўшыся праз сувязных, што за кватэрай Савіцкіх гестапаўцы не сочаць, я змог зайсці туды. На гародзе знайшоў толькі частку шрыфту, на тым месцы, дзе мы закапалі яго з Яўгеніяй Хрыстафораўнай.

— Дзе ж астатні?

— Вунь там, — паказваючы на прыбіральню, — адказала яна.

Пакуль я кешкаўся са шрыф-

том, час ішоў. Скончыўся дзень, і лазня зачынілася. Давялося часова прыхаваць шрыфт у цокальным паверсе 3-га дома Саветаў.

Шрыфт быў схаваны пад лесвіцай, ад Пралетарскай вуліцы.

15 кастрычніка лазня працавала, і якраз настаў зручны час, каб перанесці шрыфт. Але зноў жа здарылася тое, чаго мы ніяк не маглі чакаць. Як толькі мы з Александровічам прыйшлі па шрыфт, то заўважылі, што на двары ваеннапалонныя пад аховай гітлераўцаў разбіраюць цагляную сцяну.

— Што будзем рабіць?

— Трэба неяк забраць, — адказаў Хасан. — Фрыцаў усяго чатыры чалавекі. Двое ж ходзяць з другога боку. Яны нічога не заўважаць. Іншая справа — вось гэтыя двое. Ім усё бачна, як на далоні...

— Чаму, як на далоні? Можна пракрасціся ў падвал. Праўда, фрыцы могуць звярнуць увагу, калі будзем пераходзіць вуліцу. Іх трэба неяк загаварыць. Спытай, можа ў іх ёсць цыгарэты.

— Паспрабую.

Усё здарылася так, як мы надумалі. Хасан, узяўшы ў аднаго немца пачак цыгарэт, даваў яму тры маркі, а той запрасіў чатыры. Пачалі таргавацца...

Тым часам я забраў шрыфт, перанёс цераз Пралетарскую і схаваў на двары, непадалёк ад кватэры Ляхоўскіх. Неўзабаве з пачкам цыгарэт падышоў і Хасан. Пераклаўшы шрыфт у кошыкі, мы перацягнулі яго ў лазню і схавалі ў дэзінфекцыйнай камеры. Александровіч пачаў разбіраць. Я, як умеў, памагаў яму. І тут здарылася тое, чаго мы так баяліся: нехапала многіх літар. Іх недзе згубілі разам з мяшэчкамі.

Сумныя і злосныя, мы выйшлі з лазні. Што можна было зрабіць у той страшэннай абстаноўцы? Звязацца з друкарняй? Але на гэта спатрэбілася б шмат часу.

Назаўтра Александровіч расказаў мне, што «Стары» на Пугачоўскай вуліцы наскочыў на засаду. Параненага, яго даставілі ў бальніцу на вуліцу Леніна, адтуль прафесар Клумаў і медсястра Вікторыя Рубец дапамаглі яму ўцячы.

— Адкуль ты гэта ведаеш, Хасан?

— Вікторыя расказала.

Вельмі хацелася мне наведаць Сайчыка, таму я папрасіў Хасана, каб ён наладзіў сустрэчу з Вікторыяй. Праз дзень Вікторыя адвяла мяне на Рэвалюцыйную вуліцу ў невялічкі цьмяны пакойчык, у якім хаваўся «Стары». Ён расказаў нам аб сваіх прыгодах і аб тым, як яму ўдалося схавацца ад гестапа. Прайшло каля гадзіны.

— Вы заставайцеся, пагаварыце, а я спяшаюся, — устаючы, сказала Вікторыя.

— І мне час...

Калі мы выйшлі на вуліцу, адразу ж размова пачалася аб арыштах. Я спытаў у Вікторыі, што здарылася з «Жанам».

— «Жан» на волі. Учора я яго сама бачыла.

— Наладзьце сувязь мне з ім, калі ласка.

— Гэта можна будзе.

Яўка адбылася на Старажоўскай вуліцы а 9-й гадзіне ўвечары. Мы з Хасанам прыйшлі крыху раней. На месцы нашай сустрэчы расла чародка клёнаў. Іх зялёныя разлапістыя галіны надзейна затулялі нас. Хвілін праз колькі падышлі «Жан» і Вікторыя.

Сустрэча была радаснай. Назаўтра мы з «Жанам» прыйшлі на кватэру Ляхоўскага. Я прачытаў яму тэкст адозвы.

— Застаецца толькі надрукаваць, — усміхнуўшыся, сказаў «Жан».

— Трэба спачатку набор зрабіць.

— Вядома, а як жа інакш!

— Вось толькі некалькі літар мы згубілі, пераносячы шрыфт...

— Нічога, знойдзем.

Прыйшлі мы на Вадаправодны завулак, у дом нумар 16, да Лёні, які працаваў у друкарні. Лёня паабяцаў нам здабыць неабходныя літары, каб зрабіць набор лістоўкі. Лёня назаўтра выканаў сваё абяцанне, і я аднёс Александровічу на Выдавецкую тыя літары. —

— Калі будзеш ісці ў лазню, — сказаў я Хасану, — не забудзь узяць фарбу, каб не хадзіць лішні раз па яе.



Хасан выйшаў на двор і праз некалькі хвілін, вярнуўшыся, сумна прагаварыў:

— Але ж і не шанцуе нам! Зноў няшчасце.

— Што здарылася?

— Глядзі.

Хасан адкрыў бляшанку: там замест фарбы аказаўся пясок. Ён трапіў туды, калі Галіна Адамаўна хавала фарбу ў зямлі.

— Нічога, — сказаў «Жан», калі мы зноў сустрэліся. — Рабіце лістоўку, а фарбай я займуся сам.

Мы сустрэліся на Старажоўскіх могілках. «Жан» перадаў мне валік, паперу і фарбу.

Рызыкоўны хлопец быў гэты «Жан» (Іван Кабушкін). Мне і раней даводзілася сустракацца з ім, але блізка я яго не ведаў. Мае таварышы па падполлю шмат расказвалі аб яго бясстрашшы і непрымірымасці да ворага. У «Жана» ніколі не дрыжала рука, калі падпольны камітэт даручаў яму знішчыць якога-небудзь здрадніка. Бліжэй мне давялося пазнаёміцца з ім у тыя памятныя кастрычніцкія дні, калі разам выпускалі і распаўсюджвалі адозву да мінчан. Сапраўды, гэта быў нейкі незвычайны чалавек. Усё ў яго выходзіла ўдала, проста, з хлапечым запалам.

— Бывай, дружа, я ўжо дома! — падаючы руку «Жану», прагаварыў я, калі мы падышлі да дома № 19 па вуліцы Даумана.

— Бывай, Валодзя! — і «Жан» з усяе сілы пацiснуў мне руку. — Калі спатрэблюся, кліч праз Вікторыю!..

Тым часам Александровіч набіраў лістоўку. Ён нешта прыхворваў, і мы з Яўгенам Афнагелем параілі яму адпачыць.

— Не, спачатку зробім адбітак, выправім, прачытаем, а потым можна і дадому, — адказаў Хасан.

— Чытай, Валодзя, уголас, — сказаў Афнагель.

І я прачытаў лістоўку, якая нарадзілася ў тых цяжкіх і небяспечных умовах падполля.

— Як быццам нядрэнна, — заўважыў Хасан.

— Добра. Толькі вось, як падпісаць? — сказаў Яўген і прапанаваў: — А што калі падпісаць: «Мінскі гарком і камандаванне Н-скай партызанскай брыгады»?

— Правільна! — сказаў Калейнікаў. — Няхай не радуюцца гестапаўцы, што яны пакончылі з падполлем.

На тым і пагадзіліся. Хасан хутка набраў «Мінскі камітэт КП(б)Б і камандаванне Н-скай партызанскай брыгады» і гэтыя тры радкі падвярстаў да тэкста адозвы.

Два дні мы друкавалі лістоўку з Афнагелем, а Калейнікаў з жонкай дзяжурылі ў лазні і каля яе.

21 кастрычніка на кватэры Ляхоўскіх сабраліся Іван Кабушкін («Жан»), Хасан Александровіч, Пятро Калейнікаў і я. Прынялі рашэнне распаўсюдзіць адозву па горадзе ў адзін і той жа час — 21 кастрычніка а восьмай гадзіне ўвечары. У чыгуначным раёне яе расклейваў «Жан», у раёне Камароўкі і Пушкінскага пасёлка — Александровіч, у раёне Ваенных могілак, на вуліцы Пуліхава і ў цэнтры горада было даручана мне. Адозву расклейвалі таксама Вікторыя Рубец, Лідзія Ларына, Павел і Праскоўя Ляхоўскія, Яўген Афнагель, Пятро Калейнікаў і яго жонка Раіса Карпава. Гітлераўцы не думалі, што падпольшчыкі адважацца на такую дзёрзкасць. Даведаўшыся, што па горадзе расклеена адозва з заклі-



Іван Кабушкін («Жан»).

кам да насельніцтва брацца за зброю, яны стварылі каманды з салдат, паліцыі і нават з нямецкіх чыгуначнікаў, якія пешшу, на аўтамашынах і матацыклах шнырылі па горадзе...

Заставацца далей у Мінску было вельмі небяспечна. Трэба было хоць бы на нейкі час куды-небудзь знікнуць і нам. Але куды? Яшчэ ў канцы верасня пры сустрэчы з Міхаілам Шэйбакам, сувязным партызанскай брыгады «Штурмавая», мы дамовіліся, што ў выпадку неабходнасці ён знойдзе мне сховішча ў Малых Бясядах, але гэту вёску карнікі ўжо спалілі, а сям'я Шэйбакаў пайшла ў партызаны. Пазней у Мінск з партызанскай брыгады прыходзіла Ядвіга Савіцкая па шрыфт. Яна прызначыла мне яўку каля Ваенных могілак, але Александровіч, праз якога Савіцкая імкнулася наладзіць нам сустрэчу, змог паведаміць мне аб гэтым праз дзень. Каб стрэўся я тады з Савіцкай, то, безумоўна, пайшоў бы ў лес разам.

Выручыў Павел Ляхоўскі. Праз Пятра Калейнікава ён паведаміў мне, каб я неадкладна прыйшоў на Старавіленскую вуліцу. У яго я застаў незнаёмую мне яшчэ зусім маладую жанчыну.

— Знаёмся, — сказаў Павел, кіўнуўшы на яе галавою. — З ёю ты можаш пайсці да Лапаціна.

— Зіна, — адказала жанчына.

— Так, але ж я не адзін.

— Можна і групу адвесці, — заўважыла Зіна.

У той жа дзень праз Вікторыю Рубец я сустрэўся з «Жанам». Разам мы зайшлі да «Старога», які к гэтаму часу ўжо акрыяў ад ранення, каб папярэдзіць яго аб сваім адыходзе ў лес. Раніцаю мы сабраліся на кватэры Ляхоўскіх. Праводзіць нас прыйшлі Іван Кабушкін, Пятро Калейнікаў, Раіса Карпава і Мікалай Бортнік.

Выйшлі мы з Мінска ў другой палове дня. Тады ніхто з нас не думаў, што гэтая сустрэча з «Жанам» і Бортнікам будзе апошняй. На вуліцы Крапоткіна да нас далучылася Фаіна Столава з 12-гадовым сынам Максам. Яны перажылі самае жудаснае пабоішча, якое ўчынілі гітлераўцы ў яўрэйскім гета ў канцы ліпеня. Фаіна з сынам спачатку жыла ў сховішчы ў гета, а потым на адной з канспіратыўных кватэр «Жана» па Рэвалюцыйнай вуліцы.

Увечары наша група прыйшла ў вёску Жукаўка. Там нас ужо чакалі партызаны з брыгады «Дзядзі Колі».

Хвалюючай і радаснай была сустрэча з народнымі мсціўцамі. Усё іхняе захапляла нас, падпольшчыкаў: і бліскучыя зорачкі, і чырвоныя стужкі на шапках, і іх бадзёры выгляд...

Праз два дні мы былі ў лагеры брыгады. Тут ужо знаходзіліся падпольшчыкі Іосіф Будаеў, Цімох Трафімюк і яго жонка Дар'я Іванаўна. Аб нашым прыходзе камбрыг Лапацін паведаміў па рацыі ў Маскву, у Беларускі штаб партызанскага руху.

У брыгадзе Лапаціна мы пачулі сумную вестку. У баі з гітлераўцамі каля вёскі Удра на Лагойшчыне загінуў наш сябар, партызанскі сувязны Міша Шэйбак. Пасеўшы ў цесны гурток вакол партызан, мы моўчкі слухалі расказ аб смерці нашага баявога сябра. Расказ перапыніў нейчы гучны голас:

— Казачонак, да камбрыга!

— Беларускі штаб выклікае ўсіх падпольшчыкаў у Маскву, — сказаў Лапацін. — Вы прызначаецеся старшым групы.

Золкім лістападаўскім ранкам мы пастроіліся каля штабной зямлянкі. Камбрыг зачытаў загад аб адпраўцы нас, сямі падпольшчыкаў і дваццаці шасці партызан, на Вялікую зямлю.

Цёпла развітаўшыся, мы накіраваліся ў далёкі і небяспечны шлях.

*З блакнота падарожніка*

ZaH

MIROSLAV ZIKMUND A JIŘÍ HANZELKA

Іржы ГАНЗЕЛКА, Міраслаў ЗІКМУНД

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

### Сітуацыя мяняецца

Складаючы дома план падарожжа па Еўропе, мы забылі пра адну «дробязь» — пра тое, што Грэцыя не падтрымлівае з Албаніяй дыпламатычных адносін і да гэтага часу, выходзіць, усё яшчэ ў стане вайны з ёй. Для падарожніка гэтая «дробязь» мае тое значэнне, што з Албаніі ў Грэцыю ён не трапіць — граніцы закрыты.

Мы планавалі ехаць з Албаніі ў Грэцыю, з Грэцыі ў Балгарыю. А потым надыходзіць чарга Турцыі — апошняй краіны ў еўрапейскай частцы маршруту і першай — у азіяцкай.

Цяпер сітуацыя мяняецца. Каб трапіць у Грэцыю, нам давядзецца зноў ехаць у Югаславію. Сама па сабе гэтая акалічнасць не праблема: дастаткова аб'ехаць два возеры — Паградзецкае і Прэспа — і ты ў Бітоле, а адтуль да грэчаскай граніцы рукой падаць. Увогуле гэты круг складае якіх-небудзь сто трыццаць кіламетраў. Нават калі ўлічыць, што нам давядзецца двойчы выканаць усе мытныя і пашпартныя фармальнасці, у другой палове дня мы спакойна можам быць у Грэцыі...

І вось мы зноў едзем у Югаславію, і ў нашым кашальку якраз тая сума, якую валютныя прадпісанні дазваляюць увозіць у краіну. Калі з гэтага вылічыць дарожны падатак за дзве машыны, дык у нас застанецца толькі на хлеб і на масла для матораў.

Ад нашай лагернай стаянкі да югаслаўскай граніцы — паўгадзіны язды. Дарога ўзбіраецца на горы, адсюль у апошні раз можна зірнуць на наш лагер, але з возерам мы можам не развітвацца: яно будзе суправаджаць нас не адзін яшчэ кіламетр.

А вось Охрыд, горад, на які тры тыдні назад мы глядзелі ў бінокль з працілеглага берага. Зблізку ён выглядае зусім інакш. Гірлянда рознакаляровых агнёў, якая з'яўлялася кожны вечар над роўняддзю возера, ператварылася цяпер у рад ліхтароў уздоўж набярэжнай.

Працяг. Гл. №№ 5 і 6.

Мы не маглі разгледзець у бінокль і гэтай дзіўнай мешаніны адсталага Усходу з курортным супермадэрнам. «Палас-атэль» прыцягвае ўвагу сваёй элегантнасцю, густоўным спалучэннем пастэльных тонаў афарбоўкі, шкла, разьбы па дрэву, знарок грубага каменю і керамікі. Аднак за спіной гэтага шклянога палаца жыве старадаўні ўсходні гарадок з вузкімі вулачкамі — складамі смецця і розных адкідаў. На галоўнай вуліцы сустракаеш і босых вясковых жанчын у падкасаных сукенках, і сучасных франтаў у клятчастых і размаляваных сарочках. Недалёка ад мячэці — шырокаэкраннае кіно, дзе гледачам — праважна мусульманам — прапануецца фільм «Апошні рай».



### Македонія

Ніхто з нас не ўяўляў сабе Македонію такой. Гэта прыгожы, мірны край, узгаркаваты, месцамі нават гарысты, але ўсюды апрануты ў зеляніну. Адчуваецца, што тут стагоддзямі гаспадарыла рука працавітага чалавека. Дубовыя і букавыя гаі перамяжаюцца лугамі і плантацыямі тытуню, жаўцізна зжатых палёў пераходзіць у цёмную зеляніну шырокіх вінаграднікаў. У міжрадкоўях сярод рослых вінаградных лоз працуюць маленькія трактары, пакідаючы за сабой воблакі сінябатага дыму. А крыху далей на балоце блукаюць буслы; потым, пацешна падскочыўшы, яны ўзнімаюцца вышэй тапаляў, убіраюць свае падобныя на жэрдкі «шасі» і адлятаюць у жабіна царства на беразе Чорнай ракі.

Ужо зацемна ўязджаем у Прылеп, тут мы павінны атабарыцца на начлег, бо ад шафёра сустрэчнай югаслаўскай машыны дазведваемся, што за горадам «многа крывін» і стаянку там знайсці будзе нялёгка.

### Адплата за памылку

Назаўтра мы павінны да паўдня быць у Скопле, інакш грэкі зачыняць сваё консульства ў нас перад носам, і прыдзецца застацца ў Югаславіі яшчэ на цэлы дзень, гэта значыць яшчэ на дзве тысячы дзінараў дарожнага падатку. Дзе нам іх узяць?

— Грэчаскае консульства? — паціскаюць плячыма людзі, якіх мы спынілі на аўтобуснай станцыі. Ніхто не ведае, дзе грэчаскае консульства. Але тут перабягае вуліцу высокі юнак, які звяртаецца да нас па-чэшску. І вось ён ужо ў сіняй машыне — будзе хутчэй, калі замест доўгіх размоў ён сам пакажа дарогу.

У консульстве некаторы час шукаюць тэлеграму з Прагі. Так, так, цудоўна, чатыры чалавекі, спецыяльныя пашпарты, транспартная віза павінна быць адтэрмінавана...

— Але ж вам і не патрэбна ніякай адтэрміноўкі, — гаворыць чыноўнік, ставячы пячаткі ў пашпарты. — У вас жа трохмесячныя візы. — І паказвае на грэчаскі запіс.

— Але побач напісана па-французску, што тэрмін дзеяння — адзін месяц!

— Гэта нехта памыліўся, відаць. Вядома!.. Аднак сапраўднае тое, што па-французску, — робіць круты паварот чыноўнік...

— Мы можам пагаварыць з панам консулам?

— Калі ласка, калі ласка.

Консул праглядае нашы пашпарты і пацвярджае, што правільны толькі французскі тэкст.



Дзінараў, якія ў нас ёсць наяўнымі, нам не хопіць, а акрэдытыў у нас у Сафіі. Гэта азначае, што мы павінны зняць Грэцыю з плана падарожжа і ехаць адразу ў Сафію.

Вось, падарожнік, якія выпадкі зрываюць твае планы! З Албаніі ў Грэцыю не трапіш, бо яны не падтрымліваюць дыпламатычных адносін. А з Югаславіі таксама не ўедзеш у Грэцыю, бо нехта наблытаў у дакументах. Нічога не зробіш, едзем у Балгарыю.

— Нам абавязкова трэба купіць масла для матораў, — настойліва напамінае Ольда, — мы праехалі ўжо больш двух з палавай тысяч кіламетраў.

На шчасце, у нас ёсць рыбныя кансервы, купім яшчэ бохан хлеба, крыху фруктаў і да заўтра дажывем. А на ўсе астатнія грошы купім масла.

... Ольдржых зноў робіцца гаваркім і нават нешта напявае сабе пад нос. Гэта азначае, што з рамонтам скончана. Учора вечарам на сіняй машыне трэснуў масляны ахаладжальнік. Таму сёння Ольдржых устаў на досвітку, у чатыры гадзіны ўжо быў пад машынай, а зараз, у сем, пасвіставае сабе! Выціснуў апошнюю кроплю масла з бляшанкі, потым паклікаў нас дапамагчы выціснуць з каністра ўсё, што засталося на дне. Нарэшце, узяў паўлітра масла з матора чырвонай машыны, каб хоць ніжняя рыска ў вымяральніку сіняй была прыкрыта. Без гэтага «пералівання крыві» мы б не даехалі да Сафіі.



... Цёплая суботняя раніца. Міма нас спяшаюцца на базар сяляне. У кошыках яны нясуць агуркі, памідоры, цыбулю і першыя грушы. Па камяністаму адхону, які, відаць, нядаўна размыў моцны лівень, ідуць трое сялян з кашамі на спіне, а за імі чацвёрты — са скрыпкай у руцэ. Не адрываючы вачэй ад мокрых каменняў, каб не ўпасці, ён пілікае і пілікае, на твары яго задаволеная ўсмешка, а за спіной пагойдваецца мяшэчак з часнаком. Ідылія!

А па дарозе бяжыць парасё, прынамсі, трыццатае сёння. За ім — сялянка, яна штохвіліны нахіляецца, пляскае па спінцы нетаропкага «падарожніка»: «Ц-ц-ц, хуш, хуш!»

### Гайда, гайда!

На шляху з югаслаўскай Крыва-Паланкі да балгарскага Гюшава даводзіцца перавальваць цераз гару, якая нагадвае званіцу. Дошчачка, якая ўторкнута ў кювет, абяцае семнаццаціградусны пад'ём, але можна даць галаву на адсячэнне, што некалькі градусаў ад нас утаілі. За пагранічным шлагбаумам ажыўленне: сярод пагранічнікаў — дзяўчаты з кветкамі, некалькі фотарэпарцёраў і кінааператар. Сябры з пасольства, прадстаўнікі Саюза балгара-чэхаславацкай дружбы.

— Я хоць і апошняя, — знаёміцца з намі, хітравата ўсміхаючыся, маладая чарнавокая журналістка, — але інтэрв'ю хацела б узяць першай. Рэйна Врынгава, «Вячэрняя газета», Сафія.

Мірак заняты мытнымі і пашпартнымі фармальнасцямі, Іржы сядзіць каля радыёстанцыі, якая два дні была нямой. Тут, на вяршыні, чутнасць ідэальная: праз мінуту мы звязаліся са Швецыяй, праз дзве — з Канадай, потым — з Новай Зеландыяй.

— Гайда, гайда! — падганяе Рэйна сваіх калег. — Едзем, мне трэба з Кюстандзілу перадаць па





тэлефоне матэрыял у Сафію, там мне пакінулі тры калонкі!

Змяркаецца, калі мы ўязджаем у Сафію. Горы зацягнуты суцэльнай чорнай заслонай дажджу, вуліцы пустыя, вецер гоніць па мокрым бруку касыя струмені вады.

— Гэта, бясспрэчна, вы, — гаворыць рэгуліроўшчык на скрыжаванні, выцягваючы з-пад плашча газету. Ён просіць адчыніць акенца. — Вось, глядзіце! — і совае ў машыну два экземпляры «Вячэрняй газеты». У сіняй рамцы — здымак нашых «татраў-805» і свежы рэпартаж аб перасячэнні югаслаўска-балгарскай граніцы.

Значыць, мы сапраўды ў Сафіі. Тры краіны за тры дні!

### Візітная картачка Турцыі

Мы адчуваем сябе так, як чалавек, якому ўручылі запрашальны білет на гулянне ў парку, а на білеце напісана: «Хадзіць дазваляецца толькі па вызначаных сцежках, налева і направа глядзець забараняецца».

Запрашэнні накшталт гэтага выдаюцца турэцкімі ўстановамі па абслугоўванню турыстаў. «Стамбул — горад цудаў!» — гаворыцца ў гэтых запрашэннях, у якіх ёсць яшчэ карысныя звесткі аб мытных і валютных законах, добрых атэлях і рэстаранах, галоўных банках і валютным курсе. А потым — увага турыста звяртаецца на тое, што ў Турцыі ёсць «забароненыя ваенныя і цывільныя зоны, дзе неабходна строга прытрымлівацца вызначаных дарог, дзе забараняецца фатаграфаваць, рабіць якія-небудзь запісы або замалёўкі, карыстацца біноклем. Апрача гэтага, турыст, які едзе на ўласнай машыне, не мае права спыняцца на дарогах...»

Перад тым, як уступіць у царства гэтых запаведзяў, мы спыніліся перад турэцкай граніцай, селі ў кювет і дасталі карту. Была прыветлівая сонечная раніца. Справа ад дарогі зелянела даліна ракі Марыцы, на другім беразе якой ужо Грэцыя. Дзіўнае пачуццё напоўніла нас, смутак і жаль — не пабачым мы краіны казачнага Алімпа, не палюбуемся афінскім Парфенонам, не зазірнём у твар карыятыдам, якія вабілі нас яшчэ са школьнай лаўкі, не ступім на зямлю, якая была радзімай Сакрата і Піфагора, Сафокла і Фемістокла... Адмовіцца ад знаёмства з такой краінай толькі таму, што людзі прыдумалі такія дзіўныя законы!..



На вуліцы Стамбула.

— Ты толькі зірні, за ўсю дарогу мы не маем права спыніцца! Уся еўрапейская частка Турцыі — суцэльная забароненая зона! За фотаапарат можна будзе ўзяцца толькі ў Стамбуле.

### «Паляўнічыя за чарапамі» і перадатчык

Мы ўжо цэлыя паўтары гадзіны на тэрыторыі Турцыі. За гэты час нам паставілі пячаткі ў пашпартах ды мытны чыноўнік аформіў дакументы на машыны. Але вось што рабіць з пасведчаннямі прычэпаў ён не ведае, таму звоніць па тэлефоне і доўга з кімсьці раіцца. Мытнік нецярплівa слухае голас з трубкі, куточкі вуснаў у яго ўздрыгваюць, ён, відаць, хоча нешта сказаць, але не адважваецца перапыніць таго, хто знаходзіцца на другім канцы провада, бо як жа — начальства!

— Эвет, эвет, — пачціва згаджаецца ён і нават двойчы ці тройчы з павагай кланяецца тэлефону.

— Ваш начальнік англійскую або французскую мову ведае? — задае па-турэцку пытанне Вацлаў Шмідль, шафёр машыны, на якой прыехалі сустракаць нас таварышы з чэхаславацкага генеральнага консульства.

— Ён? — ускідвае вочы малады мытнік і гарэзліва ўсміхаецца, прыкрыўшы далонню трубку. — Ён і па-турэцку як след не можа!

За наступную гадзіну паставілі яшчэ дзве пячаткі ў пашпарты прычэпаў, занатавалі, колькі ў нас валюты, і цяпер усе гуртам ідуць да машын рабіць мытны агляд. Як доўга будуць яны капацца ў нашых «татрах-805»?



Вароты Стамбульскай крэпасці трэба бачыць уночы, бо ўдзень яны выглядаюць больш празаічна.

Каля сіняй машыны разыгрываецца нямая сцэна над экземплярам «Паляўнічых за чарапамі».

— «Галаву адразаюць вось так, чык і гатова, а калі яна высахне, атрымліваецца вось гэта, бачыш?», — асістэнт мытніка вырывае кніжку з рук Міракa і бяжыць паказаць яе начальніку. Збягаюцца і астатнія. Нам нават дазваляюць фатаграфаваць тут, на граніцы, пакуль кніжка пераходзіць з рук у рукі. Мытны агляд закончаны.

— А як жа з перадатчыкам?

Мытнік стаіць каля перадатчыка, у нерашучасці пакручвае ў



Стамбул. Прадавец ліманаду.

руках рычажок тэлеграфнага ключа, потым махае рукой: «О-кэй, можаце ехаць».

Нарэшце! Нашы пашпарты і пасведчанні машын у нас у руках, трэба толькі яшчэ даць бакшыш чыноўніку, які ўжо чвэрць гадзіны круціцца вакол і настойліва падкрэслівае, што ўсё адбылося вельмі хутка, — і ад'язджаем ад граніцы.

— Тры гадзіны і дзесяць мінут, — падводзім мы вынік. — На балгарскім баку гэта працягвалася ўсяго пяць мінут.

## Спакуснік

У адрозненне ад Балгарыі, за Капікуле пачынаецца ландшафт значна сушэйшы: тут большай часткай выганы, менш, чым у суседзяў, зеляніны і палёў. Яшчэ дваццаць кіламетраў, і мы ўязджаем у Эдзірнэ, былы Адрыянопаль. Рака Марыца тут рашуча паварочвае на поўдзень, да Эгейскага мора, над горадам горда ўзвышаецца пышная мячэць Селіма з чатырма стройнымі мінарэтамі — адна з найпрыгажэйшых у Асманскай імперыі. Мінарэты, як указвае даведнік, вышынёй больш васемнаццаці метраў, у кожным па тры галерэі, да іх вядуць асобныя лесвіцы, якія нідзе не перасякаюцца. «З галерэй цудоўны від на ваколіцы», — правакуе далей даведнік. А яшчэ тут ёсць мячэць Беязіта і самая старэйшая мячэць Эскі-джамі, пабудаваная яшчэ па загаду Мурада I.

Але што ты зробіш, калі не маеш права спыніцца, калі за табой едзе паліцэйскі джып, падштурхоўваючы цябе ўперад!

Ваенная паліцыя ахоўвае масты, у кожным горадзе па тратуарах важна прагульваюцца паліцэйскія ў параднай форме з белым поясам. Праз правае плячо перакінут белы шнур, які звісае аж да кален, і белая кабура, каб грамадзянін Турцыі добра запомніў, дзе знаходзіцца службовы пісталет.

Абапал дарогі процьма бензазаправачных калонак. Калі мы праязджалі па Балгарыі, нас віталі ўзмахам рукі людзі і з палёў, і з тратуараў. Тут нам махаюць уласнікі калонак — кожны прапануе купляць бензін толькі ў яго. Канкурэнцыя!

## «Абаронная» стратэгія

Ад мая 1947 года, калі Турцыя атрымала першую пазыку па плану Маршала, фінансавая дапамога Турцыі з боку Злучаных Штатаў узрасла амаль да двух мільярдаў долараў. Гэта велізарная сума. Нават самі амерыканцы не маглі яе прадбачыць, калі пасля другой сусветнай вайны пастанавілі ператварыць Турцыю ў «асілка на Басфоры», які «змог бы супрацьстаяць рускай агрэсіі на Сярэднім Усходзе». Пераважную частку гэтай дапамогі складаюць пастаўкі зброі — толькі на турэцкую армію







і паліцыю адпускаецца каля васьмідзесяці мільёнаў долараў штогод. Частка пазык ідзе на пастаўкі дарожных машын для будаўніцтва шасэйных дарог, і толькі недзе на водшыбе — патрэбы сельскай гаспадаркі.

Дарога з Капікуле да Стамбула — якраз зручны выпадак для цікавых заўваг аб «абароннай» стратэгіі ЗША на савецкіх граніцах.

Тут, у еўрапейскай частцы Турцыі, шасэйныя дарогі большай часткай зусім новыя, ідэальна простай лініяй цягнуцца ад гарызонта да гарызонта, шырокія, з бездакорна гладкай паверхняй. На другіх — безліч дарожных машын, магутныя скрэперы, экскаватары, канавакапальнікі.

— Хто аднак будуе прасталінейныя шырокія дарогі да граніц суседа? — прыходзіць у галаву пытанне. — Той, хто баіцца нападу, або той, хто лічыць, што па добрай дарозе да суседа дабрацца лягчэй, чым па дрэннай?

— У нас няма агрэсіўных мэт, — запэўняюць туркі. — Мы будуем дарогі для падтрымання турызму!

## Сакрэтныя сланечнікі

Праз сто пяцьдзесят кіламетраў ад граніцы з правага боку ў нас нечакана з'яўляецца роўнядзь мора, трэцяга на нашым шляху пасля Адрыятычнага і Іянічнага. Гэта Мармуровае мора, стратэгічны басейн, які ў адным канцы звужаецца ў праліў Дарданелы, а ў працілеглым — паўночней — злучаецца паласой Басфора з Чорным морам. Зірнуўшы на мора і на карту, мы раптам прыходзім у вясёлы настрой — гэта ж канец нашага падарожжа па Еўропе, яшчэ каля сотні кіламетраў і перад намі — Азія! У гэты момант мы зусім забываем, што мы ў зачараваным коле забарон. Што ўласна тут можа быць сакрэтным? Можа тое, як тут жнуць сярпамі пшаніцу? Ці можа гэты пастух, які зганяе авечак і коз пад паветку? Ці можа сакрэтным з'яўляецца адвечны рух сланечніка за сонцам, каб яшчэ да заходу ўзяць ад яго апошнюю жменю праменняў?

Сонца заходзіць у нас за спіной, водбліскі заходу змешваюцца з блакітам Мармуровага мора ў чароўны пурпур, у ім плыве сярпок маладзіка, ён усё апускаецца і апускаецца, пакуль не хаваецца за небасхіл.

## Гюле, гюле...

— Выкіньце гэта з галавы, на Галацкую вежу вас з фотаапаратамі не пусцяць, — сказалі нам у Стамбуле. — Гэта стратэгічны пункт.

Вельмі добра, вежа ўжо шэсцьсот год стратэгічны пункт. З 1348 года, калі яе пабудаваў Анастасій Дзікорас, з яе наглядалі не толькі за пажарамі, але і за суднамі, якія з'яўляліся ў гарлавіне Басфора. Яе падножжа размешчана на вышыні ста метраў над узроўнем блізкага мора, ды сама вежа шэсцьдзесят восем метраў. Дзе ж знайсці лепшы від на горад у бухце Залаты Рог, калі нас не пусцяць на галерэі гэтых каменных карандашоў, якія ўзнімаюцца над мячэцямі?

— Ну, рабіце, як хочаце...

Галацкая вежа стаіць на левым беразе Залатога Рога, у найбольш сучасным квартале Стамбула Бейоглу. Яна заслугоўвае ўвагі яшчэ і тым, што іменна пад ёй знаходзіцца самае старэйшае метро ў Еўропе. Хоць яно даўжынёй усяго ў шэсцьсот метраў, але ж зберагае сілы падарожніка, які захоча

ўзняцца на круты схіл гары над бухтай.

Вежа — цікавае сярэдневяковае збудаванне, каменная крэпасць з вузкай спіраллю сходак. Наверсе нас вітае вартаўнік і, заўважыўшы нацэленыя відашукальнікі, робіць кароткі ківок галавы ўверх і выразна шчоўкае языком. Гэта азначае тое ж, што «йок» — нельга. Але ў далоні ўжо зашамацеў бакшыш, вартаўнік асцярожна азіраецца на другіх наведвальнікаў, усміхаецца і бяжыць адчыняць высоўныя акенцы галерэі. Ён нават раіць нам, адкуль зручней фатаграфаваць.

Так, сапраўды Стамбул прыгожы горад! Але каб зрабіць гэты вывад, трэба адысці на некаторую адлегласць ад такіх дэталей, як брудныя вулачкі, затхлыя трушчобы, ледзь ліпеючыя баракі, сметнікі з гніючымі адкідамі — словам, ад такіх месц, якія не ўказваюцца ў турысцкіх даведніках. Нам крыху перашкаджае фатаграфаваць бліжэйшае наваколле — аблупленыя, абабітыя фасады старых дамоў, якія ўзбіраюцца па галацкаму ўзгорку, сваімі стрэхамі нагадваючы цікаўных разявак, што глядзелі на неба і скамянелі ў сваіх смешных паставах. Але тое, што знаходзіцца за гэтай мяжой бруду і неахайнасці, можа смела ўвайсці ў фінальную групу прэтэндэнтаў на званне прыгажэйшага горада ў свеце. Бо ў Стамбуле знайшлі сваё ажыццяўленне дзве асноўныя ўмовы конкурсу прыгажосці: вертыкальная пластычнасць архітэктуры і вада.

Вады нават крыху больш, чым сушы. На паўднёвым небасхіле мігаціць мармуровымі водблісками ізумрудаў, бірузы і малахіту Мармуровае (таму і назва!) мора. Але сусветнае значэнне яно мае толькі там, паміж паўостравам, які называецца Еўропа, і паласой больш аддаленага кантынента, які носіць назву Азія. Тут пачынаецца Басфор, трыццацікіламетровая водная паласа, якая падзяляе два кантыненты, але затое злучае два моры. Па ім велічна, як лебедзі, плывуць у рад, адзін за другім, марскія гіганты. Хаця не, — яны стаяць на якары. Гэта флатылія англійскіх ваенных караблёў, якія ўчора прыбылі з візітам ветлівасці і паводле міжнародных канвенцый не маюць права падысці бліжэй. Калісьці візантыйцы мелі іншы спосаб забяспечыць сябе ад непажаданых візітаў! Іменна тут, унізе, лявей Галацкага моста, па якім зараз коціцца да мячэці Ені-джамі лавіна машын, вісеў, схаваны пад паверхняй вады, масіўны жалезны ланцуг даўжынёй у семсот метраў, загароджваючы доступ з Басфора ў бухту Залаты Рог. Ад Манганскай вежы пад Сералем пачынаўся яшчэ ланцуг, даўжынёй у тысячу семсот метраў — другі канец яго быў аж на астраўку побач з Азіяй, там, дзе стаіць цяпер маяк Кізкулесі. Усё роўна, як засаўка, на якую зачыняўся Басфор!

Направа далёка цягнецца водная роўнядзь, усеяная безліччу чаўноў, лодак, буксірных суднаў, барж, парусьнікаў, нафтаналіўных і грузавых суднаў і бліскучых заморскіх гігантаў, якія кожную раніцу чакаюць, калі разыдзецца сярэдзіна двух мастоў, каб выпусціць іх з напоўненым пузам у адкрытае мора. Бухта Залаты Рог адкрывае свету абдымкі, кліча да сябе маракоў усіх кантынентаў і прапануе ім свае адвечныя прынады: шынкі, ігральныя дамы, вулачкі кахання. Сапраўды, невядома, ці верыць версіі, паводле якой назва Залаты Рог паходзіць ад выразу «рог багацця», або паверыць другой, значна менш рамантычнай, якая тлумачыць назву жаўтаватым колерам вады — праз восем кіламетраў адсюль пачынаецца балота. Здаецца, другая версія больш падыходзіць, бо ў бухце Залаты Рог столькі глею, што палі мастоў не ўтрымаліся б, і таму абодва масты — Галацкі і Атацюрка — гэта масты пантонныя.

У цэнтры ўсіх гэтых вод узвышаецца горад, схема якога нагадвае галаву арла: дзюба — гэта Сераль, палац султанаў, а быстрае вока — раскошная мячэць Айя-Сафія, былы візантыйскі храм божай мудрасці. Пабудаваны на сямі ўзгорках па ўзору старажытнага Рыма і акружаны рэшткамі крапасных валоў, жыве ў бляску сваёй былой славы горды горад з традыцыямі, якія налічваюць больш дзвюх з паловай тысяч год, адзін з найстарэйшых жывых гарадоў свету.

Спусціўшыся з Галацкай вежы, мы дзякуем вартаўніку, які за бакшыш выказаў разуменне нашага фатаграфічнага і журналісцкага запалу.

— Затрымайцеся яшчэ на чвэрць гадзіны, — прапануе ён. Мы выконваем абавязак ветлівых гасцей і, спусціўшыся з верхняй галерэі паверхам ніжэй, заходзім у памяшканне вартаўніка, дзе вісіць пажарная кішка, стаяць вёдры вады і кадушкі пяску, і выпіваем тут па турэцкаму звычаю па шклянцы залацістага чаю. Потым дзякуем за чай і развітваемся.

— Алаху існарляндык! *

— Гюле, гюле... **

### Капалі-чаршы

Што агульнага ў золата з сырам? Не так проста знайсці адказ. Але загляніце ў Стамбуле ў Капалі-чаршы.

Туды трэба ісці міма драўляных халуп, гатовых вось-вось абваліцца і настолькі нахіленых, што, здаецца, яны даўно б ужо асунуліся, каб не былі заціснуты паміж сценамі цагляных дамоў. Верхні паверх высоўваецца на вуліцу на цэлы метр далей за першы, дзвеы і вокны скрывіліся ў такі касавугольнік, што дзіву даешся, як іх зачыняюць. Трэба ісці па сырых, пакручастых вулачках, дзе поўна катоў і дзяцей, дзе мужчыны ходзяць з цяжкімі кашамі на спіне, дзе людзі на кожным кроку згінаюцца пад цяжарам няўстойлівых пірамід мяшкоў і скрынь. Трэба ісці міма маленькіх кафэ, дзе каля сцяны над кілішкам чаю дрэмлюць старыя, дзе наведвальнікі проста марнуюць час, бо час тут самы дзяшовы тавар, за яго не плацяць.



Караблі тут заходзяць ледзь не на вуліцу.

Капалі-чаршы — гэта турэцкі крыты базар. Ён нарадзіўся яшчэ ў семнаццатым стагоддзі; бывала, служыў султанскай канюшняй, часта гарэў — апошні пажар быў у 1955 годзе. Капалі-чаршы — гэта горад у горадзе. Ён займае добрых пару кварталаў у непасрэдным суседстве з мячэццю Беязіта — тут больш шасці тысяч крам. Некаторыя вулачкі пакрыты дахам, у таямнічым паўзмроку цьмяна мігаюць лямпачкі, асвятляючы хаатычную мешаніну дамаскіх мечаў, інкруставаных перламутрам кінжалаў, чаканных падносаў, чарак і кубкаў, ятаганаў і крывых шабель, пісталетаў, у ствалах якіх хаваюцца адкідныя кінжалы. Над другімі вулачкамі — арачныя скляпенні, крамкі тут такія цесныя, што каля прылаўка трое пакупнікоў не месцяцца. У ніжняй частцы базару можна купіць таямнічыя лекі ў мяшочках, хну, арабскую гуму, розныя прыправы, карэнні, аптэкарскія тавары. У другім месцы строга паводле рамясла выстраіліся крамкі кашолачнікаў, кушняроў, шаўцоў, гарбароў, за імі — майстры гадзіннікаў, нажоўшчыкі, чаканшчыкі, меднікі, ювеліры. Паназірайце, як вялікія круглыя дыскі з латуні слухаюцца пальцаў даўгавусага майстра, як пасля кожнага ўдару малатком пасоўваюцца яны

* Хай будзе здаровы той, хто адыходзіць.
** Хай будзе здаровы той, хто застаецца.



на адно дзяленне па акружыне, як малаток, дзюбнуўшы ў дыск, пакідае на ім аднолькавую з іншымі зарубку і як пад гэтымі ўдарамі на вачах расцвітае чароўная кветка, узнімаючыся ўгару з металічнага ліста, пакуль майстар, цюкнуўшы малатком у апошні раз і абвёўшы строгім позіркам свой выраб, не кіне яго на кучу іншых. І калі ты, турыст, будзеш купляць такі вялікі паднос як сувенір, дык не вагайся, можаш браць толькі з-за таго, што гэта сапраўды ручная работа, да машыны гэтая рэч нават не дакранулася...



На базары ў Капалі-чарша.

Але адкуль тут, сярод майстроў па металу, узяліся перакупшчыкі, зыходнай сыравінай якіх з'яўляецца малако і тварог? У вітрынах іх крамак — кругляку залаціста-глянцавітых сыроў, складзеныя ў разнастайныя піраміды і асветленыя бляскам лямпачак — каб прывабіць пакупніка. Вось ты і папаўся, турыст, як многія іншыя, хто ўпершыню заходзіць у гэтыя вулачкі гарадка Капалі-чарша ў горадзе Стамбул. Гэта ювеліры, якім законы забараняюць прадаваць неапрацаванае золата на вагу. Яны адлілі бранзалеты, выбілі пробу і паскладалі іх у вітрыны. Цяпер якраз золата падымаецца ў цане, бо набліжаецца час жніва і збору бавоўны. Цана за грам вагаецца ад пятнаццаці да дваццаці турэцкіх лір, сёння ювеліры просяць пятнаццаць лір шэсцьдзесят піястраў, бо да жніва застаецца яшчэ некалькі тыдняў. Тады сюды прыдуць сяляне, усю сваю выручку абмяняюць на залатыя бранзалеты і пакладуць іх у куфры.

Залаты ж цялец гэта скацінка надзейная, значна больш надзейная, чым папяровыя банкноты, якія сёння маюць цану, а заўтра могуць і не мець. За залатыя браслеты ў Турцыі купіш што хочаш і дзе хочаш.

### Мінарэты, мінарэты

Як бы там ні было, але ў гэтых мінарэтах ёсць нешта большае, чым простае імкненне архітэктараў пераадолець прыцягненне матэрыі да зямлі, тут адчуваецца жаданне ўзняцца як мага вышэй да неба, дзе бог і анёлы, дзе вечны рай і збавенне ад зямных пакут. Жаданне трапіць на нябесныя вышыні, скінуць з сябе аковы чалавецтва і парадзіла гэтыя вузенькія цыліндры з бялюткага каменю з прасвідраванымі ў іх вузенькімі спіралямі, каб пасылаць па іх вестуноў, якія з самага краёчку галерэі ўслаўлялі б «прарока» і сваім дрыжачым голасам указвалі прававерным дарогу туды, угару, куды яны трапяць, калі будуць гатовы за веру ахвяраваць нават сваё жыццё.

З гісторыі вядома, што такіх прававерных было многа.

У паўднёва-ўсходняй частцы храма Айя-Сафія нам паказваюць дзіўную пяціпалую пляму на калоне. Гэта, быццам бы, след рукі султана Мехмеда II, пераможцы Візантыйскай імперыі. Якім жа чынам султан змог дацягнуцца да такой вышыні — больш шасці метраў ад падлогі? Нам расказваюць, што ён на кані ўехаў сюды, у храм божай мудрасці, у дзень узяцця Канстанцінопаля, калі храм быў напоўнены трупамі яго воінаў і пераможаных ім візантыйцаў. Ён праехаў па трупах да калоны, калі конь раптам спалохаўся і ўзняўся на дыбкі. І там, дзе Мехмед абапёрся аб калону, каб не ўпасці, застаўся адбітак яго акрываўленай рукі, які цяпер паказваюць турыстам.

Галоўныя будаўнікі храма божай мудрасці Антоній Тральскі і Ісідар Мілецкі па загаду імператара Юстыніяна звезлі каштоўныя будаўнічыя матэрыялы з усёй імперыі — з Эфеса і Афін, з Дэлоса і Егіпта. Восем парфіравых калон паходзяць з храма Сонца ў Геліопалі, цяперашнім Баальбеку. Гэта было самае пышнае візантыйскае збудаванне, і не дзіўна, што Юстыніян, адчыняючы 27 снежня 537 года храм, фанабэрыста абвясціў: «Хвала богу, які даў мне сілы закончыць гэтую справу. Я перамог нават цябе, о Саламон!»

Калі асманцы захапілі Канстанцінопаль, яны ператварылі храм у мячэць: замалявалі на абразах хрысціянскіх святых, аздобілі сцены мудрагелістым арнаментам, на галоўным фасадзе прымацавалі ўказальнік, які прававерным указваў напрамак да Мекі, а справа ад яго пабудавалі мінбар — вузкую лесвіцу з каплічкай, адкуль імамы славяць веру Прарока...



За лесам мінарэтаў — Сіняя мячэць.

Самая прыгажэйшая мячэць ва ўсім Стамбуле — гэта Сіняя. Яе лічаць прыгожай не з-за шасці стройных мінарэтаў, якія ўзвышаюцца над былым антычным іпадромам, але з-за чысціні стылю, планіроўкі ўнутраных памяшканняў, памераў велічнага купала, пад якім адначасова можа стаць на калені трыццаць пяць тысяч прававерных. І з-за чароўнай сіні плітак бруку, якая дала мячэці не толькі назву, але вышыню і глыбіню, лёгкасць і элегантнасць, бязмежную, да крохкасці, тонкасць. У міграб — малітоўную нішу ў фасадзе мячэці — умураван кавалачак чорнага «святога» каменя з Мекі, таму ў Сіняй мячэці адбываліся ў час панавання султанаў усе ўрачыстыя багаслужэнні, тут славілі нараджэнне Прарока і пачатак і канец рамадану. * Праз дзвесце шэсцьдзесят вокнаў з каляровымі шыбамі струменіцца на сінь падлогі святло ўсіх колераў вясёлкі, якое ў час вялікіх свят спаборнічае са штучным святлом, што льецца з шкляных званочкаў, сотнямі развешаных пад купалам.

### Чай на магіле

Можна патраціць цэлыя тыдні на прагулку па стамбульскіх мячэцях. Адных толькі вялікіх, якія

* Рамадан — перыяд посту ў мусульман.

называюцца джамі, тут каля двухсот, а меншых, мезджыд, — чатырыста.

Але калі вам захочацца спакою і ўтульнасці, калі вы адчуеце неабходнасць адпачыць ад дзікага шуму вуліц, ідзіце аж на другі канец бухты Залаты Рог, у прыгожую мячэць Эйюб. Вы атрымаеце значна большае задавальненне. чым толькі ад разгляду тонкай арнаментыроўкі і пастэльна-зялёных дываноў, якімі тут выслана ўся падлога. Магільную цішыню парушае толькі буркаванне галубоў, якія знайшлі сабе бяспечны прыстанак у карнізах і нішах. Ніхто тут на іх не крыкне, ніхто не плясне ў далоні, каб сагнаць іх, калі яны ўлятаюць у мячэць праз адчыненую браму з двара, дзе каля вадаёма мыюць вусны і ногі набожныя паломнікі, якія прыйшлі ў самую свяцейшую мячэць Стамбула. На дыване ў мячэці ляжыць разбітае галубінае яйка, відаць, выпаўшае з гнязда, ніхто яго не адкіне, ніхто з наведвальнікаў не раздушыць нагой, не забрудзіць прыгожы дыван. Толькі вартаўнік, вывеўшы вечарам апошняга паломніка і зачыняючы ўваход, беражліва падыме галубінае яйка і аднясе пад разложыстыя платаны. У іх ценю знаходзіцца магіла Эйюба, сцяганосца султана Мухамеда. Эйюб загінуў у 670 годзе ў час першай аблогі Канстанцінопаля. Агарожа яго магільні зацалавана за гэтыя стагоддзі праваевернымі так, што каля акенца, з якога можна заўважыць высокі турбан, у латуннай дошцы ўтварылася паглыбленне. Яшчэ некалькі год назад гэтае святое месца не магло быць паказана воку нявернага, а цяпер сюды кожную пятніцу прыходзяць турысты паглядзець на шматтысячны натоўп верных, кожнае жаданне якіх, паводле падання, будзе здзейснена пасля наведвання мячэці Эйюб.



Угару ад мячэці ўзнімаецца вузкая дарога, абапал якой магілы і магілы, нібы іх было яшчэ недастаткова ўздоўж чатырнаццацікіламятровай крапаснай сцяны ў заходняй частцы Стамбула, нібы іх мала абапал паўночных і паўднёвых дарог, над Залатым Рогам, у рабочых кварталах, паміж стадыёнамі і садамі?..

Аднак падарожнік, які прыйдзе сюды шукаць старую рамантыку, мала заўважыць тут паэтычнага. Знізу, ад партовых складаў, даносіцца рэха модных італьянскіх песень і вальс Іягана Штрауса, там вунь на бетонным пляцы выстройваюцца салдаты, на якіх крычыць афіцэр і б'е іх па пятах, каб не ламалі раўнення. А можа, падумаеш часам, да рамантыкі адносіцца гэтая авечка, якая лазіць па магілах, абгрызаючы на іх лісты грымотніку і задаволена мэкаючы. Там вунь яшчэ адна, там чацвёртая, пятая, а вось сярод іх і пастушок з фуяраю *. Спыніўшыся, ён наігрывае царградскія пастаралі барану, які ляжыць каля яго ног. Крыху далей — драўляны будынак — вядомае кафэ. Перад ім за круглымі столікамі сядзяць людзі, задумліва пазіраючы ўніз на паўтарамільённы людскі мурашнік, на мінарэты, на трубы параходаў, якія заўтра на досвітку выйдуць у адкрытае мора.

З маленькай кухні выбег хлопчык год дзесяці, памочнік афіцыянта, у руцэ ў яго на чатырох ланцужках пагойдваецца міска, а на ёй тры круглыя кубачкі чаю.

Чай заказалі трое юнакоў, якія з прыкметным задавальненнем сядзяць на магільнай пліце, любуючыся заходам сонца.

### Мужчыны каля акенца

Не па кожнай стамбульскай вуліцы можна праехаць аўтамашынай. Адны з іх такія вузкія, што ў іх нават і не ўедзеш, другія ж настолькі крутыя, што няроўны брук нагадвае тут сходкі. У некаторых жа вулачках размясціліся са сваімі крамкамі гандляры.

* Род жалейкі.

Але ёсць у Стамбуле адна вуліца, куды вас з аўтамашынай нават не пусцяць. Называецца яна Абаноз-сакагі. Вы ўбачыце тут двух- і трохпавярховыя дамы з балкончыкамі, толькі апрача звычайных дзвярэй у гэтых дамах ёсць яшчэ некалькі асобных уваходаў, у кожным — маленькае, у далонь, акенца. Перад кожнымі дзвярыма тры-чатыры шырокія ступені. Удзень тут ціха, амаль ніякага руху. На балконе аднаго з дамоў вывешан сяннік, на другім — сушацца прасціradлы. Вось з дому насупраць выйшла маладая жанчына, адкінула ўбок акурак папяросы і віхлястай паходкай накіравалася на суседнюю вуліцу да цырульніка. І зноў вуліца пустая.

Затое вечарам гэтую ціхую вуліцу не пазнаць. Тут такое ажыўленне, што ў абодвух канцах вуліцы паліцыя выстаўляе патрулёў. Калі ўдзень тут можна ўбачыць жанчыну, дык увечары яна сюды не пойдзе. Вуліца належыць мужчынам. Яны тоўпяцца на сходках і, адштурхваючы адзін другога локцямі, прабіраюцца да акенцаў. Што ж там робіцца за дзвярыма, калі некаторыя гледачы, стараючыся выперадзіць адзін другога, даходзяць да пагроз кулакамі?

У пакойчыку з канапай і трыма крэсламі група жанчын акружыла міску з поліўкай, у якой сям-там плаваюць кавалачкі мяса. Амаль з жывёльнай прагнасцю накідваюцца жанчыны на поліўку, ядуць стоячы, адрываючыся толькі для таго, каб адламаць кавалачак ад тонкай лустачкі хлеба, які нагадвае ячменную ляпёшку. Але зусім не гэтая вячэра з'яўляецца прадметам такой сканцэнтраванай увагі і цікавасці мужчын каля акенца. Не, яны значна большае значэнне надаюць агляду жанчын, апранутых вельмі і вельмі эканомна. Здаецца нават, што існуе нейкае спаборніцтва ў тым, каб мець на сабе як мага менш адзення. Гэта вельмі важная ўмова поспеху — наведвальнікі, якія тоўпяцца каля акенцаў, не прывыклі купляць ката ў мяшку.

— Выбірайцеся адсюль, калі не купляеце! — выразна гавораць дзёрзкія вочы маладога чалавека, які стараецца хутчэй дабрацца да акенца. Ён кідае спрактыкаваны позірк у сярэдзіну і паказвае пальцам. Адна з жанчын з абыякавым выглядам запіхвае апошні кавалачак хлеба ў рот, гэтак жа нядбайна выцірае аб спадніцу запэцканыя рукі і крочыць некуды ўгару па скрыпучай лесвіцы разам з наведвальнікам, якога цяпер можна смела назваць пакупніком.

Цэны ўстаноўлены ўрадам — за адно наведванне тры ліры семдзесят пяць піястраў.

Нам растлумачылі, што гэтая вуліца адыгрывае тут ролю нейкай сацыяльнай установы — яна, нібы, з'яўляецца сродкам для забеспячэння жанчын ад пакут беспрацоўя.

Абаноз-сакагі называюць яшчэ вулачкай кахання. Што вулачка, дык гэта так, але наконт кахання лепш не гаварыць.

### Архітэктура і жыллё

Было б несправядліва сцвярджаць, што ў Стамбуле адны толькі трушчобы, крамы і мячэці. Вялікую частку горада складаюць жылыя дамы, якія прыходзяць на змену драўляным баракам.

І сёння ў Стамбуле многа будуюць. І трэба сказаць, што будуюць з густам. Адны архітэкта-



Так выглядае стары Стамбул.



ры бяруць за ўзор Італію, другія — Злучаныя Штаты, трэція — Бразілію і не баяцца ні яркіх фарбаў, ні новых форм, ні новых матэрыялаў. У квартале Бейоглу мы бачылі цэлую вуліцу, у якой кожны дом аздоблен прыгожай дробнай мазаікай, падабранай у тон да суседніх дамоў не толькі па колеру, але і па ўзору арнамента. Вакол дамоў прасторныя тэрасы, балконы, не забываюць тут і аб кветках. У некаторых кварталах нам спадабалася, напрыклад, такая дробязь, як рамбавідныя балконы. Сцены дамоў часта пафарбаваны — і ў самыя разнастайныя колеры. Так, мы бачылі гарошкава-зялёныя, аранжавыя, блакітныя, сінія, ружова-пурпуровыя іскрыста-жоўтыя дамы. Уявіце толькі сабе, якое гэта прыемнае відовішча для вока!

— Добра, добра, а як з кватэрнай платай? — узнікае пытанне. І яно ўжо не выклікае такой радасці, як позірк на фасад знадворку. Кватэра з чатырох-пяці пакояў (меншыя не будуюцца, бо гэта нявыгадна) каштуе ў месяц каля 1500 турэцкіх лір. Трамвайшчык у Турцыі зарабляе, напрыклад, трыста лір у месяц, кваліфікаваны рабочы ад чатырохсот да васьмісот лір.



Вось вам і адказ на пытанне, як часта ўсяляецца рабочая сям'я ў такі сучасны дом.

## Тут канчаецца Еўропа

О, гэта вельмі прыемна: начаваць пад адкрытым небам, на якім вырысоўваецца сілуэт вялікага горада, зіхацяць бледныя асколкі зорак і плыве паўмесяц, які адрозніваецца ад паўмесяца на сцягу толькі тым, што павернуты ў другі бок, ён толькі ў першай квадры.

Такі начлег мы наладжваем кожны вечар у квартале Мачка ў горадзе над Залатым Рогам, перад будынкам Драмалі, на якім красуецца надпіс «Чэхаславацкае Генеральнае Консульства» і наш дзяржаўны герб.

Ноччу, праўда, рамантыкі значна менш. Варта толькі выйсці з машыны, як рызыкуеш спатыкнуцца аб пацука, якімі Стамбул аж кішыць. Таму тут так многа катоў і іх нельга забіваць, бо туркі могуць на горкае яблыка збіць неасцярожнага шафёра, які пераедзе чатырохногага прадстаўніка санітарна-асенізацыйнай службы.

Горад над Залатым Рогам заціхае, мы ўкладваемся на апошні начлег на еўрапейскай зямлі. Заўтра будзем спаць невядома дзе, але ўжо ў суседнім кантыненце.

* * *

— Вам не пашанцавала, ад учарашняга дня грузавыя машыны перапраўляюць з іншага мола, вас тут не возьмуць, — гаворыць нам таварыш з консульства.

Але мы за кароткі час паспелі пераканацца, што ў Турцыі няма нічога немагчымага. Тут можна зрабіць усё, што вам хочацца. Бакшыш! Вось усемагутнае слова! І сапраўды, праз дзесяць мінут мы ўязджаем на адкідную платформу перавозу, які замяняе мост паміж двума кантынентамі. Як па маслу, заходзіць і сіняя машына, праз хвіліну палуба біткам набіта аўтамабілямі — буфер у буфер. І вось разыходзіцца разводны мост, і машыніст, які сядзіць у сваёй будцы, аддзяляе нас ад Еўропы. Пятнаццаць гадзін дзве мінуты.



Праз адзінаццаць мінут мы прычальваем да Азіі. У нас па горла работы. Трэба хутчэй закончыць дарожныя нататкі, на якія ў Стамбуле не хапіла часу, апрацаваць плёнку з кадрамі пераправы ў Азію, трэба праверыць машыны перад заўтрашнім напружаным адрэзкам шляху. І нарэшце — хоць бы разок! — паспрабаваць, ці саланей Мармуровае мора за Чорнае, Адрыятычнае або Іанічнае, у якіх мы плавалі раней. Метраў за дзвесце ад нас з вады, афарбаванай у чырвань водбліскамі заходу, выныраве статак дэльфінаў. Некаторы час яны забаўляюцца ныраннем, потым знікаюць пад вадой.

* * *

— Будзе лепш, калі мы наогул пакінем фотаапараты ў футаралах, пераможам усе спакусы і пастараемся затое дабрацца як мага далей да Эгейскага мора.

Ізмід — ваенны порт, усё наваколле высналана калючым дротам, абапал дарогі надпісы, значэнне якіх не высвятляецца ні ў адной з шасэйных карт турэцкага аўтаклуба, дзе нямала ўсякіх указанняў аб забароне язды. Але нават калі б у нас і не было турэцкага слоўніка, мы ні на хвіліну не ўсумніліся б у значэнні гэтых знакаў. Направа — калючы дрот, налева — калючы дрот, назіральная вышка, антэны перадатчыкаў, палявы аэрадром, зноў вышкі — адна каля другой. Па слоўніку расшыфроўваем надпіс: забароненая зона. Апошняе пацвярджаецца яшчэ і англійскімі надпісамі побач з турэцкімі: Forbidden zone і нават яшчэ: No entry! — Уваход забаронен!

Калі назіральныя вышкі знікаюць за небасхілам, мы ўздыхаем з палёгкай. Нялёгка чалавеку за калючым дротам!




**Вуліца ў старым Стамбуле.**

Абапал дарогі разлягаюцца шырокія прасторы зямлі без населеных пунктаў, без людзей. Пустэча!

Яшчэ ўчора мы не хацелі верыць статыстыцы, паводле якой плошча неапрацаваных зямель у Турцыі год ад году павялічваецца. У 1953 годзе такіх зямель было 12.478.000 гектараў, у 1957 — ужо 13.462.000 гектараў; цэлых 17 працэнтаў усёй плошчы палёў Турцыі — пакінутыя землі, іх значна больш, чым лясоў, у адзінаццаць разоў больш, чым аліўкавых гаёў, вінаграднікаў і агародаў.

**Тэатр пантамімы**

Бурса — горад, вядомы свету сваімі мячэцямі, да падзення Канстанцінопаля быў сталіцай Асманскай імперыі. Яе параўноўваюць з іспанскай Гранадай. Над горадам узвышаецца гара Улюдаг — гэты Алімп Малой Азіі вышынёй у дзве з паловай тысячы метраў. Назва гэтай гары красуецца на тысячах аўтобусаў, шафёры лічаць яе сімвалам велічыні і магутнасці. Многа іншых цікавых рэчаў ёсць у Бурсе, але нам давядзецца абмінуць яе не заязджаючы, бо сёння нас чакае яшчэ далёкі шлях. Вось толькі падсілкуемся ў маленькім шынку на ўскраіне — і зноў у дарогу!

Гэтыя заезджыя шынкі называюць тут лакантамі. Іх сустрэнеш усюды — каля дарог, у вялікіх і малых гарадах, гэтыя аазісы маюць такую ж важнасць, як і бензазаправачныя станцыі. У туркаў ёсць прымаўка, якая ў вольным перакладзе гучыць так: «Галодны мядзведзь скакаць не будзе». Дык вось, каб мядзведзь мог пусціцца ў скокі, ён спачатку павінен спыніцца ў лаканце.

Тут можна атрымаць самую ходкую турэцкую страву пілаў — рыс, тушаны ў тлушчы з прымессю шафрану, перцу і таматнай паліўкі. На другім месцы долма — перац, фаршыраваны рысам і дробна нарэзаным мясам. І яшчэ шышкебаб — кавалак авечага або казлінага мяса, падсмажаны на ражне над распаленымі вуголлямі. Уласнік лаканты зусім не здзівіцца, калі замест вывучэння меню вы накіруецеся проста на кухню, гэта народны звычай — кожны госць мае права паглядзець, як гатуюцца стравы. Можна паспрабаваць тое, гэта і потым паказаць, з якой патэльні прынесці вам на стол.

У лаканце «Ені» мы заказалі шыш-кебаб з памідоравай салатай і ядзім пад позіркамі, якія кідае на нас са сцяны султан Сулейман з грозна закручанымі вусамі і турбаном на галаве. Побач з ім — яшчэ адзін султан, значна больш грозны, у суседстве з прэзідэнтам Атацюркам.

Плацім і рашаем спытаць яшчэ, ці не дадуць яны нам з сабой баклавы — салодкага печыва з мукі, бо да вечара далёка і, хто ведае, калі мы будзем мець час на наступны прыпынак. Роберт — наш парламенцёр — ідзе на кухню ў роспыты.

— Баклава будзе,— абяшчае ён праз хвіліну. Але праходзіць дзесяць мінут, чвэрць гадзіны, афіцыянт ужо двойчы абышоў гасцей, а баклавы няма.

— Баклава вар?— пытае Роба зноў, калі афіцыянт з'яўляецца каля стала ў трэці раз.

Той двойчы ківае галавой угару і на гэты раз дадае кароткае «йок» — не!

Шафёр, які сачыў за ўсімі перыпетыямі перагавораў, устае з-за суседняга стала і на ламанай англійскай мове высвятляе нам сакрэты турэцкага ківання. Ківок уніз азначае «эвет» — згода, так. Угару — значыць «йок», не! А калі хто не ведае, так яно ці гэтак, або не разумее пытання, тады ківае галавой у бакі.

Уся лаканта кладзецца ад смеху, гледзячы на гэтую навуку ківання. Такі тэатр не кожны дзень убачыш! Потым хлопцы ўстаюць з-за сталоў і праводзяць нас аж да тратуара. Ну, шафёры, калегі ж, як-ніяк!



**Троя — уваход забаронены**

Праз сорак кіламетраў за Балікесірам шаша збочвае направа, у горы. Аднак мы гэтую дарогу стараемся не заўважаць, лічым за лепшае асабліва не глядзець управа і ехаць далей. Па гэтаму праваму адгалінаванню шашы мы трапілі б у Чанак-кале. «Чанак» па-турэцку ключ, «кале» — крэпасць, разам гэта азначае ключавую крэпасць, і гэтым усё сказана. Турыцкі даведнік удакладняе: «Вобласць Чанак-кале — ваенная зона, уваход сурова забаронены».

Пад Чанак-кале пачынаюцца Дарданелы, стратэгічны ключ да праліваў. 25 красавіка 1915 года саюзныя войскі англічан, французаў, аўстралійцаў, новазеландцаў і індыйцаў у колькасці 77 000 чалавек паспрабавалі тут высадзіцца, але павінны былі адысці ні з чым. Пасля першай сусветнай вайны Дарданелы былі дэмілітарызаваны, але ненадоўга. Сёння сюды зноў нельга ўваходзіць.

А шкада. Вядома, не таму, што там знаходзіцца сучасная крэпасць, а з-за слаўнай гісторыі горада, які размешчаны крыху на поўдзень ад Чанак-кале. Ён ахоўваў дарогу да праліваў яшчэ пяць тысяч год назад. Але потым на руінах старых крэпасцей узвялі новыя, на тых — зноў наступныя і так ішло і ішло, пакуль не нарасло аж дзевяць гістарычных пластоў. На самы старэйшы сонца свяціла прыблізна ў 3000 годзе да нашай эры, апошні ж аддадзены забыццю ў шостым стагоддзі нашай эры. Недзе пасярэдзіне быў горад.

Горад называўся Іліон, або Троя, паэт жа насіў імя Гамер, а яго твор — «Іліяда».

«Іліяду» мы ведаем, яна стала жамчужынай старажытнай культуры і жыве ўжо каля трох тысяч год. Але ці жыў Гамер? І калі жыў, то кім ён быў? І куды знікла Троя?

У 1870 годзе на бераг Дарданел узышоў Генрых Шліман, нямецкі купец, моваэнаўца, падарожнік і археолаг у адной асобе, чалавек, які напамяць ведаў усю «Іліяду» і «Адысею». Ён пачаў непадалёк ад Гісарлыка раскопкі, якія працягваліся цэлых дваццаць год. У 1882 годзе на белы свет дасталі з зямлі вялікі скарб золата і каштоўных каменняў, які быў названы «скарбам Прыяма». Шліман знайшоў Трою, хоць, праўда, і не ў тым пласце, у якім павінна была знаходзіцца Троя Гамера.

«Скарб Прыяма» быў перавезен у Берлін, дзе ён быў знішчаны ў час налёту ўжо ў другой сусветнай вайне. Здавалася б, гістарычнае кола «крэпасці — войны — крэпасці — войны» замкнулася, хоць на гэты раз траянскага каня замянілі эскадрыллі бамбардыроўшчыкаў.

Але гісторыя паўтараецца. Сёння Троя Гамера зноў у стратэгічнай зоне, і «ўваход сурова забаронен».

**Пераклад з чэшскай мовы А. МАЖЭЙКІ.**

**(Працяг будзе.)**

# ВЫМУШАНЫЯ ПРЫЗНАННІ

### Па старонках друку капіталістычных краін

Гэта здарылася ў летні дзень на адной з вуліц Нью-Йорка. Нечакана грымнуў стрэл, за ім — другі, трэці. Пачалася страляніна. Калі пад'ехала паліцыя, тых, хто страляў, ужо не было, а на бруку ляжаў забіты пятнаццацігадовы хлопчык. Праз некалькі дзён забойцаў арыштавалі. Гэта былі падлеткі. Следства ўстанавіла, што яны належалі да дзвюх варожых банд. Забіты ўваходзіў у адну з іх.

Узброеныя сутычкі паміж дзецьмі і падлеткамі — з'ява даволі частая ў Нью-Йорку і іншых гарадах ЗША. Паводле дадзеных нью-йоркскай паліцыі, у 1959 годзе ў горадзе дзейнічала больш 800 банд няпоўналетніх злачынцаў. Звычайна ў банды аб'ядноўваюцца юнакі ва ўзросце 14—15 год. Існуе асобая цырымонія прыёму навічкоў, у часе якой ім адразу даюцца мянушкі. Потым яны пачынаюць «спецыялізавацца» па асобных відах «дзейнасці»: адны—па абрабаванню п'яных, другія — узломваць аўтаматы па продажу розных тавараў, каб забраць выручку, трэція — крадуць аўтамабілі і г. д. У школах злачынцы займаюцца зборам «даніны» з вучняў малодшых класаў. Часам яны робяць напады на настаўнікаў. Асацыяцыя настаўнікаў горада Дэтройта, напрыклад, звярнулася да ўлад з просьбай выдзеліць паліцэйскіх для абароны мясцовых школ.

Згодна афіцыйных статыстычных дадзеных, каля пяці працэнтаў амерыканскай моладзі — злачынцы. Штогод каля трох мільёнаў маладых людзей трапляюць на лаву падсудных, пяцьсот тысяч дзяцей знаходзяцца ў турмах, трыццаць пяць тысяч — штогод накіроўваецца ў розныя папраўчыя ўстановы.

Рост злачыннасці сярод няпоўналетніх прызнаецца і афіцыйнымі асобамі. Дырэктар Федэральнага бюро расследаванняў ЗША Гувер заявіў: «... Злачыннасць у ЗША расце велізарнымі тэмпамі і ў 1958 годзе дасягнула небывала высокага ўзроўню, паказаўшы такі прырост у параўнанні з 1957 годам, які цяжка і вытлумачыць».

Амерыканскія газеты і часопісы запоўнены апісаннямі злачынстваў, зробленых дзецьмі і падлеткамі, у тым ліку і ў школах. У г. Элізабет (штат Нью-Йорка) дванаццацігадовы школьнік ударыў нажом выкладчыка фізкультуры; пасля гэтага жонцы настаўніка па тэлефоне пагражалі, што асляпяць яе гадавалае дзіця, калі злачынцу не выпусцяць з турмы. У г. Бенінгу (штат Каліфорнія) вучань мясцовай школы параніў са стрэльбы трэнера футбольнай каманды. У Сау Сан-Габрыэлі вучні зрабілі напад на школу і нанеслі ёй такую шкоду, што прыйшлося зусім спыніць занятні.

Цікавыя назіранні нью-йоркскага карэспандэнта англійскай буржуазнай газеты «Дэйлі Мейл» Дона Ідана, які ў сваім артыкуле піша: «Сёння раніцай, як і кожны дзень, Нью-Йорк гаворыць не пра амерыканскі спадарожнік, а пра злачыннасць сярод падлеткаў. Спадарожнік быў аднадзённай сенсацыяй. Тэрарызм падлеткаў і хваля злачынстваў, якая няспынна расце, — гэта сенсацыя кожнага дня. Паліцыя цяпер вырашае пытанне аб тым, каб пусціць верталёты над Цэнтральным паркам... Тысячы нью-йоркцаў баяцца хадзіць туды нават у ясны сонечны дзень. Цэнтральны парк зрабіўся падобны на джунглі. Паліцэйскія раз'язджаюць у аўтамабілях парамі і маюць пры сабе на задніх сядзеннях кулямёты, а таксама рэвальверы...»

У ЗША створаны спецыяльны орган па справах злачыннасці сярод моладзі. Гэтая ўстанова наладжвае абмен вопытам паліцыі розных штатаў, садзейнічае супрацоўніцтву арганізацый, якія займаюцца пытаннямі выхавання моладзі. У Нью-Йорку і Лос-Анжэласе існуюць картатэкі на малалетніх злачынцаў. Многія амерыканскія даследчыкі, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы лічаць барацьбу з дзіцячай і юнацкай злачыннасцю адной з вялікіх праблем жыцця сучаснага амерыканскага грамадства. Яны прызнаюць, што гэтая праблема для ЗША больш сур'ёзная, чым для якой-небудзь іншай краіны свету.

Рост злачыннасці няпоўналетніх назіраецца і ў іншых буржуазных краінах. Па дадзеных «Белай кнігі», выдадзенай урадам Англіі, палова ўсіх забойстваў у краіне зроблена асобамі, якія не маюць дваццаці год. Толькі ў 1957 годзе колькасць злачынцаў ва ўзросце ад васьмі да трынаццаці год павялічылася ў параўнанні з 1956 годам на 13,6 працэнта, а злачынцаў ва ўзросце ад чатырнаццаці да шаснаццаці год—на 20,8 працэнта. Яшчэ большы працэнт злачынцаў ва ўзросце ад семнаццаці да дваццаці год.

У Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі дзеці ва ўзросце ад васьмі да чатырнаццаці год зрабілі ў 1958 годзе больш трыццаці пяці тысяч злачынстваў. Сярод іх — крадзеж выбуховых рэчываў, зброі, узломы сейфаў, абрабаванне банкаў. Асабліва частыя выпадкі крадзяжу зброі, што, бясспрэчна, мае сувязь з мілітарысцкай прапагандай, якая вядзецца ў краіне. Дзіцячая злачыннасць у ФРГ у семнаццаць разоў большая, чым у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Павялічыўся таксама лік злачынстваў, якія зроблены падлеткамі ва ўзросце ад чатырнаццаці да семнаццаці год. У 1958 годзе іх было больш ста тысяч.

Нават у Швейцарыі, якая славута параўнальна слабай злачыннасцю сярод моладзі, у апошнія гады зарэгістраван значны рост яе.

Праблема злачыннасці няпоўналетніх не можа не звярнуць на сябе ўвагу грамадскасці. Яна ўсё часцей абмяркоўваецца рознымі дзяржаўнымі і грамадскімі камісіямі, камітэтамі і іншымі арганізацыямі. Ёй прысвечаны шматлікія манаграфіі, бясконцая колькасць артыкулаў юрыстаў, сацыёлагаў, псіхіятраў, педагогаў, псіхолагаў, грамадскіх дзеячоў. Амерыканскія вучоныя Цітэрз і Рэйнеман дасціпна заўважылі, што па гэтаму пытанню напісана амаль столькі ж кніг, колькі пра Шэкспіра ці пра біблію. Пазбаўленыя магчымасці даць глыбокі навуковы аналіз прычын росту дзіцячай і юнацкай злачыннасці, выявіць яе сацыяльныя і палітычныя карэнні ў сучасным буржуазным грамадстве, аўтары гэтых прац, тым не менш, робяць нямала красамоўных прызнанняў.

Многія буржуазныя вучоныя прызнаюць, што росту злачыннасці няпоўналетніх у значнай меры спрыяюць друк, кіно, тэлебачанне. Нямецкі даследчык Мідэндорф указвае на згубны ўплыў крымінальных раманаў, якія змяшчаюць апісанне самога злачынства і выдаюцца велізарнымі тыражамі. Ён лічыць іх больш шкоднымі, чым дэтэктыўныя раманы, у якіх галоўным чынам расказваецца пра раскрыццё злачынства.

Шкодна ўплываюць на выхаванне дзяцей шматлікія ілюстраваныя часопісы, якія стракацяць фатаграфіямі жахлівых катастроф, самагубстваў, парнаграфічнымі здымкамі. Характарызуючы заходнегерманскія ілюстраваныя часопісы, вядомы буржуазны грамадскі дзеяч Элерс назваў іх «ракавай пухлінай на целе дэмакратыі». Гэтую ацэнку можна таксама аднесці і да ілюстраваных часопісаў іншых краін.

Але шкода, якую прыносяць моладзі крымінальныя раманы, ілюстраваныя штотыднёвікі, ніяк не можа параўнацца з жахлівым уплывам коміксаў на дзяцей. Коміксы — гэта апавяданні ў малюнках, якія суправаджаюцца кароткім тэкстам. Яны атрымалі велізарнае распаўсюджанне ў ЗША. Кожная газета адводзіць ім штодзённа адну старонку, а ў нядзелю — некалькі. Коміксы друкуюцца ў 250 штотыднёвых часопісах, выходзяць асобнымі выданнямі тыражамі ў сотні тысяч экземпляраў.

У выдадзенай у ЗША кнізе «Што такое коміксы?» гаворыцца: «Неверагодныя жахі апісваюцца ў іх: маленькай дзяўчынцы выколваюць вочы іголкай; па-драпежніцку асляпляецца паліцэйскі; у дзяўчынкі выцэджваюць кроў з артэрыі; падвешваюць за ногі дзяцей...»

Пра надзвычай шкоднае ўздзеянне коміксаў на дзяцей піша ў сваёй кнізе галоўны ўрач адной з нью-йоркскіх клінік доктар Мюсэ. Ён сцвярджае, што чытанне коміксаў часта прыводзіць да парушэння функцый чытання і пісьма ў дзяцей і спрыяе ўзнікненню дзіцячых нервозаў. Парушаюцца нармальныя паводзіны дзяцей у школе. Мюсэ падкрэслівае, што ёсць прамая сувязь паміж чытаннем коміксаў і жахлівымі снамі, прыступамі стра-

ху. «Ствараецца атмасфера гатоўнасці да злачынных дзеянняў», — гаворыць далей Мюсэ.

Пра тое, які ўплыў робяць коміксы на дзяцей, расказваецца ў кнізе вядомага амерыканскага псіхіятра Фрэдэрыка Вертхама «Спакуса малалетніх». Аўтар прыводзіць змест комікса «Кіці Сарло — жанчына-п'яўка». Салдат змагаецца з забойцам. За спіною салдата — прыгажуня Кіці, гатовая ўсадзіць яму нож. Потым Кіці спойвае салдата, а пасля гэтага разам са сваім хаўруснікам рабуе і забівае яго. Коміксы, піша Вертхам, рэкламуюць зброю, розныя забойствы, катаванні. Яны паказваюць, як трэба красці, пранікаць у зачыненыя кватэры, забіваць людзей і заблытваць сляды злачынстваў. Прачытаўшы адзін з коміксаў, дзве чатырнаццацігадовыя дзяўчынкі дакладна па апісанаму ў ім спосабу абрабавалі шафёра таксі.

Выданне коміксаў зрабілася, паводле сведчання амерыканскага часопіса «Нью-уік», «магутнай галіною нацыянальнай прамысловасці». Яно дае велізарныя прыбыткі — больш 350 мільёнаў долараў у год. У гэтым і трэба шукаць прычыну таго, што, нягледзячы на энергічны пратэст прагрэсіўнай грамадскасці, коміксы ў ЗША да гэтага часу не забаронены.

Велізарная колькасць амерыканскіх коміксаў вывозіцца ў іншыя краіны. Згодна статыстычных дадзеных, у Кёльне (ФРГ) кожны тыдзень прадаецца больш 150 тысяч экземпляраў амерыканскіх коміксаў.

У ліку фактараў, якія ўплываюць на рост дзіцячай і юнацкай злачыннасці, буржуазныя аўтары называюць і кіно. Яны адзначаюць шкодны ўплыў на дзяцей і падлеткаў дэтэктыўных фільмаў, якія ўслаўляюць права дужага. Вось тыповыя назвы такіх фільмаў: «Страляць, каб забіваць», «Забіць або быць забітым», «Правасуддзе рэвальвера», «Серанада шасці рэвальвераў», «Забойцы з даліны смерці», «Вочы мерцвяка».

Многія фільмы насычаны бясконцымі жахамі. Гэтым асабліва вылучаюцца кінакарціны серыі «Франкенштэйн». У аснову іх пакладзена апавяданне пра звар'яцелага вучонага. У сваім змрочным замку ён ажыўляе труп пакаранага смерцю злачынцы, які потым наводзіць жах на мясцовых жыхароў. Калі на экранах ЗША з'явіўся адзін з фільмаў гэтай серыі «Праклён Франкенштэйна», яго рэкламавалі з дапамогаю такіх аб'яў: «Вы ўбачыце пачвару, вобраз якой будзе няспынна праследаваць вас! Старайцеся не траціць прытомнасці! У кінатэатры дзяжурыць медсястра з навейшымі сродкамі супраць страты прытомнасці!»

Асабліва шкодныя так званыя амерыканскія «чорныя крымінальныя фільмы». Яны паказваюць гледачам злачынны свет падонкаў грамадства. Оргіі, забойствы, пакражы, праследаванні, эротыка, анёлападобныя забойцы, шпіёны, гангстэры-волаты, жанчыны-анёлы, жанчыны-дэманы — вось атрыбуты гэтай кінавытворчасці.

Пра злачынны ўплыў дэтэктыўных фільмаў на дзяцей пішуць многія буржуазныя даследчыкі. Французскі вучоны Шазаль піша: «Няма чаго здзіўляцца, што дзіця, знаходзячыся пад моцным уражаннем такіх фільмаў, аднойчы пачынае само красці або са зброяй у руках нападае на чалавека».

Тэлебачанне ў ЗША таксама запаўняе свае праграмы паказам жахаў, забойстваў, гангстэрскіх гісторый.

Статыстыка паказвае, што ў ЗША вучні пачатковай школы праседжваюць каля тэлевізара ў сярэднім 22 гадзіны ў тыдзень. Апытанне тысячы школьнікаў у г. Цынцынаці (штат Агайо) паказала, што ў тыдзень яны праводзяць 25 гадзін у школе і 30 гадзін каля тэлевізара. Урачы выявілі, што такое празмернае ўзбуджэнне дзяцей надзвычай адмоўна ўплывае на псіхіку і фізічнае развіццё дзяцей.

Думкі жанчын аб уплыве кіно, тэлебачання і друку на дзяцей вельмі выразна выказала ў адной прагрэсіўнай амерыканскай газеце актрыса Сондэргардт: «Я выступаю тут, — гаворыць яна, — не ў якасці спецыяліста. Я — кінаактрыса, і, апроч таго, я жонка і маці — грамадзянка ЗША. Перада мною паўстаюць праблемы надзвычай вострыя, бо ў мяне растуць дзеці. Гэтыя праблемы такія важныя, што мне хочацца падзяліцца сваімі думкамі. Пачнем з таго, як мы з дзецьмі праводзім дзень. У час снедання ўвагу дзяцей прыцягваюць малюнкі, змешчаныя ў газетах. Дзеці просяць растлумачыць ім гэтыя малюнкі. Звычайны змест іх вам вядомы: забойцы, падпальшчыкі, самагубцы, наркаманы, гангстэры. Для дзяцей газета ўяўляецца нечым дзіўным і загадкавым, таму што большую частку таго, што там надрукавана, я не магу ім прачытаць. Дзеці шукаюць у газеце раздзел кіно, каб даведацца, што паказваюць вечарам у кінатэатрах. І што ж яны бачаць? Страшэнныя, злачыннага выгляду жанчыны і ўзброеныя рэвальверамі мужчыны. Дзеці рэагуюць на гэта так, як і чакаюць аўтары рэкламы. Іх увагу прыцягвае гвалтоўніцтва і жорсткасць, і яны выбіраюць адпаведныя фільмы. Па дарозе ў школу яны спыняюцца каля кніжнага кіёска і просяць купіць ім «комікс». Прыйшоўшы са школы, яны кідаюцца да радыёпрыёмніка, каб паслухаць расказы пра забойствы і іншую крымінальшчыну. Я вяду іх пагуляць. Але замест іх гульняў робіцца ўсё тое, што яны бачылі ў газетах, прачыталі ў «коміксе» і чулі па радыё, — усё тое, ад чаго я так імкнулася адцягнуць іх увагу. Я пытаюся, ці ж усё гэта не мае дачынення да дзіцячай злачыннасці? Ці ж не злачынныя многія вынікі нашай «культуры»? Злачынствы робяцца ўсё больш звычайнай з'явай нашага грамадства. Чым жа гэта вытлумачыць? Прычына для мяне зразумелая. У выпадку, калі грамадства не можа паставіць перад сваімі членамі высокія сацыяльныя ідэалы, калі яно не можа карыстацца з іх боку павагай і адданасцю, якія могуць быць толькі пры наяўнасці такіх высокіх ідэалаў, гэта сведчыць пра тое, што грамадства пераносіць цяжкую хваробу».

Дзіцячай злачыннасці ў буржуазных краінах садзейнічае і алкагалізм. У многіх краінах, асабліва ў ЗША, ён стаў масавай з'явай. Вось як апісваецца п'янства ў кнізе «Моладзь у небяспецы», якую напісаў былы сенатар ЗША і былы старшыня сенацкай падкамісіі па вывучэнню правапарушэнняў няпоўналетнімі Роберт Гендрыксан: «У Філадэльфіі п'янства пачынаецца з 9.30 раніцы і цягнецца ўвесь дзень. У поўдзень п'яныя натоўпы студэнтаў, школьнікаў і хуліганаў запаўняюць вуліцы горада. У п'яным шаленстве яны б'юць вокны і вулічныя ліхтары, пераварочваюць садовыя лаўкі і урны. Але асабліва пашыраны напады на аўтобусы. У гэтых выпадках прынята не толькі біць вокны ў іх, але таксама рабаваць абслугоўваючы персанал. У шэрагу выпадкаў пабітыя, абрабаваныя, спалоханыя кандуктары адмаўляліся ад работы. Паліцыя ж вельмі часта, не робячы ніводнага арышту, абмяжоўваецца толькі настаўленнямі».

Побач з алкагалізмам шырока распаўсюджана і ўжыванне наркотыкаў. Згодна дадзеных бюро пры міністэрстве фінансаў ЗША, адзін амерыканец з двух тысяч пяцісот атручвае сябе наркотыкамі. Сярод наркаманаў — шмат моладзі. Больш 60 працэнтаў наркаманаў у краіне — гэта людзі, якім няма дваццаці год. Газета «Нью-Йорк Таймс» піша, што ўжыванне наркотыкаў сярод моладзі набыло ў дзевяці буйных гарадах краіны характар эпідэміі. Хлапчукі-падлеткі ўжываюць наркотыкі нават у час заняткаў у школе. Галоўны апякун школ штата Нью-Йорк Уільям Янсан прызнаў на адкрытым пасяджэнні, што адзін з двухсот хлопчыкаў і дзяўчынак, якія навучаюцца ў сярэдніх школах, пастаянна ўжывае наркотыкі.

Вывучаючы праблемы злачыннасці няпоўналетніх, асобныя буржуазныя вучоныя не могуць абысці і сацыяльна-эканамічных фактараў. У ліку прычын дзіцячай і юнацкай злачыннасці яны правільна называюць жыллёвы крызіс. Статыстычныя дадзеныя пацвярджаюць правільнасць іх думак. Пастаянным папаўненнем арміі дзяцей-злачынцаў з'яўляюцца беспрытульныя, якія вандруюць з штата ў штат. Клопаты мясцовых улад аб гэтых дзецях звычайна абмяжоўваюцца толькі тым, што іх перапраўляюць у суседні штат.

Цікавыя прызнанні робіць у сваёй кнізе «Мільён злачынцаў» амерыканскі вучоны Файн. Ён піша, што злачынныя паводзіны моладзі з'яўляюцца непазбежным вынікам атмасферы, якая пануе ў амерыканскім грамадстве наогул, дзе жыццё поўна невырашальных супярэчнасцей, не мае маральных норм і правіл, пазбаўлена духу калектывізму, веры ў будучыню. Файн прыводзіць словы былога сенатара Гендрыксана: «Дзеці ў ЗША ў маральных адносінах не лепшыя за дарослых, якія заклалі трывалы фундамент злачыннасці».

На жаль, у працах буржуазных вучоных няма сапраўднага даследавання галоўных сацыяльных прычын злачыннасці. На эканамічныя законы развіцця капіталістычнага грамадства, па якіх на адным полюсе канцэнтруецца багацце, а на другім — пануе галеча, буржуазныя даследчыкі заплюшчваюць вочы. Гонка ўзбраенняў, якая вядзе да зніжэння рэальнай заработнай платы і жыццёвага ўзроўню працоўных, не разглядаецца імі, як адна з прычын росту злачыннасці сярод моладзі.

Злачыннасць жа арганічна ўласціва капіталістычнаму грамадству. Пра гэта Карл Маркс пісаў: «Як відаць, ёсць нешта гнілое ў самой сэрцавіне такой сацыяльнай сістэмы, якая павялічвае сваё багацце, але пры гэтым не памяншае галечы, і ў якой злачынnasць расце нават хутчэй, чым колькасць насельніцтва». Гэтыя словы К. Маркса робяць зразумелымі асноўныя прычыны злачыннасці ў капіталістычным грамадстве, злачыннасці, якая можа быць ліквідавана толькі ва ўмовах сацыялізма.

**В. ШКУРКО,**
**А. ЛЕЙЗЕРАЎ.**

## Давайце пагаворым...

# КАБ СЯБРАВАЛІ ФІЗІКІ І ЛІРЫКІ

### ЗА ЎСЕБАКОВЫЯ ВЕДЫ

У артыкуле Фёдара Майсейшына і Уладзіміра Піскуна «Каб сябравалі фізікі і лірыкі», надрукаваным у красавіцкім нумары часопіса «Маладосць» за 1960 год, узнімаюцца надзённыя пытанні выхавання студэнцкай моладзі ў вышэйшых навучальных установах. Я цалкам падзяляю думкі аўтараў артыкула аб тым, што малады чалавек, які атрымлівае вышэйшую адукацыю, павінен быць усебакова развітым, мець шырокі кругагляд.

Я ўжо не першы год працую ў сярэдняй школе. І мне даволі часта даводзіцца бачыць, у якое становішча трапляюць тыя настаўнікі, якія некалі, у сценах інстытута, апрача падручніка, нічым не цікавіліся, не імкнуліся пашыраць свае веды. Вінаваты ў гэтым не толькі яны самі. Асноўная ўвага ў інстытуце, вядома, звяртаецца на спецыяльныя дысцыпліны. І вось малады чалавек, які паспяхова закончыў філалагічны факультэт і выкладае рускую мову і літаратуру, не можа правесці цікавы дыспут, канферэнцыю чытачоў, літаратурную віктарыну, арганізаваць работу драматычнага або літаратурнага гуртка. Яшчэ больш бездапаможныя ў арганізацыі выхаваўчай работы з вучнямі маладыя педагогі, якія выкладаюць іншыя прадметы. Гэтым тлумачыцца той факт, што ў многіх сельскіх школах гадамі не праводзяцца пазакласныя мерапрыемствы па гісторыі, геаграфіі, біялогіі, матэматыцы, замежнай мове.

Не так даўно ў нашай школе вучні-старшакласнікі звярнуліся да настаўнікаў з просьбай, каб ім прачыталі цыкл лекцый па кінематаграфіі, музыцы, архітэктуры і жывапісу. І, уявіце, у якім становішчы апынуўся настаўніцкі калектыў — ніхто з педагогаў не рызыкнуў прачытаць хаця б адну лекцыю па гэтых пытаннях (!). З 23 выкладчыкаў школы (амаль усе яны — з вышэйшай педагагічнай адукацыяй) ніхто не мае хаця б элементарнай падрыхтоўкі па асноўных відах мастацтва. І як гэты недахоп адчуваецца ў школе! Дзеці любяць музыку, жывапіс, кіно, многія цікавяцца і другімі відамі мастацтва, а вось задаволіць іх цікаўнасць у гэтых галінах мы, педагогі, не можам.

Прывяду яшчэ адзін прыклад. Памятаецца, у мінулым годзе адзін з маіх сяброў-педагогаў расказаў такую гісторыю. У школу прыехала маладая выкладчыца геаграфіі, выпускніца Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Ёй прапанавалі арганізаваць і весці геаграфічны гурток. Вучні з ахвотай запісаліся ў яго. Сваімі сіламі рашылі пабудаваць на двары школы геаграфічную пляцоўку. Нарыхтавалі будаўнічыя матэрыялы. Вучні папрасілі, каб настаўніца параіла ім, як і чым абсталяваць пляцоўку. І вось тут яна выявіла поўную бездапаможнасць.

— Ведаеце, ва ўніверсітэце нам пра гэта мала гаварылі, — апраўдвалася настаўніца.

Ды ці толькі гэта! А арганізацыя мастацкай самадзейнасці, дыспутаў, выпуск насценных газет, лекцыі для вучняў і насельніцтва на разнастайныя тэмы!

Трэба, каб настаўнік, акрамя добрых тэарэтычных ведаў і практычных навыкаў па сваёй спецыяльнасці, умеў цікава правесці класны сход, гутарку, вечар адпачынку, экскурсію, прачытаць лекцыю аб музыцы, жывапісу. Карацей кажучы, ён павінен быць чалавекам усебаковых ведаў.

**І. РАБКОЎ,**
**завуч Абчугскай СШ Крупскага раёна Мінскай вобласці.**

### ГЭТАГА ПАТРАБУЕ ЧАС

Аднойчы мне давялося быць сведкам размовы, якая прымусіла мяне задумацца. Сустрэліся двое былых аднакласнікаў, якія некалі разам вучыліся ў сярэдняй школе, сябравалі. Яны не бачыліся шмат гадоў. Кожны з іх паспеў ужо закончыць інстытут: адзін — сельскагаспадарчы, другі — педагагічны. Натуральна, абодва былі рады сустрэчы. Але дзіўная рэч: пасля першых, звычайных у такім выпадку распытванняў (чым займаешся, як асабістыя справы, ці сустракаеш аднакласнікаў і г. д.) наступіла няёмкая паўза. Кожны пачаў думаць, што яшчэ спытаць у таварыша. Размова не клеілася. Дыскусіі ў друку аб станоўчым героі ў літаратуры, за якімі сачыў філолаг, мала хвалявалі агранома. Навінкі сельскагаспадарчай навукі не цікавілі літаратара. Іншых тэм для размоў, якія б аднолькава хвалявалі абодвух, сябры не знаходзілі.

Не ведаем, ці задумаліся маладыя спецыялісты пасля гэтай размовы аб тым, як абкрадвалі яны самі сябе некалі, у сценах інстытутаў, аддаючы ўсю ўвагу толькі таму, што датычыла абранай прафесіі...

Мне здаецца, сапраўды адукаваныя людзі, нават калі яны зусім не знаёмыя, заўсёды знойдуць пра што гаварыць, знойдуць шмат агульнага.

Мы часта паўтараем, што чалавек камуністычнага заўтра — гэта чалавек высокай свядомасці, шырокай эрудыцыі, усебаковых ведаў, — чалавек, свабодны ад прафесійнай абмежаванасці. У падрыхтоўцы такога чалавека ўдзельнічае ўсё наша грамадства, уся сістэма выхаваўчых, навуковых і мастацкіх устаноў. Не апошнюю ролю адыгрываюць у гэтым і вышэйшыя навучальныя ўстановы. На жаль, у многіх інстытутах выкарыстоўваюцца далёка не ўсе магчымасці для падрыхтоўкі ўсебакова развітых, прагных да ведаў спецыялістаў.

У артыкуле «Каб сябравалі фізікі і лірыкі», надрукаваным у «Маладосці», адзначаецца, што некаторыя студэнты беларускага політэхнічнага інстытута вельмі мала чытаюць мастацкую літаратуру, наогул мала цікавяцца мастацтвам. Папрок зусім справядлівы. Я нядаўна скончыў гэты інстытут, зараз працую ў ім. Бадай, адзінае, што арганізоўваецца ў інстытуце, каб далучыць да мастацкай культуры тых, хто сваёй прафесіяй абраў дакладныя навукі, — гэта самадзейнасць! Але ж удзельнічаюць у самадзейнасці вельмі нямногія, тыя, хто мае, як кажуць, які-небудзь «талент». А чаму б не арганізаваць своеасаблівы ўніверсітэт культуры ці аб'яднанне аматараў мастацтва (справа не ў назве)? Думаецца, калі б як след наладзіць работу такой масавай добраахвотнай мастацкай студыі, гэта магло б спрыяць выхаванню ў студэнтаў добрых эстэтычных густаў, цікавасці да мастацкай культуры нашага народа, яе гісторыі і сённяшніх дасягненняў. Бясспрэчна, можна знайсці многа іншых форм непрадугледжанай праграмай, але патрэбнай работы, якая дапамагала б мастацкаму выхаванню будучых інжынераў. Гэтым толькі трэба як след заняцца. Ініцыятыву тут павінны праявіць, вядома, камсамольцы. Абавязак выкладчыкаў — падтрымаць іх.

Інстытут не можа даць універсальных ведаў. Але ён можа і павінен абудзіць у сваіх выхаванцаў прагу да ўсебаковых ведаў. Гэтага вымагае час. Гэтага патрабуе тая светлая будучыня, да якой мы ідзём.

**Л. ЧАРВІНСКІ,**
**інжынер.**

г. Мінск.



Уваход у новы будынак Літаратурнага музея Янкі Купалы.

# ГАСЦІННЫ ДОМ

Дваццаць гадоў назад на гэтым месцы ў зяляніне стаяў звычайны драўляны домік, у якім жылі вельмі сардэчныя людзі. Не былі яны ніколі адзінокімі. Безліч сяброў і прыяцеляў наведвала гасцінных гаспадароў кожны дзень. У доміку заўсёды было ўтульна, весела і гаманліва. Здавалася, нішто не зможа і не павінна перамяніць парадкі і звычаі гэтага прытулку спакою, працы і натхнення.

Але страшная перамена прыйшла раптоўна. Фашысцкімі бомбамі маляўнічы куток быў ператвораны ў руіны. Ад сядзібы засталася адна толькі тапаля.

Лютая навала вымусіла гаспадароў доміка пакінуць родныя мясціны і жыць удалечыні ад усяго, што ім было так дорага і блізка.

Аднак ні адлегласць, ні суровасць часу не разлучылі іх з любімай старонкай. У думках яны штохвіліны былі са сваёй зямлёй, са сваім народам.

Убачыць вызваленым родны край Янку Купалу не давялося. Яго верная сяброўка і спадарожніца жыцця Уладзіслава Францаўна вярнулася ў Мінск адна. З пчалінай стараннасцю і працавітасцю ўзялася яна за збор матэрыялаў і дакументаў, звязаных з дзейнасцю народнага паэта.

І сёння, аглядаючы Музей Янкі Купалы, нельга не ўспомніць яе добрым, шчырым словам. Сама Уладзіслава Францаўна не дачакалася дня, каб убачыць экспазіцыю выстаўкі ў прасторным, светлым памяшканні і ад душы парадавацца здзяйсненню сваіх мараў.

Пачуццём гордасці і глыбокай павагі да памяці вялікага сына беларускага народа пранікаешся, знаёмячыся з экспанатамі Музея.

Увагу прыцягвае карціна, на якой паказана звычайная сялянская хата, дзе ў 1882 годзе нарадзіўся Янка Купала. Карта пераездаў сям'і Дамініка Ануфрыевіча сведчыць аб вандроўным, «цыганскім» жыцці беззямельнага селяніна, што самым адмоўным чынам адбілася на вучобе дзяцей. Але сапраўдны талент заўсёды праб'е сабе дарогу. Нягледзячы на матэрыяльныя нястачы і сямейнае блуканне па свеце ў пошуках кавалка хлеба, будучы паэт вучыўся ў свайго народа, у самога жыцця.

Мне мудрасці кніжнай не даў
бог пазнаці,
Мой бацька не мог даць
раскошаў такіх, —
Навучыўся я слоў беларускіх
ад маці
І дум беларускіх без школы
і кніг.

Ад самай красы маіх дзён
невясёлых
Настаўнікам быў беларускі
абшар;
Усходы палеткаў і гоманы
ў сёлах
Навуку сваю мне прыносілі
ў дар.

Гэтыя крыніцы жывілі творчасць паэта на працягу ўсяго яго жыцця.

Любоў да простага працоўнага народа Купала пранёс праз усё жыццё.

«Кніга, дзе гаварылася аб цяжкай долі беднага люду, заўсёды мяне захапляла. Больш за ўсё цікавілі мяне з рускай літаратуры Някрасаў, Горкі, Кальцоў, Лермантаў, з украінскай — Шаўчэнка, з польскай — Канапніцкая, Ажэшка», — пісаў Янка Купала.

Ужо ў першым творы паэт выступіў шчырым абаронцам інтарэсаў працоўных людзей. Галасна і смела заявіў ён аб праве мужыка называцца чалавекам. Пазней грамадзянскія матывы «Мужыка» набылі маштабнасць і грозную сілу ў вершы-гімне «А хто там ідзе?». Карціна мастака Сергіевіча перадае праўдзівы і суровы сэнс купалаўскіх слоў аб імкненні беларусаў «людзьмі звацца».

На шчытках пад шклом — зборнікі вершаў Янкі Купалы «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця», камедыя «Паўлінка», драма «Раскіданае гняздо». З года ў год расце і павышаецца мастацкае майстэрства паэта, пашыраецца тэматычны дыяпазон яго твораў.



Макет дэкарацыі спектакля «Паўлінка», пастаўленага Акадэмічным тэатрам імя Я. Купалы.

Плённым у творчасці Я. Купалы быў пецярбургскі перыяд. У музеі сабрана многа разнастайных дакументаў, фатаграфій і карцін, якія раскрываюць дзейнасць паэта ў гэты час.

Важным у асабістым жыцці Янкі Купалы быў 1912 год. У гэтым годзе ён упершыню сустрэўся з Якубам Коласам. Выклікае цікавасць фатаграфія хаткі ў Смольні, дзе адбылася хвалюючая сустрэча двух сяброў. У тым жа годзе Я. Купала пазнаёміўся з Уладзіславай Францаўнай Станкевіч, беларускай настаўніцай. Яе мы бачым на карціне і фатаграфіі ў дзявочым узросце. Праз чатыры гады яна стала самым блізкім другам паэта.

Янка Купала па-сапраўднаму распрастаў творчыя крыллі толькі ў савецкі час. Па-новаму запела яго муза. Паэт яшчэ мацней звязвае сваё жыццё з жыццём народа. Аб гэтым красамоўна гаворaць сціплыя словы, сказаныя Купалам у дзень прысваення яму звання народнага паэта Беларусі (1925):

«Сёння вялікае і незвычайнае свята з прычыны ўшанавання майго юбілею і, асабліва, надання мне годнасці беларускага народнага паэта... Гэта ёсць трыумф вызваленай працоўнай Беларусі. І гэта я кажу шчыра. Бо не я адзін складаў свае песні, не я іх выдумляў — я толькі падслухаў думкі сардэчныя беларускага селяніна і работніка ды гэтыя думкі на паперу пераклаў. Атрымалася як бы калектыўная праца, а разам з тым і сягонняшняе калектыўнае святкаванне беларускай песні», — гэтак сціпла вызначыў свае заслугі ў літаратуры юбіляр.

Купала прымае актыўны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці краіны. Гэта яго другая сфера дзейнасці. Народны паэт быў акадэмікам, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Ні адно літаратурнае мерапрыемства не абыходзілася без удзелу Янкі Купалы.

Частыя паездкі па Беларусі, сустрэчы з людзьмі давалі паэту ўдзячны матэрыял для напісання выдатных твораў. Паехаў ён у 1933 годзе на Палессе — і вынікам гэтай паездкі з'явілася паэма «Над ракой Арэсай», гімн свабоднай працы савецкіх людзей; наведаўся ў Барысаў — і неўзабаве ў друку з'явілася паэма аб беларускім горадзе; завіталі да Я. Купалы на дачу ляўкоўскія калгаснікі — і паэт піша цудоўны верш «Госці».



**Янка Купала.** Скульптура Л. Робермана.

Я. Купала стаў вядомым далёка за межамі Беларусі. Творы яго перакладаюцца на мовы народаў СССР і на многія замежныя мовы. У адной з залаў музея экспанаваны гэтыя пераклады твораў Купалы.

Еднасць беларускага песняра з сваім народам выявілася і ў суровыя дні вайны. Член Антыфашысцкага камітэта, удзельнік усеславянскіх мітынгаў, ён ні на хвіліну не спыняў барацьбы з ворагам. Гнеўна і бязлітасна загучала яго мастацкае слова. Паэт верыў, што мы «зноў шчасце будзем мець і волю».

На сцяне — фатаграфія апошняга пісьма Янкі Куплы да жонкі ў Печышчы (Татарская АССР) і фатаграфія пакоя ў маскоўскай гасцініцы, дзе апошнія дні жыў народны пясняр.

Парваліся струны. Разбіты
Цудоўныя гуслі твае.
Краіна жалобай спавіта:
Байца-песняра не стае.
Спі спакойна, спачывай —
Не забудзе цябе край, —

пісаў на смерць Купалы Якуб Колас.

І сапраўды, наш народ не забыў свайго любімага песняра. Разнастайныя фатаграфіі і дакументы сведчаць аб папулярнасці паэта ў народзе: тут і адкрыццё філіяла Музея ў Вязынцы, і адкрыццё помнікаў у Мінску (1949), Радашковічах (1957), і фатаграфіі ўстаноў і вуліц, якія носяць імя Янкі Купалы. Далей — сцэны са спектакляў «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Шчасце паэта» і інш.

Любоў беларускага народа да вялікага паэта відаць і ў выдатных працах народных умельцаў, якія з такой тонкасцю і замілаванасцю ўвасобілі дарагі яго вобраз у скульптурах, інкрустацыях, вышыўках, разьбярных работах. Гэта ўсё сабрана ў спецыяльным пакоі музея.

Калісьці купалаўскі домік гасцінна сустракаў сваіх шматлікіх наведвальнікаў. Гаспадары — Іван Дамінікавіч і Уладзіслава Францаўна рады былі кожнаму госцю. Не стала Янкі Купалы — цёця Уладзя цёпла і шчыра сустракала кожнага, хто пераступаў парог Музея. І цяпер, у новым будынку, гасцінна адчынены дзверы Музея для кожнага, хто шануе памяць неўміручага Купалы.



**У адной з залаў музея. Ля скульптуры А. Глебава «Горкі і Купала».**

**І. КУРБЕКА.**

# Крытыка і бібліяграфія

## ПЯТРО ШАПЯТОВІЧ І ЯГО АДНАГОДКІ

Некаторыя пісьменнікі — звычайна не самыя таленавітыя — часта наракаюць на крытыкаў: мяне не ведаюць, не чытаюць, бо вы замоўчваеце мае творы...

Што ж, у гэтым нараканні, мусіць, ёсць доля праўды, бо крытыка так ці інакш уплывае на лёс пісьменніка, на яго папулярнасць. Зрэдку ёй удаецца падняць шум вакол пасрэднага твора або кінуць цень на таленавітую рэч, стварыць дуты аўтарытэт або прынізіць аўтарытэт сапраўдны. Але праходзіць час — і ўсё становіцца на свае месца, бо ніякая шуміха ўгодлівых сяброў ці нядобрасумленных крытыкаў-кан'юнктуршчыкаў не можа зрабіць пасрэдны твор выдатным, а сапраўды таленавітая кніжка і без дапамогі крытыкі, — а то і насуперак ёй, — пракладвае сабе дарогу да сэрца чытача.

Творы Івана Шамякіна, аднаго з самых таленавітых і актыўных сучасных беларускіх празаікаў, даўно знайшлі дарогу да чытача, які, часта не вельмі аглядваючыся на крытыкаў, з вялікай цікавасцю і нязменнай прыхільнасцю сустракае кожную новую кнігу пісьменніка. Не складае выключэння і яго тэтралогія «Трывожнае шчасце», якая аб'ядноўвае сюжэтна звязаныя паміж сабой аповесці «Непаўторная вясна», «Начныя зарніцы», «Агонь і снег» і «Пошукі сустрэчы». *

Тэтралогія з'явілася вынікам напружанай працы пісьменніка на працягу апошніх чатырох год. Яна выклікае ажыўленыя спрэчкі і гарачыя дыскусіі. І гэта зусім натуральна, таму што ў «Трывожным шчасці» сталі больш выразнымі моцныя бакі таленту Івана Шамякіна, раскрыліся новыя грані яго індывідуальнай мастацкай манеры, а разам з тым сустракаюцца мясціны і раздзелы, у якіх пісьменнік, ідучы пратоптанай сцежкай, паўтарае свае ранейшыя недахопы.

У друку (у артыкулах Янкі Брыля, Івана Навуменкі і інш.) ужо выказвалася слушная думка, што аўтару найбольш удаліся першая і асабліва трэцяя аповесці. З гэтым нельга не згадзіцца.

Калі гаварыць аб «Непаўторнай вясне», дык яна хвалюе перш за ўсё лірызмам, паэзіяй чыстага юнацкага кахання. Аўтару ўдалося перадаць хараство душы маладых герояў на парозе іх сталасці, раскрыць іх ідэалы, мары і тыя ўнутраныя сілы, якія дазволілі гэтым звычайным, радавым савецкім людзям вытрымаць самыя суровыя выпрабаванні ваеннага часу.

Сюжэт аповесці «Непаўторная вясна» не вызначаецца асаблівай навізной і арыгінальнасцю. У іншага, менш таленавітага пісьменніка, ён мог бы здацца нават банальным. І сапраўды: малады студэнт Пятро Шапятовіч едзе ў госці да сваёй каханай Сашы Траянавай, але з-за дробных непаразуменняў уцякае ад яе, сустракаецца з другой дзяўчынай, нібыта толькі для таго, каб пераканацца, што яна намнога горшая за Сашу. Потым, атрымаўшы вестку, што да Сашы сватаецца вясковы настаўнік, Пятро забывае на ўсе крыўды і жэніцца з ёю. Амаль напярэдадні вайны ён ідзе ў армію, надоўга расстаючыся з маладой жонкаю, якая чакае дзіцяці.

Як бачым, тут не вельмі багата падзей для пісьменніка, які любіць і ўмее будаваць займальны разгалінаваны сюжэт.

Мусіць з-за гэтай уяўнай беднасці «Непаўторнай вясны» падзеямі некаторыя крытыкі і папракалі аўтара за бяздзейнасць асобных яго герояў.

Але ўзбагачэнне таленту Івана Шамякіна ў «Непаўторнай вясне» ў тым і выяўляецца, што нескладанаму сюжэту аповесці празаік здолеў даць глыбокае эмацыянальна-псіхалагічнае напаўненне.

Узяць хоць бы «разлад» Сашы і Пятра. Гэта як быццам адно з тых беспадстаўных, нічым, акрамя волі аўтара, не выкліканых непаразуменняў, якімі другі пісьменнік бясконца мучыць сваіх герояў, а разам з імі і чытача, ствараючы толькі бачнасць сур'ёзнага канфлікту і як мага далей адцягваючы даўно наспеўшую шчаслівую развязку. Але ў «Трывожным шчасці» гэтае «непаразуменне» заканаханых псіхалагічна такое дакладнае і так тонка прасочана ў сваіх вытоках, што яно ўспрымаецца як праяўленне наіўнасці, юнацкай нявопытнасці герояў. У юнацтве сапраўды бывае так: спрэчкі і нядоўгія сваркі з-за дробязей, гарачыя прымірэнні і зноў спрэчкі, зноў прымірэнні... І няма без гэтага ні юнацкага кахання, ні яго натуральнага хараства. Гэтае псіхалагічна тонкае нагляданне перададзена з той высокай дакладнасцю, якая магчыма толькі тады, калі ўсё гэта пройдзе праз сэрца мастака.

Аповесць «Непаўторная вясна» многа выйграе і ад таго, што аўтар, дакладна перадаючы пачуцці герояў, вельмі выразна і адкрыта выяўляе свае адносіны да іх. Адсюль — іранічная, але такая цёплая, добрая ўсмешка сталага чалавека, які з вышыні свайго жыццёвага вопыту добра бачыць непаўторную, па-свойму прывабную, але для дарослага трохі смешнаватую наіўнасць юнацтва. Пісьменнік усміхаецца, любячы сваіх герояў, любуючыся імі і, відаць, крыху зайздросцячы іх маладосці.

Бачачы юнацкую нявопытнасць сваіх персанажаў, пісьменнік хацеў бы паправіць іх, што-нішто падказаць... Ды не падкажаш, бо ў герояў свае характары, свой розум і меркаванні, над якімі аўтар не мае ўлады. Ён не можа, не парушыўшы мастацкую і жыццёвую праўду, перайначыць мінулае таго пакалення, разам з якім ішоў да сталасці, набіраўся жыццёвай мудрасці.

Затое пісьменніку нікім не забаронена адкрыта захапляцца сваімі героямі, калі яны робяць што добрае, або не менш адкрыта іранізаваць, калі яны выяўляюць сваю наіўнасць ці прымаюць сваю слабасць за сілу. Адсюль тая натуральнасць, з якой Іван Шамякін карыстаецца ў «Непаўторнай вясне» лірычнымі адступленнямі, даючы сваю ацэнку падзеям ці разважаючы з чытачом аб тым, што лічыць важным для яго і для сябе. Так з'яўляюцца не толькі ўласна лірычныя адступленні, якія выклікаюцца роздумам над лёсам герояў, але і публіцыстычныя разважанні аб некаторых праблемах сучаснага жыцця, толькі ўскосна звязаныя з адлюстраванымі падзеямі.

Але аўтар ніколькі не злоўжывае лірычнымі і публіцыстычнымі адступленнямі. У «Непаўторнай вясне» яны з'яўляюцца неад'емнай рысай пісьменніцкага стылю, апавядальнай нормы. Яны даюць магчымасць у патрэбных момантах «урывацца» ў сучаснасць, непасрэдна выяўляюць грамадзянскую страснасць аўтара, падкрэсліваюць антываенны пафас твора і, паказваючы адносіны пісьменніка да адлюстраванага, у пэўнай меры пашыраюць гарызонты аповесці, а не проста «служаць толькі некатораму ўзмацненню лірызму», як пісаў І. Агееў у артыкуле «Вогненныя лівні над пакаленнем», папракаючы Івана Шамякіна за аўтабіяграфізм «Непаўторнай вясны», які нібыта «ў прозе непазбежна звужае пункт гледжання на жыццё, абцяжарвае палёт фантазіі і, у канчатковым выніку, абмяжоўвае абагульняючую магчымасць мастацтва».

Не бяромся сцвярджаць, што такога не бывае ў прыродзе. Але што датычыць Івана Шамякіна, дык яму аўтабіяграфізм яшчэ нідзе не пашкодзіў і не відаць, каб мог пашкодзіць. У «Трывожным шчасці» іменна ад аўтабіяграфічнасці ідзе тая дакладнасць псіхалагічных характарыстык, якая складае адну з самых моцных якасцей тэтралогіі (калі мець на ўвазе першую і трэцюю аповесці).

Вось, скажам, Пятро развітваецца з Сашай, ідучы ў армію. І ніякай радасці няма ў яго на сэрцы, хоць хлопец і «хацеў радавацца. Ён жа многа чытаў у розных кнігах, часопісах, бачыў у кіно, як радуецца моладзь, калі адыходзіць у армію. Чаму ж у яго няма гэтай радасці? Ён падумаў, што, відаць, гэты смутак, які сціскаў яму сэрца, навеяны восенню.

Навошта прызываць увосень, калі нават прырода смуткуе, калі вось так пуста навокал... павуціння? Няхай бы гэта было вясной, калі ўсё зацвітае, ажывае... Весела было б..

Ён проста шукаў апраўдання свайму смутку, бо яму было сорамна — хіба ён горшы за іншых? Хіба не імкнуўся ён яшчэ са школьных год у армію, не хацеў паступіць у ваенную школу? Не, ён таксама з гонарам і радасцю ідзе выконваць свой пачэсны грамадзянскі абавязак! А настрой гэты ад таго, што цяжка пакідаць Сашу... Яна застанецца адна сярод чужых...» (стар. 61). Так разважае Пятро, стараючыся пазбавіцца ад нядобрай трывогі на душы. А пісьменнік ужо даў нам зразумець, што адна справа — захапляцца радасцю кніжных прызыўнікоў ці самому ў юнацтве марыць аб ваеннай школе, прыгожа думаць пра вайну і зусім другая — пакідаць «маленства край», ды яшчэ прадчуваючы, што няхутка,

* Іван Шамякін. Трывожнае шчасце. Мінск, 1960.

вельмі няхутка вернешся назад, бо грознае выпрабаванне насоўваецца на радзіму і табе таксама трэба вытрымаць яго.

Глыбіня і трапнасць характарыстыкі душэўнага стану героя ўзмацняюцца і тым, што аўтар дакладна перадае кожны псіхалагічны рух, выяўляючы нават тое, што чалавек падсвядома стараецца схаваць ад сябе самога.

Іван Шамякін падкрэслівае сваё непрыйманне любой штучнасці і фальшу ў пачуццях. Вось чаму ён не спыняе Шапятовіча, калі той здзекуецца з пераможанага Лялькевіча, хоць станоўчаму герою па ўсіх канонах гэта сурова забараняецца. Не хавае пісьменнік і таго, што Саша Траянава не сказаць каб з прыкрасцю глядзела на заляцанні дасціпнага настаўніка, хоць гэта страшэнна злавала Шапятовіча. Дзявочая «легкадумнасць» маладой фельчарыцы не зусім падабаецца некаторым крытыкам.

Але тут нічога не зробіш, бо аўтар не ўказчык дзяўчыне, асабліва ў тым узросце, калі ёй яшчэ дужа прыемна дражніць «свайго» хлопца, амаль несвядома кружачы галаву другому, прыемна адчуваць маладосць, сілу сваёй прыгажосці і бачыць уладу над якім-небудзь безнадзейна закаханым дзецюком. Ды не грэх і праверыць каханага, паглядзець, а ці моцна яго ўзяло, ды ў дадатак і пасмяяцца з такога «перажытку», як рэўнасць. Іншая справа, калі хлопцу пагражае небяспека, сапраўдная бяда. О, тады не да жартаў, не да выпрабаванняў...

Саша на нашых вачах робіць усе гэтыя пераходы ад аднаго стану да другога. І пісьменнік перадае іх тонка і паэтычна. Не баючыся «знізіць» ці «здрабніць» вобраз гераіні, ён дасягае натуральнасці ў паказе яе характару.

Зусім іншы жыццёвы матэрыял лёг у аснову аповесці «Агонь і снег». Суровая і жорсткая праўда вайны ва ўсёй сваёй жахлівасці паўстае перад намі са старонак гэтага твора.

«Не, я напішу праўду. Напішу ўсё, што перажыў, што перадумаў», — разважае Пятро, занатоўваючы ў сваім дзённіку эпізоды з баявога жыцця зенітчыкаў. Так мог бы сказаць пра сябе і аўтар, бо гэтыя словы дакладна характарызуюць яго пункт гледжання, выражаюць яго ўласную прынцыповую пазіцыю.

Пісьменнік сапраўды нічога не ўтойвае. Ён мужна піша праўду, якой бы жахлівай і непрыемнай яна ні была. З горыччу, з болем у сэрцы Іван Шамякін заўважае, што сябры Шапятовіча навучыліся класічна казыраць, а не ўмелі страляць, не маглі як след карыстацца сваёй асноўнай зброяй.

Героі аповесці пакутліва думаюць: чаму часам невукі, выскачкі, салдафоны ў большай пашане, чым разумныя, але сціплыя людзі, якія, умеючы цвяроза глядзець на рэчы, не хочуць ашукваць сябе і другіх прыгожымі напышлівымі фразамі?

З'едліва, з сапраўднай сатырычнай злосцю малюе празаік «высакаправільнага» балбатуна Кідалу, гэтага тупагаловага цыніка, бяздушнага кар'ерыста, які ледзь не выхваляецца сваім невуцтвам і нічым не грэбуе ў барацьбе з тымі, хто стаіць на яго жыццёвай дарозе. Ён можа скарыстаць падслуханую размову і, зрабіўшы з яе самыя неверагодныя вывады, са спрытнасцю фокусніка ўзвесці страшэннае абвінавачанне на сумленнага чалавека.

Ствараючы атмасферу падазрэння і насцярожанасці, Кідала становіцца вельмі небяспечным. Напорысты і нахабны, ён ніколі не заставаўся ў цені, а заўсёды хадзіў у «дзеячах», хоць і не вызначаўся асаблівымі здольнасцямі.

Недалёкі, затое надзейны, — у свой час разважаў сёй-той пра такіх «дзеячоў». Аднак яны былі самымі ненадзейнымі пустазвонамі, якія клапаціліся не пра агульную справу, а пра тое, каб заваяваць сабе месца ў жыцці, узвысіўшыся над сваімі таварышамі.

А колькі фанабэрыі, самахвальства і напускной велічы было ў гэтых артадаксальных пустазвонаў, калі яны нарэшце дасягалі сваёй мэты! Паглядзіце, як чырвоны, задаволены, самаиадзейны і ганарысты Кідала, стаўшы камандзірам узвода, любуецца ўласнай персонай! Ён, — з'едліва зазначае пісьменнік, — «выстаўляў сябе напаказ: казыраў адменна, на ўсю батарэю стукаў абцасамі і дакладваў камбату такім грамавым голасам, што, мусіць, было чуваць у горадзе».

А вось ён сустрэўся з былым таварышам, а цяпер сваім падначаленым Шапятовічам. Кідала «выслухаў даклад да канца, стаўшы «смірна», сур'ёзна сцяўшы вусны. Але твар... які твар у яго быў у той момант! Не, твар яго не ззяў, ён пасінеў ад натугі стрымаць усмешку задавальнення, радасці, самалюбавання. Аднак стрымацца яму было цяжка — усмешка пырснула са сцятых вуснаў і распаўзлася па ўсім шырокім здаровым твары, ажно заблішчалі адтапыраныя вушы».

Сытая самазадаволеная тупасць удачлівага кар'ерыста так і распірае Кідалу. Яна не можа ўжыцца з чалавечнасцю і высакародствам. Вось чаму праціўнікамі Кідалы непазбежна становяцца такія крыштальна чыстыя людзі, як Сеня Пясоцкі або Пятро Шапятовіч. Пісьменнік асэнсоўвае іх сутыкненні з Кідалам як востры напружаны канфлікт паміж трапяткой сумленнасцю і абыякавым пустазвонствам.



Хвалюючыя і вострадраматычныя старонкі, прысвечаныя Кідалу, чытаюцца з асаблівай цікавасцю яшчэ і таму, што гэты чалавечы тып, выхаплены з жыцця і паказаны аўтарам ва ўсёй сваёй злавеснай непрыгляднасці, бадай ці не ўпершыню з'явіўся ў творчасці Івана Шамякіна ды і наогул у беларускай прозе аб Айчыннай вайне.

Малюючы калектыў сумленных савецкіх людзей, пісьменнік логікай мастацкіх вобразаў пераконвае нас, што для перамогі над фашызмам трэба было не толькі пазбавіцца ад кідалаўскага пустаслоўя і абыякавай самазаспакоенасці, але і пераадолець сваю ўласную душэўную разгубленасць і страх, — звычайны фізічны страх перад больш вопытным, узброеным да зубоў, азвярэлым ворагам, навучыўшыся ваяваць у тых умовах, калі пачынае здавацца, што жыццё знікае, а застаецца толькі вайна. І трэба сказаць, што Івану Шамякіну ў аповесці «Агонь і снег» удалося вельмі добра паказаць, як савецкія людзі пераадольвалі свае слабасці, мабілізоўвалі ўсе душэўныя сілы на барацьбу з фашызмам. Гэта надае ўнутраную дынаміку сюжэту аповесці і абумоўлівае рух характараў большасці станоўчых герояў,

У першыя дні вайны Шапятовіча апаноўваюць трывога і разгубленасць. «Вайна... Ударыла, як гром з яснага неба, аглушыла, і я ніяк не магу апомніцца... І страх (мне сорамна прызнацца ў гэтым), страх таксама запаланіў душу з першых хвілін. Увесь час думаю пра смерць». «Няўжо гэта канец?» — у роспачы пытаецца Пятро. Ён не можа забыць горкай крыўды за першы бой, у якім звычайная замінка са снарадам зрабіла бездапаможным цэлы гарматны разлік, адразу выявіўшы непадрыхтаванасць Шапятовіча і яго сяброў да вайны, да смяротнага паядынку з фашыстамі.

Яшчэ большыя пакуты сумлення прыносіць няўдача з варожым самалётам-разведчыкам, які, не зважаючы на страляніну зенітчыкаў, спакойна ідзе сваім курсам.

«Хто ж вінаваты? Гарматы, прыборы ці мы, людзі, наша няўменне?» — зноў у роспачы думае Шапятовіч.

Але вось на змену страху і роспачы прыйшлі новыя пачуцці: адказнасць за лёс таварышаў, трывога за мірных жыхароў, «за тых, што мітусяцца ...м. на вуліцах, шукаючы ратунку ад ...снага ворага», і тады Пятру Шапятовічу захацелася хутчэй схапіцца з фашыстамі, прага бою авалодала ім. А неўзабаве прыйшла і перамога — цяжкая, здабытая потам і крывёю першая перамога над фашысцкім сцярвятнікам і канчатковая перамога над сваім страхам.

Можа ўсяго якіх два тыдні мінула ад пачатку вайны. Але за гэты час мірны чалавек стаў салдатам. Пачалася сапраўдная вайна, крывавая праца на крывавых палетках.

Вядома, гэты шлях ад мірнага чалавека да салдата кожны праходзіў па-свойму. Для Шапятовіча яго аблегчылі і бывалы маёр Ярмілаў, і камандзір батарэі Сеўчанка — «вясёлы і просты чалавек, з добрым сялянскім тварам, крыху пабітым воспай», і рамантычна-ўзнёслы Сеня Пясоцкі — добры, шчыры і непасрэдны хлопец, які ўмеў бачыць далей за другіх, але стаў ахвярай Кідалы, і былы падольскі каваль, ураўнаважаны і памяркоўны Павел Астахаў.

Хутчэй за ўсіх пазбыўшыся страху, Астахаў здзіўляе сваім спакоем і дзелавітасцю. «Павольны, паважны, як добры дзед», тупае ён каля гарматы, нібы ўвасабляючы сціплую народную веліч і разумную разважлівасць. «Гэты чалавек не ваяваў, а сапраўды працаваў — так спакойна ён зараджаў і страляў», — зазначае пісьменнік.

Запамінаюцца ў аповесці і такія працаўнікі вайны, як знясілены ленінградскай блакадай, але чалавечны, сімпатычны Жураўлёў, «тыповы вайсковец, узорны ва ўсіх адносінах афіцэр» Купанаў, бацька семярых дзяцей, няўмелы і баязлівы Самародаў, які, паміраючы, думае пра сваіх «сыночкаў», заўзяты паляўнічы і ўдачлівы рыбак Сушылаў — крыху касалапы і «каржакаваты, як камёл добрага дуба», «малады насмешнік», кубанскі казак Платон Чуб, чалавек «не без хітрыкаў і дзівацтваў, але ўвогуле шчыры, па-сялянску прастадушны, чуллівы, паэт у душы».

Вельмі жыва напісаны лайдакаваты, але куслівы яфрэйтар Муха, пранырлівы Фрыд, які пра ўсё даведваўся першы, смешнаваты Габаў, які засынаў мёртвым сном і не прачынаўся нават ад стрэлаў, і іншыя героі твора.

І ўсе яны — дужа далёкія ад тых сусальна-дабрачынных, зробленых па няхітраму літаратурнаму стандарту герояў, якія, будучы закліканымі сімвалізаваць дружбу народаў, сведчаць толькі аб бездапаможнасці аўтарскіх спроб замяніць чалавечы характар экзатычнай вопраткай размаляванага пейзана.

Іван Шамякін не асабліва турбуецца аб розных персаніфікаваных дэкларацыях. Ён проста і дакладна паказвае надзвычай добра знаёмыя яму будні вайны, у якой поплеч змагаліся масквічы і кубанцы, архангельскія паморы і ўкраінцы, беларусы і яўрэі. Небяспека зближала іх, аб'ядноўвала ў адзін калектыў, які рабіў сваю вялікую, святую справу.

Думаецца, дакладнасць у абмалёўцы характараў герояў і наогул ва ўсім, пачынаючы ад агульнай карціны і канчаючы самымі дробнымі дэталямі, і звязана якраз з тым, што пісьменнік сам перажыў жахі вайны ва ўмовах далёкай Поўначы і выпакутаваў усё тое, што часта крывёю сэрца напісана ў аповесці «Агонь і снег».

У гэтым сэнсе значна прайграюць «Начныя зарніцы» і яшчэ больш — «Пошукі сустрэчы». Вядома, і ў гэтых аповесцях ёсць свае аўтарскія ўдачы, але іх магло быць куды больш.

У «Начных зарніцах», напрыклад, няблага прасочана, як Саша вызваляецца ад жудаснага страху за дзіця і сваё жыццё, як вяртаецца да яе мужнасць, прыводзячы жанчыну ў рады змагароў, куды яшчэ раней прыйшлі не па гадах сталы, неяк адразу ўзмужнелы Данік і яго сябры.

Паступова ў барацьбу ўцягваюцца і дамавітая Поля, і асцярожная Марыя Сяргееўна, бадай найбольш прывабная ў тыя моманты, калі яна, рызыкуючы сваім жыццём, ратуе хворых, параненага Пятра.

У многіх эпізодах пераканальна і цікава паказаны настаўнік Лялькевіч, які становіцца кіраўніком падпольшчыкаў. Вымушаны выдаваць сябе за мужа Сашы Траянавай, якую ён нешчасліва кахае, Лялькевіч трапляе ў выключна складанае і даволі няёмкае становішча, якое для другога чалавека было б сапраўднай душэўнай трагедыяй. Лялькевіч, зразумела, таксама моцна пакутуе. Аднак яго пакуты часта раскрываюцца толькі знешне. Ад гэтага пачуцці закаханага настаўніка пачынаюць здавацца нейкімі «нерэальнымі», прыблізнымі.

Да таго ж, трохі аскетычны Лялькевіч месцамі нагадвае да прытарнасці станоўчага пакутніка, які як быццам і сам не супраць таго, каб яго пакуты прадаўжаліся бясконца. Усё гэта робіць вобраз партыйнага кіраўніка падпольшчыкаў да пэўнай ступені супярэчлівым і збедненым. І ўжо зусім няўдала напісана гісторыя з правалам Лялькевіча і яго групы. Яна нібы перанесена з дрэннага прыгодніцкага рамана — стольскі тут «накручана» шчаслівых, знарок падстроеных выпадковасцей, нечаканых супадзенняў і эфектных метамарфоз, калі паліцэйскі на вачах здзіўленага чытача ператвараецца ў партызана, а «пышнагрудая бландзінка», якая «праводзіла вечары з афіцэрамі гестапа і жандармерыі», раптам аказваецца партызанскай разведчыцай, або калі ворагі страляюць свой свайго, жанчыны і дзеці ўцякаюць ад узброеных гестапаўцаў і ўвогуле творыцца дзіва дзіўнае.

Залішне многа неабдуманых учынкаў і проста глупства робіць у аповесці «Пошукі сустрэчы» Пятро Шапятовіч, становячыся не падобным на самога сябе — разумнага, сталага Пятра, якога мы палюбілі ў аповесці «Агонь і снег». Каторы ўжо раз уцёкшы ад Сашы, ён сярод белага дня распраўляецца з няўлоўным старастам у вёсцы, дзе стаяць немцы. Карыстаючыся вячэрнім змрокам, Шапятовіч, нікім не заўважаны і не затрыманы вартавым, падыходзіць да школы, знішчае штаб фашысцкага гарнізона і нават цудам ратуецца сам.

«Няўвязкі», праўда, больш дробныя, здараюцца і з іншымі героямі. Скажам, Саша несла соль Ані, а аддала яе Марыі Сяргееўне, нават не ўспомніўшы пра свой першапачатковы намер.

Або яшчэ: фашысты, даведаўшыся аб узрыве чыгуначнага склада, чакаюць раніцы, каб пусціць сабак па слядах падпольшчыкаў, нібы нельга было гэта зрабіць адразу, яшчэ ноччу.

Зноў і зноў чытаючы пра некаторыя вельмі ўжо незвычайныя подзвігі (пераважна ў «Пошуках сустрэчы»), з цягам часу перастаеш хвалявацца, бо адчуваеш: добры аўтар, вядома ж, пашкадуе свайго героя і яшчэ раз выратуе яго з дапамогай якой-небудзь «невыпадковай» выпадковасці. Але гэтая празмерная аўтарская дабрата ідзе не на карысць, а на шкоду героям: яны паступова трацяць рысы жывых людзей і становяцца нейкімі ўмоўнымі фігурамі, над якімі больш не ўладныя законы жыцця. Такія героі ўжо не ваююць, а як быццам толькі гуляюць у вайну...

Кажуць, што недахопы звычайна з'яўляюцца працягам вартасцей. У Івана Шамякіна гэта сапраўды так. Ён даўно вядомы як майстар цікавага напружанага сюжэта. Але ў «Пошуках сустрэчы» гэтая якасць нярэдка ператвараецца ў сваю працілегласць, калі не характары герояў даследуюцца пры дапамозе драматычнага сюжэта, а сюжэт фактычна становіцца галоўным для пісьменніка, падпарадкоўвае сабе ўсё ў творы і таму перастае быць сродкам раскрыцця характараў. Адбываецца такое пераважна тады, калі аўтар, кажучы словамі Янкі Брыля, збіваецца на «наіўнае ўра-прыгодніцтва на мяжы таннай фантастыкі», пачынаючы пісаць прыгожа, эфектна, але неглыбока.

Гэта істотна псуе «Пошукі сустрэчы», але, вядома, не можа знізіць прыемнага ўражання ад «Трывожнага шчасця» ў цэлым.

**Дзмітры БУГАЁЎ.**

## У ВЯНОК КУЗЬМЕ ЧОРНАМУ

Творчасць выдатнага беларускага пісьменніка Кузьмы Чорнага з кожным годам усё больш прыцягвае ўвагу беларускіх літаратуразнаўцаў і крытыкаў. І гэта не выпадкова. За больш чым дваццаць год літаратурнай працы Кузьма Чорны напісаў 10 кніг апавяданняў, 15 раманаў і аповесцей, 4 п'есы, многа нарысаў, фельетонаў, публіцыстычных і крытычных артыкулаў. Яго творы з'яўляюцца своеасаблівым летапісам жыцця беларускага народа ў перыяд карэннай ломкі старога ладу і будаўніцтва новага, сацыялістычнага. Кузьма Чорны марыў напісаць серыю раманаў і аповесцей, у якіх «падаць у мастацкіх вобразах, — як заўважаў ён у сваёй аўтабіяграфіі, — гісторыю беларускага народа за часы ад знішчэння паншчыны да нашых дзён».

У творах Кузьмы Чорнага, як гэта справядліва адзначыў Якуб Колас, «ёсць шмат чаму павучыцца: пісьменнік умеў адкрыць новае гучанне слова, умеў выказваць усё, што турбавала яго, з вялікай дасканаласцю». Вось чаму з такой цікавасцю сустракае чытач кожную працу, у якой асвятляецца жыццёвы і творчы шлях выдатнага майстра манументальнай беларускай прозы.

Зборнік матэрыялаў аб жыцці і літаратурнай дзейнасці Кузьмы Чорнага *, які выйшаў з друку напярэдадні 60-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, складаецца з двух раздзелаў.

Артыкулы першага раздзела даюць уяўленне аб своеасаблівасці таленту Кузьмы Чорнага, як мастака. З артыкулаў К. Крапівы «Выдатны пісьменнік і чалавек», М. Лынькова «Пісьменнік-патрыёт», М. Лужаніна «Буйнейшы мастак-рэаліст», В. Віткі «Вялікі нацыянальны паэт», Я. Брыля «Героі, партрэты, дэталі» паўстае не толькі вялікі знаўца чалавечай душы, які ў малым умеў бачыць вялікае, за знешне выпадковым раскрыць сутнасць жыцця, але і цудоўны чалавек, які клапаціўся аб лёсе літаратуры і культуры беларускага народа, строгі настаўнік, шчыры дарадчык, блізкі сябар літаратурнай моладзі.

Кузьма Чорны садзейнічаў фармаванню эстэтычных густаў літаратурнай моладзі не толькі сваімі выдатнымі творамі, але і шматлікімі крытычнымі артыкуламі, сваімі штодзённымі, па-бацькоўску цёплымі парадамі. Ён лічыў, што галоўнае ў творчай вучобе — гэта авалоданне марксісцка-ленінскім светапоглядам. З пазіцый марксізма-ленінізма трэба падыходзіць да адлюстравання гістарычнага працэсу развіцця нашага грамадства, заўважаў неадназова К. Чорны. А для гэтага неабходна глыбей вывучаць жыццё народа, яго культуру і літаратуру, яго гісторыю, яго сакавітую мову, адбіраць для сваіх твораў найбольш характэрнае, тыповае, галоўнае, а не другараднае, выпадковае, штодзённа клапаціцца аб змесце і форме сваіх твораў, нястомна шукаць свой уласны стыль.

У артыкуле «Некалькі заўваг да вучобы пачынаючых пісьменнікаў» Кузьма Чорны пісаў: «Я думаю, што ў маладога аўтара трэба будзіць і развіваць творчую фантазію, накіроўваць яго на мастацкі вымысел. Гэты вымысел — рэальны вымысел. І сутнасць яго ў тым, што аўтар падае з'явы, стварае вобразы — характэрныя і тыповыя, але сабраныя не з аднаго толькі завода ці калгаса, а сканцэнтраваныя ў творы з самага шырокага круга. Пры гэтым — факты самыя цікавыя і характэрныя. Аўтар выходзіць за межы свайго толькі завода і калгаса, ён у сваім мысленні стварае падзеі, канцэнтруе іх у вузел. Гэтыя падзеі маюць сваіх прататыпаў у жыцці, або калі не маюць дакладнага свайго прататыпа, ці калі аўтар не бачыў яго, дык усё ж гэтыя падзеі ёсць рэальныя. Гэта значыць, што на аснове законаў жыцця, руху, развіцця грамадства... — яны могуць быць».

Некаторыя артыкулы зборніка прысвечаны аналізу асобных твораў пісьменніка. С. Александровіч разглядае выдатны раман Кузьмы Чорнага «Вялікі дзень». Аўтар артыкула справядліва зазначае, што гэта выдатны рэалістычны твор пра мужнасць і геразм савецкіх людзей у дні цяжкіх, суровых выпрабаванняў, адна з лепшых кніг у беларускай літаратуры аб векапомных днях Айчыннай вайны.

* Кузьма Чорны. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і творчай дзейнасці пісьменніка. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск. 1959.

Не менш цікавы і другі раздзел зборніка, дзе змешчаны ўспаміны М. Лужаніна, М. Хведаровіча, М. Паслядовіча, І. Мележа, А. Бялевіча і іншых беларускіх пісьменнікаў, якім пашчаслівілася сустракацца або разам працаваць з Кузьмой Чорным.

Зборнік гэты прынясе карысць кожнаму, хто захоча глыбей пазнаёміцца з жыццём і творчасцю таленавітага беларускага пісьменніка, хто пажадае ўвайсці ў творчую лабараторыю выдатнага мастака слова, якім быў Кузьма Чорны.

**Мікола БАЗАРЭВІЧ.**

## НА СВАЁЙ СЦЕЖЦЫ

Галоўная вартасць апавяданняў Барыса Сачанкі, змешчаных у яго першай кнізе «Дарога ішла праз лес» *, — сціпласць, эканомнасць мастацкіх сродкаў. Усё лішняе і малазначнае: статычныя экспазіцыі, якія ў многіх аўтараў расцягнуты на некалькі старонак, і шматлікія адступленні, што ідуць ад няўмення паступова і ненадакучліва, праз сюжэт і дзеянне, пазнаёміць чытача з прадгісторыяй герояў, не ў меру мнагаслоўныя сюжэтныя масткі, доўгія, абавязкова выказаныя да самага апошняга слова канцоўкі,— малады празаік імкнецца абмінуць або скараціць. Асабліва прыкметна імкненне аўтара да сюжэтнай зладжанасці сваіх твораў.

Паспрабуем паказаць асаблівасці пісьменніцкай манеры Барыса Сачанкі на канкрэтным разглядзе апавядання «Сляды».

У гэтым маленькім, эканомна напісаным творы апавядаецца аб тым, як мужчына, гнаны блізкай старасцю, а магчыма і бацькоўскім сумленнем, якое прачнулася і не дае яму спакою, парашыў вярнуцца да сям'і. Але, пахадзіўшы ноччу вакол двара, ён так і не змог пераступіць мяжы, якую сам некалі паклаў паміж сабою, жонкай і дзецьмі.

Апавяданне пабудавана на тонка падабраных дэталях. Выпісваючы гэтыя дэталі, аўтар нібы карыстаецца метадам запаволеных здымкаў, вядома, наколькі гэта дазваляе кароткасць апавядання. Ужо ў самым пачатку нельга не звярнуць увагу на такія скупыя штрышкі, як рэчавы мяшок — пэўна, чалавек быў з дальняй дарогі, або на яго неспакойную хаду па ўскрайку лесу да самага цямна і позіркі ў бок вёскі. Усё гэта гаворыць аб нейкай вялікай буры ў душы чалавека. Асабліва дарэчы тут аказалася псіхалагічна цёпла выпісаная дэталь — птушынае гняздзечка. Убачыўшы яго, чалавек умомант спахмурнеў, аберуч ухапіўся за галаву і доўга не варушыўся. Яму, бессардэчнаму, гэтае па валасочку і травінцы сплеценае гняздзечка з птушанятамі пакутліва напомніла зноў аб дзецях, якіх ён некалі пакінуў.

І далей мазок за мазком, з дапамогай такіх дэталей, як убачаная праз акно дзіцячая рука, якая цягнулася да конаўкі, пагашанае святло (чалавек гэты ніколі не асмеліцца зайсці ў цёмную хату), паступова раскрываецца душэўны стан героя. Такім чынам, аўтар абыходзіцца без «пабудовы» грамоздкіх **сюжэтных масткоў** — тых пераходаў ад дэталі да дэталі і ад эпізоду да эпізоду, якія хоць і не выконваюць пэўнай выяўленча-мастацкай ролі, але неабходны ў творы, каб звязаць у адно цэлае, асэнсаванае эпізоды, малюнкі апавядання. Гэта якраз тое, на што аднойчы ўказваў аднаму маладому аўтару Леў Талстой: калі жаба ляжала на спіне, то перш чым сказаць, што яна паскакала, трэба абавязкова даць зразумець, што яна перавярнулася, хоць апошняе, магчыма, і неістотна, але вымагаецца логікай.

І вось гэтыя пераходы ад дэталі да дэталі Барыс Сачанка ўмее сціснуць у адзін-два сказы, а іншы раз і наогул смела пераступіць, пры гэтым ніколькі не разрываючы сюжэтнай ніткі апавядання. Так, у апавяданні «Сляды» ён даволі непрыкметна перайшоў ад асноўнага дзеяння да прадгісторыі героя, каб скупа расказаць, як чалавек некалі пакінуў сям'ю і што прывяло яго сюды цяпер, а потым гэтак жа лёгка аўтар вярнуўся да асноўнай плыні апавядання.

Звычайна ў такіх выпадках, калі аўтар да мінімуму скарачае сюжэтныя пераходы, фармуючы мастацкую тканіну твора амаль што з падагнаных адна да другой дэталей, вялікую ролю пачынаюць адыгрываць рытм фразы, яе інтанацыя. Варта, напрыклад, звярнуць увагу на ўдала выкарыстаны прыём умоўчвання: «Але каго яму так хацелася ўбачыць — не ўбачыў: перашкаджаў вушак...» Уменне своечасова пакінуць фразу адкрытай, няскончанай, паставіць яе важка, глыбокадумна іншы раз і стварае значна большы эфект, чым разжоўванне думкі да канца. І тое, што малады аўтар старанна працуе над сказам, дамагаючыся грацыі фразы, як любіў гаварыць у такіх выпадках Чэхаў, заслугоўвае пахвалы.

Важна яшчэ і тое, што ў рабоце над дэталлю пісьменнік не забывае законаў кампазіцыі: найбольш важныя дэталі паказвае буйным планам, менш важныя — адным-двума штрыхамі, другарадныя — упамінае толькі адным сказам альбо нават адным толькі словам. Гэта робіць малюнак у цэлым вельмі выразным, аб'ёмна адчувальным. У гэтым сэнсе найбольш характэрнае апавяданне «Кветка плавука», калі, вядома, не лічыць няўдалага пачатку, дзе аўтар ужыў вельмі ўжо не арыгінальнае параўнанне прыгожай маладой дзяўчынкі, якую так жорстка ашукаў яе любімы, з пакінутай на дарозе затаптанай кветкай плавука.

Сціпласць мастацкіх сродкаў не замінае маладому аўтару паказваць сапраўднае жыццё з яго суровай праўдай у яго няспынным імкненні наперад.

Прадметам паказу ў большасці апавяданняў з'явілася тое, як савецкія людзі паступова залечваюць раны ў цяжкіх і суровых умовах пасляваенных год, як, раздумваючы над жыццём, вагаюцца, але ўсё ж беспаваротна рвуць з перажыткамі мінулага і становяцца людзьмі малаверы і асобы з абвостранымі ўласніцкімі настроямі.

Ясным позіркам глядзіць на свет герой апавядання «Зруб на паляне», хоць загінулі ў вайну ўсе яго родныя і сваякі і ўсё з нажытага было страчана; паварочваюцца да калгаса многія з тых, каго нястачы, голад, нягоды вайны скіравалі былі зноў у свет уласніцтва, хцівасці і зладзейства («Злодзей», «Стажок сена»); вярнуўшыся з вайны без ног, нягледзячы на тое, што «на працадні тады амаль нічога не давалі», самааддана, як і ваяваў, працуе ў калгасе колішні брыгадзір Хведар Мудрык, бо ведае, што цяжкасці жыцця часовыя.

На ўсіх малюнках мірнага жыцця, намаляванага пісьменнікам, ляжыць адбітак нядаўняй вайны. Ён — у светаадчуванні герояў і ў светаадчуванні самога аўтара. У сваіх творах пісьменнік сцвярджае, што чалавек нараджаецца для шчасця, што ён не можа, не павінен, якім бы маленькім ні быў, згубіцца, загінуць, падобна пясчынцы, у вірах і нягодах жыцця. А на вайне ж існаванне чалавека ставілася ў нішто. Аўтар, апавядаючы аб мірных днях, на кожным кроку трымае ў памяці сляды вайны, як бы гаворачы — у нашы дні людзі ні на хвіліну не павінны забываць, што над светам навіс і вельмі марудна пакуль знікае жудасны цень атамнага грыба.

Барыс Сачанка завастрае сваю ўвагу на пераломных момантах у жыцці чалавека. Для характарыстыкі вобраза пісьменніку бывае дастаткова таго, што ў пэўных абставінах чалавечая душа варухнулася ў новым, добрым парыве. Чалавек яшчэ вагаецца, пакутуе, думае, але сам пералом у яго душы пісьменнік паказаў настолькі пераканаўча, што верыш: чалавек гэты выпрастаецца, перасіліць сваю слабасць, свае памылкі, стане такім, якім хочуць яго бачыць людзі.

Кароткае апавяданне, навела — жанр не з лёгкіх. Каб разгарнуць на малой «плошчы» вялікую, значную думку, трэба максімальна насыціць апавяданне глыбокім падтэкстам. А гэты падтэкст ствараецца толькі тады, калі аб тым, што піша, аўтар ведае вельмі многа, амаль усё і ўвесь час трымае гэта ў памяці. Тады за самымі звычайнымі з першага позірку словамі, учынкамі будзе стаяць не толькі прамы, але і другі, глыбейшы сэнс. Падводныя плыні падтэксту праяўляюцца зусім у нямногім — шматграннасці фразы, у яе таропкім альбо роздумным павароце, у яе філасофскай важкасці і насычанасці, нават у інтанацыйных спадах і паўзах пасля асабліва напружаных момантаў.

Вось такога глыбокага падтэксту якраз і нестае такім апавяданням, як «Дарога праз лес» і «Ноч — год».

... Лясной дарогай вось ужо каторы год настаўнік Леанід Якімавіч ходзіць за сем кіламетраў у суседнюю вёску, дзе ён вучыць. Ходзіць і нешта носіць у сваёй душы чалавек. Аднойчы яму прапанавалі перайсці працаваць у школу па месцу жыхарства. Ён адмовіўся і нават пакрыўдзіўся. Вось па сутнасці і ўвесь сюжэт кароценькага апавядання. Толькі ў самым канцы мы даведваемся, што ў гэтым лесе ў гады вайны, ратуючыся ад немцаў, ён, партызан, пакінуў сваю гімнасцёрку, у кішэні якой была забыта фатаграфія каханай дзяўчыны. За сувязь з партызанамі каты павесілі тую, якой ён нават не асмеліўся прызнацца ў сваім вялікім пачуцці.

Страшэннай сілы трагедыя! І аўтару варта было працяць настроем гэтай трагедыі ўсё з самага пачатку: і роздум чалавека, і яго ўспаміны, і глухія лясныя пейзажы. Ад гэтага намнога павялічылася б мастацкая глыбіня твора і сіла яго ўздзеяння на чытача.

Адным з лепшых апавяданняў зборніка з'яўляецца «Сустрэча з чалаве-

* Барыс Сачанка. Дарога ішла праз лес. Мінск, 1960.

кам». У ім аўтар паказаў, што ён не толькі ўмее сцісла і эканомна будаваць сюжэт, але і глыбока пранікаць у псіхалогію чалавека. З усяго багацця падтэксту твора асабліва вылучаецца выражаная каратка, без ніводнага гучнага і высокага слова думка: калі чалавек пачынае траціць людское аблічча і сумленне, трэба, каб ён убачыў, як баліць па ім чужое добрае сэрца. І як бы нізка ні апусціўся чалавек, не можа быць, каб у адказ у яго не варухнулася і не зашчымела балюча-балюча сумленне — людзі ж заўсёды застаюцца людзьмі.

Аб зайздросным уменні аўтара тонка перадаць усе рухі чалавечай душы яскрава гаворыць эпізод раскаяння ў сваіх мінулых учынках героя апавядання «Сустрэча з чалавекам». Пасля ўсяго таго, што зрабіў для яго, рызыкуючы сваім жыццём, зусім чужы, незнаёмы чалавек, герою апавядання стала да болю сорамна за сябе, за тое, што, знайшоўшы пралаз у свірне, куды іх, палонных чырвонаармейцаў, загналі на ноч, ён не сказаў пра гэта нікому, а, вылезшы сам, нават дошку прыладзіў на ранейшае месца.

Адчуўшы вялікую шчырасць, сэрца эгаіста забілася ў чалавечым парыве, яно ўжо не заспакоіцца і не застанецца абыякавым да другіх, хоць унутраны голас імкнецца апраўдацца, заспакоіць разбуджанае сумленне: «Проста я не падумаў тады пра гэта». І аўтар абвяргае негрунтоўнасць гэтага апраўдання:

«Маніш... Палічыў, што калі ўцякаць гуртам, то будзе вялікая мітусня. Пачуе вартавы...»

Эгаіст не здаецца, чапляецца за любую драбніцу, каб толькі апраўдацца: «Але ж я... я не ведаў, што вылезу сам. Гэта ўсё здарылася так нечакана».

Ад пачатку да канца апавяданне пабудавана на прыёмах кантрасту: малюнкі ваеннага часу, разліты ў паветры холад смерці, якая ходзіць недзе тут зусім побач з чалавекам, змяняюцца малюнкамі мірнага жыцця, абразкамі дзяцінства, успамінамі аб чыстым-чыстым юначым каханні.

Чалавеку ўспомнілася, як ён сустрэўся ў грыбах з дзяўчынай, якую, не прызнаючыся нават сабе, моцна кахаў: «Якая яна тады была прыгожая».

І зноў мяняецца святло.

«Проста перад ім ляжаў, уткнуўшыся тварам у купіну, босы, даўгалыгі немец. Чырвоныя мурашкі снавалі па яго тоўстай шыі. «Забіты... Хто гэта яго?.. Тут, дзе ўсюды немцы?!»

І асабліва тонка падмечана такая дэталь: «... А што калі і я памру?.. Вось тут, у лесе... Не, буду жыць... Інакш мне ўявілася б што-небудзь мёртвае».

Але ўсім гэтым тонка заўважаным і дакладна падабраным псіхалагічным дэталям не хапае цеплыні і выразна прасветленага настрою. Гэта, мабыць, здарылася перш за ўсё па той прычыне, што многае з таго, аб чым піша, аўтар не перажыў сам як чалавек, не прапусціў скрозь свае пачуцці. Вось чаму і атрымліваецца, што ўсё напісанае пра вайну бездакорна правільна і разумна, але з чужых рук, а таму халаднавата, суха. З пісьменнікамі часта здараецца так: чытае ён твор любімага аўтара і адзін вобраз, які асабліва западзе ў сэрца, альбо нават нейкая насычаная падтэкстам фраза можа паслужыць повадам для ўзнікнення свайго ўласнага твора. Так і ў Барыса Сачанкі ўзніклі некаторыя творы не на жыццёвым матэрыяле, а навеяныя літаратурнымі асацыяцыямі.

Праўда, гэта праяўляецца часта няўлоўна, напрыклад, у стылізацыі пад любімага пісьменніка (параўнаем апавяданне «Цыганчук» з шолахаўскім «Шыбалкава семя»), у сугуччы настрою і выкарыстанні аднолькавых прыёмаў (параўнаем апавяданне «Нам трэба жыць» з творам Я. Брыля «Галя»), нарэшце, у падабенстве саміх вобразаў (параўнаем героя апавядання «Сонца» з Пепай — героем аповесці І. Навуменкі «Вайна каля Цітавай копанкі») і інш.

Было б, аднак, няправільным бачыць у гэтым толькі благое.

Кожны пісьменнік абапіраецца на вопыт і дасягненні папярэднікаў, а Барыс Сачанка стварыў зусім арыгінальныя творы, самабытныя характары. Падабенства ж тут атрымалася чыста знешняе, асацыятыўнае.

Ітак, зроблены першыя крокі ў літаратуры. Цяжка сказаць, у якім напрамку Барыс Сачанка будзе шукаць сваю дарогу далей, але ясна адно: праца над кароткім апавяданнем, пошукі эканомных і сціслых сродкаў прынясуць яму бясспрэчны поспех.

**Алесь ЯСКЕВІЧ.**

кам». У ім аўтар паказаў, што ён не толькі ўмее сцісла і эканомна будаваць сюжэт, але і глыбока пранікаць у псіхалогію чалавека. З усяго багацця падтэксту твора асабліва вылучаецца выражаная коратка, без ніводнага гучнага і высокага слова думка: калі чалавек пачынае траціць людское аблічча і сумленне, трэба, каб ён убачыў, як баліць па ім чужое добрае сэрца. І як бы нізка ні апусціўся чалавек, не можа быць, каб у адказ у яго не варухнулася і не зашчымела балюча-балюча сумленне — людзі ж заўсёды застаюцца людзьмі.

Аб зайздросным уменні аўтара тонка перадаць усе рухі чалавечай душы яскрава гаворыць эпізод раскаяння ў сваіх мінулых учынках героя апавядання «Сустрэча з чалавекам». Пасля ўсяго таго, што зрабіў для яго, рызыкуючы сваім жыццём, зусім чужы, незнаёмы чалавек, герою апавядання стала да болю сорамна за сябе, за тое, што, знайшоўшы пралаз у свірне, куды іх, палонных чырвонаармейцаў, загналі на ноч, ён не сказаў пра гэта нікому, а, вылезшы сам, нават дошку прыладзіў на ранейшае месца.

Адчуўшы вялікую шчырасць, сэрца эгаіста забілася ў чалавечым парыве, яно ўжо не заспакоіцца і не застанецца абыякавым да другіх, хоць унутраны голас імкнецца апраўдацца, заспакоіць разбуджанае сумленне: «Проста я не падумаў тады пра гэта». І аўтар абвяргае негрунтоўнасць гэтага апраўдання:

«Маніш... Палічыў, што калі ўцякаць гуртам, то будзе вялікая мітусня. Пачуе вартавы...»

Эгаіст не здаецца, чапляецца за любую драбніцу, каб толькі апраўдацца: «Але ж я... я не ведаў, што вылезу сам. Гэта ўсё здарылася так нечакана».

Ад пачатку да канца апавяданне пабудавана на прыёмах кантрасту: малюнкі ваеннага часу, разліты ў паветры холад смерці, якая ходзіць недзе тут зусім побач з чалавекам, змяняюцца малюнкамі мірнага жыцця, абразкамі дзяцінства, успамінамі аб чыстым-чыстым юначым каханні.

Чалавеку ўспомнілася, як ён сустрэўся ў грыбах з дзяўчынай, якую, не прызнаючыся нават сабе, моцна кахаў: «Якая яна тады была прыгожая».

І зноў мяняецца святло.

«Проста перад ім ляжаў, уткнуўшыся тварам у купіну, босы, даўгалыгі немец. Чырвоныя мурашкі снавалі па яго тоўстай шыі. «Забіты... Хто гэта яго?.. Тут, дзе ўсюды немцы?!»

І асабліва тонка падмечана такая дэталь: «... А што калі і я памру?.. Вось тут, у лесе... Не, буду жыць... Інакш мне ўявілася б што-небудзь мёртвае».

Але ўсім гэтым тонка заўважаным і дакладна падабраным псіхалагічным дэталям не хапае цеплыні і выразна прасветленага настрою. Гэта, мабыць, здарылася перш за ўсё па той прычыне, што многае з таго, аб чым піша, аўтар не перажыў сам як чалавек, не прапусціў скрозь свае пачуцці. Вось чаму і атрымліваецца, што ўсё напісанае пра вайну бездакорна правільна і разумна, але з чужых рук, а таму халаднавата, суха. З пісьменнікамі часта здараецца так: чытае ён твор любімага аўтара і адзін вобраз, які асабліва западзе ў сэрца, альбо нават нейкая насычаная падтэкстам фраза можа паслужыць повадам для ўзнікнення свайго ўласнага твора. Так і ў Барыса Сачанкі ўзніклі некаторыя творы не на жыццёвым матэрыяле, а навеяныя літаратурнымі асацыяцыямі.

Праўда, гэта праяўляецца часта няўлоўна, напрыклад, у стылізацыі пад любімага пісьменніка (параўнаем апавяданне «Цыганчук» з шолахаўскім «Шыбалкава семя»), у сугуччы настрою і выкарыстанні аднолькавых прыёмаў (параўнаем апавяданне «Нам трэба жыць» з творам Я. Брыля «Галя»), нарэшце, у падабенстве саміх вобразаў (параўнаем героя апавядання «Сонца» з Пепай — героем аповесці І. Навуменкі «Вайна каля Цітавай копанкі») і інш.

Было б, аднак, няправільным бачыць у гэтым толькі благое.

Кожны пісьменнік абапіраецца на вопыт і дасягненні папярэднікаў, а Барыс Сачанка стварыў зусім арыгінальныя творы, самабытныя характары. Падабенства ж тут атрымалася чыста знешняе, асацыятыўнае.

Ітак, зроблены першыя крокі ў літаратуры. Цяжка сказаць, у якім напрамку Барыс Сачанка будзе шукаць сваю дарогу далей, але ясна адно: праца над кароткім апавяданнем, пошукі эканомных і сціслых сродкаў прынясуць яму бясспрэчны поспех.

**Алесь ЯСКЕВІЧ.**

# *Наша пошта*

## МАСТАЦТВА АМАТАРАЎ

Мнагалюдна ў адной з залаў Мінскага палаца культуры прафсаюзаў. Тут працуе мастацкая выстаўка. Наведвальнікі ўважліва разглядаюць творы жывапісу, у якіх пранікнёна адлюстраваны самыя разнастайныя бакі нашай рэчаіснасці. У кожным творы — нешта своеасаблівае, адметнае, падгледжанае ў жыцці дасціпным вокам... Проста не верыцца, што аўтары гэтых работ не прафесійныя мастакі, а аматары. А між тым гэта так.

Усяго трэці год працуе пры Палацы культуры самадзейная студыя выяўленчага мастацтва. Але яна дасягнула прыкметных поспехаў у рабоце. У ёй займаецца каля 30 пачынаючых мастакоў — рабочых, студэнтаў, інжынераў. Выстаўка іх твораў, арганізаваная сёлета, паказала, што многія студыйцы паспяхова авалодваюць майстэрствам малюнка. Некаторыя работы надрукаваны на ўкладцы гэтага нумара часопіса «Маладосць».

Прыцягваюць увагу работы студэнта IV курса політэхнічнага інстытута Мікалая Халімона. Сярод іх вы ўбачыце і эцюды, зробленыя на будаўніцтве Салігорскага камбіната, і добра напісаны стары вятрак у полі, і свежы вясновы пейзаж. Усім гэтым творам уласціва непасрэднасць назірання, яркасць і сакавітасць фарбаў.

Зусім у іншай манеры працуе другі студыец — рабочы-друкар А. Сіроцін. Стрыманасць і строгасць фарбаў, імкненне стварыць пэўны настрой,— вось што ўласціва яго пейзажам.

Летась студыец Ю. Бяркові́ч пабываў на цаліне. Адтуль ён прывёз цікавыя накіды пра будні цаліннікаў. Выкананыя карандашом і тушшу, яны добра перадаюць рамантыку працы маладых змагароў за ўраджай.

Нельга прайсці міма работы П. Кішкевіча. Гэта кампазіцыя, у цэнтры якой — помнік Марату Казею, а побач дзве фігуры. Вялікая — бацькі, маленькая — хлопчыка.

Змест гэтай кампазіцыі прымушае задумацца пра наша гераічнае мінулае і падзеі сённяшняга дня.

На выстаўцы было шмат і іншых работ, якія заслугоўваюць увагі. Гэта работы В. Сташанюка, А. Кафэр, Э. Левіна і іншых.

Творы самадзейных мастакоў, вядома, не прэтэндуюць на мастацкую дасканаласць. Многія з аўтараў слаба валодаюць кампазіцыяй, не ўмеюць карыстацца ўсім багаццем мастацкай палітры. Хочацца спадзявацца, што маладыя мастакі ўсё гэта з часам набудуць. Зарукай таму іх любоў да мастацтва, іх настойлівае імкненне вучыцца майстэрству.

**І. НЕМАГАЙ,**
**кіраўнік студыі.**

## ЧЭМПІЁН З ГОМЕЛЯ

Неяк у адзін з сонечных летніх дзён Лёня Гейштар разам з заводскімі сябрамі прыйшоў на Сож. Купаліся, загаралі.

Увагу Лёні прыцягнула незвычайная лодка — нос і карма яе завостраныя, барты высокія. Гэта была каноэ, якая тады ўпершыню з'явілася на Сожы. Хлопцу яна спадабалася. Сябры параілі яму запісацца ў таварыства «Воднік», дзе ёсць такія лодкі.

Так Лёня Гейштар стаў трэніравацца на каноэ. Закончыўшы работу на заводзе, ён спяшаўся на раку. На першым часе праходзіў кіламетры два-тры, паступова павялічваючы нагрузку. Потым за адну трэніроўку праплываў да 15 кіламетраў.

Неўзабаве маладога спартсмена ўключылі ў каманду, якая мелася выступіць на першынство рэспублікі па веславанні. Выступаць яму давялося на дыстанцыю дзесяць тысяч метраў. Гэтая марафонская дыстанцыя лічыцца найбольш цяжкай.

Нягледзячы на хваляванне, Лёня



**Леанід Гейштар перад заплывам.**
Фота аўтара.

першы свой экзамен вытрымаў удала. На каноэ-адзіночцы дзесяць тысяч метраў ён прайшоў за 59 мінут 20 секунд, заняўшы другое месца сярод лепшых весляроў рэспублікі.

Неўзабаве Лёня ідзе ў армію. І там ён не кідае любімага занятку, удзельнічае ў спаборніцтвах, выступае на першынстве РСФСР і выконвае нарматывы першага спартыўнага разраду.

Вярнуўшыся на родны завод вымяральных прыбораў у Гомелі, Лёня ўвесь вольны час аддае любімаму віду спорту. Вясною, ледзь толькі пройдзе крыгаход, хлопец ужо на рацэ. Яго прыгажуню-каноэ можна бачыць на цёмна-зялёных хвалях Сожа і ў холад, і ў спёку...

На Усебеларускай спартакіядзе 1959 года Лёня выступаў на каноэ-двойцы разам з Сяргеем Куксам. Іх «двойка» абагнала на марафоне неаднаразовых чэмпіёнаў Беларусі Уладзіміра Крупадзёрава і Яўгена Кунцэвіча.

Лёня Гейштар — удзельнік Другой спартакіяды народаў СССР. Выступаючы на «двойцы» з Сяргеем Макарэнкам, яны прайшлі дзесяць тысяч метраў за 52 мінуты 36,8 секунды. З Масквы гомельскі рабочы хлопец прывёз залаты медаль і чырвоную майку чэмпіёна.

... Ідзе гарачая падрыхтоўка да алімпійскіх гульняў у Рыме. Нядаўна Леанід разам са сваім напарнікам Сяргеем Макарэнкам былі на трэніровачных зборах у Поці. Удзельнічалі ў спаборніцтвах мацнейшых каноэістаў краіны. Беларускія весляры выйшлі пераможцамі ў змаганні з мацнейшымі спартсменамі: чэмпіёнам Мельбурнскай алімпіяды П. Харыным, чэмпіёнамі Еўропы С. Ашчэпкавым і В. Якунiным і чэмпіёнам свету А. Сілаевым.

Спадзяемся, што сябры Леанід Гейштар і Сяргей Макарэнка на новых сустрэчах у краіне і за мяжой заваююць славу мацнейшых.

**Л. РАЗІНСКІ,**
**студэнт Гомельскага педінстытута.**

*Спорт*

# ГРЫМЯЦЬ БАІ ФУТБОЛЬНЫЯ

«Толькі б тры ачкі! Разлічваць на большае? Нічым не апраўданы аптымізм». Так меркавалі балельшчыкі мінскай футбольнай каманды «Беларусь». Іх задавальняў такі вынік. Тры ачкі ў чатырох матчах на чужых палях, — не так ужо і дрэнна для навічка класа «А». Разлік быў просты. Першая каляндарная сустрэча са спартакаўцамі Масквы — своеасаблівая праверка сіл на старце чэмпіянату. Мала хто сумняваўся ў яе выніках. Паклоннікі спартакаўцаў загадзя ўпісвалі ў табліцы першыя два ачкі сваёй любімай камандзе. Але як ні сумна ім было выпраўляць двойку на нуль, а давялося. Мінчане ігралі старанна, з вялікім уздымам і дабіліся перамогі.

Першы поспех акрыліў каманду. З'явілася ўпэўненасць у сваіх сілах. А гэта ж, бадай, самае галоўнае для маладога калектыву. Цяпер аматары футбола ліхаманкава пераглядалі шанцы. Ад сустрэчы з «Шахцёрам» раней чакалі нічыёй. Цяпер раптам усе загаварылі аб перамозе. І мінчане здабылі яе. Заставалася «прайсці» яшчэ дзве каманды перад вяртаннем у родны горад — вільнюскі «Спартак» і кіеўскае «Дынама».

Так ужо здаўна павялося, што матчы паміж беларускімі і літоўскімі футбалістамі праходзяць у вострай барацьбе і заканчваюцца часцей за ўсё з мінімальным лікам у карысць тых або іншых. На гэты раз перамога засталася за мінчанамі. Зыход сустрэчы рашыў адзіны гол.

Такім чынам, 6 ачкоў з 6-ці магчымых. Выпадковасць? Магчыма, дыпламатычна гаварылі адны. Поспех «Беларусі» — часовы, лічылі другія.

А трэція... Трэція не спяшаліся з вывадамі, цярпліва следуючы мудрай прымаўцы: «Пажывем — убачым». Яны чакалі «наступнай» ігры, каб сказаць сваё слова.

Кіеўскае «Дынама» з тых каманд, якія не вельмі любяць раздаваць ачкі сваім сапернікам. Яны і аказаліся працаўнікамі «Беларусі» ў чарговай сустрэчы. Мінчане выстаялі і перамаглі.

Гаворачы мовай тэатралаў, гастрольная паездка «Беларусі» прайшла з аншлагам. Восем ачкоў з васьмі на чужых палях!

— Дома і сцены памагаюць.

— Такія «крэпасці», як маскоўскі «Спартак» і кіеўскае «Дынама», узяты, а куйбышаўцы тым больш «крыльцы складуць», — падбадзёрвалі сябе аматары перад матчам з футбалістамі таварыства «Крыллі Саветаў».

Мяркуючы па першаму тайму, мінскія спартсмены не адчувалі ніякай дапамогі «родных сцен». Гралі яны скавана, безініцыятыўна. Упершыню прыкметна «падняліся акцыі» тых, хто прадракаў напярэдадні закат славы «Беларусі».

— З такой ігрой і на самай справе далёка не пойдзеш, — трывожна пагаворвалі на трыбунах. Толькі самыя цярплівыя спакойна чакалі далейшых падзей. У другім тайме яны развіваліся даволі бурна. Ужо на сёмай мінуце пасля перапынку правы паўсярэдні «Беларусі» Уладзімір Ганчароў прымусіў гасцей пачаць ігру з цэнтра. З гэтага моманту мінчане сталі гаспадарамі поля ў поўным сэнсе гэтага слова. Яны забілі ў вароты куйбышаўцаў яшчэ два мячы, прапусціўшы ў свае толькі адзін.

Цяпер загаварылі тыя, хто не спяшаўся ў свой час з вывадамі. Так, поспех мінчан не выпадковы. Яны ўмеюць біцца на полі па-гвардзейску, як гэта было ў Кіеве і Данбасе, умела абараняцца, як у матчы з ленінградскім «Адміралцейцам», няспынна штурмаваць вароты праціўніка.

Ужо многія каманды выпрабавалі



**Варатар вільнюскага «Спартака» Л. Дуда касуе небяспечны прарыў Д. Карнеева з каманды «Беларусь».**
Фота Д. Церахава.

на сабе імклівасць прарываў мінскіх форвардаў. Калі мяч у Віталія Арбутава, — чакай небяспечнага моманту на штрафной пляцоўцы злева. Высокатэхнічны ігрок Арбутаў можа нечакана і моцна прабіць па варотах або дакладна перадаць мяч партнёру. Не раз атакі па леваму краю прыносілі мінчанам поспех. Добрая сыгранасць Арбутава і капітана каманды Леаніда Нікуленкі робіць левае крыло нападзення «Беларусі» небяспечным для любога праціўніка.

Не ўступаюць, бадай, і правыя нападаючыя. Умелыя ігракі Дзмітры Карнееў і Уладзімір Ганчароў валодаюць высокай тэхнікай і неблагой хуткасцю. Іх часта можна бачыць і ў нападзенні, і ў абароне, калі на штрафной пляцоўцы мінчан узнікае рэальная пагроза. Небяспечныя выхады Карнеева да пярэдняй лініі і дакладныя падачы мяча ў цэнтры штрафной праціўніка. Яго можна смела назваць майстрам вуглавога ўдару, — так умела ён пасылае мяч на варатарскую пляцоўку. Разнастайнымі тэхнічнымі прыёмамі валодае і Уладзімір Ганчароў. Дакладныя яго ўдары галавой.

Праблема цэнтра доўга лічылася ў камандзе нявырашанай, але цяпер знойдзен лепшы яе варыянт. Цэнтральны нападаючы Генадзі Хасін валодае сапраўды «гарматным» ударам. Калі дадаць да гэтага і імклівы рывок, то можна ўявіць сабе, наколькі небяспечны бывае гэты ігрок. Не выпадкова абаронцы супрацьлеглага боку стараюцца не даць яму дакладна прабіць па варотах. Праўда, Хасін не заўсёды бывае дакладны. Тым не менш працаздольнасці яго можна толькі пазайздросціць. Паступова ўваходзіць у норму пасля цяжкай траўмы ігрок нападзення Уладзімір Церахаў.

Аматары футбола магчыма заўважыць адну асаблівасць у ігры «Беларусі». Большасць атак пачынаецца паўабаронцамі, якія многа і карысна працуюць у кожным матчы. І Леанід Ерахавец і Анатоль Жукаў наступаюць разам з лініяй нападу, ствараючы дадатковыя цяжкасці для абаронцаў праціўніка.

Безумоўна, з дрэнным тылам усёй сямёркай атакаваць не станеш. Імкнуцца да варот праціўніка і азірацца назад, каб кожную мінуту паспець на дапамогу сваім ненадзейным абаронцам, — гэта значыць траціць сілу дарэмна. Поспех у такіх выпадках можа быць толькі выпадковы. Нападаючыя «Беларусі» не скардзяцца на свой тыл. Подступы да штрафной пляцоўкі абараняюць па сутнасці чацвёра ігракоў. Толькі адзін з іх не на полі, а ў варотах. Гэты прызнаны дырыжор абароны — варатар Альберт Дзенісенка.

З кожным матчам Міхаіл Радунскі, Барыс Манько і Эдуард Зарэмба робяць усё менш грубых памылак. Той факт, што пасля пяці гульняў мінчане забілі 8 мячоў, а прапусцілі ў свае вароты толькі два, гаворыць сам за сябе. Ігравая дружба, дух калектывізму, пачуцці таварыскасці, — вось тыя якасці, якія ўласцівы ўсім футбалістам «Беларусі». І ўсё ж тактыка мінчан вельмі прасталінейная. У асобных матчах адчуваецца разрыў паміж лініямі. Строгая персанальная апека ігракоў, прынятая на ўзбраенне абаронцамі «Беларусі», ужо не раз падводзіла іх. Абаронцы не робяць разнастайнай сваю ігру. Гэта аблягчае праціўнікам выхад да варот мінчан.

Першы круг мінскія футбалісты закончылі з 15 ачкамі, прайграўшы армейцам Масквы з лікам 0 : 3 і «Кайрату» — 0 : 2. У турнірнай табліцы яны былі на другім месцы. Наперадзе яшчэ многа футбольных баёў. У «Беларусі» ёсць добрыя шанцы прыпаднесці яшчэ не адзін сюрпрыз і сваім паклоннікам, і партнёрам па «зброі».

### Класам ніжэй

У гэтым сезоне ў першынстве краіны сярод каманд класа «Б» удзельнічаюць пяць беларускіх калектываў. Усе яны ў адной зоне. Дзве каманды — мінскі «Ураджай» і гомельскі «Лакаматыў» — ужо са стажам. Праўда, у футбалістаў сельскага спартыўнага таварыства стаж значна саліднейшы. Яны многа год запар змагаюцца ў другім эшалоне за права пераходу ў першы. А гамяльчане толькі яшчэ другагоднікі. Астатнія тры каманды — навічкі. І брэсцкі «Спартак», і магілёўскі «Хімік», і віцебскія футбалісты таварыства «Чырвоны сцяг» упершыню трапілі пад «абстрэл» удзельнікаў турніра. І зусім відавочна, што больш вопытныя калектывы выступаюць паспяхова. Яны тактычна больш пісьменныя, маюць свой почырк у ігры.

Пасля сямі тураў футбалісты «Ураджаю» займалі трэцяе месца з дзесяццю ачкамі. Яны прайгралі толькі адну сустрэчу — тбіліскаму «Лакаматыву», які ішоў без адзінага паражэння. Выйгралі ж мінчане чатыры матчы, прычым тры ў сваіх беларускіх сапернікаў. З аднолькавым лікам 1 : 0 перамаглі яны гомельскіх і віцебскіх спартсменаў, а магілёўскія футбалісты пацярпелі паражэнне з вынікам 0 : 3. Дзве ігры ўраджаеўцы закончылі ўнічыю — з ерэванскім «Буравеснікам» (2:2) і батумскімі дынамаўцамі (0 : 0). У мінчан добрыя суадносіны забітых і прапушчаных мячоў — 10 : 3.

Толькі на адно ачко менш у гамяльчан. І ў свае вароты яны прапусцілі толькі на мяч больш. З буйным лікам 5 : 0 перамаглі чыгуначнікі аднаго з лідэраў турніра — кішынёўскую каманду «Віерул». У актыве «Лакаматыва» былі яшчэ дзве перамогі. Тры матчы яны закончылі ўнічыю і адзін прайгралі.

Тры перамогі атрымалі і брэсцкія спартакаўцы, але і прайгралі яны таксама тры матчы. Зрабіўшы адну нічыю, брэстаўчане набралі 7 ачкоў пасля сямі сустрэч і занялі восьмае месца. Больш скромныя поспехі ў віцебскіх і магілёўскіх футбалістаў, якія займаюць адпаведна 11-е і 15-е месцы.

### Не толькі ў старэйшых класах

Футбольныя баі разгарэліся ва ўсіх гарадах Беларусі. У двух падгрупах разыгрываецца чэмпіянат рэспублікі. Сотні каманд удзельнічаюць у розыгрышы пяршынстваў гарадоў і абласцей.

Чэмпіянат Мінска разыгрываецца па трох групах. У першай сабрана 14 мацнейшых калектываў. Кожны з іх выступае чатырма камандамі — дарослай, дзвюма юнацкімі і дзіцячай. Пасля пяці тураў у клубным заліку наперадзе ішлі трактаразаводцы. Сярод дарослых і юнакоў старэйшага ўзросту лідзіравалі спартсмены трактарнага завода, а ў юнакоў малодшага ўзросту і хлопчыкаў — ураджаеўцы.

Футбольныя страсці ўлягуцца позняй восенню. Спартсмены падвядуць вынікі чэмпіянатаў і пяршынстваў, а шматлікая армія балельшчыкаў праверыць дакладнасць сваіх прагнозаў.

Шчаслівага вам фінішу, дарагія сябры!

**М. УЛАДЗІМІРАЎ.**

# АСІЛКІ

Валжан не здзівіш асілкамі. Здавён берагі вялікай рускай ракі славяцца волатамі. У народзе гавораць, што валгары чэрпаюць сваю незвычайную сілу ў магутнай Волзе-матухне...

І аднак жа валгары захапляліся асілкамі з Беларусі. Гэта было ў Саратаве на чэмпіянаце Савецкага Саюза па класічнай барацьбе, калі на п'едэстал гонару ўзняліся чатыры беларускія спартсмены: Алег Караваеў, Іван Коршунаў, Мікалай Чучалаў, Сяргей Залускі. Яны прывезлі дадому чатыры медалі — палову «залатога запасу» для мацнейшых барцоў краіны па класічнаму стылю. Дагэтуль такой моцнай заставы не выстаўляў яшчэ ні адзін горад.

Напярэдадні спаборніцтваў на пытанне журналістаў, якія цікавіліся, колькі медалёў думаюць заваяваць беларусы, трэнер каманды заслужаны майстар спорту Міхаіл Іванавіч Мірскі адказаў: «Два!»

Цяпер, калі вядомы канчатковыя вынікі, усё здаецца простым і ясным. Але хто б рызыкнуў назваць імёны пераможцаў перад пачаткам саратаўскага турніра? Праўда, уладальніка аднаго з іх Міхаіл Іванавіч, ды і многія балельшчыкі, называлі беспамылкова — чэмпіёна свету, чатырохразовага пераможцу пяршынстваў Са-

вецкага Саюза Алега Караваева. Але хто ж другі?.. Да напружанай барацьбы гатовы былі Коршунаў, Чучалаў, Залускі. Хто з іх у паядынках з мацнейшымі майстрамі праявіць больш упорства, волю да перамогі?..

Іван Коршунаў?

Амаль дзесяць год авалодвае ён сакрэтамі майстэрства класічнай барацьбы пад кіраўніцтвам трэнера Мірскага. Заслужаны трэнер, вядома, працы не шкадаваў. І ўсё-такі Іван наўрад ці стаў бы майстрам спорту, мацнейшым лёгкавагавіком рэспублікі, калі б не яго ўпартасць і дысцыплінаванасць.

Не многія ведаюць, што для таго, каб дасканала авалодаць складанымі прыёмамі, Коршунаў доўга трэніраваўся, кожны дзень па некалькі гадзін. Не было яшчэ выпадку, каб барэц не з'явіўся на заняткі або парушыў спартыўны рэжым.

Аднойчы каманда рыхтавалася да адказнай сустрэчы. Пасля абеду Міхаіл Іванавіч гуляў у парку. Яго ўвагу прыцягнула размова, якая чулася з альтанкі. Гэта яго вучань ажыўлена размаўляў з дзяўчынай. Трэнер нахмурыўся: хутка «мёртвая» гадзіна, а тут раптам спатканне. Але, пазнаўшы дзяўчыну, трэнер падабрэў: гэта была нявеста Коршунава, якую ён добра ведаў. І Мірскі прайшоў міма. Але як жа ён быў здзіўлены, калі, вяртаючыся праз некалькі мінут, ён убачыў дзяўчыну адну.

— А дзе ж Іван?

— «Мёртвая» гадзіна ў яго, — сказала тая. — Спаць пайшоў.

Міхаіл Іванавіч вельмі паважае дысцыплінаваных людзей, але на гэты раз і ён нават здзівіўся.

І калі гады змянілі спартсмена, то толькі ў лепшы бок: ён стаў яшчэ больш упарты і настойлівы. Не выпадкова, калі навічок прыходзіць у секцыю, яму гавораць: поспеху даб'ешся, калі будзеш такім, як Коршунаў.

У шмат якіх турнірах Коршунаў клаў на лапаткі мацнейшых барцоў Савецкага Саюза, чэмпіёнаў краіны Пункіна і Васіна, грузіна Карыдзе. І ўсё ж беларускаму спартсмену дагэтуль яшчэ не ўдавалася дамагчыся найлепшага поспеху. На залаты медаль яму не шанцавала.

Цяпер на званне пераможца ў лёгкай вазе прэтэндавалі трыццаць атлетаў. Чэмпіёны краіны Аблаеў і Варданян наўрад ці без бою саступяць сваё месца. Ды і ў старога працаўніка ўкраінца Пункіна настрой баявы. Як жа будзе?.. Хто з нашых асілкаў здолее апраўдаць надзеі трэнера? Можа, Мікалай Чучалаў?..

Першага вялікага поспеху беларускі сярэдневагавік дабіўся сем год назад, калі перамог праслаўленага земляка майстра спорту Аляксея Куцэнку.



**Мікалай Чучалаў** (злева) **у барацьбе.**
Фота Д. Церахава.

Гэта было нечаканасцю: член зборнай каманды церпіць паражэнне фактычна ад навічка. І толькі пасля працяглых дэбатаў знаўцы тонкасцей барацьбы аднагалосна рашылі: гэта выпадковасць. У другі раз Куцэнка лёгка расправіўся з першаразраднікам. Але, як паказалі наступныя сустрэчы, перамога была не выпадковай. Яшчэ ў інстытуце фізкультуры Чучалаў паспяхова авалодваў многімі відамі спорту: быў нядрэнным лыжнікам, гімнастам, штангістам і ў той жа час настойліва рыхтаваў сябе да сустрэч на дыване.

Калі вы сцвярджаеце, што для спартсмена самае галоўнае — толькі павышэнне кваліфікацыі ў выбраным відзе спорту, то памыляецеся. Барцунавічку Чучалаву трэнер паставіў задачу — выканаць другі разрад... па лыжнаму спорту. Першая задача выканана, пачаліся заняткі ў басейне, на гімнастычных снарадах і цяжкаатлетычным памосце. Калі малады спартсмен набыў сілу і вынослівасць, пачалася работа над удасканаленнем майстэрства.

З кожным чэмпіянатам беларускі спартсмен падымаўся на ступеньку вышэй. На міжнароднай сустрэчы васьмі краін у Будапешце асілак-беларус з лёгкасцю кідаў на лапаткі мацнейшых спартсменаў Венгрыі, Польшчы, Балгарыі і Румыніі. Мацнейшыя барцы свету ўжо ведалі, што такое «чучалаўскі накат». Ці застанецца Мікола «манапалістам» любімага і надзвычай складанага прыёму?..

Сяргей Залускі — патомны асілак. У далёкай палескай вёсцы прайшло яго дзяцінства. Яго бацька некалі на кірмашах ды на млынах паказваў сваю сілу. Усе здзіўляліся, як «дзядзька Залускі» насіў на спіне мяшкі з пшаніцай. Але аднойчы, падымаючы вялікі цяжар, надарваўся чалавек...

Жыццё хлопца, які вырас такі ж здаровы, як і бацька, склалася інакш. Ужо ў Савецкай Арміі прыкмецілі, што Сяргей валодае надзвычайнай сілай, і прапанавалі яму сур'ёзна заняцца спортам. Хутка маладога барца ведалі ва ўсёй часці.

Дэмабілізаваўшыся з арміі, Сяргей Залускі прыехаў у Мінск. Прыйшоў у секцыю да трэнера Мірскага, адрапартаваў па-салдацку, папрасіў дазволу займацца. За плячыма ў хлопца дзесяткі перамог, на гімнасцёрцы значок першаразрадніка. Заслужаны трэнер заўважыў адразу: «Здольны хлопец, але «сыры». І ўсё пачалося спачатку...

На другой Спартакіядзе народаў СССР Залускі, як кажуць, амаль што меў ужо залаты медаль. Але за пятнаццаць секунд да фіналу Сяргей дапусціў памылку і прайграў адно ачко ўкраінцу Багдану.

...Гонг выклікаў барцоў на дыван. Аматары прагнозаў супакоіліся. Увага ўсіх прыкавана да тых дваіх, што схапіліся на дыване. Хваляванне расло. Але бадай больш за ўсіх хваляваліся трэнеры.

Мірскі перад чэмпіянатам упэўнена заявіў, што залаты медаль Караваеву будзе забяспечаны. Аднак перамога беларускаму майстру далася не лёгка. Напружаным было змаганне з праслаўленым маскоўскім барцом, заслужаным майстрам спорту Гурэвічам: схватка закончылася ўнічыю. Алег Караваеў у пяты раз забяспечыў сабе тытул чэмпіёна Савецкага Саюза.

Іван Коршунаў пасля пяці схватак апярэдзіў вядомых майстроў — Карыдзе з Грузіі і эстонца Ларэнса.

Мікалай Чучалаў надзейна замацаваўся ў кампаніі са сваімі старымі сапернікамі: сталінградцам Зеніным і львоўскім спартсменам Іванкіным.

Крыху горш ішлі справы на першым часе ў Сяргея Залускага. Яго далёка апярэдзілі Багдан, Коткас, Падзюмскі. Але Сяргей не разгубіўся.

У рашаючых сустрэчах Коршунаў выйграў у чэмпіёна Узброеных Сіл Жалыгіна, перамог Пермякова з РСФСР і ў апошняй сустрэчы з вядомым грузінскім барцом Карыдзе забяспечыў нічыю.

На гэты раз Іван Коршунаў упэўнена заваяваў залаты медаль.

Сустрэча за сустрэчай... Усё менш прэтэндэнтаў на ганаровы трафей. Мікалай Чучалаў не траціў марна часу. Знясіліўшы свайго саперніка, ён у рашаючы момант правёў свой славуты накат. Сталінградзец Зенін, з якім ён змагаўся, стараўся на ўсю моц, але ўжо было позна.

Мікалай Чучалаў зацвердзіў сябе першым нумарам сярод спартсменаў сярэдняй вагі.

Каб стаць чэмпіёнам, Сяргею Залускаму давялося пакласці на лапаткі чэмпіёна свету Багдана і масквіча Падзюмскага. Меней як за пяць мінут была заваявана чыстая перамога над Багданам. Выйграўшы затым у масквіча, Сяргей Залускі прыдбаў беларускай камандзе чацвёрты залаты медаль.

Нядаўна беларускія барцы, і сярод іх чэмпіёны краіны Алег Караваеў, Мікалай Чучалаў і Сяргей Залускі, прымалі ў Мінску нацыянальную зборную Венгерскай рэспублікі. Венгерскія майстры ўжо даўно заваявалі папулярнасць на сусветнай арэне. 54 медалі атрымалі венгры на пяршынствах Еўропы, свету, у алімпійскіх і студэнцкіх гульнях. Але бадай найбольшага поспеху дабіліся яны на апошнім чэмпіянаце, дзе занялі трэцяе месца, прапусціўшы ўперад толькі зборныя каманды Савецкага Саюза і Турцыі.

І вось дзве заставы асілкаў сышліся ў сяброўскім паядынку ў Мінску. Нашы майстры дывана атрымалі ў гэтым матчы шэсць перамог і толькі дзве схваткі звялі ўнічыю.

Маланкавыя атакі Алега Караваева ашаломілі чэмпіёна Венгрыі Кунста. З хуткасцю лёгкавагавіка змагаўся волат Залускі. Неаднаразовы чэмпіён Венгерскай Народнай Рэспублікі Пал Секей знарок ухіляўся ад барацьбы з Мікалаем Чучалавым. І ўсё ж яму не ўдалося выратавацца ад вядомага «чучалаўскага накату»...

Мы расказалі пра чатырох майстроў, што сталі цяпер мацнейшымі ў краіне. Але яны — не адзіныя. Да гэтага імкнецца вялікі атрад маладых спартсменаў, з якімі працуе заслужаны майстар спорту і заслужаны трэнер СССР М. Мірскі. За апошнія гады ён выхаваў каля трох дзесяткаў майстроў спорту.

Сярод беларускіх асілкаў расце надзейная змена.

**С. ЛЯПЕСІН, Ю. МАШКОЎ.**

# Гумар і сатыра

Мал. В. Швяцова.




Во які я цяпер!

Цётачка, нам трэба кашалёк!

НА МЕСЯЦАДРОМЕ.

— Ой, які жах!
— А што такое?
— Я забыла на Зямлі губную памаду.
— Прыдзецца вярнуцца.







Злазіў, каб асмеліцца...

...і скокнуў.

ПАХВАЛІУСЯ...



— А рыбіна была во якая!
— Я ніколі не бачыў такой.
— А я табе веру.

Мал. В. Швяцова.

Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ

## ПРА ЛІСЦЕ

Восень...
Вецер лісце зрывае,
Лістапад кружыць лісце,
Шпурляе.
Струменьчыкам ліст і лісце
Спрабуе з лістотай плысці.
Сум у садзе бязлістым,
Калі лісце з галін
Злятае,
Жоўтым лісцем,
Сухім жаўталісцем
Гэта восень дарогі
Ўсцілае.
Лісце, лісце...
Сто лістоў,
Пяцьдзесят лістоў,
Дваццаць пяць лістоў,
Пяць лістоў.
Лісты,
        Лістоў,
Ліст,
        Лісту, —
І ляцяць лісты
За вярсту.

Сёбасцян СТАРОБІНСКІ.



Мал А. Волкава.

## ЗМЕСТ

**Алег Лойка.** Слоў простых шыр і прыгажосць. Калі быць. Ні вярбы, ні сасонкі. Вершы. . . . . . . . 3
**Уладзімір Шыцік.** Мантажнікі. Аповесць. . . . . . . 5
**Сцяпан Гаўрусёў.** Севастопаль. Румянае, здаровых поўна сіл... Яшчэ ў рукавіках... За выдумку благую не прыміце... Я думаў... У пераклваныя ямбы... Калі прынёс... Усмешку сіні бэз абтрос... Белагрудыя воблакі. Вершы. . . 50
**Еўдакія Лось.** Дзве мініятуры. . . . . . . . . 55
**Уладзімір Паўлаў.** Размова з сэрцам. Клічуць далёкія зоры. Вершы. . . . . . . . . . . . . 58
**Васіль Вітка.** Запавет. . . . . . . . . . . 60
**Арсень Ліс.** Моц і хараство паэтычнага слова. . . . 68
**Уладзімір Дубоўка.** Сталіца міру. Верш. . . . . . . 71

### 40 год ЛКСМ Беларусі

**Сцяпан Кухараў.** Камсамольская душа. Нарыс. . . . . 73
**В. Губароўскі.** Сваімі рукамі. Рэпартаж. . . . . 83

### «Маладосць» вядзе рэпартаж...

**В. Бараноўскі.** Гарачая студэнцкая пара. . . . . . 87
**А. Дзітлаў.** Нам 20 год! . . . . . . . . . . 91
**І. Нісневіч, С. Чырэшкін.** Музычная аўтазаводская. . . 95
**У. Казачонак.** Барацьба не спынялася... З запісак былога падпольшчыка . . . . . . . . . . . . . 97

### З блакнота падарожніка

**Іржы Ганзелка, Міраслаў Зікмунд.** Па дарогах свету. . . 115
**В. Шкурко, А. Лейзераў.** Вымушаныя прызнанні. . . . 132

### Давайце пагаворым

**І. Рабкоў.** За ўсебаковыя веды. . . . . . . . . 136
**Л. Чарвінскі.** Гэтага патрабуе час. . . . . . . . 137
**Іван Курбека.** Гасцінны дом. . . . . . . . . . . 138

### Крытыка і бібліяграфія

**Дзмітры Бугаёў.** Пятро Шапятовіч і яго аднагодкі. . . . 142
**Мікола Базарэвіч.** У вянок Кузьме Чорнаму. . . . . 147
**Алесь Яскевіч.** На сваёй сцэжцы. . . . . . . . . 148

### Наша пошта

**І. Немагай.** Мастацтва аматараў. . . . . . . . . 151
**Л. Разінскі.** Чэмпіён з Гомеля. . . . . . . . . —

### Спорт

**М. Уладзіміраў.** Грымяць баі футбольныя. . . . . . 153
**С. Ляпесін, Ю. Машкоў.** Асілкі. . . . . . . . . 155
**Гумар і сатыра.** . . . . . . . . . . . . . . 158

**Да нумару прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





**Па цэнтар.**
Фотаэцюд І. Бяляева.